

**ЛЮТЫ**

# 2

Мінск, 1972

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Заснаваны ў 1953 годзе



Выдавецтва ЦК КП Беларусі



Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **Ю. Зайцава** (стар. 3) **і Ю. Іванова** (стар. 97).

Галоўны рэдактар **Алесь АСІПЕНКА.**

Рэдакцыйная калегія: **Вячаслаў АДАМЧЫК, Генадзь АНЦІПАЎ, Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсен ВАНІЦКІ, Васіль ЗУЁНАК** (нам. галоўнага рэдактара), **Анатоль КУДРАВЕЦ** (адказны сакратар), **Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Пімен ПАНЧАНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# ПАЭЗІЯ

- Алесь РАЗАНАЎ
- Любоў ТАРАСЮК
- Барыс СТРАЛЬЦОЎ
- Леанід ДАЙНЕКА



- Яўген ШАБАН
- Міхась ДАНІЛЕНКА
- Яўген КРУПЕНЬКА

# ПРОЗА





**алесь разанаў**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Пачатак

Усё хутчэй, усё хутчэй,
адчуўшы волю ад парога...
Так пачынаецца ручэй,
так пачынаецца дарога.

Неўладкаваных дзён разлад —
адчай у позірку — прыесца.
І немагчыма ўжо назад,
і немагчыма ўжо на месцы.

Туды — сабе наперакор,—
насустрач вечнаму расстанню,
дзе замыкаецца прастор,
дзе абрываецца хістанне.

Ісці, мінаць вясновы тлум
і лістападу галашэнне
ад задумення да задум,
ад першых спроб да завяршэння.

У адзіны голас галасы
сальюцца, вымкнуць галасамі...
Так пачынаюцца лясы,
так пачынаемся мы самі.



■

Лiняе бярозавы гай,
і ясені курчацца ў трансе...
Каханне — куды ты?
Бывай!..
Ідзі, не пакінь, не астанься!..

Куды не даходзяць, туды —
у хмарную, чорную тую...
Уратуе цябе ад бяды,
ад гібелі можа ўратуе.

А стуль, па знямоглым адрэзку,
дзе возера стыне ў труне,
твая незабудная вестка,
што ёсць ты, ўратуе мяне.

■

Сачу вясну. Жыву ў Міжбор'і...
І два бары, як спарышы,
між дыялектыкай надвор'я
і дыялектыкай душы.

Я прачынаюся світанкам —
на шыбах вільгаці налёт,—
гадзінай шэрай да сняданку
крышу збуцвелай крушняй лёд.

Зайздросна жыць перакананым,
счапіць ватоўку гаплікам
і знаць, што ўжо нагатаваны
аладкі з кіслым малаком.

Ізноў мне верыцца прадвеснем
праз сну зімовага слюду,
што ўсё задуманае здзейсню,
што не знайшоў — яшчэ знайду.

Туман нябачна пойдзе ў сені,
ён і вакол, падманны газ...
Я разумею праясненне
як вырашэнне і адказ.

Іду-брыду...
Настрой прыўзняты,
і хваляванне ажыло...
Салодка марыцца пра свята,
пакуль яно не надышло.

Па золкай вуліцы-алеі
і ў двух барах блукаць слядам...
А нечакана паяснее —
я і пытання не задам.

Нібы па правілу складання,
праз ясных промняў паразвон
зноў нешта іншае паўстане,
прывабіць новы гарызонт.



*любоў тарасюк*



ПАЭЗІЯ



■

## Палотны

Засмучаны сэрцы шляхамі гаротнымі —
Які іх чакае жыццёвы працяг?
І ткалі дзяўчаты, бялілі палотны—
На добрую долю няхітры пасаг.

Ды сёння закінуты кросны матуліны,
Сцішэлі, спынілі свой бег чаўнакі.
І толькі кудзеляй туманаў атулены
Павольныя хвалі палескай ракі.

Забыта былое цяпер і бабулямі...
Ніякіх не боязна нам навальніц —
Раней кукавалі у лесе зязюлямі,
Цяпер разгарнулі мы крылы арліц!..

А мама заслала — дзявоцтва успомніла --
Святочным абрусам на покуце стол,
І фарбы жывыя забіліся промнямі,
І ў хаце святлей можа сонцаў на сто.

Не трэба аздоба тут іншая, новая...
І так у нас свята у хаце штодзень,
І песні ўсплываюць старыя, вясковыя,
І маміны вочы глядзяць маладзей.

■

Жанчыны ў полі песні жалі,
Збіралі словы у снапы.
То звонкай радасцю, то жалем
Спявалі ў іх руках сярпы.

І над прыціхлым светла полем
Адна мелодыя расла...
Жанчын такая, пэўна, доля —
Вырошчваць зерне хараства.

А сонца здзіўлена прыстала
Іх спеў паслухаць на мяжы.
...Я з гэтых песень прарастаю.
Дый як — без іх у сэрцы — жыць?

■

Я кожны раз душой мацней,
Маўчу ад крыўды і не плачу,
Бо веру ў новы, ясны дзень:
Ён будзе радасны — няйначай!

У зялёных засенях лясных
Усплываюць словы песняй самі,
У сэрцы парасткі вясны
Шумяць сваімі галасамі.

Узлятаю птушкай над зямлёй,
Я — сонца промень там, я — вецер!..
А ці каму святлей на свеце
Ад гэтай радасці маёй?

## Прызнанне

О, зямля, дарагая зямліца!..
Колькі сэрцу, як птушцы, ні біцца —
У тваім назаўсёды палоне
Мне б расіцаю звонка скаціцца
На твае, як у мамы, далоні...

У травы светлыя падаю ніцма.
У тым падзенні —
натхненне узлёту.
...Скрозь лісцвяную замець прабіцца б
Маладою, як ранне, лістотай.

Я — зярняці твайго часцінка.
Я табе
сваё сэрца — насцеж.
Мне б у спёку жывою дажджынкай
Да знямоглага долу прыпасці,

Каб магла ты удосталь напіцца
Не вадзіцы—
любві майго сэрца...
Тваёй шчодрасці
мне прычасціцца б,
Тваёй мудрасці...



## ПРОЗА



***барыс стральцоў***

# ВЯЧЭРНЯЯ ПЛАНЕТА

## АПОВЕСЦЬ

● Мал. В. Шрамякова.

### 1

Гулка, нібы ў пустую жалезную бочку, колы адстукалі сваё «дуг-дуг-бом, буг-дуг-бом, дуг-дуг-бом...» на пралётах доўгага моста, і тут жа цягнік пачаў сцішваць хаду. Кандуктар сіпатым барытонам аб'явіў:

— Бярэзінск! Стаім пяць мінут...

Алесь ускочыў, нібы на спружынах, і палез на верхнюю паліцу па чамадан.

Перон сустрэў Алеся звычайнай мітуснёй. Узад-уперад сноўдалі пасажыры, збоку ад вакзальнага будынка віраваў цэлы базар. Спрытныя гандляркі на ўсе лады расхвальвалі гарачыя рагалікі, гуркі, памідоры і іншую спажыву. Ля ларкоў густа тоўпіліся мужчыны, перадаючы адзін аднаму пеністыя кухлі піва. Нейкі дзяцюк на мыліцах, убачыўшы, што Алесь стаіць сярод натоўпу ў нерашучасці, махнуў яму рукой:

— Хадзем да кампаніі, гвардыя! Весялей будзе. Можа аднапалчане?

Алесь адмоўна крутануў галавой і падаўся да невялікіх веснічак, што вялі з перона на прывакзальную плошчу. Пад купчастым дрэвам некалькі кабет і мужчын чакалі аўтобуса.

— Ходзіць які транспарт? — пацікавіўся ў іх Алесь.

Азвалася чарнявая проставалосая жанчына з дзіцем на руках:

— Ходзіць як мокрае гарыць. Ліха на іх, каб адна, то даўно дабралася б пешака.

Які ў Бярэзінску транспарт, Алесь ведаў. Два месяцы назад, калі ён прыязджаў дадому на пабыўку, швагер завёў яго на аўтабазу. У розных кутках двара грувасціліся кучы жалезнага лому ды стаяла некалькі ржавых, пакарабачаных аўтобусных кузаваў. Алесь тады паспрабаваў пакпіць, што гэта, маўляў, сметнік, а не база. Швагер не пакрыўдзіўся, а неяк весела перапытаў:

— Сметнік, кажаш? Ну-ну...

Пасля ён доўга расказваў Алесю, як амаль год корпаўся ў гэтых кучах, выбіраючы дэталі, і скідаў аўтобусік, які цяпер і бегае па горадзе. З гэтага трафейнага ламачча сабраны і астатнія пяць машын аўтабазы.

— От як адслужышся, то і сам да нас прыйдзеш. Нікуды не дзенешся,— прадрок ён Алесеў лёс.

Алесь тады адмахнуўся:

— Калі тое будзе. Канца, браце Мікола, службе не відно. Пакуль адпусцяць, дык новых машын падкінуць.

— Хутка адпусцяць,— паабяцаў, быццам нешта ведаў, швагер.— Цяпер яно ў норму ўваходзіць. Ты колькі гадоў служыш?

— Сёмы.

— А я ўсе восем адвалавозіў,— уздыхнуў Мікола,— з трыццаць дзевятага. Да вайны яшчэ прызвалі...

Як у ваду глядзеў Мікола. Толькі паспеў Алесь вярнуцца ў свой полк, раскватараваны недалёка ад Патсдама, як папаўзлі чуткі, што стараслужачых будуць пераводзіць з-за мяжы дадому. Пра дэмабілізацыю, праўда, гаворкі не ішло. Простая перамена месца службы. Звыклы да ўсяго, Алесь не надта хваляваўся, калі іхні цяплушачны эшалон, прапоўзшы спачатку Польшчу, а потым усю Беларусь, пачаў аддаляцца на ўсход. Хто яго ведае, можа куды ў Прымор'е завязуць. Але разгрузіліся ў Саратаве. І вось тут ён пачуў такое доўгачаканае слова «дэмабілізацыя». Напачатку нават не выклікала недаўмення тое, што іх немаведама навошта завезлі з Германіі аж на Волгу. Роздум прыйшоў апасля, калі ў вагоннай мітусні і цеснаце вяртаўся дадому...

Патаптаўшыся колькі хвілін з людзьмі, што чакалі аўтобуса, Алесь сам сабе ўсміхнуўся: пэўна, Мікола ці хто з яго напарнікаў недзе корпаецца пад капотам свайго лядашчага драндулета, шукаючы знікшую іскру. Перакінуўшы з левай рукі ў правую лёгкі чамаданчык, ён рушыў ад вакзала. Тут якія сем кіламетраў. Калі добра ўлегчы, дык праз гадзіну будзе дома.

●

Ціха войкнула і абмякла на ягоных руках маці.

— Алеська, ці зусім?

— Зусім, мама, зусім! — з Алеся проста выпірала радасць, і ён закружыўся, моцна абняўшы маці, па маленькім пакойчыку.— А дзе Маруся, Мікола? На рабоце?

Маці, вызваліўшыся ад абдымкаў, заўсміхалася праз слёзы:

— А яны цяпер не тут. Ці не дайшло маё пісьмо? Кватэру далі Міколу непадалёку ад базы. Адна я засталася.

Алесь агледзеўся. Сапраўды, як гэта ён адразу не заўважыў. У пакойчыку стала свабадней. Няма шырокага драўлянага ложка і нязграбнай старамоднай шафы. Пад вакном, побач з жалезным ложкам, старэнькая канапа.

Маці хуценька пачала збіраць на стол. Аднекуль з'явіліся колца каўбасы, кавалак ружовага сала. Алесь, падсілкоўваючыся, пацікавіўся:

— Мікола яшчэ на старой машыне?

— Ды на старой. Адкуль яе, новую, узяць. Клопат сабе нажыў чалавек. У школу пайшоў, у вячэрнюю. Разам з дзецьмі сядзіць за партай...

Алесь ажно папярхнуўся. Школа... Гэта тое, пра што яму думалася ўсе апошнія гады. Не сказаць, каб ён быў калісьці занадта старанным вучнем. Так, нешта сярэдняе. А во на́ табе: пачаў проста трызніць школай. Асабліва находзіла пад час доўгіх начных дзяжурстваў. Заплюшчыць вочы і нібы на яве ўбачыць сябе ў класе, за партай. Аж сэрца захаланецца. Пэўна, гэта стукалася ў памяці ўкрадзенае вайной дзяцінства... Калі пры іхняй часці ў мінулым годзе адкрылі школу для афіцэраў, Алесь зайздросціў шчаслівуцам. Разам з сябрам старшыной Алегам Самайловічам ён нават схадзіў у палітаддзел. Адмовілі. На радавых і сержантаў, сказалі, не разлічана. А праз два месяцы іх запрасіў да сябе сам начальнік палітаддзела. «Хадайнічалі,— пытае,— аб паступленні ў школу?». «Хадайнічалі». «Ваша хадайніцтва задаволена. Толькі глядзіце, каб з дысцыплінай там... Ну, і каб пра службу не забываліся». Яны выскачылі з кабінета, як на крылах. «Ці то воўк у лесе здох, ці то палкоўнік сто тысяч выйграў»,— ціскаючы Алеся ў абдымках, гаварыў Алег. Пасля высветлілася, у чым тут сакрэт. Каго з афіцэраў перавялі ў іншыя часці, хто проста так «адсеяўся». Атрымалася, што хоць ты школу закрывай. Вось і дазволілі вучыцца некаторым сяржантам. Алесь з Алегам гэтак упрэгліся ў вучобу, што напачатку цэлымі начамі праседжвалі над кнігамі. Добра, што падручнікаў хапала. І ўсё ж вясной ледзь-ледзь здалі экзамены за дзевяты клас. Але здалі...

— Мікола ў сёмым класе,— задумліва прагаварыў Алесь.— Ну, малайчына. От жа малайчына. А мне нічога не казаў...

Ён паклаў на стол відэлец і адсунуў ад сябе талерку.

— А дзе тут вячэрняя школа?

Настрой сына перадаўся маці. Яна больш не ўгаворвала Алеся паспытаць яшчэ што-небудзь, а пачала ўспамінаць:

— Чакай, дай божа рады, дзе тая школа... Мікола ж казаў... Ага, во як мінеш «Таварыш», ну, кінатэатр наш, дак будзе пажарная каланча. Ведаеш? От якраз насупраць школа і стаіць. Драўляны будынак, неашалёваны...

Алесь таропка падняўся.

— Дык я зараз і схаджу...

— Куды там зараз,— замітусілася маці.— Ці не паспееш? Адпачні, да Марусі сходзім.

— Да Марусі паспеем, а ў школу трэба сёння. Ужо верасень...

— Ды ў цябе можа і дакументаў ніякіх няма. А там спытаюць.

— Дакументы? — успомніў Алесь.

Так, у яго на руках не было дакументаў. Збіраліся паспешна, і ён не ўзяў нават даведкі са школы. Што ж рабіць? Ага, ёсць жа газета. Іхняя армейская газета, у якой Хведар Пугачоў надрукаваў маленечкую заметку. Яны з Алегам кпілі з Хведара, які марыў стаць журналістам і амаль штодня пасылаў свае допісы ў рэдакцыю. Друкавалі яго рэдка. Заметку ж, над якой набраны буйным шрыфтом загаловак займаў, бадай, больш месца, чым увесь тэкст, надрукавалі. І было ў той заметцы Алесева прозвішча.

— Дакументы? — перапытаў яшчэ раз Алесь і выцягнуў з-пад канапы чамаданчык.— А гэта што, не дакумент? Во, бачыш, напісана: «Гвардзейцы перайшлі ў дзесяты». І не проста напісана, а надрукавана, разумееш?



— Ну, то і добра,— згадзілася маці.— Калі надрукавана, дык паверыць.

Школу Алесь знайшоў хутка. Праз вокны, якія сядзелі нізка, у якіх паўметра ад зямлі, ён убачыў вучняў за партамі і настаўніка, што хадзіў туды-сюды каля дошкі і, заглядваючы ў сшытак, нешта гаварыў. «Дыктоўку пішуць»,— здагадаўся Алесь.

У школьным калідоры было пуста. Убачыўшы шыльдачку «Настаўніцкая», Алесь нясмела пастукаў і адчыніў дзверы.

— Дазвольце?

— Калі ласка, калі ласка,— устаў яму насустрач сіваваты мужчына і, накульгваючы, выйшаў з-за стала.

— Мне б дырэктара.

— Я і ёсць дырэктар. Іван Кірылавіч Жукоўскі. Якая справа прывяла да нас салдата?

Толькі цяпер Алесь успомніў, што ён не зняў яшчэ пагонаў, і чамусьці пачырванеў.

— Я дэмабілізаваны...

— Разумею, разумею,— заўсміхаўся дырэктар.— У які клас?

— У дзесяты.

— Цудоўна, цудоўна. А дакументы ёсць?

— Вось,— Алесь дастаў з кішэні газету і, разгарнуўшы яе, падаў Жукоўскаму.

— Што гэта?

Алесь моўчкі абвёў пальцам заметку Хведара Пугачова. Іван Кірылавіч хуценька прабег яе вачыма і дапытліва глянуў на Алеся.

— Вы Самайловіч ці Страхаль?

— Страхаль.

— Дык вось, таварыш Страхаль, гэтага, відаць, будзе малавата. Іншых дакументаў няма?

— Няма,— уздыхнуў Алесь.— Але ж там праўда напісана. Гэта я. Калі трэба, дык напішу ў полк. Яны прышлюць...

— Напішыце, напішыце,— пагадзіўся Іван Кірылавіч.— А што пакуль будзем рабіць?

— Не ведаю,— разгублена пацiснуў плячыма Алесь.

— Ну, дык я ведаю,— Жукоўскі па-сяброўску ўзяў Алеся за руку вышэй локця і моцна патрос, нібы правяраючы сілу свайго будучага вучня.— Заўтра прыходзьце ў школу. Вы дзе працуеце?

— Пакуль нідзе. Сёння прыехаў.

— Сёння? — на твары Івана Кірылавіча адбілася здзіўленне.— Значыць, з месца і ў кар'ер? Выдатна, выдатна. Дык заўтра абавязкова прыходзьце...

Прычыніўшы дзверы настаўніцкай, Алесь ледзь не на дыбачках прайшоў увесь калідор. Куды зараз? Дадому? Ці пахадзіць па вуліцах? Проста так, каб асвяжыцца. Ён крыху пастаяў на скрыжаванні, прыслухаўся. З боку гарадскога парку прыглушана вохкаў духавы аркестр. Танцуюць... Успомнілася невялічкая танцавальная пляцоўка, затуленая ў самым рагу парку густым бэзам...

●

Дома яго чакаў Мікола. Моцна, да хрусту ў касцях, абняліся.

— Ты што, салдат, адразу ў навуку ўдарыўся?

— А што, братка, паробіш?

— Ну, і ў норме?

— Як мае быць. Чакай, а ты ж, здаецца, павінен быць у школе?

— Павінен,— спахмурнеў Мікола і азірнуўся на цешчу.— Ды, бачыш, каторы ўжо дзень адзін у дзве змены ўколваю. Напарнік мой звольніўся.

— І што, не знайшлося ахвотніка на гатовую машыну?

— Чаму? Просяцца хлопцы. Ды мне нібы сэрца падказвала...

Мікола пільна глянуў на Алеся, відаць, ацэньваючы, ці зразумеў той ягоны намёк. Алесь усё зразумеў, і хваля ўдзячнасці да сваяка чырванню заліла хлопцаў твар.

— А як жа мы будзем? — глуха спытаў ён.— І мне вечарам у школу, і табе...

— І мне, і табе,— задуменна паўтарыў Мікола.— Ну, гэта доўгая гаворка. Давай-ка прысядзем... Вы нам, Арына Паўлаўна,— папрасіў ён цешчу, якая дасюль моўчкі слухала іхнюю размову,— пашукайце пару гурочкаў ці яшчэ там чаго. Трэба ж за сустрэчу...

— Ды пашукаю, недалёка і шукаць,— адразу пагадзілася старая, але з месца не кранулася. Ёй, вядома ж, карцела пачуць, да чаго дамовяцца зяць з сынам.

Мікола паставіў на стол паўлітэрку, і яны з Алесем прыселі на канапу. На нейкі момант усталявалася цішыня. Алесь чакаў, што далей скажа Мікола, а той, моўчкі ўсміхаючыся, глядзеў на цешчу.

— Ну, іду ўжо, іду,— заківала галавой Арына Паўлаўна і падалася на кухню, пакінуўшы дзверы напалавіну адчыненымі.

Мікола, правёўшы яе позіркам, павярнуўся да Алеся.

— Пасядзеў я крыху за партай, ды бачу: не па каню воз. Усё забылася, усё,— са скрухай загаварыў ён.— Настаўнік нешта расказвае, а мне яно як цёмны лес. Кінуў я школу...

— Кінуў?! — прыўзняўся ад нечаканасці Алесь.

— Ты сядзі! — паклаў яму на плячо цяжкую руку Мікола.— Не ўсім жа даецца навука. Баранку круціць можна і так. А я шафёр першага класа. Аўтаслесар. Гэта таксама нечага варта. Ды і сям'я зноў жа. Дзіця мы з Марусяй чакаем...

— Яно так,— пагадзіўся Алесь,— але шкада...

На парозе з талеркамі ў абедзвюх руках з'явілася Арына Паўлаўна. Мікола, відаць, пакуль што не хацеў раскрываць перад цешчай карты, а таму крута перамяніў размову:

— У цябе «корачкі» ваенныя?

— Ваенныя,— кіўнуў галавой Алесь.— Трэці клас. На «студабекеры» ездзіў.

— Ну, то і добра. Правы табе хутка памяняюць. Трошкі падвучышся, я тое-сёе пакажу, і будзем працаваць. Згода?

— Згода.

— Ты ўжо глядзі там за ім, Міколка,— умяшалася ў размову Арына Паўлаўна, падсоўваючы зяцю талерку.— Каб толькі ўсё добра было. Ён жа, акрамя тае арміі, нічагуткі не ведае. Прашу цябе, як сына, панаглядай за ім...

— Добра, мама, добра,— заўсміхаўся Мікола.— Прасіць мы будзем заўтра Церашонка, дырэктара нашага. А то занаравіцца...

— Няўжо ён цябе не паслухае?

— Мусіць, паслухае,— у голасе Міколы пачулася ганарлівая нотка.— Мы з ім добра жывём. Ён спецыялістаў цэніць.

— Дык калі, кажаш? Заўтра і пойдзем? — павесялеў Алесь.

— А што там адкладаць,— хрумстаючы гуркам, пацвердзіў Мікола.— Толькі рана, а восьмай гадзіне. Пазней нашага Церашонка можна і не спаймаць...



●

Усю ноч Алесю не спалася. За дзень было столькі ўражанняў, што яны, адразу добра не асэнсаваныя, вярнуліся да Алеся і чарадой праходзілі ў думках. Ён яшчэ і яшчэ раз гутарыў з дырэктарам школы і, прыгадваючы ягонае «заўтра абавязкова прыходзьце», шумна варочаўся ў ложку, падбіваў кулаком падушку і ўздыхаў: як яно будзе, вось так проста зойдзе ў клас і сядзе за парту? Хоць бы Алег быў побач, той у любой абстаноўцы не збянтэжыцца... А як гаварыць з дырэктарам базы? Ці здолее яго Мікола пераканаць, каб пасадзіў Алеся на машыну? От жа сітуацыя! І там самы першы крок, і тут... Усюды трэба пачынаць з ніжняй прыступкі...

Задрамаў пад самую раніцу і адразу ж прахапіўся, пачаў таропка збірацца.

— Чакай, зараз паснедаеш,— хуценька, быццам і не спала, села на ложку маці.

— Потым, я не забаўлюся,— ужо ад дзвярэй кінуў Алесь.

Церашонак і сапраўды прыходзіў на работу рана. Чакаючы Міколу, Алесь бачыў, як той пабегаў па двары, заскочыў у майстэрню і ўсё нешта гаварыў, гаварыў. Потым ён кулям праскочыў цераз прахадную і забег у кантору. У крайнім акне адразу ўспыхнула жаўтлявае святло, і на фоне ссунутых штор замаячылася постаць чалавека. Тут якраз падышоў Мікола. Зірнуўшы на акно, ён задаволена адзначыў:

— Ага, начальства на месцы. Пойдзем.

Дырэктар замест прывітання сустрэў Міколу пытаннем:

— Ты чаму не на маршруце?

— Прафілактыка,— спакойна адказаў Мікола.— Вы ж самі графік падпісалі.

— Графік графікам, а на лініях няма машын.

— Ну, то можна і выехаць, у мяне ўсё ў парадку. Справа толькі да вас ёсць невялічкая. Вось гэта і ёсць Алесь Страхаль, пра якога я вам казаў. Прынёс сваю шыю, на якую трэба надзець хамут.

— Ага, прыпамінаю,— буркнуў Церашонак.— Сядайце.

Сесці, праўда, двум чалавекам не было на што. Перад дырэктарскім сталом стаяла ўсяго адно крываногае крэсла. Таму Алесь з Міколам, пераглянуўшыся, абодва засталіся стаяць.

Церашонак, перахапіўшы іх позіркі, усміхнуўся:

— Сядай, выходзіць, на чым стаіш. Гэта ж трэба—шафёры,—крутануў ён галавой.— Ездзяць усюды, а каб расстарацца дырэктару якое крэсла, дык іх няма. Ну, не ў гэтым шчасце. У цябе якая адукацыя?— кіўнуў ён Алесю.

— Дзевяць класаў.

— Уга, браце! — узрадаваўся дырэктар і нечакана прапанаваў:— Дык давай да мяне бухгалтарам.

— Бухгалтарам? — разгубіўся Алесь, не разумеючы, жартам ці ўсур'ёз сказаў такое Церашонак.

— А што, трошкі падвучу, пасля на якія курсы пашлём, і будзеш працаваць за мілую душу. Ці то за вайну вынішчылі бухгалтараў, ці то яны перакваліфікаваліся — не магу знайсці чалавека,— пачаў скардзіцца Церашонак.— Сядзіць у нас за бухгалтара дзяўчо, шосты месяц сядзіць, а ўсё дэбет з крэдытам блытае.

Алесь збянтэжана глянуў на Міколу. Той, прыкрыўшыся рукавом, аж душыўся ад смеху.

— Ты чаго зайшоўся? — сярдзіта пераключыўся на Міколу дырэктар.— Цябе б на маё месца, дык не рагатаў бы, а слёзы ліў.

— Дзіва што, калі б меў такога бухгалтара, як мой сваяк, то ў дзве ручаіны з мяне б лілося,— праціраючы кулаком вочы, пагадзіўся Мікола.— Ён, было, пісьмо як напіша, дык што тыя кітайскія іерогліфы. Усёй сям'ёй чытаем, чытаем, ды яшчэ і назаўтра адкладзем...

— Дык што ты тады прапануеш?

— Да мяне напарнікам, я ж цяпер адзін.

— Во парадаваў. Такіх напарнікаў у мяне хоць гаць гаці.

— За некага, Рыгор Мікалаевіч, у мяне няма ахвоты штодня пад машынай поўзаць.

— Ай-яй-яй!—абсек Міколу Церашонак, але абсек не зласліва:— Такі ўжо ты майстар!

Па тоне адчувалася, што ён прызнаваў усё ж Міколу за майстра. Мікола не звярнуў увагі на дырэктараву іронію.

— Дык яно як будзе, Рыгор Мікалаевіч?

— Так і будзе. Няхай піша заяву. З сённяшняга дня. Ну, і астатнія там дакументы...

У суседнім пакойчыку, дзе сядзела тое самае дзяўчо, што блытала, як сказаў Церашонак, дэбет з крэдытам, Алесь хуценька напісаў заяву, паабяцаўшы астатнія паперы прынесці заўтра. Бухгалтарка стрэльнула ў бок Алеся вачыма, зачырванелася і кіўнула ў знак згоды галавой.

— Цяпер едзем! — загадаў Мікола.— Пакруцішся са мною па горадзе, прыгледзішся, каб ведаць, што да чаго, а заўтра пойдзеш адзін у раніцнюю змену. Так?

— Выходзіць, што так...

Аўтобус, сабраны Міколам, хоць і меў несамавіты выгляд, але бегаў добра. Першае, што адзначыў Алесь, гэта роўненькае пчалінае гудзенне матора. І яму адразу стала неяк хораша і спакойна.

Ужо на першым прыпынку, пасля таго, як Мікола, адчыніўшы дзверцы, гукнуў: «Каму на дрэваапрацоўчы?», у машыну біткам набілася пасажыраў. Многія ведалі Міколу, віталіся, жартавалі, запрашалі на кухаль піва. Каля дрэваапрацоўчага камбіната стаяць доўга не давялося. Аўтобус зноў быў паўнюткі. Ад Базарнай плошчы, якая лічылася за цэнтр горада, яны не павярнулі назад, а паехалі на Фарштат, бярэзінскі прыгарад.

— Гэтым маршрутам і заўтра будзеш ездзіць,— павучаў Алеся Мікола.— Шаснаццаць кіламетраў у адзін канец.

За ўвесь час аўтобус пастаяў хвілін пятнаццаць, пакуль Мікола, Алесь і кандуктарка наспех палуднавалі ў буфеце.

— Трэба, браце, план даваць,— тлумачыў Мікола.— Наконт гэтага Церашонак строгі.

Алесь і не заўважыў, як пачало змяркацца.

— Спазнюся,— зірнуўшы на гадзіннік, занепакоіўся ён.

— Усё ў нашых руках,— супакоіў яго Мікола.— От крышачку збочым, хто нам што скажа, і будзеш ты ля самай школы... Маё шанаванне Жукоўскаму...

У клас Алесь увайшоў разам са званком. Ён агледзеўся, прыцэльваючыся, куды б сесці. Свабодных месц хапала. Бялявы хлапчына, што сядзеў за першай партай, без выдавочнай цікаўнасці спытаў:

— Ты новенькі, ці што?

— Не дужа і новенькі. Хутчэй, пацёрты...

— Эй, Юзік! — гукнуў, павярнуўшыся да класа, бялявы.— Прымай на сваю брыганціну пацёртага...

Шыракаплечы дзяцюк у незашпіленай на два верхнія гузікі кашулі, з-пад якой выглядвала матроская цяльняшка, дабрадушна паклікаў Алеся:



— Тупай, салдат, сюды, на камчатку. Тут дрэмлецца лепш, ніхто не замінае.

Алесь, бокам праціснуўшыся ў вузкім праходзе, толькі было хацеў сесці побач з Юзікам, як уразнабой заляпалі вечкі партаў і ўсе ўсталі, павярнуўшы галовы ў бок дзвярэй. У клас зайшла настаўніца.

## 2

Міхаіл Сцяпанавіч вярнуўся ў горад праз які месяц пасля таго, як тут, сціснутыя нашымі войскамі, здаліся ў палон цэлыя дывізіі фашыстаў. Самыя гарачыя баі адгрымелі на поўдзень і поўнач ад Бярэзінска, калі ішло імклівае акружэнне ворага, і на сам горад упала ўсяго некалькі снарадаў. Міхаіл Сцяпанавіч павольна блукаў па вышчарбленым бруку ціхіх вуліц, пазнаючы знаёмыя мясціны. Мала што змянілася, толькі на ўсім ляжаў шэры адбітак нейкага запусцення. Так ён хадзіў дзень, другі — і ўсё спіралямі вакол Садовай вуліцы, то набліжаючыся да яе, то аддаляючыся. Міхаілу Сцяпанавічу хацелася ўбачыць тое месца, якое вось ужо тры гады жудасным малюнкам усплывала перад вачыма, і кожны раз, ледзь ён падыходзіў да паваропкі на Садовую, невядомая сіла, нібы штурхаючы ў спіну і засцілаючы мозг туманам, гнала яго прэч.

Можа яму ўсё гэта трызніцца, можа і не было той страшнай ліпеньскай раніцы. От ён зараз падыдзе да скрыжавання вуліц — і на яго скрозь густы бэз гляне невялічкі домік з блакітнымі аканіцамі... Міхаіл Сцяпанавіч нават усур'ёз пачаў верыць у неверагоднае, і, мусіць, гэта гарачкавая вера ўсё ж прывяла яго на Садовую. Ён, ліхаманкава перабіраючы рукой штакеціны кветніку, павярнуў управа і адарваў позірк ад зямлі. Яма!.. Зарослая быльнягом чорная яма — і больш нічога...

І адразу ўсю яго істоту працяло нейкае здранцвенне. Больш за ўсё ён баяўся, што ў гэтае імгненне ўпадзе на зямлю і будзе выць, пакуль сэрца не вытрымае, разарвецца ад болю... Не, не ўпаў, а як заведзены механічны чалавек, пераступаў і пераступаў ватнымі нагамі, пакуль не апынуўся перад самай ямай. Усё яго жыццё, усё шчасце — тут. Русакосая, такая спагадлівая і негаваркая Ліда... Шчабятун Санік... Любая гарэза Каця... Жонка і дзеткі...

Ненажэрны Молах вайны праглынуў іх у адзін момант. Яны з Лідай дамовіліся кінуць домік, кінуць усё і прабірацца з дзецьмі на ўсход. Міхаіл Сцяпанавіч падаўся пашукаць які транспарт: можа, фурманку, а то хоць каляску, каб пасадзіць двухгадовую Кацю ды пакласці клункі, якія наспех сабрала Ліда. Ён быў на суседняй вуліцы, калі наляцелі фашысцкія бамбавозы, і бачыў, як над Садовай ускінуліся тры кашлатыя рудыя хмары. У той жа момант выбуховая хваля грымнула яго аб паркан. Першае, што ўспомніў Міхаіл Сцяпанавіч пасля таго, як ачуняў, былі тыя тры пачварныя кашлатыя хмары. Ён напрасткі, трымаючыся абедзвюма рукамі за галаву, цераз гародчыкі кінуўся да свайго падворка. Доміка не было. На яго месцы зеўрала вялікая курадымная яма...

А потым усё адбывалася, як у кашмарным сне. Шэры прысак бясконцай дарогі, калоны бежанцаў, біткам набітая цяплушка, палуба парахода і... Астрахань. Ён дагэтуль не мог зразумець, як і чаму апынуўся менавіта ў Астрахані. Ці гэта простая выпадковасць, ці то нехта яму параіў...

У армію яго не ўзялі як блізарукага, настаўнічаць у школе не захацеў сам і ўсе тры гады адпрацаваў засольшчыкам на рыбазаводзе. А як



дачуўся пра Бярэзінскі кацёл, адразу сабраўся і паехаў. Не мог не паехаць, бо ў сэрцы, насуперак развазе, цяплілася іскарка кволай надзеі.

Цяпер гэта іскарка патухла. Што ён і навошта ён? Ні родных, ні блізкіх, ні сям'і. Няма нават дзіцячага дома, дзе ён гадаваўся з маленства. Нічога няма. Куды падацца? Ну, вядома ж, на станцыю і ехаць, ехаць, абы-куды, хоць на край свету. Міхаіл Сцяпанавіч ледзь не подбегам шыбаваў цераз скверык, за якім пачыналася Вакзальная вуліца, і нічога не бачыў перад сабой...

— Фу-ты... Трэба ж глядзець, таварыш! — мужчына з кіёчкам у руках, на якога наскочыў Міхаіл Сцяпанавіч, ледзь устаяў на нагах.

— Даруйце,— Міхаіл Сцяпанавіч таропка схапіўся за дужкі акуляраў, якія ледзь не ўпалі ад моцнага штуршка, і разгублена паўтарыў: — Даруйце, калі ласка, я незнарок...

— Бачу, што незнарок, бачу,— палагаднеў мужчына і раптам здзіўлена, неяк нараспеў назваў прозвішча Міхаіла Сцяпанавіча: — Ат-таман-чу-у-ук?

— Так, Атаманчук,— скрозь тоўстыя шкельцы акуляраў Міхаіл Сцяпанавіч недаўменна ўзіраўся ў твар, здавалася яму, незнаёмага чалавека.— А вы хто? Адкуль мяне ведаеце?

— Людзі, чуеце: ды гэта ж Атаманчук!— гучна крыкнуў мужчына і раскінуў рукі як для абдымкаў: — І ён яшчэ пытае, адкуль я ведаю яго. Не пазнаеш? Івана Жукоўскага, свайго, можна сказаць, аднакашніка не пазнаеш?

Наконт аднакашніка, дык гэта было перабольшаннем, народжаным нечаканасцю сустрэчы. У маладосці яны крыху ведалі адзін аднаго, вучыліся ў адным інстытуце: Міхаіл Сцяпанавіч — на першым курсе літаратурнага факультэта, а Іван Кірылавіч Жукоўскі — на апошнім, выпускным, фізіка-матэматычнага. Для людзей, перажыўшых ваеннае ліхалецце, якое навек разлучала не толькі сяброў, блізкіх, але і родных, гэтага, відаць, было дастаткова, каб стаць аднакашнікамі.

Яны тут жа селі на лавачку каля танка, які гвардзейцы пакінулі стаяць над магілай свайго генерала, і аддаліся ўспамінам. Больш гаварыў Жукоўскі, а Міхаіл Сцяпанавіч напачатку слухаў, адказваючы на пытанні.

— Ты ў арміі быў? — цікавіўся Іван Кірылавіч.

— Не ўзялі,— сумна паківаў галавой Атаманчук.

— Ат, што я пытаю,— ажно раззлаваўся на самога сябе Жукоўскі.— Куды з такімі вачыма. А што, пашэнціла эвакуіравацца? Нешта я не чуў, каб ты тут заставаўся.

— У Астрахані працаваў.

— Працоўны тыл, значыць. А я, браце, ваяваў. Наваяваўся па самую завязку. Вось! — Жукоўскі паляпаў кіёчкам па назе. Гук быў — палкай па дзераве.

— Пратэз? — жахнуўся Міхаіл Сцяпанавіч.

— Ён, родненькі,— знешне бесклапотна адказаў Жукоўскі.— А магло быць горш. Я тут, пад Бярэзінскам, у акружэнне трапіў, ледзь вылузаўся. А пасля партызаніў. Не чуў пра брыгаду Львова? Ну, да Астрахані чуткі пра яе, можа, і не дайшлі. А ў Беларусі цяпер усе ведаюць. Баявая брыгада. Летась, калі гарнізон штурмавалі, мяне і шарахнула. Аперацыю ў лесе рабілі. Звычайнай нажоўкай косць пілілі. Пэўна, таму дагэтуль і пячэ,— паморшчыўся Іван Кірылавіч і, прыўзняўшы нагу дзвюма рукамі, пагойдаў яе, відаць, гэткім чынам знімаючы боль.

— Ну, а пра тваё гора я чуў,— счакаўшы некалькі хвілін, глуха

сказаў Жукоўскі.— Цяжка, але жыць трэба... Ты калі вярнуўся? Дзе ўладкаваўся?

— Ды два дні вось тут блукаю. А начаваў вунь там,— Міхаіл Сцяпанавіч паказаў рукой на той бок сквера.— Цяпер лета...

— Эге, так нягожа,— уздыхнуў Жукоўскі.— Пойдзем зараз да мяне. Харомаў, праўда, не маю, але такі-сякі куток ёсць. Можа да чаго і дамовімся.

— Ды не, не варта,— запярэчыў Атаманчук.— Я паеду...

— Куды ты паедзеш,— учапіўся за яго Жукоўскі.— Ты, браце, і тут патрэбен. Нікуды не пушчу, калі ўжо трапіў у мае лапы. Уставай, пойдзем.

Міхаіл Сцяпанавіч не меў сілы пярэчыць Жукоўскаму і паслухмяна падняўся...

●

— Прымай, Маша, гасцей! — з парога гукнуў Іван Кірылавіч.

З кухні таропка азвалася жанчына:

— Пачакай хвіліначку, я зараз, а то малако пабяжыць.

— Старых сяброў малаком не сустракаюць,— пажартаваў Жукоўскі і прапанаваў Міхаілу Сцяпанавічу: — Знімай макінтош, давай яго сюды на вешалку... А цяпер праходзь у хату,— прыціснуўшыся да сцяны, ён прапусціў наперад Атаманчука.— А то, бачыш, у нас калідор такі, што ўдваіх не размінешся.

Калідор сапраўды быў маленечкі. Затое пакой аказаўся прасторны, светлы і высокі. Вельмі высокі, што надавала пакою падабенства са службовым памяшканнем. Міхаіл Сцяпанавіч успомніў, што ў гэтым доме перад вайной размяшчаліся нейкія ўстановы.

— Іронія лёсу,— заўсміхаўся Іван Кірылавіч.— Некалі мы з Мар'яй Васільеўнай тут распісваліся, а цяпер во асталяваліся. Ці забыўся? Ды тут жа загс быў...

З кухні выйшла невысокага расточку маладзіца і, павітаўшыся за руку з Міхаілам Сцяпанавічам, з дакорам глянула на мужа.

— Ён усім, хто да нас заходзіць, пачынае з гэтага. От чакайце, зараз яшчэ раскажа вам, што давялося рамізніка браць за сведку, бо жаніх, акрамя сваёй матэматыкі, анічагуткі не ведаў...

— Так ужо і не ведаў,— хітравата прыжмурыў вочы Іван Кірылавіч.— Гэта я па маладосці баяўся, што пакуль запрашу дружкоў, дык нявеста можа і ўцячы. Эх, тады б мне цяперашні розум...

Мар'я Васільеўна няўлоўным рухам ухапіла мужа за віхрастую чупрыну і злёгку патрэсла.

— Розум... Які ты быў, такі і застаўся. Сівізну во, праўда, нажыў. А розум? Ды самі бачыце,— звярнулася яна да Міхаіла Сцяпанавіча,— дырэктар школы, а не мог дабіцца лепшага жытла...

— Не ў гэтым шчасце,— адмахнуўся Іван Кірылавіч.— Ці даўно нашым з табою жытлом быў дзіравы будан? Тады марылася пра хоць які дах над галавой. Хутка, хутка забылася.

— Нічога я не забылася,— запярэчыла Мар'я Васільеўна.— Такое не забываецца. А сказала я, каб чалавек ведаў, што ты — хвалько.

— Ы-ы-ы, ніякай павагі да галавы сям'і, ды яшчэ і свайго дырэктара,— расплыўся ва ўсмешцы Іван Кірылавіч.— Не, каб пахваліць перад падначаленым, дык яна бэсціць...

— А вас настаўнікам у нашу школу прызначылі?— узрадавалася Мар'я Васільеўна і адразу засыпала Атаманчука пытаннямі: дзе працаваў дагэтуль, што канчаў і які прадмет будзе выкладаць?



Міхаіл Сцяпанавіч разгублена глядзеў на Жукоўскага, шукаючы ў яго паратунку ад гэтага граду пытанняў.

— Чакай, чакай, Маша, спыніся на хвілінку, а то ён зараз драпане,— спыніў жонку Іван Кірылавіч і, быццам сапраўды баючыся, што Атаманчук шасне за дзверы, узяў яго за руку: — Сядай, пагаворым...

Пасадзіўшы Міхаіла Сцяпанавіча на канапу, Жукоўскі ўсеўся насупраць у крэсла.

— Я перад табой ужо амаль раскрыў карты. Зрабілі мяне дырэктарам, ды не абы-якой, а вячэрняй школы. Заўваж — вячэрняй. Заяў ужо шмат, усё больш, праўда, у шосты-сёмы класы. Людзі вучыцца хочуць, адсталі за вайну. А настаўнікаў мала, у дзённыя школы не хапае. Ну, я бяру сабе фізіку з матэматыкай, Маша — нямецкую мову, яна ў нашай брыгадзе за перакладчыцу была. Ёсць яшчэ гісторык і хімічка. Вось і ўвесь наш баланс. Галоўная бяда — няма філолага, некаму весці мову і літаратуру. А тут, на маё шчасце, ты...

— Ды я ж не гатовы,— запярэчыў Міхаіл Сцяпанавіч.— Мне ехаць трэба.

— Ну, ці не казала я, што хвалько! — пляснула далонямі Мар'я Васільеўна.— Так во, ні села ні пала, ляпнуў, а цяпер выкручваецца...

Заўвага жонкі не на жарт раззлавала Івана Кірылавіча:

— На́ табе, падтрымала! Тут размова сур'ёзная, а яна сваё...

Сярдзіта крутануўшы галавой, ён зноў павярнуўся да Атаманчука і паклаў яму рукі на калені.

— Слухай, браце, давай па-мужчынску... Працаваць трэба? Трэба! Дык чаму недзе, а не побач з сябрамі? Кута свайго не маеш? Во табе пакуль што мая канапа, яна, дарэчы, не мая ўласная, а казённая. Пасля нешта лепшае прыдумаем.

Мар'я Васільеўна, адчуўшы, што перасаліла, вінавата ўздыхнула:

— Ды памірымся ж. А славеснік нам ой як патрэбен.

Больш, чым угаворы Івана Кірылавіча, Атаманчука кранyў вось гэты шчыры ўздых Мар'і Васільеўны.

— Яно так,— пачаў здавацца Міхаіл Сцяпанавіч,— можна паспрабаваць і ў вячэрняй. Толькі ці атрымаецца?

— Атрымаецца, атрымаецца! — ускочыў і адразу са стогнам зноў апусціўся ў крэсла Іван Кірылавіч. Ён аж пабялеў з твару і, гладзячы нагу далонямі, паскардзіўся: — Быў конь, ды з'ездзіўся. Ніяк не прывыкну...

Міхаіл Сцяпанавіч апусціў вочы долу. Яму стала няёмка, што вось гэтаму хвораму чалавеку даводзіцца ўгаворваць яго, здаровага, вярнуцца да людзей, да сваёй прафесіі. І ён даў згоду:

— Ну, добра. Я паспрабую...

●

Прачнуўся Міхаіл Сцяпанавіч ад таго, што побач нешта моцна грукнула. Яшчэ не асэнсаваўшы, дзе ён, Атаманчук ускапіўся гэтак імгненна, што аж дзыкнулі спружыны канапы. Побач на падлозе валялася перавернутае крэсла і сядзеў, сапучы, Жукоўскі.

— Здароўе ў парадку — дзякуй фіззарадцы,— заўсміхаўся Іван Кірылавіч, убачыўшы, што пабудзіў госця.— Усё ідзе нармальна, пакуль не пачну прысядаць з крэслам. Калі б то дзве нагі, а то паспрабуй падняцца на адной. Вось і куляюся... Далучайся...

— Дзе ўжо мне,— адмовіўся Атаманчук,— адвык. На заводзе

было як папрацуеш гадзін з чатырнаццаць, дык спіш да самага гудка. Снедаў на хаду. Якая ўжо там зарадка...

— А цяпер прывыкай. Пры настаўніцкай рабоце рэч адмысловая.

— Не, як-небудзь пасля.

Міхаіл Сцяпанавіч пачаў хуценька збірацца.

Угледзеўшы, што Атаманчук знімае з вешалкі макінтош, Жукоўскі занепакоіўся:

— Ты гэта куды?

— Ды на базар думаю схадзіць. Можа на падручнікі якія натраплю. Ці на сшыткі. Нічога ж у мяне няма. А працаваць, ты сам кажаш, трэба.

— Твая праўда, працаваць трэба. Гэтыя падручнікі і сшыткі ў мяне ў пячонках сядзяць,— паскардзіўся Іван Кірылавіч.— Пакуль толькі абяцаюць.

— От я і пашукаю.

Невялічкая брукаваная плошча, агароджаная з двух бакоў высокім парканам, гудзела, нібы вулей. Людзі таўкліся каля доўгіх сталоў з негабляваных дошак, не абмінаючы ўвагай ні старой веласіпеднай рамы, якая, мабыць, праваляласся з дзесятак гадоў недзе на сметніку, ні бабровае футра, якое мажная кабета баялася выпусціць з рук. Міхаіл Сцяпанавіч здалёк убачыў стос кніг і наўпрасткі пачаў прадзірацца скрозь натоўп.

— Трыццатку яму! Ці чулі вы — трыццатку?! — лемантаваў сівы дзядок, ліхаманкава гартаючы таўшчэзны том «Жыцця жывёл» Брэма.— Калі б то папера была. А гэта ж парахня! З яе цыгарку скруціш? Ну, скажы, скруціш?

Гаспадар кніг, відаць было, аж тросся ад гневу. Цярэбячы пальцамі клінок бародкі, ён другой рукой пагражаў дзядку:

— Вы — дзікун. Гэта толькі фашысты аддавалі кнігі агню... Пакладзіце! Пакладзіце і не мусольце! Вам я не аддам і за трыста. Гэта не для цыгарак, а для розуму чалавечага...

— Я вазьму... Дайце мне! — вырваў з рук у дзеда том Брэма Міхаіл Сцяпанавіч.

— Бяры, бяры,— з'едліва прашыпеў дзед.— Яшчэ адзін анталігент... «Для розуму чалавечага»,— перадражніў ён.— Завуркатала ў пузе, дык во і прынёс свой розум на базар...

Міхаіл Сцяпанавіч, не зважаючы на бурчанне старога і штурханіну, прыкіпеў да століка. Перабраўшы адзін стос, ён узяўся за другі. Гэта было багацце, сапраўднае багацце — цэлы россып рэдкіх кніг.

— Вам па прыродазнаўству? — паслужліва запытаў уладальнік гэтага дзівоснага скарбу і паказаў на каляску, што стаяла пад столікам: — Дык зірніце вось тут.

— Ага, дзякуй... Я — філолаг,— Міхаіл Сцяпанавіч успомніў нарэшце, дзеля чаго прыйшоў.— Але тут столькі цікавага... А падручнікі ў вас ёсць? Школьныя падручнікі?

— Падручнікі? Дома што-небудзь знойдзецца. Ад дзяцей засталіся... Здаецца, я маю гонар гаварыць з адукаваным чалавекам? Дазвольце адрэкамендавацца: Аляксей Васільевіч Дубінін. Працаваў па каморніцкай галіне. Меў сваю бібліятэку. Цяпер вось,— ён развёў рукі над столікам і сумна глянуў на Атаманчука,— вымушаны прадаваць. Абставіны...

— Так, так, разумею,— паспешліва пагадзіўся Міхаіл Сцяпанавіч, хоць, па праўдзе кажучы, ён не мог зразумець, як можна прадаваць кнігі, ды яшчэ такія.

— Я раю вам, малады чалавек, наведацца да мяне,— прапанаваў



Аляксей Васільевіч.— Буду рады дапамагчы. Запішыце, калі ласка, адрас...

Жукоўскія, выслухаўшы расказ Атаманчука пра базарнага букініста, загарэліся глянуць на яго бібліятэку. Увечары яны рушылі на здабычу ўтраіх. Пазнаёміўшыся з Мар'яй Васільеўнай і Іванам Кірылавічам, Дубінін правёў гасцей у пакой, які некалі, відаць, служыў яму за кабінет.

— Буду рады, калі змагу памагчы высакароднай справе асветы,— крыху напышліва абвясціў ён, паказваючы рукой на кніжныя паліцы.

Дадому вярталіся позна. Міхаіл Сцяпанавіч штурхаў перад сабой пазычаную ў Аляксея Васільевіча каляску, напакаваную купленымі кнігамі.

— Пусці мяне,— спрабаваў учапіцца за дышлік Жукоўскі.

— Я сам, не чапай! — адціскаў яго плячом Атаманчук.

Каваныя колы грукаталі па бруку, абуджаючы сонную вуліцу.

●

Першыя дні Жукоўскі пільна наглядаў за Атаманчуком, без асаблівай настырнасці ўцягваў яго ў размову — усё больш па школьных справах. Ён баяўся аднаго: каб Міхаіл Сцяпанавіч зноў не надумаў з'ехаць далей ад мясцін, якія нагадвалі яму пра сямейную трагедыю. Але, відаць, час — гэты выдатны лекар — крыху загаіў пякучую рану, і нядаўняя сустрэча з мінулым была апошнім зрухам у душы Міхаіла Сцяпанавіча. Кволая надзея саступіла месца горкай раўнавазе. Ды і кнігі гэтак захапілі Атаманчука, што ён не надта падключаўся ў размовы на іншыя тэмы. З раніцы да позняга вечара Міхаіл Сцяпанавіч шамацеў старонкамі і ўсё нешта пісаў, пісаў у тоўсты сшытак, на які пайшоў цэлы скрутак шпалераў. І нарэшце Іван Кірылавіч, зразумеўшы, што ў Атаманчуку зноў прачнуўся настаўнік, супакоіўся.

Цяпер яго думкі былі заняты выкладчыкам гісторыі. Сцяпан Васільевіч Пракошын трымаўся асобна і, пакуль ішоў рамонт, амаль не паказваўся ў школе. Жукоўскі меркаваў, што пасля таго як пачнуцца заняткі, ім удасца наладзіць калі не сяброўскія, то хоць дзелавыя кантакты. Але не. Сцяпан Васільевіч прыходзіў перад самым званком і адразу пасля ўрокаў, часта нават не заходзячы ў настаўніцкую, знікаў са школы. Двойчы Жукоўскі наведаўся на ўрокі Пракошына. Знешне ўсё ішло як мае быць. Сцяпан Васільевіч выклікаў вучняў, ставіў ім адзнакі, расказваў новы матэрыял. Толькі здалося Івану Кірылавічу, што ён не слухаў ні адказаў, ні рэакцыі класа на яго лекцыі. Сухім роўным голасам Пракошын аднолькава гаварыў і пра трагічнае, і пра смешнае, гаварыў, не мяняючы выразу твару, гледзячы некуды сабе пад ногі.

Як разварушыць гэтага чалавека? Чым яму дапамагчы? Каб толькі тактоўна, не закранаючы балючыя струны душы. Іван Кірылавіч падзяліўся сваім клопатам з жонкай. Мар'я Васільеўна надумала неблагую справу.

— А што калі звесці Сцяпана Васільевіча з Міхаілам Сцяпанавічам? — прапанавала яна.— Хоць гэта і жорстка, але можа гора іх зблізіць? Няхай бы адчуў Сцяпан Васільевіч, што не аднаму яму цяжка, не адзін ён перанёс гэткае...

— Баюся,— уздыхнуў Іван Кірылавіч.— Баюся за Атаманчука. Ён, здаецца, адолеў сваю бяду...

— Гэта ж і добра. А я пра што кажу,— стаяла на сваім Мар'я Васільеўна.— Няхай бы і Пракошын убачыў гэта.

На тым і пагадзіліся. Толькі з якое нагоды запрасіць Сцяпана Васільевіча ў госці? Ну, вядома ж, паглядзець купленыя кнігі. Які настаўнік ад гэтага адмовіцца?

Пракошын, якога Жукоўскі пераняў у калідоры школы, не ўздымаючы вачэй, выслухаў прапанову Івана Кірылавіча і моўчкі пайшоў за ім. Атаманчук скончыў заняткі раней і быў дома.

— Пакажыце-тка, Міхаіл Сцяпанавіч, наш скарб Сцяпану Васільевічу,— затупаў Жукоўскі вакол Атаманчука.— Пакладзіце свае сшыткі, яшчэ паспееце праверыць... Вунь туды пакладзіце, на канапу, бо стол нам спатрэбіцца для іншай справы. Пакуль я на кухні тым-сім займуся, вы будзеце за галоўнага бібліёграфа.

Міхаіл Сцяпанавіч сустракаў Пракошына ў школе, вітаўся з ім, але вось так блізка знаёміўся першы раз.

— Добра жывецца вам, гісторыкам,— ні то паскардзіўся, ні то пажартаваў Міхаіл Сцяпанавіч, не надта задаволены тым, што яго адарвалі ад работы.— Ні дыктовак у вас, ні хатніх пісьмовых заданняў. А мы з-за гэтых сшыткаў свету белага не бачым.

— Кожнаму сваё,— неяк змрочна буркнуў Сцяпан Васільевіч.

— Так,— паспешліва пагадзіўся Атаманчук, уражаны непрыязным тонам Пракошына.— Вам затое чытаць даводзіцца бадай больш, чым нам.

— Усё прачытана ўжо...

— Не скажыце,— ажывіўся Міхаіл Сцяпанавіч.— Мы во набылі кнігі, аб існаванні якіх я нават і не ведаў. Зірніце...

Атаманчук згроб з падаконніка стос кніг і перанёс яго на стол. Пракошын абыякава глянуў на кнігі, як на нешта далёкае яму, і зноў апусціў вочы.

— Пісьменнікі, як і гісторыкі, паўтараюцца...

— Ну, гэта вы дарма,— запярэчыў Міхаіл Сцяпанавіч.— Думка не стаіць на месцы. Нават пра вядомыя ісціны кожны чалавек піша паразнаму.

— Піша адно, а робіць другое...

Міхаіл Сцяпанавіч не знайшоў, што адказаць на такое нечаканае заключэнне гісторыка. Жукоўскі, які ў гэты момант з'явіўся каля стала з патэльняй у руках, заўважыў разгубленасць Атаманчука і, ацаніўшы абстаноўку, прапанаваў:

— Сядайце, сядайце. Самая найлепшая бяседа — застольная. А ў мяне штосьці прызапашана.

Ён дастаў з шафкі пузаты графінчык і тры чаркі, нарэзаў хлеба і сала. Міхаіл Сцяпанавіч заўважыў, што вочы Пракошына сталі адразу нейкія вільготныя, а над шэрым каўняром кашулі тарганулася ўверх-уніз востры кадык. Сваю чарку ён кульнуў адразу і, панюхаўшы адламаную ад лусты скарынку, упіўся вачыма ў графінчык.

Гаворка не клеілася. Калі гарэлка была дапіта, Сцяпан Васільевіч, неяк сумна зірнуўшы на Івана Кірылавіча, сказаў:

— Дык я пайду. Позна...

— Можа б Мар'ю Васільеўну дачакаліся. Яна павінна хутка быць,— паспрабаваў затрымаць госця Жукоўскі.— А там Міхаіл Сцяпанавіч вас праводзіць.

— Не, позна, пайду,— паўтарыў Пракошын.

— Калі вы не супраць, дык я прайдуся разам,— азваўся Міхаіл Сцяпанавіч.

— Я сам...

Ён павольна, абапёршыся далонямі на край стала, узняўся з крэсла



і падаўся да дзвярэй. Потым нечакана спыніўся і, пастаяўшы хвілінку, павярнуў галаву:

— Дзякуй вам... Дзякуй... Калі спатрэбяцца якія кнігі, скажыце... У мяне іх шмат...

Жукоўскі з Атаманчуком засталіся сядзець за сталом. Іван Кірылавіч, заўсёды жвавы і гаваркі, на гэты раз моўчкі круціў у руках відэлец і не глядзеў на Міхаіла Сцяпанавіча.

— Чаго гэта ён такі? — не вытрымаў нарэшце Атаманчук.

— Які такі?

— Ну, як лепш сказаць...— Міхаіл Сцяпанавіч не знаходзіў патрэбнага слова.— Нейкі паломаны, ці што...

— Жыццё, браце, яго паламала, жыццё,— уздыхнуў Жукоўскі.— А дакладней — вайна... Ты хіба яго гісторыю не ведаеш?

— Якую яшчэ гісторыю? — насцярожыўся Атаманчук.

— Не хочацца цябе вярэдзіць на ноч гледзячы,— паківаў галавой Іван Кірылавіч,— але расказаць мушу. Ты чалавек моцны. Дык слухай...

У Бярэзінск Пракошыны прыехалі незадоўга перад вайной. Сям'я ў іх была невялікая — усяго тры чалавекі. І хоць з'яўленне ў горадзе новага настаўніка само па сабе не было рэдкасцю, Сцяпан Васільевіч на некаторы час апынуўся ў цэнтры ўвагі. Яго прозвішча стаяла на вокладцы аднаго са школьных падручнікаў. А гэта для бярэзінцаў нешта значыла. З Бэлай Майсееўнай, жонкай Сцяпана Васільевіча, неўзабаве перазнаёміўся лічы што ўвесь горад — яна працавала правізарам у аптэцы. Ды і дачку Пракошыных Ірынку бярэзінцы ставілі ў прыклад сваім дзецям. Гэта ж пра яе напісалі ў газеце пасля таго, як яна заняла першае месца ў гарадской матэматычнай алімпіядзе.

Калі на Бярэзінск упалі першыя бомбы, Бэла Майсееўна кінула аптэку і прыбегла дадому.

— Я баюся, Сцёпа, баюся!—лементавала яна, заламваючы рукі.— Едзем, Сцёпа... Сюды прыйдуць фашысты... Што з намі будзе? Што будзе з Ірынкай?.. Едзем!

Сцяпан Васільевіч сурова абарваў жонку. Не супакоіў, а менавіта абарваў. Ён не верыў, што немцы дойдуць да Бярэзінска, і нікуды адсюль ехаць не збіраўся.

Праз некалькі дзён, паслухаўшы радыё, яны амаль зусім супакоіліся. Дыктар назваў некалькі гарадоў, адбітых у ворага. Гэтыя гарады былі далёка на захад ад Бярэзінска.

— Ну, вось бачыш,— ласкава прытуліў да сябе жонку Сцяпан Васільевіч.— Адбілі... А потым пагонім... Навошта ж ехаць...

— Бачу,— ціха прашаптала Бэла Майсееўна і першы раз за апошнія дні квола ўсміхнулася.

А на досвітку ў Бярэзінск уварваліся немцы.

Бэла Майсееўна ніводнага разу не папракнула Сцяпана Васільевіча — ні тады, як ёй загадалі нашыць на вопратку жоўтыя шасцікутныя зоркі, ні пасля, калі ўсіх яўрэяў сагналі ў гета. Але яму лягчэй было б вынесці дакоры, сварку, самому быць на жончыным месцы за калючым дротам, чым адчуваць позірк яе чорных нерухомых вачэй, да краёў налітых журбою. Зводдаль яны з Ірынкай бачылі Бэлу Майсееўну штодня, зрэдку, калі ўдавалася сунуць у руку вахману некалькі марак, ім дазвалялася пастаяць дзве-тры мінуты каля агароджы, нават перакінуцца словам.

— Што будзе, Сцёпа? — самотна шаптала Бэла Майсееўна.— Што будзе з Ірынкай?

Яна не спускала вачэй з дачкі і ўсё хацела дакрануцца да яе рука-

мі, ды не магла — агароджа з калючага дроту была ў два рады.
Неяк суседка перадала Сцяпану Васільевічу запіску. Таропкім няроўным почыркам — відаць, пісала наспех — Бэла Майсееўна паведамляла, што ходзіць чутка, быццам іх некуды пагоняць з Бярэзінска. Сцяпан Васільевіч выскачыў на вуліцу і подбегам пашыбаваў у бок гета. На паўдарозе яго спыніў знаёмы ўрач, уся сям'я якога была там, за калючым дротам, а сам ён, працуючы ў інфекцыйным аддзяленні бальніцы, меў дазвол на свабодны выхад.
— Вас туды не пусцяць,— папярэдзіў ён Пракошына.— Усюды вартавыя з сабакамі... Мне сказалі, каб начаваў абавязкова там. Усім так сказалі, хто мае пропуск у горад... І што яны надумалі?
— Будуць некуды пераводзіць... Вось толькі куды?
— Так-так, будуць пераводзіць,— сумна паківаў галавой урач.— Нашы б надзеі і вашы словы ды богу ў вушы... Яны кажуць, што цяпер гета будзе ў Пуцьках...
Сцяпан Васільевіч ведаў Пуцькі, бліжняе ад Бярэзінска мястэчка, і амаль узрадаваўся:
— Дык гэта ж непадалёку...
— Непадалёку,— паўтарыў урач і, не пакідаючы ківаць галавой, задаў Пракошыну нечаканае пытанне: — Тады скажыце, навошта яны загадалі пуцькаўскім збірацца ў наш Бярэзінск?
— Не ведаю,— разгублена адказаў Сцяпан Васільевіч.
— І я не ведаю. Мы ўсе не ведаем. Гэта ведаюць толькі яны.
Позна ўвечары з боку гета данёсся глухі гоман. Па пустых вуліцах, ачэпленых нямецкімі жандарамі, рушыла доўгая калона.
Сцяпан Васільевіч і Ірынка не спалі ўсю ноч, слухаючы напружаную цішыню і нервова ўздрыгваючы ад кожнага гуку.
— Я пайду да мамы... Я буду з ёю,— зрэдку шаптала Ірынка, глытаючы слёзы.
А на досвітку, якраз у тым баку, дзе былі Пуцькі, узахлёб разанулі кулямёты...
Праз які месяц на кватэру да Пракошыных нечакана зайшоў паліцэйскі. Прыставіўшы вінтоўку да нагі, ён ад парога буркнуў:
— На рэгістрацыю!
— Я ўжо зарэгістраваны ўправай,— памкнуўся растлумачыць Сцяпан Васільевіч.
— Не ты, а яна,— адводзячы вочы, кіўнуў у бок Ірынкі паліцэйскі.
У Сцяпана Васільевіча нібы нешта адарвалася пад сэрцам. Прыціснуўшы рукі да грудзей, ён інстынктыўна засланіў Ірынку.
— Мы прыйдзем... Хутка прыйдзем...
— Загадана прывесці зараз жа!
Дадому Ірынка не вярнулася. Дачуўшыся, што яна ў турме, Сцяпан Васільевіч некалькі дзён абіваў парогі камендатуры. Нарэшце яго прыняў нейкі лейтэнант і, выслухаўшы, развёў рукамі:
— Мы такімі справамі не займаемся. Гэта функцыя службы СД.
— Але ж тут памылка. Разумееце, памылка,— спрабаваў давесці яму Сцяпан Васільевіч.— Мая дачка — дзіця. Яшчэ зусім дзіця. Яна не зрабіла нікому нічога кепскага.
Твар лейтэнанта зрабіўся каменны.
— Яўрэйскае дзіця! — узняў ён палец угору.
— Я не яўрэй...
— І дзякуйце за гэта бога... Хоць хто ведае, чаго можна чакаць ад чалавека, які быў блізкі да яўрэяў...
У СД Пракошына не пусцілі. Перадачу ў турму таксама не прынялі. Разам з гэткімі ж гаротнікамі, як ён сам, Сцяпан Васільевіч прастаяў каля турэмных варотаў далёка за поўдзень.
Нечакана каля іх спынілася накрытая стракатым брызентам грузавая машына. З кабіны вылузнуўся тоўсты фельдфебель і, перамешваючы рускія словы з нямецкімі, загадаў:
— Эй, шнель! Давай, давай!.. Зітцэн!..
Аднекуль з'явіліся двое салдатаў і адкінулі задні борт. Сцяпан Васільевіч і яшчэ трое мужчын апынуліся ў кузаве. Ім загадалі сесці бліжэй да кабіны, а з краю ўладкаваліся салдаты з вінтоўкамі. Фельдфебель, убачыўшы спалоханыя твары сваіх палоннікаў, зарагатаў:
— О ніхт анкст... Мы не страляйт... Рускі будзе бісхен грабен.
Сцяпан Васільевіч зразумеў: немец сказаў, каб яны не баяліся. Іх павязуць нешта капаць. Сапраўды, на дне кузава ляжалі рыдлёўкі.
Праехаўшы кіламетраў з дзесяць па бальшаку, машына павярнула на прасёлак і спынілася ў невялікім пералеску. Фельдфебель адмераў на зямлі вялікі квадрат і скамандаваў:
— Работа!
Калі яма была выкапана ў пояс, ім зноў загадалі садзіцца ў машыну. Мужчыны стараліся не сустракацца позіркамі. Яны здагадваліся, навошта немцам спатрэбілася гэтая яма. Колькі ўжо разоў у Бярэзінску расклейваліся загады з бязлітаснымі словамі «прыгавораны да расстрэлу», а ўначы за ваколіцамі горада чуліся сухія, прыглушаныя адлегласцю аўтаматныя чэргі і ружэйныя залпы.
Недзе на палавіне дарогі машына чамусьці спынілася. Ляпнулі дзверцы кабіны, і пачуліся галасы. Сцяпан Васільевіч, услухоўваючыся, з цяжкасцю разабраў, што фельдфебель раіў некаму трымацца прама, а потым направа. Хоць і былі прыцемкі, праз шчыліну паміж брызентам і верхняй дошкай кузава Пракошын угледзеў два такія ж, як іхні, крытыя тупарылыя грузавікі.
Неўзабаве сустрэчныя машыны, глуха равучы, прапаўзлі міма. Калі задняя рэзка гайданулася ў калдобіне і на момант расхінуўся брызент, у паўзмроку кузава мільганула жоўтая сукенка ў крапінку.
— Ірынка! — сам сабой вырваўся немы крык з грудзей у Сцяпана Васільевіча. Перад вачыма замітусіліся і паплылі ў шалёным карагодзе жаўтлявыя кругі з чорнымі кропкамі, і ён праваліўся ў бездань...

●

Мулкай стала Міхаілу Сцяпанавічу канапа ў кватэры Жукоўскіх. Аднойчы ноччу, пакутуючы ад бяссонніцы, ён пачуў прыглушаны шэпт. Спачатку нешта сказала Мар'я Васільеўна. Ёй, быццам злуючыся, адказаў Іван Кірылавіч. Потым — зноў Мар'я Васільеўна... «А можа гэта яны наконт мяне?» — іскрой мільганула ў галаве думка. І аж дыханне заняло Міхаілу Сцяпанавічу. Баючыся варухнуцца, ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма і стараўся не слухаць...
З тае начы і набыў сабе Атаманчук новы клопат. Не дужа лагодна адказаў Жукоўскі на яго пытанне — і Міхаілу Сцяпанавічу думаецца, што гэта не так сабе. Сядзяць увечары Мар'я Васільеўна і Іван Кірылавіч моўчкі — і здаецца яму, што ў думках яны працягваюць сваю начную размову: якую — ён не ведаў...
Міхаіл Сцяпанавіч спецыяльна пачакаў у настаўніцкай Івана Кірылавіча, які вёў апошні ўрок. Дома, пры Мар'і Васільеўне, яму не хацелася заводзіць гэтую размову.
Жукоўскі ўвайшоў заклапочаны і стомлены.
— Палавіны сёмага класа не было на ўроку,— паскардзіўся ён.

— І ў шосты сёння прыйшло не больш,— адказаў Атаманчук.— Што будзем рабіць?

— Пакуль што, відаць, нічога не зробіш,— уздыхнуў Жукоўскі.— Па дзесяць, а то і больш гадзін працуюць. Дзеці — і па дзесяць гадзін... Вайна, браце, яшчэ не скончылася. Гэта мы адваяваліся,— ён са скрухай махнуў рукой і, рыпнуўшы пратэзам, цяжка апусціўся ў крэсла.

Памаўчалі, кожны думаючы сваё.

— Іван,— рашыўся нарэшце Атаманчук,— ты тут больш каго ведаеш. Падкажы, дзе знайсці кватэру?

— Якую яшчэ кватэру?

— Ну, калі не кватэру, дык больш-менш зручны кут,— Міхаіл Сцяпанавіч машынальна зняў акуляры, і яго вочы адразу звузіліся, неяк нават пабляклі.— Давай па шчырасці. Я вам бясконца ўдзячны за ўсё, што вы для мяне зрабілі... Ат, што тут казаць, ты і сам добра разумееш... Але ж трэба і сумленне мець. Пакой у вас адзін. Сваёй сям'ёй, дык яно і нішто. А калі побач увесь час зусім чужы чалавек?..

— Так ужо і зусім чужы? — з затоенай крыўдай перапытаў Жукоўскі.

— Даруй, я не так сказаў,— пачаў быў апраўдвацца Атаманчук і раптам раззлаваўся: — Я прашу яго па шчырасці, а ён... Ну, добра. Для мяне вы больш, чым родныя, больш...

У гэты момант рыпнулі дзверы, і ў настаўніцкую зазірнула выкладчыца хіміі.

— Можна? Ці ў вас якая сакрэтная размова?

— Можна, Алена Пракопаўна, можна. Якія там сакрэты,— ажывіўся Іван Кірылавіч.— Проста гаворым пра бытавыя справы. Міхаіл Сцяпанавіч во шукае кватэру. У мяне яму, кажа, цесна...

Атрымалася гэта ў Жукоўскага проста і натуральна, быццам дагэтуль тут, у кабінеце, не сябры размаўлялі, а вялі дзелавую размову дырэктар з настаўнікам.

— А што вы думаеце,— патрапіла ў тон Алена Пракопаўна.— Яно такі і цесна.

— Тады можа вы што-небудзь нам параіце? — папрасіў Жукоўскі.

— Параіць нядоўга,— заўсміхалася Алена Пракопаўна,— ды ці пагодзіцца Міхаіл Сцяпанавіч. У мяне хоць на курыных ножках, але свая хата. Далекавата, праўда, хадзіць, аж на Фарштат. Затое дорага не вазьму,— бліснула яна блакітнымі вачыма ў бок Атаманчука.

— Во, нечакана-негадана,— пляснуў далонямі Іван Кірылавіч.— Ну, Атаманчук, па руках і бяжы па магарыч. Шанцуе табе... Ці, можа, прапанова благая?

— Д-ды гэта... н-не ведаю,— ажно пачаў заікацца ад нечаканасці Міхаіл Сцяпанавіч.— Можа Алена Пракопаўна пажартавала?

— Гэ, пажартавала! — не адступаўся Іван Кірылавіч.— Ты добра паглядзі, ці можа такая сур'ёзная кабета жартаваць? Авой мне, даруйце! — павярнуўся ў бок Алены Пракопаўны Жукоўскі: — Не ведаю, як правільна атэставаць: кабета ці дзяўчына?

— Ну, Іван Кірылавіч, дырэктар павінен ведаць,— паківала пальцам Алена Пракопаўна.— Сын у мяне ёсць?

— Сын? — перапытаў Жукоўскі.— Бач ты, сын... Ну, кажуць, ёсць. Кажуць...

Да Фарштата і сапраўды было далекавата. Міхаіл Сцяпанавіч спачатку нават пашкадаваў, што так лёгка згадзіўся на прапанову Алены Пракопаўны: у першы дзень дарога здалася яму бясконцай. Затое ўладкаваўся ён адмыслова. Гаспадыня аддала ў поўнае яго распараджэнне давелі прасторную бакоўку з ложкам, сталом і этажэркай. Пакуль што, праўда, на тую этажэрку не было чаго ставіць. Купленыя кнігі яны з Іванам Кірылавічам занеслі ў школу.

— А дзе ж сын? — пацікавіўся Міхаіл Сцяпанавіч, крыху асвойтаўшыся.

— Сын? — усміхнулася Алена Пракопаўна.— А от зараз схаджу па сына. Не кінеш жа малога аднаго. Пакуль я на рабоце, дык ён у суседзяў бавіцца.

— Аднаго? А ў вас што, больш нікога няма?

— Няма,— засмучана ўздыхнула Алена Пракопаўна.— Маці не дачакалася мяне якія два месяцы... Сваіх не дачакалася...

— Немцы?! — усклікнуў Міхаіл Сцяпанавіч.

— Не. Сама памерла. З голаду.

Пакуль Алена Пракопаўна хадзіла па сына, Атаманчук паспеў разгледзець фотакарткі, сабраныя разам у вялікай зашклёнай рамцы. Яго ўразіла, што на ўсіх былі жанчыны ў вайсковай форме. Адна з іх абліччам вельмі нагадвала Алену Пракопаўну. Калі б не такая круглатварая, дык вылітая яна. «Пэўна, сястра»,— рашыў Міхаіл Сцяпанавіч.

— А вось і мы,— пачулася за яго плячыма. Заняты фотакарткамі, Атаманчук і не заўважыў, як вярнулася Алена Пракопаўна. На яе руках сядзеў бледненькі хлопчык гадоў пяці.

— Ну, Міколка, скажы дзядзьку дзень добры,— папрасіла яна, заглядаючы сыну ў тварык.

Хлопчык, бліснуўшы чорнымі вачаняткамі, адвярнуўся і танюткімі ручкамі абшчапіў Алену Пракопаўну за шыю.

— Не бойся, дурненькі. Гэты дзядзька харошы,— пяшчотна загаварыла яна і, выслабаніўшы адну руку, пагладзіла хлопчыка.—Ён будзе ў нас жыць, раскажа табе казку... Ну, хадзем, хадзем, а то войска замаркоцілася без свайго камандзіра...

Алена Пракопаўна занесла Міколку ў спальню і хутка вярнулася.

— Цяпер да вечара будзе камандаваць,— заўсміхалася яна.— Гэта сусед яму алавяных салдацікаў падарыў... А вы тут не сумавалі, з жаночым войскам, здаецца, знаёміліся?

— Было.

— Ну і як?

— Ды вось бачу, што і жанчыны ваююць,— уздыхнуў Атаманчук.— Ваша сястра ў арміі?

— Якая сястра? — не зразумела спачатку Алена Пракопаўна, а потым гучна зарагатала: — Э-э, Міхаіл Сцяпанавіч, педагог павінен быць больш назіральным! Гэта я сама. Сяржант медыцынскай службы Гудовіч...

— Вы? — разгубіўся Атаманчук.— А чаму медыцынскай?

— Бо страляць не навучылася,— без усялякай рысоўкі прызналася Алена Пракопаўна.— Скончыла медыцынскія курсы і працавала ў шпіталі. А нядаўна дэмабілізавалі як настаўніцу. Вучыць дзяцей, сказалі, трэба.

— Дык гэта вы самі,— задуменна прагаварыў Міхаіл Сцяпанавіч.

— Я,— кіўнула галавой Алена Пракопаўна, і яе вочы зноў заіскрыліся смяшынкамі.— А не пазналі вы таму, што я там была на франтавым пайку, а тут на тылавым, настаўніцкім.

— А ёсць розніца?

Пытанне для Алены Пракопаўны прагучэла, відаць, недарэчна, бо замест адказу яна неяк недаўменна паціснула плячыма.

Неўзабаве Міхаіл Сцяпанавіч зразумеў гэты яе жэст на ўласным

вопыце. Жывучы ў Жукоўскіх, ён бачыў, што былыя баявыя паплечнікі Івана Кірылавіча, якія часам наведваліся з вёскі ў горад, прывозілі Мар'і Васільеўне нейкія клункі. Тая напаўголасу спрачалася з гасцямі на кухні, нават сарамаціла іх, але, развітваючыся, заўсёды дзякавала. Цяпер Атаманчук зразумеў: дзякаваць было зашошта. Атавары́ўшы ў краме харчовыя карткі за паўмесяца, ён праз тыдзень убачыў, што на паліцы, акрамя купленага на базары слоіка з цёртым хрэнам, нічога не засталося. А, здавалася ж, эканоміў... Уся надзея зараз была на сталоўку, дзе па тых жа картках давалі суп, які галодныя халасцякі трапна ахрысцілі «салаўём-разбойнікам». Міхаіл Сцяпанавіч напачатку не мог уцяміць, што можа быць агульнага паміж вадзянай поліўкай і казачнай пачварай, покуль сусед па століку яму не параіў:

— А ты добра паглядзі ў талерку.

— Ну, дно бачу.

— Дно само па сабе. А от зірні, як крупінка за крупінкай ганяецца з дубінкай. Ну, чым не салавей-разбойнік?

— Дзякуй богу, людзі за вайну не развучыліся жартаваць, хоць, праўда, жарты хутчэй замянялі перац, чым добрую адбіўную.

Алена Пракопаўна, нагледзеўшыся на пакуты Міхаіла Сцяпанавіча, рашуча загадала:

— Давайце вашы карткі ў агульны кацёл. Не бойцеся — не пакрыўджу.

— Ды я што, не падумайце,— зачырванеўшыся, пачаў апраўдвацца Міхаіл Сцяпанавіч.— Але ж вам лішні клопат.

— Будзе клопат, калі ад ветру паваліцеся,— грубавата спыніла яго красамоўства Алена Пракопаўна.

Якраз у гэтыя дні Атаманчуку пашанцавала. З раніцы ён узяўся абкопваць прызбу, бо ўжо стукнулі маразы, а хатка была гнілаватая. Толькі ўбіўся ў работу, як з-за брамкі гукнуў знаёмы голас:

— Атаманчук! Бяжы сюды, патанцуеш перада мной крышачку.

Гэта быў Жукоўскі. Ён стаяў на вуліцы побач з грузавікам і махаў нейкімі паперкамі.

— Давай! Давай! Не пазнаеш, ці што? — не сунімаўся Іван Кірылавіч.— З Каспійскага мора табе прывітанне прыслалі. Скачы на аднойназе...

Міхаіл Сцяпанавіч неяк напісаў у Астрахань, каб яму выслалі такія-сякія дакументы, і чакаў адказу. Але чаму Жукоўскаму прыспічыла везці пісьмо сюды? Магло пачакаць і ў школе.

— Што, дзівуешся, з якое нагоды я стаў паштальёнам? — запытаўся Іван Кірылавіч, калі Атаманчук выйшаў са двара.— Надта ж прыемна пахнуць гэтыя паперкі... А тут якраз дровы прывезлі. Дык я і папрасіў шафёра скокнуць да цябе. Думаю, і мне перападзе нейкі ласунак. Трымай — квіткі на пасылкі. А гэта бандэроль.

— Адкуль там ласунак? — засумняваўся Міхаіл Сцяпанавіч.

— Ты не круці, а сядай у кабіну ды паедзем,— смяяўся Жукоўскі.— Паштальёнка прасіла, каб хутчэй забіралі, бо такі смачны пах ад тваіх пасылак ідзе, што палавіна іхніх людзей непрытомныя ляжаць.

На машыне яны ўправіліся хутка. Радасна было Міхаілу Сцяпанавічу, што не забыліся на яго астраханскія засольшчыкі. Адну пасылку яны з Жукоўскім растрыбушылі прама ў кабіне. Там былі кансервы і вэнджаная рыба...

— Гэта вам,— не гледзячы на Алену Пракопаўну, Атаманчук паставіў на кухонны стол фанерную скрынку з адарваным вечкам.



— Не толькі вам, а і нам,— паправіў яго Іван Кірылавіч, кладучы побач зацягнутую накрыж шпагатам палатняную торбу.— Мы таксама не лысыя. Тут, я абмацаў, нішто іншае, як вобла.

Міколка, які сцішана стаяў на парозе ў свяцёлку, трымаючыся рукамі за паркалёвую фіранку, узняў вочы на Алену Пракопаўну:

— Мама, і я не лысы. У мяне ўжо вялікія валосікі...

●

Алене Пракопаўне было нават прыемна, што многія лічылі Міколку яе сынам. Ну чым не сын! Як абшчэпіць за шыю ручкамі, як прытуліцца да грудзей, дык ажно сэрца замірае. І заве яе мамай. З суседзямі Алена Пракопаўна дамовілася, каб нічога не расказвалі ні Міколку, ні каму іншаму. Праўду ад іх утаіць было нельга. Увесь Фарштат ведаў, што да вайны Алена Пракопаўна замужам не была, а тут раптам прывезла малога. Нават самыя востраязыкія гаварухі, губляючыся ў здагадках, сышліся на адным: як ні круці, а пяцігадовае дзіця не можа быць Аленчыным. Тады чыё ж? Каб не было лішніх абгавораў, яна вымушана была расказаць Міколкаву гісторыю.

Іхні санітарны поезд прыбыў на станцыю, якую незадоўга перад гэтым бамбілі. Асаблівых разбурэнняў не было, наляцела ўсяго два самалёты, ды і тыя былі хутка прыціснуты нашымі ястрабкамі. Але бомбы немцы скінулі, і ўпалі яны паблізу эшалона з бежанцамі. Галоўны ўрач поезда згадзіўся забраць параненых. Услед за насілкамі, на якіх ляжала непрытомная жанчына з перабінтаванай галавой, чыгуначнікі падсадзілі ў вагон малое хлапчаня.

— Гэта яшчэ што? — сярдзіта нахмурыў бровы ўрач.— Не-не, у нас не дзіцячы сад.

— А куды ж яго? — з дакорам і неяк разгублена запытаўся стары чыгуначнік.— Маці ягоная — вунь яна,— ён паказаў на насілкі.— Больш нікога ў хлопчыка няма. Згубіцца...

Урач абвёў позіркам медыцынскіх сясцёр і чамусьці выбраў Алену Пракопаўну:

— Таварыш Гудовіч, паклапаціцеся...

Параненую жанчыну не давезлі да шпіталя. Яна памерла ў дарозе. Ніякіх дакументаў пры ёй не было. Хлопчык жа змог назваць толькі сваё імя: Міколка. Ні прозвішча, ні адраса ён не ведаў. Яго хацелі перадаць у дзіцячы дом, ды Алена Пракопаўна, уражаная застылым страхам у чорных вачанятках малога, упрасіла пакінуць Міколку пры ёй. Урач даў згоду з умовай, што яна з санітарнага поезда пяройдзе працаваць у шпіталь...

Больш як два гады Алена Пракопаўна казала ўсім, што Міколка — яе родны сын. Не лічачы, вядома, суседзяў. А вось Міхаілу Сцяпанавічу ёй чамусьці захацелася расказаць усё шчыра. Яна дзівілася свайму жаданню, яшчэ не разумеючы, чым яно выклікана. Можа тым, што Атаманчук гэтак падружыўся з Міколкам?

А ён і праўда цяпер бавіў з малым амаль увесь свой вольны час. Навалакуць у хату драўляных абрэзкаў і стругаюць з самага рання, аж пакуль Міхаілу Сцяпанавічу не ісці ў школу.

— Гэта што, пеўнік? — дапытваецца Міколка.

— Які табе пеўнік! — амаль злуецца Міхаіл Сцяпанавіч.— Самы сапраўдны конік.

— А чаму ў коніка грабеньчык? — не сунімаецца хлопчык.

— Не грабеньчык, а грыва,— даводзіць сваё Атаманчук.

Алена Пракопаўна шчасліва смяецца:

— А вы падпісвайце. Гэта — конь, а гэта—сабака...

— Для каго падпісваць? Для мяне падпісваць? — усміхаецца Міхаіл Сцяпанавіч.— Міколка ж у нас непісьменны. Два настаўнікі ў хаце, а дзіця нават літараў не ведае... О, ідэя! — раптам загарэўся ён.— Чым выразаць гэтых пачвар, дык мы лепш пачнем вучыцца чытаць...

Цэлы дзень яны пілавалі яловае паленца істругалі сукаватыя чуркі. Атрымаліся адмысловыя кубікі, на якіх Міхаіл Сцяпанавіч, не дужа здатны да малявання, чарнілам напісаў вялікія літары. Іх Міколка, захоплены гульнёй, вывучыў хутка.

— А цяпер давай складзем словы,— прапанаваў аднойчы Міхаіл Сцяпанавіч.— Знайдзі літару «м»...

Міколка беспамылкова адшукаў патрэбны кубік.

— Та-а-ак,— задаволена зазначыў Атаманчук.— Цяпер пастаў побач літару «а»...

Алена Пракопаўна, адклаўшы ў бок кніжку, затоена сачыла за іхнім заняткам.

— Правільна,— узрадаваўся Міхаіл Сцяпанавіч і сеў на падлогу побач з Міколкам.— Вазьмі яшчэ адно «м»... І яшчэ адно «а»... Ну, прачытай, што атрымалася?

Міколка, гледзячы не на кубікі, а ў твар Міхаілу Сцяпанавічу, звонка крыкнуў:

— Мама!

Крыкнуў і, тыцнуўшыся тварыкам у яго калені, затросся ў плачы. Што яму прымроілася? Можа недзе глыбока ў свядомасці бліснулі сполахі — адбітак тых жорсткіх выбухаў, што грымнулі некалі на невялікай чыгуначнай станцыі, згубленай у неабдымным прыволжскім стэпе?

— Міколка... Міколка...— разгублена паўтараў Міхаіл Сцяпанавіч, паклаўшы далонь на худзенькія хлопчыкавы плечы.

— Міколка! — бухнулася побач на калені Алена Пракопаўна і прытулілася шчакой да віхрастай галавы малога.— Ну, што з табой, родненькі? Сыночак мой...

У той вечар Міхаіл Сцяпанавіч і Алена Пракопаўна спазніліся на ўрокі. Чалавеку робіцца лягчэй, калі ён выгаварыць сваё гора.

## 3

Першы ўрок і ўзрушыў, і збянтэжыў Алеся Страхаля. Узрушыў таму, што праз столькі гадоў ён зноў сядзеў за сапраўднай школьнай партай. Дзевяты клас не ішоў у разлік — там было нешта іншае, не падобнае на звычайную школу. Некалькі чалавек, мала чым звязаных адзін з другім, збіраліся вечарамі на дзве-тры гадзіны ў маленькім пакойчыку побач з кабінетам начальніка палітаддзела. У настаўнікаў не было завядзёнкі выклікаць вучняў, яны таропка гналі свае прадметы, а іншыя раздзелы проста раілі прачытаць па падручніках. Сядзелі за двума вялікімі сталамі, накрытымі зялёным сукном. Тут жа — Алесь гэта адразу адчуў, нібы ўдыхнуў з паветрам — быў клас.

А збянтэжанасць падкралася да сэрца пасля таго, як Алесь зразумеў, што дзесяцікласнікам ён можа звацца з вялікай нацяжкай. Калі б то быў які іншы прадмет, дык можа Алесь ужо з першых мінут і ўбіўся б у належную каляіну. А то хімія — яго «ахілесава пята», самае слабое месца...



— Задачу ўсе рашылі? — абвёўшы вачыма клас, спыталася настаўніца.

Замест адказу хлопцы і дзяўчаты зашоргалі старонкамі падручнікаў і сшыткаў.

Счакаўшы якую хвіліну, настаўніца зноў, цяпер ужо з ледзь чутнай ноткай іроніі, перапыталася:

— Значыць, усе рашылі? Ну, зараз праверым... Хто ў нас пойдзе да дошкі? А пойдзе да дошкі Навумчык. Калі ласка, Лёня Навумчык, прашу...

Праз адну парту перад Алесем ускочыў, нібы на спружынах, хударлявы хлапчына. Абцягнуўшы пінжачок, ён схіліў набок галаву, заглядаючы ў сшытак суседа.

— Вы гэта мяне, Алена Пракопаўна?

— Ну, калі ты не памяняўся прозвішчам, скажам, з Казловым, то пэўна ж цябе...

Жарт настаўніцы, відаць, меў нейкі падтэкст, бо ўвесь клас, акрамя Алеся і Лёні Навумчыка, зарагатаў.

— Ціха! — узняла руку Алена Пракопаўна.— Прашу, Навумчык, да дошкі.

— Мне з Казловым няма разліку мяняцца прозвішчам,— у голасе Лёні Навумчыка чулася крыўда.— Ён хоць у нас і карыфей, але я — чалавек рабочы...

— Даруй, калі пакрыўдзіла,— настаўніца нібы змахнула з твару ўсмешку і адразу пасур'ёзнела.— А наконт рабочага... Рабочы ты на заводзе, а тут вучань. Усе вы для мяне аднолькавыя вучні.

— Ну, вучні ж,— пагадзіўся Лёня Навумчык.— А задачу я не зрабіў. Добра падумаць часу не было. Нашаму заводу тэрміновы заказ далі.

— Дык ідзі сюды, разам падумаем.

Патаптаўшыся моўчкі на месцы і ўсё абцягваючы пінжачок, Лёня рушыў, нарэшце, да настаўніцкага століка.

— Пішы ўмову!

Абломкам крэйды Навумчык накрэмзаў на дошцы некалькі хімічных знакаў і лічбаў.

— Так,— акінула паглядам напісанае Алена Пракопаўна.— І што нам трэба даведацца?

— Колькі грамаў спірту было ў растворы.

— Які ход рашэння? Хто з класа падкажа Навумчыку? Казлоў?

Цыганаваты хлопец у ладна скроенай афіцэрскай форме без пагонаў устаў нетаропка, нібы нехаця. Рэзкім рухам адкінуўшы назад валасы, ён уключыўся ў дыялог, які перад гэтым вялі Лёня Навумчык і настаўніца:

— Не трэба быць карыфеем, каб зразумець сакрэт гэтай задачы. Ды, уласна кажучы, і сакрэту ніякага няма. Калі ўважліва прачытаць умову, то адразу бачна, што мы маем справу не з адным рэчывам, а з двума. Чорным па белым у задачніку напісана: натрый уздзейнічае на раствор прапілавага спірту ў бензоле. Значыць, спірт і бензол...

— Правільна,— пацвердзіла Алена Пракопаўна.

— Я гэта і сам ведаю,— гледзячы з-пад ілба на Казлова, буркнуў Лёня.— А вось далей як?

— А далей таксама проста...

Ім гэта можа было і проста, а вось Алесь анічагуткі не разумеў. Ён, нібы просячы дапамогі, глянуў на Юзіка, свайго суседа па парце. Той сядзеў з прыплюснутымі вачыма, і, здавалася, яму не было справы да

таго, пра што гавораць Навумчык, Казлоў і настаўніца. «Спіць, ці што? — непрыязна падумаў Алесь.— Ну і сусед...»

Селі на свае месцы Навумчык і Казлоў. Алена Пракопаўна, відаць, задаволеная вучнямі, перапыталася:

— Усім зразумела?

— Усім! — дружна адказаў клас.

— Мне не зразумела...

Гэта Юзік. Пэўна, праспаў усю абедню. Алесь інстынктыўна адсунуўся ад суседа на край парты.

— Што ж не зразумеў, Патычка? — здзіўлена ўзняла бровы Алена Пракопаўна.

Юзік цяжка варухнуўся і ўстаў. Усе павярнулі галовы ў яго бок.

— Мне не зразумела, навошта было Казлову задачу, якая рашаецца ў тры дзеянні, расцягваць аж на пяць.

— Ну-ну! — падахвоціла Юзіка Алена Пракопаўна.

— Прапілавы спірт і бензол, вядома, розныя рэчывы, але ж нам яны дадзены ў растворы. Калі мець гэта на ўвазе, то ход рашэння будзе іншы, намнога карацейшы...

— Гэта неістотна! — выкрыкнуў Казлоў.

— Яшчэ як істотна,— не павышаючы голасу, адказаў Юзік,— тут выйгрыш часу. Гэта што, па-твойму, не мае значэння?

І ён спакойна, нібы чаканячы кожны сказ, давёў класу сваю думку. Алесь хоць і цьмяна, але, здалося яму, зразумеў, у чым тут справа. Эге, далёка не драмлюга гэты Юзік...

— Абодва рашэнні правільныя,— пагадзілася Алена Пракопаўна і неяк цёпла ўсміхнулася Юзіку.— У Патычкі, праўда, больш арыгінальнае, можна сказаць, аналітычнае... Ну, хопіць, пераходзім да наступнай тэмы.

Алесь спачатку стараўся сачыць за настаўніцай, потым, канчаткова заблытаны новымі для яго тэрмінамі, цяжка ўздыхнуў і апусціў галаву на сашчэпленыя замком рукі.

— Кумекаеш што-небудзь? — шапнуў яму Юзік.

— Не,— сумна паківаў галавой Алесь.— Зусім не валаку. Цёмная ноч...

— Гэта, браце, арганіка. Тут трэба ўсё спачатку, бо адно за другое чапляецца...

— Паспрабую...

Перад самым званком, спыніўшы вучняў, якія былі ўжо шумна заварушыліся, Алена Пракопаўна глянула на Алеся:

— А як з хіміяй у новенькага? Вы Страхаль будзеце?

— Так, Страхаль,— панура адказаў Алесь.—Неяк адолею і хімію...

— Адолееце? Ну-ну! А можа трэба дапамагчы?

— Не адмоўлюся.

— Каму ж даручым? — Алена Пракопаўна дапытліва прабегла поглядам па тварах вучняў.— Казлову?

— Я б ахвотна, Алена Пракопаўна, ды ў мяне, самі ведаеце, трэніроўкі, спаборніцтвы,— развёў рукамі Казлоў.

— Так-так, спаборніцтвы,— спахмурнела настаўніца.— Яно ва ўсіх якія-небудзь спаборніцтвы... Тады хто?

— Калі вы не супраць, то можа марфлот возьме пяхоту на буксір? — азваўся Юзік.— Неяк памірымся.

— Ну, чам ж я супраць. Толькі не адкладайце. Праз два тыдні праверу...



Каротка дзынкнуў званок, і агульны гоман перакрыў апошнія словы настаўніцы.

— Я табе не пяхота, а артылерыя,— буркнуў Юзіку Алесь.— Бог вайны, зразумеў?

— Зразумеў, салдат, не крыўдуй,— паляпаў яго па плячы Юзік.— Мы, выходзіць, амаль радня... Я з тарпедамі крышачку знаёмы...

●

Са школы Алесь выйшаў разам з Юзікам. Імжэла. На небе ні зорачкі. Здавалася, што густыя калматыя аблокі навіслі над самай галавой: падніміруку — і можна іх пакратаць. Было цёпла, нават парна. Не скажаш, што канец верасня.

— Пад такі дожджык грыбы растуць,— летуценна прамовіў Юзік.— На золку б у лес...

Алесь з недаўменнем зірнуў на Юзіка:

— Якія яшчэ грыбы? Тут без твайго лесу сапраўдны цёмны лес. Заблудзіш — і не выберашся...

— Э-э-э, не кажы,— запярэчыў Юзік.— Я ў мінулую нядзелю адвёў душу. За якую гадзіну нарэзаў поўны кошык, а потым так дрэйфаваў ледзь не да вечара. Нібы зноўку на белы свет нарадзіўся.

— Мне во праз два тыдні прапіша хімічка поўны кошык,— перабіў яго Алесь.

— Не прапіша. Яна ў нас чалавек. Ды і мы ж людзі. Неяк агораем тваю навуку. У мяне летась тое ж было, як ты кажаш — цёмны лес,— прызнаўся Юзік і адразу ж запытаўся:— Працуеш ці пакуль гуляеш?

— Працую, на аўтобусе...

— Бач ты,— неяк без усялякай інтанацыі сказаў Юзік, так што Алесь не зразумеў, адабрае той ці не яго шафёрскі занятак.

Прайшлі колькі хвілін моўчкі, а калі параўняліся са скверыкам, цьмяна асветленым некалькімі жаўтлявымі лямпачкамі, Юзік прапанаваў:

— Давай пасядзім ды пагаворым. У мяне няма як, жыву ў інтэрнаце з хлопцамі, а тут ёсць зацішная альтанка. Калі якая па́ра там не шэпчацца, дык мы кінем якар.

Альтанка была свабодная, хоць і не надта каб зацішная. З дзіравага даху раз-пораз там і тут падалі буйныя кроплі. Юзік, перш чым сесці, дастаў з кірзавай вайсковай сумкі газету і разаслаў на лаўцы.

— Ну, пакуль што размова ў нас будзе кароткая,— паабяцаў ён.— У цябе падручнік ёсць? Няма? Дык вазьмі мой. Толькі не згубі! І штурмуй з самага пачатку. Як асвойтаешся збольшага, прагонім усё разам. Дамовіліся? Дамовіліся! Пытанні будуць?

Алесь ціха засмяяўся. Яму спадабалася прастата і лаканічная катэгарычнасць Юзіка. Відаць, што чалавек праслужыў на флоце не адзін год.

— Ёсць адно пытанне,— адказаў ён.— Праўда, не па хіміі. Скажы, як табе ўдалося раней за мяне зняць пагоны? Ты ж марфлот. А вам і ў нармальны час належала служыць як медным кацялкам...

— Удалося, кажаш? — неяк змрочна перапытаў Юзік.— Нікому б не жадаў такой удачы... Ат, добра, калі ўжо знаёміцца, дык слухай.

...У сорак першым Юзіка прызвалі на ваенную службу. Камісія надоўга гадала, які род войск яму больш падыходзіць. Шыракаплечы, каржакаваты юнак, здавалася, быў народжаны для марскіх паходаў. Дый павялося здавён, што хлопцаў з Беларусі часта бралі ў матросы.

Вось і Юзік, які датуль, акрамя сажалкі, і вады добрай не бачыў, трапіў на Чорнае мора. Не паспеў ён яшчэ прывыкнуць, што суткі для матроса дзеляцца не на дзень і ноч, а на вахты, як пачалася вайна.

З якім стараннем яны, маладыя матросы, развучвалі і спявалі хвалюючую песню пра славуты крэйсер «Вараг»:

Наверх вы, товарищи, все по местам.
Последний парад наступает...

І перад вачыма стаялі ўспененае снарадамі мора, свінцовыя валы хваль і прабіты асколкамі горды андрэеўскі флаг... Але першы бой іхняму экіпажу давялося весці не на моры, а на сушы — у жніўні пад Ачакавам.

Так і пайшло з той памятнай ачакаўскай абароны: то мора, то суша. Не паспеюць ногі прывыкнуць да хісткай палубы, якая сама ўцякае з-пад ног, як зноў — на бераг, у бой, у атаку.

Вядомы рывок на катэрах у шторм праз Цэмескую бухту і імклівы дэсант з прарывам варожай абароны ў лютым сорак трэцяга сталі для Юзіка Патычкі апошнімі. Іхні атрад, узяўшы штурмам вышыню, заняў траншэю. Юзік быў ужо прыладзіў ячэйку для трафейнага кулямёта, як капітан-лейтэнант назваў яго прозвішча.

— Патычка — старшым! Бярыце дзесяць чалавек — і на бераг! Загадваю разгрузіць боепрыпасы...

Хоць і палічыў Юзік заданне камандзіра ледзь не за абразу, але загад ёсць загад, і яго трэба выконваць. Спаўзаючы па-пластунску ўніз, ён шаптаў праз сцятыя зубы: «Усіх—наперад, а Патычку назад, як салагу, у грузчыкі». Толькі на беразе, убачыўшы, што работа на іхнюю долю выпала не такая і лёгкая, Юзік у думках пamіраўся з капітан-лейтэнантам. Прычалу ніякага не было, і каб разгрузіць катэр, трэба было лезці ў ледзяную ваду. Да таго ж аднекуль з-за гары біла і біла нямецкая дальнабойная артылерыя.

Паскідаўшы бушлаты і насунуўшы бесказыркі на самыя вочы, каб не пазбівала ветрам, матросы жывым канвеерам выстраіліся ад берага да катэра. Юзік стаў пад самым бортам, на глыбіні, дзе вада даходзіла па самыя плечы.

— Трымай, брацішка!

Гэта гукнулі зверху, і на Юзікавы рукі спаўзла цяжкая скрыня. Натужыўшыся, ён утрымаў скрыню над вадой і, зрабіўшы крокаў пяць у бок берага, перадаў груз бліжняму матросу.

— Бяры, служывы!

— Не зявай, клёшная гвардыя!

— Лаві, марскі бадзяга!

Марачок на борце за кожнай скрынкай быццам пакепліваў з Юзіка. А таму было не да жартаў. Ледзяная вада нібы абцугамі сціснула ўсё цела, здранцвелыя ногі не слухаліся. Спатыкнуўшыся, ён уволю нахлябаўся горка-салёнага марскога расолу і закашляўся, ухапіўшыся рукамі за грудзі.

— Гэп! — побач з Юзікам скочыў у ваду матрос з катэра. Гэта быў, відаць, усё той жа весялун, які паспеў добра дапячы Юзіку. Клацаючы зубамі, ён крыва падміргнуў: — Э-эх, венічак бы... Лезь, брацішка, наверх, адвядзі душу, а то зойдзецца і да раю не даляціць...

Юзік учапіўся за нізкі борт, яго ўмомант падхапілі і падмялі на палубу. Нехта сунуў яму ў рукі конаўку, прыгаворваючы:

— Адыдзі, нячыстая сіла, застанься чысты спірт... Пі!

Ён у некалькі глыткоў асушыў конаўку, так і не зразумеўшы, што піў—спірт ці ваду.



— Свой! — зарагаталі матросы.

А за борт паўзлі ўсё новыя і новыя скрынкі. Юзік, трошкі аддыхаўшыся, нацэліўся лезці ў ваду. У гэты момант пад самай кармой грымнуў выбух, у твар моцна ўдарыла тугая паветраная хваля, і Юзік пакаціўся па палубе...

Ачуняў ён, калі катэр быў у адкрытым моры...

Алесь Страхаль, які дагэтуль не перабіваючы слухаў Юзіка, выказаў здагадку:

— Параніла?! І, відаць, моцна?

Юзік, глуха кашлянуўшы, адказаў:

— Яшчэ горш, чым параніла. Кантузіла мяне, ды гэтак, што праляжаў я ў шпіталях пасля таго Цэмескага дэсанту нешта з год. Пазваночнік мне ўсё лячылі. А потым быў сухапутным матросам, у тыле, бо на фронт не пусцілі. І спісалі раней...

— Ну, а цяпер у норме?

— Не тое, каб у норме. Хадзіць, бачыш, хаджу, а за станком выстаяць змену не магу. Асабліва кепска, калі надвор'е благое. Навумчыку вунь зайздрошчу...

— І без завода работы хапае,— паспрабаваў супакойваць Юзіка Алесь.— Не абавязкова ж, каб усю змену на нагах. Во ў нас на аўтобусе можна, у майстэрні... Ці яшчэ дзе...

— Ды я не без справы,—перабіў яго Юзік.—Бліжэй да вады ўладкаваўся, на рачной прыстані. Дыспетчарам працую. Скончу школу — у інстытут падамся... Ну, хопіць вярэдзіць душу. І, як казалі ў дзяцінстве аднаму з вялікіх: «Уставайце, васпане, вас чакаюць вялікія справы».

Яны развіталіся, каб назаўтра зноў сустрэцца — і не проста знаёмымі, аднакласнікамі, а сябрамі.

●

Падручнікі, школа, машына... Машына, школа, падручнікі... Больш нічога ў тыя дні Алесь Страхаль не бачыў і не чуў. Сядзеў з кнігамі далёка за поўнач, а шостай гадзіне раніцы, аглушаны не столькі будзільнікам, як кароткім сном, бег на базу, а ўвечары — клас, Юзік, формулы, правілы, задачы...

— Што, марш без прывалаў?— пытаўся Юзік і спакойна абяцаў: — Так доўга не вытрымаеш. Адно — надакучыць, а другое — сілы не хопіць.

— Вытрымаю,— упарта стаяў на сваім Алесь.— От падганю, а там будуць і прывалы.

Справы з хіміяй, хоць і са скрыпам, але рухаліся. Гэта, на радасць Алесю і Юзіку, адзначыла сама Алена Пракопаўна. А неўзабаве Юзік і пазайздросціў Алесю. І не толькі Юзік — увесь клас. На ўроку нямецкай мовы, калі Мар'я Васільеўна, напісаўшы на дошцы некалькі сказаў, пачала іх перакладаць з дапамогай вучняў, Алесь нечакана ўстаў і загаварыў. Усе здзіўлена павярнуліся ў яго бок. Алесь гаварыў на нямецкай мове. І не проста асобныя словы, а сыпаў без перадыху. Мар'я Васільеўна адказала яму таксама па-нямецку. І пайшлі, і пайшлі. Відаць было, што яны аб нечым спрачаліся.

Нарэшце Мар'я Васільеўна жартоўна падняла рукі ўверх і засмяялася:

— Здаюся. Калі я і памылілася, то разам з аўтарамі падручніка. І ўвогуле мадальныя дзеясловы справа даволі складаная. Вельмі рада, што цяпер у мяне ёсць добры апанент.

У Юзіка ад здзіўлення ажно вочы сталі круглымі.

— І ссбіла ж цябе гэтак... Ну, не думаў...

Алесю было прыемна, што яму пазайздросціў сам Юзік Патычка. Але ён пастараўся не паказаць гэтага, схаваў усмешку і адказаў абыякава:

— Праслужыў бы ты гэтулькі за мяжой, дык можа і цябе б собіла. За пяць гадоў, ды не навучыцца...

— Я і за дзесяць, відаць, не навучуся,— шчыра прызнаўся Юзік.— Увесь мой запас — гэта, як іх, «дэр тыш», «іх вайс ніхт»... Ну, яшчэ «шуле» — школа, значыць... І ўсё, здаецца...

— Чакай, зробім табе большы запас, дай мне толькі ачуняць,— паабяцаў Юзіку Алесь.

— Наўрад ці ўдасца.

— Гэта ўжо мой клопат,— зазначыў Алесь і, пераняўшы дакорлівы позірк Мар'і Васільеўны, штурхануў сябра плячом: — А зараз слухай...

Перад канцом урока ў клас зайшоў дырэктар. Моцна накульгваючы, ён наблізіўся да стала і абвёў вучняў строгім позіркам. Усе сцішыліся. Нешта не так. Яшчэ ніколі Іван Кірылавіч не заходзіў да іх без свайго звычайнага «маё шанаванне». І вітаўся ён заўсёды ад самых дзвярэй. А тут...

— Здарылася няшчасце. На суднарамонтным заводзе...

Нібы электрычны зарад працяў увесь клас. Дваццаць пяць пар вачэй упіліся ў тое месца, дзе павінна была сядзець дваццаць шостая — Ганна Мікуліч. Яе сёння не было. А няшчасце, як сказаў дырэктар, здарылася на суднарамонтным заводзе — там, дзе працавала Ганна.

З-за першай парты моўчкі ўстаў староста класа Алег Федарэнчык. Цяпер усе трывожна глядзелі на яго, на тое, як Алег нервова цёр скроні кончыкамі пальцаў.

— Спакойна, не трэба хвалявацца,— гэта дырэктар гаварыў ужо не ўсяму класу, а толькі яму, Алегу Федарэнчыку.— Аня ў бальніцы. Аперацыю ёй зрабілі... Я гэта кажу, каб вы ведалі, схадзілі да яе... Пасля, вядома. Цяпер нікога не пусцяць.

— Чаму ў бальніцы? Чаму не пусцяць? — разгублена перапытаўся Алег.

— Я ж кажу, што ёй зрабілі аперацыю. Сёння зрабілі, дзве гадзіны назад,— цярпліва даводзіў яму Іван Кірылавіч.

— Дык трэба зараз і ісці,— усё, нарэшце, зразумеўшы, захваляваўся Алег і памкнуўся да Івана Кірылавіча. — Дазвольце мне. Мяне пусцяць. Я папрашуся...

— Ідзіце,— згадзіўся дырэктар і стомлена апусціўся ў крэсла.

Алесю Ганна Мікуліч запомнілася з першага дня. У яе быў надзіва мяккі, проста пявучы голас. І яна гэтак расказвала на ўроку літаратуры пра творчасць Авеціка Ісаакяна, што здавалася: вось-вось расказ пяройдзе ў песню. Голас надзвычай пасаваў да ўсяго аблічча дзяўчыны — смуглы авальны твар, разлёт чорных броваў над спакойнымі блакітнымі вачыма і косы, укладзеныя на галаве вянком. Потым Алесь некалькі разоў бачыў, што Ганну пасля школы сустракае нейкі хлапчына ў жоўтай скуранай куртачцы на замку-«маланцы». Не мінуў яго ўвагі і Алег Федарэнчык, які і на пераменках заўсёды быў побач з Ганнай, і са школы стараўся выйсці разам з ёю. На таго хлопца Алег глядзеў не інакш як з-пад ілба, але не замінаў яго сустрэчам з Ганнай, заўсёды адыходзіў убок і пасля плёўся дадому адзін. У класе казалі, што хутка будзе вяселле. Калі дакладна — пра тое ў Ганны не пыталі, бо ашчаджалі небараку Алега.



І вось цяпер Ганна ў бальніцы. Што з ёю? Абыдзецца ці сапраўды, як сказаў дырэктар, здарылася няшчасце, нешта непапраўнае? Чакалі Алега. Ён вярнуўся к канцу ўрокаў, бледны, з сіняватымі кругамі пад вачыма. Яго адразу акружылі.

— Ну, не маўчы, Алежка, не маўчы,—тармасіла хлопца за рукаў плашча Маша Дубравенская. Яна плакала ўжо, чуллівая Маша, яшчэ нават не ведаючы, ці варта бедаваць.— Ой, ну што ж ты маўчыш? Кажы што-небудзь...

— Аня без нагі,— хрыпла вымавіў Алег.— Мяне не пусцілі.

— Божухна! — усклікнула Маша.— А ты пэўна ведаеш? Цябе ж не пусцілі...

— Доктар сказаў,— Алег выслабаніў рукаў ад Машыных пальцаў, пагладзіў іх і загаварыў нечакана злосна, перарывіста: — Я і на заводзе быў... Гэта там... А ўсё нейкая адна разявака... Эх, я б яе!.. — ён сашчапіў кулак і затрос ім, нібы паказваючы, што зрабіў бы з чалавекам, вінаватым у той бядзе, што напаткала Ганну Мікуліч.

А вінавата была кранаўшчыца, якая пачала пераганяць кран з аднаго канца цэха ў другі, не падцягнуўшы тросаў. Вялізны крук валокся па самай падлозе, пакуль не зачапіўся за стос тоўстых сталёвых лістоў, ля якога стаяла Ганна, робячы разметку дэталяў. Верхнія шматпудовыя лісты, паднятыя круком старчака, ссунуліся дзяўчыне на ногі...

Дамовіліся назаўтра, хто зможа адпрасіцца з работы, ісці разам у бальніцу.

— Трасіце кішэні! — пахмурна распарадзіўся Лёня Навумчык.— У каго што ёсць. На кветкі... Ну, на цукеркі там...

Сабраныя грошы аддалі Машы Дубравенскай. Яна працавала буфетчыцай у базарнай сталоўцы, і ёй прасцей было адлучыцца да гандляроў кветкамі. Пра астатняе і казаць не было чаго — нешта з ласункаў магла расстарацца толькі Маша.

Хоць і трэба было даваць ладны круг, Алесь заскочыў да Міколы папярэдзіць, каб той трошкі раней прыйшоў на падмену. Маруся замітусілася, наважыўшыся пачаставаць брата, якога не бачыла тыдні з два, але ён адмовіўся, спаслаўшыся на занятасць.

— Во, з-за тае школы і пагаманіць некалі,— упікнула Маруся.— Чужыя людзі і то часцей сустракаюцца

— Ды ўжо ж пагамонім,— паабяцаў Алесь.— От як зробіш мяне дзядзькам ды запросіш на радзіны, тады і пагамонім за мілую душу... А зараз я пабег, няма калі...

Назаўтра каля бальніцы іх сабралася чалавек дзесяць. Маша прынесла пышны вяргіневы букет і вялікі кошык, завязаны зверху кавалкам марлі.

— Што там? — ледзь не сунуў нос у кошык Лёня Навумчык.— Увесь свой буфет забрала. Глядзі, калі будуць пустыя паліцы, то Ігар хадзіць перастане.

Маша залілася чырванню і апусціла вочы. Неяк няёмка стала і ўсім астатнім. Бесцырымонны Лёня сказаў хоць і праўду, але праявіў нетактоўнасць. Добрая, даверлівая Маша прыкіпела сэрцам да Ігара Казлова, хоць той быў куды маладзейшы за яе. Іх бачылі разам, часцей у Машыным буфеце. Нічога, здаецца, кепскага ў тым не было. Але ж усе, бадай, акрамя Машы, чулі не надта прыстойныя рэплікі,

якімі характарызаваў іхнія сустрэчы Ігар Казлоў. І даравацъ яму гэтага не маглі.
— Ну, хопіць, пойдзем! — парушыў маўчанне Юзік Патычка.— Дзе Алег?
— Ён ужо там,— паказаў рукой на дзверы бальніцы ані не збянтэжаны Лёня і прапанаваў Машы: — Давай паднясу.
— Ды я ўжо сама,— уздыхнула Маша.
У бальнічнай прыёмнай было пуста, цёмна і пахла карболкай. Па лесвіцы, засланай зялёнай дывановай дарожкай, збег уніз расхрыстаны Алег Федарэнчык.
— Вы чулі? — ухапіў ён Юзіка за плячо.— Яны кажуць, што можна прыйсці не раней як праз тыдзень. Я прасіўся хоць у шчылінку зірнуць — не пускаюць...
— Калі б можна было, то пусцілі б,— зазначыў Юзік.— А дзе тут прысесці?
— Чаго сядзець? Пойдзем да іхняга самага галоўнага. Калі трэба, у гарсавет пойдзем...
— Супакойся ты, нарэшце, і не мітусіся. Дактары ведаюць, што робяць,— паморшчыўся Юзік.— А зараз сядзем, пісьмо напішам. Пісьмо і кветкі возьмуць, не пытаўся?
— Не ведаю,— збянтэжана адказаў Алег.
— От бачыш...
Уладкаваўшыся каля падаконніка, яны доўга думалі, як пачаць пісьмо. Кожны хацеў сказаць нешта сваё.
— Яе супакоіць трэба,— ціснуўся бліжэй да Юзіка Лёня Навумчык.— Напішы во так: галоўнае для чалавека — галава...
— Каб шапку насіць?— з'едліва перабіў Лёню Алесь.
— Прычым тут шапка?— не зразумеў намёку Лёня.
— Вы помніце, як Ганначка чытала вершы Ісаакяна? Давайце з іх пачнём,— прасіў Алег Федарэнчык.— Яны ж нібы спецыяльна для нас напісаны:

Ночью в саду у меня
Плачет плакучая ива...

— Ніякага плачу,— пярэчыў Юзік.— Вы ж не забывайце, у якім стане чалавек.
— Напішы ты, Юзік, коратка,— папрасіла Маша.— Напішы ўсяго некалькі слоў: любім, хвалюемся, чакаем хуткай сустрэчы... І распішамся.
— Правільна!— загарэўся Юзік.— І больш нічога не трэба.
Перадаючы пісьмо, Алег папрасіў бабульку-санітарку:
— Можа адказ будзе, то прынясіце...
Але адказу Ганна не напісала. Не захацела яна нікога бачыць і праз тыдзень.
— Няўжо гэтак кепска? Што ты ўсё маўчыш?— дабівалася каторы ўжо раз Маша Дубравенская ад Алега.— Ой, што гэта будзе?
Алег штодня быў у бальніцы, але далей прыёмнага пакоя яго не пускалі. Ён зразумеў нарэшце, што гэта воля не дактароў, а самой Ганны. І пэўна не толькі з-за хваробы адмаўлялася дзяўчына ад сустрэчы з ім, са сваім класам. Набраўшыся смеласці, Алег зайшоў да Ганнінай маці. Яго здагадкі пацвердзіліся. Той хлопец, што сустракаў Ганну пасля школы, не завітаў у бальніцу ніводнага разу.
Алег прычакаў Алеся з Юзікам каля школы і расказаў ім усё.
— На ўрокі сёння не пойдзем,— прапанаваў ён.— Падамося на суднарамонтны. Ён там працуе. Пагаворым з ім па-мужчынску.



— Відаць, не варта,— паківаў галавой Юзік.— Ды і што мы з табой ведаем? Што гаварыць яму будзем? Дакараць? Калі падлюга, дык колькі ты не дакарай, а ён усё роўна застанецца падлюгам.
— Падлюгам б'юць морду! — гнеўна выгукнуў Алег.— Ён ведаеце што сказаў? Якая з Ганны будзе жонка, калі ёй з адной нагой ні каля печы стаяць нельга, ні на базар схадзіць... Ці чулі вы такое?
— Так прама і сказаў?
— Так. Гэта яе маці заводскія кабеты перадалі.
— Тады ўсё зразумела, і ўвогуле з ім не варта гаварыць,— разважыў Юзік.— А зробім мы вось што: пойдзем да доктара, усё як ёсць яму раскажам і даб'ёмся, каб нас пусцілі да Ганны...
І іх нарэшце пусцілі. Ганна, як убачыла аднакласнікаў, якія тоўпіліся ля дзвярэй у белых халатах, дык закрыла твар далонямі і доўга не магла суняцца ад плачу.
— Дурненькая ты, от дурненькая,— плакала разам з Ганнай Маша Дубравенская, гладзячы ёй рукі, шчокі, скроні. Крышку вышэй вуха ў Ганны прабівалася пасмачка сівых валасоў.
Пасля яны доўга гутарылі, успамінаючы ўсё смешнае, што адбылося за апошнія дні ў класе. І Ганна смяялася разам з усімі. Некалькі разоў у палату заглядвала медсястра і дакорліва ківала галавой, даючы знаць, што трэба цішэй. Нарэшце яна паказала на гадзіннік і не паддалася ні на якія ўгаворы:
— Усё! Усё! Хворай патрэбен спакой. А то больш не пусцім...
Алег, які выходзіў апошнім, раптам зноў вярнуўся да Ганнінага ложка.
— Калі што трэба, ты скажы. Я ўсё зраблю, з-пад зямлі дастану, каго хочаш прывяду...
— Я ведаю, Алежка, ты харошы,— сумна ўсміхнулася Ганна. Яна ледзь варушыла вуснамі ад стомы.— Але мне зараз нікога і нічога не трэба. Ну, ідзі, ідзі ж...
Голас у яе хоць і быў кволы, але гучаў гэтак жа пявуча і мякка, як раней.

●

Набліжаліся Кастрычніцкія святы, і Міхаіл Сцяпанавіч Атаманчук, класны кіраўнік дзесятага, папрасіў хлопцаў падумаць, як упрыгожыць школу. Нехта прапанаваў зрабіць зорку з падсвечваннем. Адобрылі. І некалькі вечароў дзесяцікласнікі пасля ўрокаў майстравалі прама ў школьным калідоры. Зорка, абцягнутая чырвоным паркалем, атрымалася вялікая і над уваходам у школу не ўмяшчалася. Таму ўмацавалі яе на даху.
Пасля апошняга званка Алег Федарэнчык даў каманду:
— Не разбягацца! Выходзьце са школы — і на той бок вуліцы! Будзе ілюмінацыя.
Счакаўшы, калі клас апусцеў, Алег уключыў рубільнік, які Лёня Навумчык прынёс разам з самаробным рэле, і выскачыў на вуліцу. Рагі зоркі ярка свяціліся. Праз хвіліну яны патухлі, затое ўспыхнуў клубок агню ў цэнтры, потым зноў шуганулі чырвоным святлом рагі зоркі...
— Ну, чым не Брадвей!— выгукнуў нехта, і ўсе загаманілі, зарагаталі, а Міхаіл Сцяпанавіч у захапленні моцна паціснуў Алегу руку:
— Галоўнаму механіку ад усяе школы — падзяка...

— Галоўны механік у нас вунь, Лёня,— адказаў Алег, паказваючы на Навумчыка.

Яны пастаялі яшчэ колькі хвілін, любуючыся пераліваміі агню, і гуртом рушылі ад школы. На рагу хто павярнуў управа, хто ўлева, а Юзік, Алесь і Лёня прыпыніліся.

— Нешта не хочацца сёння дадому,— прызнаўся Алесь.— Мо зайшлі б куды?

— Яно можна,— пагадзіўся Юзік,— перад святам...

— Ды вунь ён, «Блакітны Дунай»,— паказаў Лёня на прысадзістую дашчаную будыніну, вокны якой свяціліся на тым баку вуліцы,— і хадзіць далёка не трэба.

У несамавітай харчэўні было цесна, дымна і тлумна. У самым кутку рыпаў на гармоніку расхрыстаны дзяцюк, падыгрываючы самому сабе на нейкай пісклявай драўлянай дудачцы, на кончыку якой то надуваўся, то ападаў шарык з танюткай ружовай гумкі.

Хлопцы праціснуліся паміж столікам і пузатай піўной бочкай да свабоднага падаконніка.

— Вы тут сцеражыце, а я зараз,—распарадзіўся Лёня і шмыгануў да буфетнай стойкі. Не паспелі Юзік з Алесем як след агледзецца, а ён ужо вярнуўся з трыма шклянкамі і талерачкай з нейкім рудым начыннем.

— Не атруцімся?— павёў носам над талерачкай Юзік.

— Э-э, сказаў,— заўсміхаўся Лёня.— Ідзі сам вунь пачытай. Напісана, што гэта вэнджаны кумпяк. А напісанаму, браце, вер... Адмысловая закусь...

— Ціха вы!—раптам абарваў Лёнева красамоўства Алесь і, не азіраючыся, кіўнуў галавой цераз плячо.

Юзік з Лёнем, сцішыўшыся, павялі вачамі ў той бок, куды паказваў Алесь. За столікам насупраць, падпёршы кулаком шчаку, сядзеў Сцяпан Васільевіч Пракошын, іхні гісторык.

— Ён нас не бачыць,— шапнуў Лёня.—Хуценька кульнём — і дай бог ногі...

— Яшчэ што!— запярэчыў Юзік.— Мы тут на аднолькавых правах... Ну, дык са святам...

Лёня, ледзь прыгубіўшы, папярхнуўся і зайшоўся ад кашлю.

— Ну, блазнота!— лёгенька стукнуў яму кулаком між лапатак Юзік.— Кажу, не спяшайся...

— Не абедаў,— прахрыпеў скрозь слёзы Лёня,— дык душа не прымае. Я, чакайце, от зараз перакушу крышачку...

Ён падчапіў пальцам кавалак прывялага кумпяка і, не жуючы, ураз каўтануў яго.

— Яно і відаць, што не абедаў,— засмяяўся Алесь.— Ну, давай, давай, а я пагляджу яшчэ нешта. На харчах не варта эканоміць.

У той самы момант, калі Алесь з талеркамі і шклянкамі вяртаўся ад буфета, з-за стала, дзе сядзеў Сцяпан Васільевіч, выбралася шумная кампанія. Алесь, праціснуўшыся паміж бочкамі, нечакана спыніўся каля Пракошына.

— Дазвольце?

Сцяпан Васільевіч адказаў, нават не павярнуўшы галавы, быццам самому сабе:

— Сядайце, тут дазволу не пытаюць... Без дазволу садзяцца за стол, а бывае — і ў душу...

Алесь кіўнуў хлопцам, і тыя нехаця наблізіліся да століка, моўчкі селі.



Пракошын варухнуўся і ўзняў вочы.

— О, мае юныя сябры! — пазнаў ён нарэшце сваіх вучняў.—Рады вас бачыць... Пардон...— Пракошын прыклаў палец да вуснаў, азірнуўся і паўтарыў: — Пардон... Здаецца, я не тое кажу...

Хлопцы адчувалі сябе ніякавата. Пракошын быў для іх самым загадкавым настаўнікам. З іншымі часам даводзілася ісці са школы дадому. Гутарылі не толькі пра школьныя справы, а ўвогуле пра жыццё. Разам, здаралася, бавілі час на пераменках. Сцяпан Васільевіч жа адразу пасля званка ішоў у дальні канец калідора і там, панурыўшыся, моўчкі курыў. Падыходзіць да яго баяліся. Хадзілі цэлыя легенды і пра тое, што ён перажыў пад час вайны, і пра тое, як жыў Пракошын. Пытанні на ўроках яму задавалі рэдка. Ды і не было патрэбы ў тых пытаннях. Гісторык вёў свой прадмет хоць і без эмоцый, але адмыслова. Уважліва паслухаўшы яго, не трэба было дома браць у рукі падручнік — усё помнілася.

— Як вы лічыце: я правільна кажу ці не?— наставіў вочы на Юзіка Сцяпан Васільевіч.

— Па-мойму, правільна,— адказаў той.— І мы таксама рады вас бачыць.

— Х-хэ, рады,— крыва ўсміхнуўся Пракошын.— А чаму вы рады? Таму, што бачыце свайго настаўніка тут?

— Сюды дарога нікому не забаронена...

— Так, не забаронена,— Пракошын зірнуў на сваю напалавіну апарожненую шклянку і прапанаваў: — Тады паўторым. Помніце, у Чэхава? Паўторым, сказаў паштмайстар, а выпілі па трыццаць трэцяй... Ну і здорава ж гэта сказаў Антон Паўлавіч! Ён разумеў, ён усялякага чалавека разумеў...

Задуменна пажаваўшы кавалачак салёнага гурка, Пракошын, як за нітачку, зноў ухапіўся за Юзікавы словы:

— Дык, кажаце, не забаронена дарога?.. А ці ведаеце вы, што да вайны вось тут, на гэтым самым месцы, стаяла кнігарня? І я прыходзіў сюды, каб купіць кнігу. А цяпер піўняк... Усюды піўнякі...

— Прыйдзе час — і замест забягалавак будуць рэстараны,— уставіў свае слова Алесь Страхаль.

— Рэстараны!— цяжкі, дакорлівы позірк Пракошына перапоўз на Алесеў твар.— Яму пра Фаму, а ён пра Ярому... Я кажу, што тут кнігарня стаяла!

— Будуць і кнігарні.

Сцяпан Васільевіч раптам кіўнуў галавой і пагадзіўся з Алесем:

— Так, будуць... Дык вы беражыце сілы, каб хапіла на той час. А піўнякі і ўсе гэтыя забягалаўкі пакіньце нам, слабым духам...

Пракошын зноў схіліўся над столікам і змоўк.

— Сцяпан Васільевіч,— ціхенька і неяк расчулена паклікаў яго Юзік Патычка.— Вы чуеце мяне, Сцяпан Васільевіч?..

— Ну, што?

— А хто ж павядзе нас у тыя кнігарні, калі не такія адукаваныя людзі, як вы?

— Адукаваных хопіць. Вы самі будзеце адукаваныя. А я?.. Быў конь, ды з'ездзіўся...— з глыбокай тугой у голасе сказаў Сцяпан Васільевіч і прыкрыў рукой поўныя слёз вочы.



Недзе пасля полудня Алесь гэтак стаміўся, што пабаяўся далей ехаць, стаў на Базарнай плошчы. Сапсаваўся руль, і каб павярнуць

машыну, трэба было з усяе сілы налягаць на баранку. Алесь разаслаў між колаў кавалак брызенту і, лежачы на спіне, доўга кратаў розныя жалязякі. Што тут да чаго, зразумець было не проста. Аўтобусік дапатопны, да таго ж Мікола, збіраючы яго, пусціў у ход усё, што трапілася пад рукі. «Антылопа-Гну»,— гмыкнуў Алесь і вылез з-пад машыны.

Прымасціўшыся на вузенькай падножцы, ён зірнуў на гадзіннік. Да перазменкі заставалася добрая гадзіна. «Не ехаць жа ў гараж. Мікола, чаго добрага, узлуецца. Пачакаю тут»,— вырашыў Алесь.

Базарнай плошчай называлася шырокае скрыжаванне вуліц, якія з трох бакоў збягаліся сюды і абрываліся каля грувасткай цаглянай аркі, упрыгожанай наверсе алебастравым барэльефам. Па задуме мясцовага архітэктара гэты барэльеф павінен быў азначаць заможнасць: кумпякі, кілбасы, вінаград, рыба, яблыкі, гуркі, цыбуля — усё ўперамешку. За аркай штодня з раніцы да вечара тоўпіліся людзі. Там быў Бярэзінскі базар — невялікі брукаваны квадрат, уціснуты паміж двухпавярховымі будынкамі.

Пасядзець спакойна Алесю не давялося. Не было адбою ад жадаючых ехаць.

— Куды машына, шафёр?

— На рамонт...

— Падвязі, таварыш!

— Рамантавацца будзем...

Нейкі сівы дзядок у зашмальцаванай ватоўцы, пасля чарговага Алесевага — «на рамонт», хітравата прыжмурыўся, аглядаючы машыну, і з’едліва перапытаў:

— На рамонт ці на звалку?

— Тупай, дзед, тупай!— раззлаваўся Алесь і палез у аўтобус, гучна бразнуўшы дзверцамі.

Ён заўсёды браў на работу сумку са сшыткамі і падручнікамі. Часам выпадала вольная хвіліна — можна было тое-сёе пачытаць. І зараз сумка вісела на крюку побач з дэрмацінавым крэслам. Алесь дастаў падручнік па фізіцы і толькі нацэліўся на патрэбны параграф, як побач з кабінай зноў нехта папрасіўся:

— Можа падвязеш, шафёр?

Алесь хацеў было адказаць гэтак жа, як таму настырнаму дзядку, ды раптам асекся. Каля машыны стаяла, усміхаючыся, Галя Іванова.

— Цяпер я бачу, як ты шчыруеш на рабоце,— падпусціла яна шпільку.— Ну, дзе ты за нашымі хлопцамі паспееш? З кніжкамі і спяць, і за рулём сядзяць...

Алесь мігам выскачыў з кабіны.

— Ды не,— пачаў апраўдвацца ён.— Нешта во з машынай. Зменшчыка чакаю, рамантавацца будзем...

Угледзеўшы, што Галя трымае ў руцэ паўнюткую сумку, Алесь недарэчы прапанаваў:

— Давай паднясу.

— Як жа ты паднясеш, калі некага чакаеш? Машыну кінеш?

— Ат, я і забыўся,— збянтэжыўся Алесь і ажно пачырванеў.

З Галяй Івановай ён дасюль бачыўся толькі ў класе, ды і там размаўляць ім амаль не даводзілася. Сядзелі яны на розных радах, а на пераменках Алесь не адыходзіў ад Юзіка, які любіў сабраць кампанію на сваёй «камчатцы» — пераважна хлопцаў.

«А яна прыгожая»,— падумаў Алесь, гледзячы, як Галя маленькай далонькай папраўляе валасы, што выбіліся з-пад варсістай пуховай шапачкі.





— Ну, добра, не хочаш падвезці, дык я пайду,— усміхнулася Галя.— У школу прыйдзеш?

— А як жа!— азваўся Алесь.— Хоць чакай: я зараз завяду сваю антылопу, і як-небудзь дабярэмся.

— Ды ну, мне блізка,— махнула рукой Галя.— Гэта я так...

Алесь глядзеў услед Галі, пакуль яна не павярнула ў бліжэйшы завулак. Пэўна, і Галя адчувала, што ён глядзіць, бо ішла роўненька, прыўзняўшы плечыкі.

«А яна такі прыгожая»,— зноў падумалася Алесю, і ён пастараўся прыгадаць Галін твар, каб зацвердзіцца ў сваёй думцы. Вочы? Здаецца, шэрыя... Не, зеленаватыя... Губы? Скажы ты, вось толькі што бачыў, стаяў твар у твар, а не можа ўспомніць... «Чаму я рашыў, што яна прыгожая?»,— здзівіўся Алесь.

— Загараем?

Гэта нячутна падышоў Мікола.

— Ага, цябе чакаю,— спахапіўся Алесь.— Нешта з рулявым. Баяўся далей ехаць.

— Ну, і правільна, а то і ў аварыю можна ўліпнуць,— пагадзіўся Мікола і, знімаючы куртку, супакоіў Алеся: — Зараз паглядзім. Калі трэба, палечым...

Змёўшы далонню прысохлыя да капота кавалачкі гразі, ён улёгся пад машынай на брызент і закамандаваў:

— Дай-тка ключы... Не гэтыя, там ёсць на шаснаццаць... І абцужкі падай... Пагладзі пад сядзеннем, я некалі клаў туды дрот.

Алесь, падаўшы інструмент, лез пад машыну, каб пагладзець, што Мікола там робіць, але той прасіў:

— Не замінай, не замінай! От станем у гаражы на яму, я табе ўсё пакажу. А зараз няма калі. Падай лепш напільнік...

Праз якія паўгадзіны Мікола скончыў рамонт.

— Ану, заводзь!— загадаў ён Алесю.

Алесь зрабіў круг па краі плошчы, павярнуў управа, улева. Цяпер машына слухалася добра.

— От бачыш,— усміхнуўся Мікола,— машына любіць ласку, рамонт і змазку. У нашай справе мала быць шафёрам, трэба яшчэ і за слесара валачы. Гэтаму ў школе не навучаць — тут, браце, тэхніка...

Сказаў быццам бестурботна, аднак Алесь улавіў за гэтай бестурботнасцю нейкую скруху. Пэўна, школа такі не выходзіць у Міколы з галавы, і ён часам шкадуе, што давялося пакінуць вучобу. Вось і апраўдвае сам сябе. Зразумеўшы настрой швагра, Алесь не стаў ні падтакваць яму, ні спрачацца.

— Дык я пайду?— дапытліва глянуў ён на Міколу.

— А можа да канца сёння даездзіш?— нечакана папрасіў швагер.— Я, ведаеш, за Марусю баюся. Чую, во-во пачнецца... А яна ж дома адна. Арыну Паўлаўну не дапросішся: яна за цябе аберуч трымаецца... Ну, адзін раз... Не ўцячэ твая школа...

Алесь ажно цяжка ўздыхнуў, гэтак не хацелася яму прапускаць урокаў. Ды і сёння ж кантрольная па алгебры. Але ўспомніў Марусю, яе спалоханыя вочы і адразу згадзіўся:

— Ну, даязджу ўжо... А ты там глядзі, калі якая няўпраўка, то шыбуй да Царашонка за машынай... Ды і маці дай знаць...

— Зараз жа і заскочу,— паабяцаў Мікола.

Дарога ад Базарнай плошчы да Фарштата і ў другі бок, на дрэваапрацоўчы камбінат, Алесю была ўжо добра знаёмая. Гэта ж штодня рабіў не менш як дзесяць рэйсаў. Таму помніў кожную выбоіну, ведаў, дзе тармазнуць, а дзе націснуць на газ. Была толькі адна вельмі ўжо непрыемная мясціна — на паваротцы каля самага камбіната. Гэткая ўстаялася калюжына, што паспрабуй толькі зазявацца, дык засмокча машыну ў гразь па самае днішча. Алесь ужо бачыў, як тузаліся там грузавікі — выручаў іх заўсёды бульдозер, які непадалёку капаў катлаван пад новы корпус камбіната. Алесь жа заўсёды браў левымі коламі па самым краі дарогі, амаль упрытык да паркана — і абыходзілася.

Тры рэйсы ён і цяпер зрабіў як мае быць. А на чацвёртым, ці то зноў закапрызіў руль, ці сам Алесь зазяваўся, але колы забуксавалі, і аўтобус, развярнуўшыся, стаў ледзь не ўпоперак вуліцы. Матор адразу заглух. Счакаўшы хвіліну, Алесь зноў завёў матор і паспрабаваў выбрацца з калюжыны заднім ходам. Нічога не выходзіла. Тады ён пачаў разгойдваць машыну, ліхаманкава ўключаючы то першую, то заднюю скорасці і націскаючы на акселератар. Матор роў, колы шалёна круціліся, а машына павольна асядала ў багнішча.

Алесь выскачыў з кабіны — добра, хоць шафёрскія дзверцы былі не над калюжынай. Даўшы пасажырам каманду пачакаць, ён пашыбаваў да катлавана. Бульдазерыста, як на той грэх, не было. Алесь вярнуўся і загадаў усім вылазіць з аўтобуса.

— Нездарма людзі кажуць: з чужога каня — сярод гразі злазь!— змрочна пажартаваў мужчына ў карычневым скураным паліто, адчыняючы заднія дзверцы.

— Ды не туды!— гукнуў яму Алесь.— Давайце праз кабіну!

Ён дапамог вылезці бабульцы з малой дзяўчынкай. Астатнія — рабочыя з камбіната,—трымаючыся за паркан, выбраліся на сухое самі.

— Грошы вяртаць не будзеш?— падміргнуў Алесю той жа гаварун у скураным паліто.

— Бог верне,— у тон яму адказаў Алесь.

— Ух!— рагатнуў мужчына.— Тады няхай бог дапамагае табе і выбрацца. Бывай здароў!

— Буду!

Алесь пастаяў каля машыны, чухаючы патыліцу. Што ж рабіць? Сваім ходам не выбрацца. Бульдозера няма. Выходзіць, трэба загараць. І плана сёння не дасць, і кантрольную будуць у класе пісаць без яго. «А што калі?..» Алесь зірнуў на гадзіннік. Да пачатку ўрокаў заставалася пятнаццаць мінут. Калі добра ўлегчы, дык можна паспець. «Ат, было не было,— рашыўся ён,— нідзе машына не дзенецца. Пасля неяк выцягнем. Пабягу ў школу».

Ля самай школы задыханы Алесь дагнаў Алега Федарэнчыка. Той таксама шыбаваў подбегам.

— А ты гэта адкуль?— здзівіўся Алесь, бо ведаў, што Алег ніколі не пазніўся.

— З бальніцы,— на расчырванелым Алегавым твары свяцілася радасная ўсмешка.

— Ну і што там?

— Нармальна. Ганначка ўжо на мыліцах спрабуе хадзіць. Сказала, каб і заўтра прыходзіў...

— Адзін? Ці ўсіх запрашала?

— Пра ўсіх у нас гаворкі не было.

— Ясна...

Алесь хацеў было ўпікнуць Алега за нетаварыскасць, ды, убачыўшы, што той усё неяк задуменна ўсміхаецца, змоўчаў.

У клас яны заскочылі амаль услед за Іванам Кірылавічам Жукоўскім. Дырэктар не стаў іх дакараць, а закамандаваў Алегу:

— Федарэнчык, бярыце крэйду і пішыце ўмовы задач. Гэта вось для першага раду, гэта — для другога...

Ён падаў Алегу два аркушы паперы.

На кантрольную Іван Кірылавіч адпусціў ажно дзве гадзіны. Задачы і прыклады былі не надта каб цяжкія, і Алесь з Юзікам здалі гатовыя работы да званка.

— Ідзіце, ідзіце з класа,— паказаў на дзверы Жукоўскі, не даўшы хлопцам вярнуцца на сваю парту.— Не замінайце астатнім.

Алесь выйшаў у калідор, заціснуўшы ў кішэні паперку, якую ён так і не паспеў перадаць Лёню Навумчыку. З-за радаснага ўзбуджэння ён не адразу ўцяміў, што тут робіць Мікола. Ці не ў школу рашыў вярнуцца? І толькі ўгледзеўшы пахмурны твар швагра, Алесь войкнуў:

— Што? З Марусяй кепска?

Пра аўтобус, кінуты сярод вуліцы ў калюжыне, ён нават забыўся.

— Нармальна з Марусяй,— дакорліва паглядзеў на Алеся Мікола.— Я баяўся ўжо, што з табою кепска. Не, бачу, жывы, здаровы...

— А-а, машына!— спахапіўся Алесь.— Зараз бягу... Засеў, разумееш?

— Разумею,— паківаў галавой Мікола.— А бегчы няма куды. Аўтобус на базе. Герашонак яго прыгнаў.

— Церашонак?!

— Ну, ён... Перадаў, што заўтра будзе чакаць цябе з раніцы. А восьмай гадзіне.

Па Алесевай спіне пабеглі казытлівыя мурашкі — і ад тону, якім гаварыў з ім Мікола, і ад прадчування непрыемнай размовы з Церашонкам.

●

Прачнуўся Алесь рана. Тугі халодны вецер, налятаючы парывамі, часта стукаў аконнай фортачкай аб фрамугу, нібы даючы каманду: «Т-тавай!.. Ус-т-тавай!..». Алесь хацеў быў прычыніць фортачку і стаў на калені, прыціскаючы рукой коўдру да грудзей, ды так і замёр ад здзіўлення. За акном была бялюткая роўнядзь. Зазімак...

Яму стала і хораша, і вусцішна. Першы снег... Ён заўсёды нагадваў Алесю дзяцінства, высокую горку, якая пачыналася каля самай іхняй хаты і з якой было гэтак добра імчаць на санках. Праўда, зімою часцей перападала гарачых ад маці і бацькі за мокрыя ногі ці згубленыя рукавіцы. Ды то была дробязь — на якія паўгадзіны плачу і роспачы.

І раптам успомнілася ўчарашняе: «Аўтобус... Церашонак...».

Алесь адкінуў коўдру. Церашонак грозіцца пагаварыць з ім? Ну, дык няхай пагаворыць. І ў яго, Алеся, ёсць жа язык. І ён возьме і скажа таму Церашонку... А што скажа? Ну, хаця б тое, што ён не напіўся, не прагуляў, як часам робяць іншыя шаферы іхняй базы, а ў школу пайшоў. На заводзе вунь Лёню Навумчыка ў парткоме хвалілі, у насценгазеце намалявалі. А тут...

Алесь наўмысна ўзвінчваў сябе, шукаючы заспакаення. Але яно не прыходзіла. Як ты ні круці, як ні пярэч у думках Церашонку, а вінаваты. І ў першую чаргу вінаваты перад Міколам, які сваімі рукамі сабраў гэты аўтобус, удыхнуў у яго часцінку сваёй душы.

Маці дома не было. Яна з вечара пабегла да Марусі ды там і заначавала. Апрануўшыся, Алесь зазірнуў у пасудную шафку. На талерачцы, прыкрытай краем ручніка, ляжала палавіна ачышчанага селядца і паўдзесятка халодных бульбін. І ў спешцы маці не забылася прыгатаваць яму сняданак.

Нехаця перакусіўшы, Алесь падаўся на вуліцу. Мокры снег, быццам злуючыся, глуха рыпеў пад нагамі. Паветра было чыстае, халаднаватае і пахла, здалося Алесю, свежымі гуркамі. Адкуль гэты пах? Алесь нават спыніўся і ўдыхнуў на поўныя грудзі. Ну, так жа — свежыя гуркі. Няўжо гэтак пахне першы снег?

Перад тым як зайсці да дырэктара, Алесь пацікавіўся машынай — дзе яна: стаіць на пляцы ці, можа, Мікола выехаў на маршрут? Аўтобус стаяў на сваім месцы. Алесю адразу зрабілася неяк спакайней. Ён хацеў абысці аўтобус і зазірнуць у кабіну, ды яго спыніў голас Церашонка. Дырэктар, якога не было відаць з-за кузава, некаму даводзіў:

— Ні апошні, ні перадапошні раз — і не прасі... Кажу табе без усякага — не прасі...

Алесь, гучна кашлянуўшы, падаўся на дырэктараў голас. Побач з Церашонкам стаяў Мікола.

— Ага, вось і наш «імяннінік»,— сустрэў Алеся Церашонак і зноў павярнуўся да Міколы:— Ты ідзі сабе з чыстай душой. Каго пасаджу за руль — гэта ўжо мой клопат... Марусі ад мяне паклон, ну, і ўсё там астатняе... Скажы ёй, за Церашонкам не прападзе. З-пад зямлі выкапаю, а такі падарунак знайду, што ўвесь Бярэзінск ахне...

Алесь усё зразумеў. І тыя згрызоты, што тачылі яго сэрца, і Церашонкава «не прасі», якое ён адразу прыняў на свой рахунак,— усё гэта адступіла на задні план. Маруся... Пэўна ж, усё добра, калі Церашонак гаворыць пра падарунак.

Мікола, падаўшы Алесю руку, на яго нямое пытанне адвёў шчаслівыя вочы ўбок:

— Сын...

— Дык віншую, браце... Я ж казаў, што павінен быць сын...

— Ну, вось што, прарок,— Церашонак моцна сціснуў пальцамі Алесева плячо,— навіншуецеся пасля. А ў мяне часу не дужа каб шмат. Пойдзем, зараз я цябе віншаваць буду...

Алесь асекся і моўчкі падаўся за Церашонкам.

— Я тут пабуду!— гукнуў яму наўздагон Мікола.

У кабінеце Церашонка чакалі шаферы.

— Пагуляйце, даражэнькія, хвілінку ў калідоры,— выправадзіў іх, ледзь не падштурхоўваючы, дырэктар.— Нам трэба пагаварыць без сведкаў.

Грукнуўшы дзвярыма, ён сеў і кіўнуў галавой, паказваючы Алесю на другое крэсла:

— Смялей сядай. Новае...

Гэта ён не забыўся пра самую першую іхнюю размову, калі ў дырэктарскім кабінеце не было нават на што прымасціцца.

— Дык сядай і расказвай,— паўтарыў Церашонак.

— Здаецца, няма пра што расказваць, Рыгор Мікалаевіч,— азваўся Алесь.

— Як няма?! — устрапянуўся дырэктар.— Ёсць, шаноўны ты мой, ёсць! А раскажы ты мне, таварыш Страхаль, чаму гэта і я, і швагер твой Мікола, і ўсе астатнія — як ёсць круглыя дурні, а вось ты — разумнік. Адзін ты разумнік на ўвесь белы свет!

— Не, відаць. Адзіны дурань — гэта я...

— Вунь як!— хітравата прыжмурыўся Церашонак.— Самакрытыка, значыць, самабічаванне. Ну, і то ўжо няблага. Ты — як наш механік, Васільчанка. Той, калі наломіць дроў, дык як толькі грудзі кулаком не разаб'е — гэтак грукае. Прызнаю, кажа, віну, на памылках вучымся. Ды не паспееш агледзецца, а ён ужо зноў, нібы мядзведзь на лесасецы, дроў наламаў...

— Я не Васільчанка,— змрочна буркнуў Алесь.

— Ды не Васільчанка ж,— шумна ўздыхнуў Церашонак.— А правільней будзе сказаць: Васільчанка — гэта не ты. Той арганізатар нікуды не варты, але машыну ў багнішчы ён бы не кінуў. Далібог бы не кінуў...

— Я ж на якія дзве гадзіны адлучыўся,— узняў вочы на Церашонка Алесь.— І то калі б не кантрольная...

— Во-во, кантрольная...

Церашонак гэтак сціснуў у пальцах аловак, што ён хрумснуў і рассыпаўся на кавалкі. Змёўшы асколёпкі пад стол, рэзка ўстаў.

— Па-мойму, людзі вучацца, каб скіраваць тую навуку на працу. На працу, разумееш? А ты?

— Я таксама гэтак.

— І ты гэтак?— перадражніў Алеся Церашонак.— Не, зусім не гэтак. У цябе школа на першым месцы — як трамплін, з якога можна скокнуць у інстытут, а потым у мяккае крэсельца. А работа?.. Работа ў цябе для зарплаты. Жаваць нешта ж трэба. От ты і думаеш: перакідаюся туды-сюды, бокам-скокам, а ўкалваюць няхай дурні. Такія, як Церашонак, швагер твой ці нават як той жа Васільчанка...

«Трамплін!.. Які трамплін? Што ён такое гаворыць?..».

— Вы... Вы! — Алесь ажно задыхнуўся ад крыўды.— Вы можаце зразумець, што я марыў аб школьнай парце ў мерзлым акопе?.. Ды дзе вам!..— не знаходзячы больш слоў, Алесь толькі махнуў рукой.

— У мерзлым акопе, кажаш, марыў?— узвіўся Церашонак. Па яго твары ажно пайшлі чырвоныя кругі.— А я не марыў? А іншыя не марылі? Я на вайну пайшоў студэнтам, пасля другога курса. Думаў, выжыву — адразу ў інстытут вярнуся. Канспекты разам з сухарамі насіў. У мерзлым акопе яны пабывалі і ў гарачым таксама. Ад снарадаў гарачым... Але ж, бачыш, я тут, а не ў інстытуце. Мне партыя загадала. Сумленне маё загадала. Бо занадта шмат я пабачыў папялішчаў і гора людскога...

— Я іх таксама бачыў...

— Бачыў? Значыць, вачыма бачыў, а не сэрцам!

Гнеўныя Церашонкавы словы падалі, як цяжкія камяні. Алесь сціснуў галаву далонямі і больш не пярэчыў. Недзе глыбока ў свядомасці раптоўна заварушылася думка, што Церашонак гаворыць праўду. Няўжо ён, Алесь, не разумеў самага галоўнага? Як не разумеў? Усё разумеў. Ніводнага ж дня не захацеў гуляць пасля арміі, хоць можна было... Тады ў чым жа Церашонкава праўда?

— Ты мяне чуеш ці не?— спыніўся каля Алеся дырэктар.

— Чую! Усё чую, Рыгор Мікалаевіч,— пакутліва вымавіў Алесь.

— Гм.. — мармытнуў Церашонак і ўважлівей, неяк спакайней зірнуў на хлопца.— Можа на сёння хопіць? Відаць, хопіць. Дагаворым пасля... А зараз я напішу загад, што ты з шафёраў пераводзішся ў аўтаслесары. У рамонтнікі, значыцца... Пойдзеш ці, можа, ударыш у аглоблі? Іншае работы шукаць кінешся?

— Нікуды я кідацца не буду...

— Я так і думаў,— палагаднеў Церашонак.— Ад вячэрняй работы цябе вызвалю. Хадзі сабе ў сваю школу. Абавязкова хадзі. Няхай ужо я недавукам застануся...

— Мы адзін другому не замінаем, Рыгор Мікалаевіч,— з дакорам адказаў Алесь.

— Ды як сказаць... А ўвогуле я сам расслабіўся. Ты во ў адзін бок навастрыўся, а я ў другі... Расслабіўся!.. Ну, ідзі, там Мікола, нябось, цябе чакае. Не падводзь яго, Страхаль, не падводзь,— прыплюснуўшы вочы, Церашонак дакорліва паківаў галавой.

●

Алесь пакутліва думаў. Ну, згодзен, ён зрабіў благі ўчынак. Але ж ад памылак ніхто не застрахаваны. Няўжо Церашонак гэтага не разумее? А можа дырэктар убачыў тут нешта большае, чым простая памылка? А што ён убачыў? Характар? Дык не такі ў Алеся характар, не, не такі... А можа і сапраўды нешта такое ёсць?..

Было б з кім падзяліцца думкамі, раскрыць душу, то яно, пэўна, і палегчала б, і развеяліся б сумненні. А з кім падзяліцца? З Міколам? Дык той адно ведае — супакойвае. Ат, кажа, уладзіцца. А ў самога вочы сумныя, і крыўда ў іх схаваная. Спрабаваў перад маці самога сябе бэсціць, на характар свой скардзіцца. Старая адразу ў слёзы ды як загалосіць: ах, такі ён, разгэтакі, чалавека з'есць і не абліжнецца! Гэта яна Церашонку ўзялася перамываць костачкі, быццам ён ва ўсім вінаваты. І зяцейку заадно перапала. Алесь быў ужо і не рады, што ўсчаў з маці такую гаворку.

Юзік? Вось Юізку якраз і не хацелася гаварыць усю праўду. Сорамна было. Нават не сказаў, што яго перавялі ў слесары. Адразу ж зразумее, што ў нечым правініўся Алесь на рабоце. Юзік і так здагадваўся, бо ўсё дапытваўся: «Ну, як там у цябе? Чаго дырэктар выклікаў?». «Доўгая размова,— адмахваўся Алесь,— неяк раскажу, дай з думкамі сабрацца».

На шчырую гаворку з Юзікам Алеся падштурхнула, здавалася б, драбніца. У той дзень рамантавалі яны аўтобус, які Церашонак хацеў у што б там ні было заўтра пусціць на лінію. Гарэў план, бо на прыколе стаяла амаль што палавіна парка. Вось дырэктар і вісеў над душой, то пагражаючы разагнаць усю рамонтную брыгаду, то абяцаючы залатыя горы. Нарэшце ён не вытрымаў і сам, нават не скінуўшы белага кажушка, палез у яму пад аўтобус. Канчалі работу пры ліхтарах. Пасля, таропка адмываючы бензінам рукі, Алесь бачыў, што Церашонак, пазіраючы на яго, неяк вінавата ўсміхаецца. Можа нешта хоча сказаць? Не. Церашонак так нічога і не сказаў Алесю. Толькі паскардзіўся, быццам ні да кога не звяртаючыся:

— Во, дырэктар аўтабазы не мае сваёй машыны. Ні самому даехаць дадому, ні людзей падвезці...

Каго гэта ён хацеў бы падвезці? Ці не яго, Алеся, у школу? Дык дзякуй. Як-небудзь сам датупае. Хоць на трэці ўрок, але, назло Церашонку, усё ж пападзе...

І праўда, у школу Алесь прыйшоў пасля другога ўрока. У кутку калідора, як заўсёды, смаліў цыгарку Сцяпан Васільевіч Пракошын. Каля акон тоўпіліся дзяўчаты. Галя Іванова, угледзеўшы Алеся, тым жа няўлоўным жэстам, акурат як тады, на Базарнай плошчы, папраўляла свае белыя кудзеркі.

— Што, зноў некага чакаў? Рамантаваўся?

— Амаль што,— спыніўся насупраць Галі Алесь.

Маша Дубравенская, якая была тут жа, зарагатала:
— Ой, дзяўчаткі, глядзіце: наш Страхаль размаляваны, як папуас.
Алесь інстынктыўна правёў рукою па шчоках.
— Няўжо не адмыўся?
— На, зірні,— дастала з сумачкі маленькае люстэрка Маша.
Сапраўды, цераз увесь лоб, збягаючы некуды за вуха, чарнеў нігролавы пісяг. Алесь таропка пачаў шукаць па кішэнях насоўку.
— Вазьмі маю,— прапанавала Галя.
Адціраючы лоб, Алесь адным вокам глядзеў у люстэрка, а другім цікаваў за Галяй. «І не шэрыя, і не зялёныя, а васільковыя,— адзначыў ён і чамусьці ўзрадаваўся, што вочы ў Галі менавіта такія.— А губы...». Ён перахапіў Галін позірк і сумеўся, быццам спалохаўся, што тая можа прачытаць яго думкі. І ўжо гледзячы толькі ў люстэрка, Алесь заключыў: «Яна ўся прыгожая».
Алесю ўспомнілася, якім тонам там, каля базара, Галя спытала ў яго: «У школу прыйдзеш?» А ён жа, бамбіза, калі прыйшоў, дык нават не глянуў у Галін бок. Забыўся. Усе думкі былі заняты кантрольнай...
Седзячы на ўроку і слухаючы збольшага Сцяпана Васільевіча, Алесь раз-пораз кідаў пагляды на Галю. Нейкая няёмкасць ці то перад дзяўчынай, ці то перад самім сабою ніяк не хацела ад яго адступацца, і ён усё паўтараў у думках: «Гэта ж трэба, забыўся...». І раптам знайшоў працяг гэтай сваёй неадчэпнай думцы: «Нешта ты ў апошні час пра многае пачаў забывацца...». І ажно тузануўся на парце. Юзік, які па сваёй звычцы сядзеў з прыплюснутымі вачыма, павярнуўся і скоса зірнуў на Алеся:
— Ты што?
— А нічога, задумаўся...
— Над чым?
— А над жыццём. Хачу і цябе падключыць. Можа разам спарней думацца будзе.
— Дык давай...
— Чакай, потым. У двух словах не раскажаш.
Юзік згадзіўся завітаць да Алеся. Яны наўскасяк, па пратаптанай некім сцяжынцы, перасеклі заснежаны гарадскі сквер, прайшлі міма альтанкі, у якой некалі так добра пасядзелі, і выбраліся на Камсамольскую. Вуліца была цёмная, неасветленая, замеценая сумётамі.
— Ты б хоць аўтобус свой сюды падагнаў ды праехаў разоў трычатыры — от і была б каляіна,— параіў Юзік, пералазячы цераз сумёт, які, нібы марская хваля ў шторм, загнуў свой круты, быццам успенены, грэбень над дарогай.
— У тым-та і справа, што няма больш аўтобуса,—уздыхнуў Алесь.
— А дзе ён падзеўся?
— Не ён падзеўся, а я... Ты бяры, бяры правей, там пратаптана. Ды во і наша харомiна. Маці чакае. Бачыш, акно свеціцца...
Ціхенька, каб не патрывожыць суседзяў, з якімі Страхалі дзялілі кухню, хлопцы абмялі венікам снег з ног і пачалі распранацца каля вешалкі. Але маці ўчула і, прыадчыніўшы дзверы, гукнула:
— Ты мо не адзін, Алеська?
— Ага, госця прывёў. Пазнаёмся. Юзік Патычка... А гэта мая Арына Паўлаўна...
— Ну-ну, ведаю ж,— заўсміхалася Арына Паўлаўна.— Заходзьце, заходзьце ў хату. Тут парожак высокі, дык вы асцярожна. Гэта мы кухню адразу пасля вайны прыбудоўвалі...



— Не ў кухні, мама, шчасце. Ты лепш пахваліся, ці ёсць што на той кухні.
— А чаму ж... Гасцям заўсёды рады...
Юзік для прыліку пааднекаваўся, але вячэраць сеў і добра такі дапамог Алесю падмесці з талерак усё, што выставіла на стол Арына Паўлаўна. Яна сядзела побач і падахвочвала хлопцаў:
— Ешце, ешце. Даецца вам у знакі гэтая навука.
Пакуль Арына Паўлаўна мыла на кухні пасудак, Алесь расказаў Юзіку ўсё — ад таго дня, калі ён пакінуў на вуліцы аўтобус, і да сённяшняй сустрэчы з Галяй Івановай. Не абмінуў нават выпадак, калі паабяцаў Алегу Федарэнчыку схадзіць разам да Ганны Мікуліч, ды ў мітусні забыўся. Усё гэта Алесь наўмысна звязаў у адзін ланцужок.
— А я дзіўлюся — што гэта ты ў апошні час ходзіш быццам падмазку з'еўшы? — нявесела пажартаваў Юзік.— А яно вунь якая справа...
— Ты толькі мяне зразумей,— Алесь нервова пахруставаў пальцамі, сашчапіўшы іх замком.— Не тое мяне гняце, што з аўтобуса знялі і на рамонт паставілі. Ну, зараблю крыху меней, дык ці ў гэтым шчасце... У самім сабе хачу разабрацца... Быццам нейкая трэшчына раскалола мяне надвое. Быццам і той я, і не той...
Юзікаў твар раптам неяк пасвятлеў. Разгладзіліся зморшчынкі каля рота, а ў вачах бліснулі вясёлыя іскрынкі.
— А ты ведаеш, разабрацца тут не вельмі і складана. Нешта такое перажыў і я. Ты колькі гадоў служыў?
— Ды ўсе сем!
— І я амаль столькі ж,— кіўнуў галавой Юзік.— Пэўна, у гэтым наша з табой і бяда. Усіх нашых аднагодкаў, якія выжылі на зло ўсім смярцям. Гэта ж кожны з нас за трох аднасіў салдацкія боты.
— А што было рабіць? Такі час,— уздыхнуў Алесь.
— Дык і я тое кажу. Каго мы можам з табою вінаваціць? Гітлера ды Чэрчыля... Але ж факт застаецца фактам: па сем, а хто і па восем гадоў жылі мы салдатчынай. Ну, адкінем вайну, то зусім іншая справа. А потым жа была казарма. І ці не здаецца табе, што менавіта доўгая казарма прывучыла нас інакш глядзець на, здавалася б, звычайныя рэчы. Мы ж нічога не выраблялі, а толькі спажывалі. Мы былі на ўсім гатовым і адвыклі ад думкі, што гэтае гатовае здабываецца цяжкай працай...
— Нешта ты не тое кажаш,— запярэчыў Алесь.— Усе мужчыны праходзяць праз армію. І да вайны так было. А афіцэры? Яны што, усе інакш, чым цывільныя, глядзяць на жыццё?
— Ат, сам ты не туды вернеш,— паморшчыўся Юзік.— Так, усе служаць. А я кажу толькі пра нас, пра тых, хто праз вайну з'еў трайную порцыю салдацкай кашы. Ты вось пра што апошнія гады думаў? Якая ў цябе была... як бы гэта сказаць, галоўная думка, ці што?
— Пра рознае думалася,— пацiснуў плячыма Алесь.
— Ну, дзіва што! Жывы чалавек пра жывое і думае,— усміхнуўся Юзік.— Але ж заўсёды ёсць нешта галоўнае, што табе асабліва карціць. У мяне дык дэмабілізацыя з галавы не выходзіла...
— А, ты вунь пра што!— уцяміў нарэшце Алесь.— Дык вядома...
— Ага, вядома,— узняў угору палец Юзік.— Ты думаў пра дэмабілізацыю. Карацей кажучы, быў заняты ўласнай асобай. Гэтак дзень, два, тры, паўгода, год... Нас з табою ўжо не надта хвалявала, падзяку нам аб'явіць старшына ці вымову. І боты мы чысцілі толькі спераду, каб, калі станеш у строй, ніхто да цябе не чапляўся. Гэта такія, як мы з табою, прыдумалі лозунг: «Бліжэй да кухні і далей ад начальства».

— Была і ў нас такая запаведзь,— ажывіўся Алесь.— А яшчэ казалі: «Не спяшайся выконваць загад, бо яго могуць адмяніць».

— От бачыш. І тыя, як ты кажаш, запаведзі мы лічылі складзенымі толькі для нас. Няхай бы паспрабаваў салажонак зрабіць нешта такое, дык мы з табою першыя прымусілі б яго без чаргі палубу драіць.

— Прымушалі ж. І нарады давалі...

— І прымушалі, і нарады давалі,—машынальна паўтарыў Юзік.— А самі ў той жа час сталі крышачку эгаістамі. Вось, мне здаецца, і адказ на твой роздум, на ўсю гэту сітуацыю... А што ты ўспомніў афіцэраў, дык гэта людзі нібы абралі сабе прафесію — на ўсё жыццё, як той жа настаўнік або інжынер. І тут твая паралель ані не падыходзіць.

— Здорава ты гэта! — Алесь устаў і захадзіў па цесным пакойчыку.— Нібы на палічках усё расклаў...

Юзік хацеў яшчэ нешта сказаць Алесю, ды раптам, ледзь стрымаўшы позех, прыкрыў рот рукой.

— Можа ў мяне заначуеш? — прапанаваў Алесь.— Неяк памесцімся...

— Не,— адмовіўся Юзік,— пайду. Там мае салажаты адны. Я ім, праўда, нарадаў не даю. Інтэрнат табе не казарма, але парадак павінен быць.

●

Цярашонак стрымаў сваё слова. Праўда, абяцаныя ім залатыя горы абярнуліся для рамонтнікаў невялікай прэміяй. Ды, як гаворыцца, дарагі не сняданак, а добры вітанак.

Арына Паўлаўна, якая з апошняй Алесевай зарплаты купіла яму чаравікі і кашулю, нечаканым грашам была рада.

— Дарэчы, вельмі дарэчы! — старанна пералічыўшы і склаўшы грошы ў куфэрак, разважала яна.— Якраз пад Новы год. Можа каго запросіш? Юзіка свайго... Хто там у цябе яшчэ з сяброў ёсць, не ведаю... Я вам усё куплю, прыгатую...

— Мяне ўжо самога запрасілі, мама...

— Запрасілі? — здзівілася маці.— Дык жа кажуць, што Новы год — сямейнае свята.

— А ты ж во на гасцей разлічваеш?

— Я? Дык гэта, можа, іншая справа. Юзік твой чалавек адзінокі, у інтэрнаце жыве. Хто яго там прывеціць?

— Цяпер нічога не паробіш. Я паабяцаў.

— Ну, калі паабяцаў,— сумна паківала галавой Арына Паўлаўна.

Вось так яно і бывае. Калі чакала сына з арміі, усё здавалася простым і ясным: вернецца Алесь — і зажывуць яны ўдваіх сабе і людзям на радасць. Замужняя дачка — гэта адрэзаны акраец. У яе ёсць пра каго дбаць, каму дагаджаць. А сын... Сын калі і прывядзе ў хату нявестку, то ўсё роўна застанецца побач, пад мацярынскім наглядам. І вось першы званок, што не зусім гэта так. Па тоне, якім размаўляў з ёю Алесь, па вачах, якія ён адводзіў убок, Арына Паўлаўна зразумела: дзяўчына... Будзе яе Алеська сустракаць Новы год з нейкай дзяўчынай, і не ў сваім доме, а недзе там...

Арына Паўлаўна не памылялася. Два дні назад, калі вячэрнікі гаманлівай гурмой вываліліся са школы, Алесь апынуўся побач з Галяй Івановай. Нехта кінуў першую снежку, другую. І пайшло... Алесю пацэлілі прама ў вока. Ён ажно хіснуўся, і шапка паляцела ў сумёт.



Падняўшы яе, Алесь агледзеўся і ўбачыў снайпера, які так метка выбіў яго з гульні. Ігар Казлоў стаяў крышачку збоку і, выбраўшы ахвяру, шпурляў снежку — кожны раз прама ў галаву. Нездарма кажуць, што ён нейкі там чэмпіён па стральбе — таму і бавіць службу ў гарнізонным Доме афіцэраў, а не ў ваенным гарадку. Вунь нават без салдацкіх пагонаў у школу ходзіць. Ну, чакай ты... Падцікаваўшы, калі Ігар схіліўся за снегам, Алесь з разгону наскочыў на яго, даў падножку і наваліўся зверху, уціснуўшы ў снег.

— Куча мала! — гукнуў нехта побач.

І ўсё сплялося ў неверагоднай крутаверці — рукі, ногі, сумкі, партфелі...

— Ух ты! — ледзь выкараскаўшыся з-пад гэтага клубка, абяссілены Алесь сядзеў проста на снезе, выціраючы рукавіцай мокры твар. Побач шлёпнулася расхрыстаная Галя Іванова.

— Страхаль, ты мядзведзь! — рагатала яна.— Ледзь не задушыў мяне!

— Чаму цябе? Я з Казловым хацеў паквітацца...

— То спачатку. А потым чамусьці мяне ўзяўся снегам карміць.

— Даруй. Мяне і самога накармілі... А шапачка твая дзе?

— Ды там,— бесклапотна махнула рукой Галя ў той бок, дзе ўсё яшчэ валтузіліся хлопцы.

Яны ледзь адшукалі ў снежным месіве Галіну белую шапачку. Адзеўшы яе набакір, Галя папрасіла Алеся:

— Зашпілі мне паліто, а то пальцы астылі, не слухаюцца.

Пасля яны з гадзіну блукалі па вуліцах. Нічога такога не гаварылі, а больш спрачаліся — хто каго павінен праводзіць?

— Табе ж заўтра рана на работу! — даводзіла Галя.

— А табе? — дапытваўся Алесь.— Ты дзе працуеш, калі не сакрэт?

— Сакрэт,— загадкава ўсміхалася Галя.

Калі развіталіся, Галя, абіваючы снег з Алесевага шыняля сваёй пальчаткай, спытала:

— Ты Новы год дзе думаеш сустракаць?

— Яшчэ не думаў...

— Прыходзь да нас. Будзе харошая кампанія.

— Не ведаю,— разгубіўся Алесь ад нечаканай прапановы.— Як на гэта паглядзяць твае бацькі?

— Бацькі? — на Галін твар, як здалося Алесю, набег лёгкі цень.— Мама заўсёды адзначае святы са сваімі...

Хто гэтыя «свае», Алесю было няёмка распытваць. Можа таварышы па рабоце, а можа і яшчэ хто.

— Ну, добра,— пагадзіўся ён,—яшчэ дамовімся ў класе. Час у нас ёсць.

Галя капрызна надзьмула губкі. Па яе вачах Алесь бачыў, што зрабіла яна гэта жартуючы, наўмысна. Але намёк у Галіных словах быў даволі выразны:

— У класе ты за Юзікам Патычкам нікога не бачыш...

— Цяпер буду бачыць.

— Дык, значыць, дамовіліся, Новы год разам?

— Разам...

Назаўтра Алесь, усё яшчэ жывучы мінулым вечарам, размовай з Галяй Івановай, падсеў на парту да Алега Федарэнчыка.

— Ты, стараста, усіх, пэўна, ведаеш. А я, як ні сорамна, за тры месяцы нават не запомніў у класе ўсіх прозвішчаў. Не кажучы ўжо аб астатнім...



— А цябе што больш цікавіць: прозвішчы ці астатняе? — зрабіўшы націск на апошнім слове, Алег хітравата зірнуў на Алеся.

— І тое, і другое,— Алесь зрабіў выгляд, быццам не зразумеў намёку.

— Давай тады канкрэтна.

— Ну, скажам, Галя Іванова.

— От бачыш,— усміхнуўся Алег,— прозвішча ты ведаеш. Ад мяне, значыць, патрабуецца астатняе... А я, браце, і сам не надта каб у курсе. Бацькі ў яе, здаецца, няма. Маці — актрыса ў нашым тэатры. Што яшчэ? Ага, сябруе з Машай Дубравенскай і Ігарам Казловым.

— З Казловым? — перапытаў, спахмурнеўшы, Алесь.

— Я сказаў, з Машай Дубравенскай і Ігарам Казловым. А гэта не тое, што з адным Казловым. Зразумеў? Саперніцтва з яго боку не чакай. У актрысы, сам ведаеш, заробак малы, а выдаткі вялікія. Галя ж не працуе. Так што ў іх не дужа падласуешся.

— А я на ласункі не разлічваю,— пакрыўдзіўся Алесь і ўстаў з-за парты.

— Ды не пра цябе ж гаворка... Пра Ігара...

Размова з Алегам Федарэнчыкам, як здалося Алесю, што-нішто праясніла. Значыць, Галя — дачка актрысы, і з ёю трэба тонкае абыходжанне. Гэта раз. А па-другое, з голымі рукамі ў госці ён не пойдзе. І не якую там забаўку купіць, а нешта капітальнае, прыдатнае да добрай вячэры. Прыняўшы рашэнне, Алесь пачаў больш спакойна думаць аб сваім навагоднім візіце, набыў ранейшую раўнавагу.

Першыя ж хвіліны ў Галіным доме пазбавілі яго і раўнавагі, і жадання рабіць паспешныя вывады.

— Што гэта? — здзівілася Галя, калі Алесь паклаў ёй на рукі прынесеныя пакункі.

— Ану, ану пакажы...

Гэта Маша Дубравенская ўскочыла з канапы, дзе яна сядзела з Ігарам Казловым і нейкім рабаціністым хлопцам, якога Алесь дасюль ні разу не бачыў. Хуценька расшкуматаўшы паперу, Маша гучна зарагатала:

— Наш шафёр экстра-класа прынёс святочныя падарункі. Во, пляшка гарэлкі, партвейн... А тут кансервы, колца каўбаскі... Ой, насмяшыў Страхаль... Чаму ты яшчэ халадцу не прынёс? У нашай вёсцы настаўнікі складчыну так рабілі.

— Відаць, разумныя былі настаўнікі,— агрызнуўся Алесь, збянтэжаны Машынымі кепікамі.

— Ну, ён не ведаў нашых парадкаў,— уступілася за Алеся Галя і, узяўшы яго пад руку, павяла знаёміць з гасцямі.

— Віктар Карыціч! — ускочыў з канапы рабаціністы і неяк вяла, аднымі кончыкамі пальцаў паздароўкаўся з Алесем.

— Мастак-пейзажыст,— дадала Галя.— А гэта наша Лідачка.

Русявая дзяўчына, што перабірала стос пласцінак каля радыёлы, усміхнулася Алесю куточкамі вачэй і павольна схіліла галаву.

— Яна проста паклонніца таленту,— зноў пракаменціравала Галя.

— Не утрыруй, Іванова. Я паклонніца не таленту, а ўвогуле мастацтва.

— Ну, усе ў зборы,— весела акінула позіркам кампанію Галя.— Можна і за стол. Праводзім, па звычаі, стары год...

Такога дастатку Алесь даўно не бачыў. Каньяк, шампанскае, нарзан... Чорная і чырвоная ікра, нарэзаная тонкімі лустачкамі ружовая

вяндліна, балык, марынаваныя грыбкі... Увесь стол быў застаўлены бутэлькамі і талеркамі.

Пераняўшы здзіўлены Алесеў позірк, Галя растлумачыла:

— Гэта ўсё Маша. Яна ў нас сапраўдная чараўніца.

Праўду, выходзіць, казаў Алег Федарэнчык. Алесь з-пад ілба кінуў пагляд спачатку на Дубравенскую, потым на Казлова. Маша, твар якой расплыўся ад задавальнення, сядзела, нібы імянінніца. Ігар жа спрытна, як той фокуснік, адкаркоўваў бутэлькі, за кожным разам гучна цмокаючы губамі.

— Налілі! — падняў высока над галавой бутэльку Ігар.— Прапаную ўсім за праводзіны старога добрага года выпіць моцнага.

— Моцнага, моцнага! — запляскала ў далоні Маша.— Усім моцнага...

Не даўшы перадыхнуць пасля першай чаркі, Казлоў закамандаваў новы тост:

— Налілі! Вып'ем за старую і новую дружбу.

Пры гэтым ён неяк асабліва выразна, схіліўшы галаву набок, паглядзеў на Галю Іванову.

— За такі тост я вып'ю поўную,— лёгенька прыціснулася да Алеся Галя.

Ад непрывычнага піцва і яшчэ ад таго, што Галя ўвесь час, нібы незнарок, прыціскалася то плечуком, то нагой, у Алеся закружылася галава. Ён адчуваў, што па яго твары блукае п'янаватая ўсмешка, спрабаваў сагнаць яе і не мог.

Віктар нібы зразумеў яго стан. Перадаючы цераз стол цыгарэту, ён загаварыў, бліскаючы залатымі зубамі:

— Толькі сярод сапраўдных сяброў раскрываецца чалавек. Верце мне і не бойцеся раскрыць сваю душу. Я, ды і ўсе мы тут, за раскаванага чалавека. Гэтак жа як і за раскаванае мастацтва...

Алесь прыкурыў ад запальнічкі, якою паслужліва пстрыкнуў Ігар Казлоў, і закашляўся.

— Э-э! Чалавек, які прайшоў агні і воды, не павінен баяцца дыму,— кпліва зазначыў Віктар.

— Я прапаную зрабіць перапынак,— устала з-за стала Ліда.— А то мы і не заўважым, як уедзем без тоста ў Новы год. Давайце патанцуем. Стаўлю новае танга.

Галя, не чакаючы запрашэння, паклала руку на Алесева плячо.

— А ты добра танцуеш, Саня,— шапнула яна пасля першага круга.— Можна, я так цябе буду называць? Каб толькі маё...

Алесь моўчкі кіўнуў галавой. Яму было хораша з Галяй. Вось толькі калі б не гэта... Ён скоса зірнуў на Машу і Ігара, якія не ў лад музыцы тупалі побач. Маша, сашчапіўшы рукі на Ігаравай шыі, цёрлася губамі аб яго шчаку. «Як жаробка каля торбы з аўсом»,— непрыязна падумаў Алесь.

Віктар у гэты час завіхаўся каля стала над састаўленымі ў кучу фужэрамі. Раптам у яго руках стрэліла коркам у столь бутэлька з шампанскім.

— Прашу! — гукнуў ён.— На наш парог ступае Новы год.

Калі асела шыпучая пена, Алесь угледзеў на дне свайго фужэра залацістую рыбку.

— Такі спосаб закусваць прапанаваў адзін мой калега,— улавіўшы агульнае недаўменне, абвясціў Віктар.— Шампанскае і шпроты. Толькі шампанскае і шпроты. Асаблівы, звышнатуральны смак. І вельмі мудра: калі хочаш закусіць, дык вып'еш да дна. Астатняя закуска на гэты раз адмяняецца...



Алесю ўспомнілася, як яны нядаўна гулялі радзіны ў Міколавай кватэры. Там не было вось гэткіх выкрутасаў. Хоць і выбралі тамаду, але распараджалася ўсім Арына Паўлаўна. Калі Мікола прапанаваў паўтарыць, яна адабрала ў яго бутэльку і загадала:

— Прыкусіце добра спачатку, а то ап'янееце. Прыгожа будзе перад гасцямі, калі гаспадар забурыцца.

— Залатая ў вас галава, матуля,— зарагатаў Мікола і, падчапіўшы ладны кус смажанай парасяціны, бухнуў на сваю талерку. Схамянуўшыся, ён прабег вачыма па талерках гасцей і, спрытна арудуючы відэльцам, пачаў накладаць смажаніну ўсім, за кожным разам прыгаворваючы:

— Ешце, дарагія госцейкі, ешце, дарагія суседзі, нашага кабанчыка...

— Даруйце, мае калегі робяць інакш,— з выклікам паглядзеў на Віктара Алесь і, нанізаўшы на відэлец некалькі лустачак балыка, падняў іх разам з фужэрам.

— Сапсаваная песня,— скрывіўся Віктар.

— Мне больш падабаецца, як робяць Саневы калегі,— са смяшынкай азвалася Галя і таксама ўзяла на відэлец кавалачак балыка.

Пасля яны зноў танцавалі, раз-пораз, па камандзе Віктара, які аб'яўляў чарговы тост, прыпыняючыся ля стала. У самы разгар дзынкнуў званок.

— Здаецца, маці і кампанія,— паморшчылася Галя і выбегла ў калідор.

У пакой увалілася не менш дзесятка мужчын і жанчын. Стала цесна і тлумна.

— Галачка, мы яшчэ хочам выпіць. Што нам прапануе мая дачушка? — шчабятала рухавая жанчына, якая, гэтак жа, як і астатнія, адразу нацэлілася на стол.— Не, не, мы на хвіліначку! — загарадзілася яна выцягнутымі рукамі ад Ігара, які было памкнуўся дапамагчы ёй зняць паліто.— Мы да раніцы вырашылі зрабіць турнэ па ўсіх нашых кватэрах...

У момант нечаканыя госці выпілі ўсё, што было на стале, не абмінуўшы ўвагай гарэлку і партвейн, якія прынёс Алесь. А праз мінут пяць у пакоі стала ціха і пуста. Вясёлая кампанія памчалася далей. Зніклі, не развітаўшыся, і Маша Дубравенская з Ігарам Казловым.

— Сапсаваная песня,— з роспачу гледзячы на ўстаўлены пустымі пляшкамі стол, заключыў Віктар Карыціч.— Застаецца толькі напісаць песімістычны нацюрморт...

— Песімізм — адна з прыкмет раскаванага мастацтва? — задзірыста падчапіў Віктара Алесь.

Той толькі пагардліва зірнуў на Алеся і нічога не адказаў. Развіталіся яны суха, быццам і не правялі разам такое шумнае застолле.

— Ты на мяне не сярдуеш? — дапамагаючы Алесю апранудца, сумна і крышачку разгублена спытала Галя.

— Ну што ты, Галачка! — памкнуўся да Галі Алесь.

Заглядаючы ёй у твар, Алесь блізка-блізка ўбачыў пунцовыя Галіны губы, якія даверліва і зварушліва дрыжэлі...



Незвычайнае, надта ўжо спакойнае было ў Алеся каханне. Ён часта праводзіў Галю дадому. Часам яны пасля школы блукалі па вуліцах, іншы раз, калі не было асабліва позна, ішлі на апошні сеанс

у кіно. Алесю было хараша сядзець побач з Галяй у цёмнай зале, трымаючы ў сваёй руцэ яе маленькую далоньку. І ўрокі, калі яны рыхтавалі іх разам, даваліся лягчэй. Звычайна чытала Галя. І здавалася Алесю, што яе голас адганяў ад яго іншыя думкі і клопаты. Аднойчы Галя, угледзеўшы, што па Алесевым твары блукае далёкая ўсмешка, спынілася на паўслове і дакорліва спытала:

— Пра што і пра каго ты зараз думаеш, Алеська? Ты не са мной, а недзе далёка-далёка, і зусім ты мяне не слухаеш.

— Не слухаю? — здзівіўся Алесь і паўтарыў амаль слова ў слова цэлую старонку з падручніка гісторыі, якую толькі што прачытала Галя.

— А ты ж гэтак усміхаўся, што мне, даруй, падумалася благое.

— Якое там благое! Ты б толькі ведала, як мне зараз хораша...

Так было не раз. Калі Алесь бачыў Галю, то здавалася яму, што няма чалавека больш блізкага і дарагога. А не было яе побач — і не надта каб у Алеся праразалася хваляванне, імкненне сустрэцца, пабачыцца. Ён часам прымушаў сябе думаць пра Галю. І сказаць, каб пры гэтым, як пішуць у раманах, у яго замірала сэрца — не, нічога такога не было.

Алесь пачаў нават зайздросціць Алегу Федарэнчыку, яго апантанасці і настойлівасці. Той гарэў. Той ведаў, чаго дабіваўся. І дабіўся-такі. Кажуць, у іх з Ганнай Мікуліч на май назначана вяселле. Адразу, як яна вернецца з санаторыя — Ганне далі пуцёўку ажно на два месяцы. І тую пуцёўку прабіваў ніхто іншы, як Алег... А вось калі б яны з Галяй надумалі пажаніцца? Алесь адразу ж адганяў ад сябе гэту думку. Галя — рахманая, душэўная, гэткая свойская — і раптам жонка... Ён проста не ўяўляў Галю сваёй жонкай.

Відаць, Галя разумела, што робіцца ў яго душы, бо да сардэчнасці і цеплыні, якімі яна адорвала Алеся, пачалі дабаўляцца ноткі суму. Аднойчы ж Галя прама яму сказала:

— Не для цябе я, Алеська...

— Што ты кажаш? — спалохаўся Алесь.— Давай начыстую! У цябе ёсць хто другі?

— Нікога, акрамя цябе, мне не трэба, — у Галіных вачах бліснулі слязінкі.— Ды вось табе трэба другая.

— Якая яшчэ другая?

— А такая, каб прысушыла цябе. Моцная, недаступная... А я слабая...

— Ты гэта кінь! — захваляваўся Алесь. Ён прывык да Галі, яму было добра з ёю.

— Ужо кінула,— усміхнулася праз слёзы Галя.— Я раўную да прывіда, да той, што можа будзе, а можа і не... А ўсё роўна ты — мой! — яна моцна абняла Алеся і ўсё паўтарала: — Ты мой... мой... мой...

На пераменках Алесь рэдка падыходзіў да Галі — яго бянтэжылі паблажлівыя ўсмешкі аднакласнікаў. Зрэдку крадком зірне ў Галін бок, бывае, сустрэнуцца паглядамі, перасміхнуцца.

А ў той вечар Галя сама падышла да Алеся. Хлопцы пачціва расступіліся.

— Страхаль, ты можаш аказаць паслугу чалавеку? — голас у Галі быў чамусьці хрыплаваты.

Алесь бачыў, што Галя нечым узрушана, але, саромеючыся хлопцаў, адказаў — і сам гэта адчуў — трошкі грубавата:

— Мой дэвіз: паслуга за паслугу...

— Я не жартую, Страхаль, мне трэба твая дапамога.



Алесь устаў з-за парты, не спускаючы вачэй з расчырванелага Галінага твару:

— Калі ласка...

Яны выйшлі ў калідор, і тут Галя загаварыла таропка, нервова торгаючы Алеся за рукаў:

— Ціхенька вярніся, вазьмі сваю сумку — і назад!.. Нам трэба сысці з урокаў...

— А што, што здарылася?

— Ну, нічога такога... Але трэба. Разумееш, мне вельмі трэба. Я пасля ўсё табе раскажу...

Алесь ледзь паспяваў за Галяй, якая неслася па вуліцы, зрэдку прыпыняючыся, каб пачакаць яго.

— Куды мы? — пытаўся задыханы Алесь. Ён пачынаў злавацца. Ну, што гэта за дзіцячы выбрык? Прымусіла бегчы немаведама куды, быццам на пажар.

— Ну, вось мы і прыйшлі,— збянтэжана ўсміхнулася Галя, спыніўшыся каля тэатра. — Зойдзем праз акцёрскі ход...

Што, у тэатр? Алесь хацеў быў ужо адчытаць Галю за ветрагонства, ды ўспомніў: яе ж маці працуе ў тэатры. Ці не з ёю што здарылася? І ён паслухмяна пайшоў за Галяй — міма вахцёркі, якая нават не звярнула на іх увагі, па нейкім крывым калідоры, дзе пахла мышамі і старым пылам, па крутой лесвіцы са шчарбатымі прыступкамі — уверх, на бельэтаж.

Галя хуценька адшукала свабодныя месцы, і яны селі ў самым заднім радзе. Якраз у гэты момант двое мужчын у старамодных сурдутах на сцэне падкідвалі ўверх манету.

— «Беспасажніца»,— шапнула Галя.— П'еса Астроўскага...

— І мы ўцяклі з урокаў, каб глядзець тваю «Беспасажніцу»?

— Не, Саня, не ў гэтым справа. Чакай... Зараз выйдзе Ларыса... Пазнаéш?

З бельэтажа, ды яшчэ з самага апошняга раду, было не дужа добра відаць. Да таго ж і рампа давала бляклае, мігатлівае святло. І ўсё ж Алесю здалося, што твар актрысы яму знаёмы. Ну так, знаёмы... Няўжо гэта яна, Галіна маці, такая прыгожая, нетаропкая, паважная? Тады, у навагоднюю ноч, яна была ненатуральна рухавая і балбатлівая...

— Я прыйшла з ёю развітацца,— сказала Галя, не спускаючы вачэй са сцэны.

— Развітацца? — здзівіўся Алесь.— І ты не магла выбраць для гэтага іншага часу і лепшага месца?

— Не магла,— уздыхнула Галя.— Мы пасварыліся...

— Ціха, таварышы, майце сумленне,— заварушыліся вакол іх людзі.— Гэта ж тэатр, а не танцулькі...

— Выйдзем,— шапнула Галя Алесю на вуха.

Яны ціхенька выбраліся ў фае.

— Дык што здарылася? Чаму вы пасварыліся? — падступіўся да Галі Алесь.— Скажы, ці не я стаў паміж вамі?

Яму падумалася, што прычынай разладу паміж Галяй і маці мог быць ён, Алесь. Ну, як жа: дачка актрысы і звычайны слесар...

— Ты? Прычым тут ты? — шчыра здзівілася Галя і адразу ж здагадалася: — А-а, ты вунь пра што... Ды не, ёй няма справы ні да цябе, ні да мяне. Проста маёй любай матулі надакучыў Бярэзінск, і яна едзе ў Кішынёў. Кажа, што там шмат сонца і вінаграду... Разумееш, яна зусім едзе, яе ў Кішынёўскі тэатр запрасілі. А я ёй сказала, што нікуды не паеду.

— Застанешся адна?
— А што мне рабіць? — Галя глядзела на Алеся, чакаючы адказу.— Ну, што мне рабіць, Саня? Мне ўжо надакучыла бадзяцца з горада ў горад, з поўначы на поўдзень. Толькі з-за гэтага я дасюль не скончыла школу. А мне ж ужо далёка не семнаццаць... І вось — зноў... Што там будзе, у тым Кішынёве? Не, нікуды я не паеду. Я так ёй і сказала...
— А яна што?
— Ды нічога,— спахмурнела і адразу паспакайнела Галя.— Рабі, кажа, як табе лепш... Яна заўтра едзе, мяняе кватэру. А сёння — развітальны спектакль.
— Дык ты тут застанешся?
— Не,— пакруціла галавой Галя.— У іх недзе будзе вечарынка. Без мяне...
— Та-ак... — працяжна вымавіў Алесь, ацэньваючы сітуацыю, у якой апынулася Галя. Нічога не скажаш, складаная сітуацыя. І нездарма ж Галя прывяла яго сюды. Яна разлічвае на Алеся, яна чакае яго дапамогі. А ён?.. Як гэта сказаў Юзік Патычка ў той вечар, калі яны вялі гаворку пра сябе, пра сваё пакаленне,— «мы сталі крышачку эгаістамі»? Ну, што ж, прэч ваганні! Алесь Страхаль не эгаіст.
— Галя,— узяўшы дзяўчыну за руку, загаварыў Алесь.— Ты пойдзеш жыць да мяне... Калі хочаш, спачатку распішамся... Я ўсё зраблю, як ты хочаш... І пойдзем зараз жа запросім увесь клас на вяселле...
— Ой, што ты гаворыш! — Галя вырвала сваю руку з учэпістых Алесевых пальцаў.— Ты не тое гаворыш...
Яна спалохана глядзела на Алеся і адступалася ад яго, покуль не ўперлася спіною ў сцяну.
— Чаму не тое!? Ты ж сама казала, што, акрамя мяне, табе ніхто не патрэбны. Казала?
— Так, казала,— пацвердзіла Галя і раптам закрыла твар рукамі.
— Не плач! — кінуўся да яе Алесь.— Не трэба плакаць. Усё будзе добра.
— Я не плачу,— Галя апусціла рукі і, дакорліва глянуўшы на Алеся, паўтарыла: — Так, казала... Але ж ты мне гэтага самага не гаварыў. І ты не скажаш...
— Скажу!
— Не трэба, Саня, не трэба! — з мальбою ў голасе загаварыла Галя.— Я не хачу ад цябе няпраўды. Не спяшайся, Саня...
— Дык што тады рабіць? Што ты прапануеш сама? Як ты думаеш жыць? — засыпаў Галю пытаннямі Алесь.
Яму здавалася, што Галя апынулася ў безвыходным становішчы. Адна, без работы, без грошай...
За дзвярыма, што вялі ў партэр, рассыпаліся рэдзенькія воплескі і загрукалі крэслы. У фае, да буфетаў, як звычайна ў антрактах, паваліў гаманлівы натоўп.
— Пойдзем адсюль,— папрасіла Галя.— Паглядзела, развіталася... Больш рабіць тут няма чаго.
Алесь хацеў прысесці дзе-небудзь у скверыку, ды ўсе лаўкі аказаліся замецены сумётамі, і яны нетаропка пайшлі па бязлюднай заснежанай вуліцы.
— А можа пойдзеш да нас кандуктаркай? — нечакана прапанаваў Алесь.— Цяжкавата, праўда, увесь дзень на нагах.
— Ой, што ты! — адмахнулася Галя.— Ні ў якім разе...
Яна ведала бярэзінскіх кабет, што працавалі кандуктаркамі. Тыя



не давалі спуску ні малым, ні старым, выбіваючы грошы на білеты. Вечна ў тлуме, вечна ў сварцы...
— Можа і твая праўда,— задумаўся Алесь.— А што калі на рачную прыстань, да Юзіка? Там пэўна нешта знойдзецца. Давай-тка мы зараз падбяжым да школы. Якраз недзе апошні ўрок канчаецца.
— Зноў Юзік! — паморшчылася Галя.— Можа хопіць таго, што ён над табою камандзір?
Яна ўжо не першы раз рабіла Алесю гэткія закіды наконт Юзіка. Быццам раўнавала, як да дзяўчыны.
— Эх, ты разбіраешся ў людзях, як...— Алесь глянуў на Галю, на яе разгублены твар з налепленым на бровы роем сняжынак і палагадне: — Юзік — чалавек. Разумееш, ён сапраўдны сябар...
— Можа і так. Табе відней. Але ж ты вось і гаварыць пачаў Юзікавымі словамі...
— Кінь! Лепш пойдзем, а то спознімся...
— Чакай, дай абдумацца,— Галя прыпынілася і даверліва глянула на Алеся: — Ты ж не пакінеш мяне адну?
— І яна яшчэ пытаецца!..
— Ну, добра, добра,— усміхнулася Галя.— Толькі давай не будзем спяшацца. З Юзікам пагаварыць паспеем і заўтра. А цяпер правадзь мяне дадому. Я нешта стамілася...



Набліжаліся выпускныя экзамены. Праграма за дзесяты клас была пройдзена, але напружанне не спадала. Кожны ведаў свае слабыя месцы — даводзілася ж з-за работы і ўрокі прапускаць, і цэлыя раздзелы прабягаць збольшага. Цяпер усё падчышчалі, падганялі. Часу не хапала. А тут новы клопат. Толькі было хлопцы на вялікай перамене сабраліся на «камчатцы», як у клас заглянуў Міхаіл Сцяпанавіч і гукнуў:
— Федарэнчык, да дырэктара!
— Ат, зноў, відаць, наконт афармлення школы. Не даюць спакою,— буркнуў Алег, нездаволены тым, што яму не далі паслухаць Юзіка Патычку, які, крэмзаючы алоўкам на кавалку паперы, расказваў пра біном Ньютана.
З настаўніцкай Алег вярнуўся недзе праз паўгадзіны, у сярэдзіне наступнага ўрока. Вярнуўся хмурны, насуплены. Пасля званка ён адразу ўстаў і, патрабуючы ўвагі, падняў руку.
— Камуністаў і камсамольцаў пасля ўрокаў прашу не разыходзіцца. Будзе Іван Кірылавіч.
Звычайна камуністаў і камсамольцаў, якія стаялі на ўліку ў тых арганізацыях, дзе працавалі, прасілі застацца ў класе, калі трэба было рашыць нешта важнае. Што ж было цяпер? Што сказаў Фэдарэнчыку дырэктар? Каменціраваць свой візіт у настаўніцкую Алег адмовіўся наадрэз.
— Іван Кірылавіч сам усё скажа,— паўтарыў ён некалькі разоў. Жукоўскі прыйшоў у клас разам з Атаманчуком.
— Што, Дубравенская сёння так і не была ў школе? — дырэктар строга і яўна непрыязна глядзеў на Казлова.
Ігар пад дапытлівым позіркам Жукоўскага сумеўся і паблядНеў.
— Н-не, не б-была,— заікаючыся, адказаў ён.
— А дзе яна зараз?
— Н-не ведаю...
— Я так і думаў, што не ведаеш,— у голасе Івана Кірылавіча

чулася пагроза.— Дык знайдзі яе, бо Машы няма ні на рабоце, ні дома. Ідзі зараз жа!..

Ігар хуценька згроб кніжкі і сшыткі, схапіў пусты партфель і, ні на кога не гледзячы, рвануўся за дзверы.

У Алеся ёкнула сэрца, і ў памяці імгненна ўсплыла навагодняя ноч у Галінай кватэры: п'янаватая Маша за шыкоўным сталом і франтаваты, самазадаволены Ігар.

— Ах, не дагледзеў!.. Я сам не дагледзеў, дарагія вы мае таварышы... А я ж мусіў,— бедаваў між тым Жукоўскі.

— Іван Кірылавіч,— узмалілася Галя Іванова,— ды скажыце вы спачатку, што адбылося?

— Зараз вам Міхаіл Сцяпанавіч усё раскажа. Давай, Атаманчук, ты! — кіўнуў класнаму дырэктар.

— Я скажу вам без усялякіх прадмоў, вы людзі дарослыя,— Атаманчук глядзеў чамусьці не на клас, а некуды сабе пад ногі.— У Дубравенскай растрата... Вялікая растрата...

— Трэба было чакаць! — бухнуў Лёня Навумчык.

— Ах, вы чакалі! — узвіўся і са стогнам, трымаючыся за нагу, зноў прысеў дырэктар. На яго твар лягла пакутлівая грымаса: — Дык чаго я тады прыйшоў да вас?

— Ды не слухайце яго, Іван Кірылавіч! — перабіваючы агульны гоман, гукнуў Алег Федарэнчык.— У Навумчыка заўсёды так: спачатку плявузгне, а потым падумае... Хто чакаў?

— Даруйце,— палагаднеў Жукоўскі,— я не тое сказаў. Мне зараз вельмі цяжка. Машын муж быў у нашай брыгадзе разведчыкам. Які хлопец! Калі б вы толькі ведалі — які гэта быў хлопец!.. Ён загінуў у апошнія дні вайны. Перад ім, перад памяццю яго я ў адказе за Машу, за іхняга сына...

«Вунь што, дык у Машы, значыць, ёсць дзіця»,— зазначыў сабе Алесь. Гэта, відаць, падумалі і астатнія, бо ўсе, хто быў у класе, здзіўлена пераглянуліся.

— Іван Кірылавіч, а гэта дакладна — наконт растраты? — выказаў сумненне Юзік Патычка.

— Дакладней і быць не можа,— сумна паківаў галавой Жукоўскі.— У дзевятым класе вучыцца Сымон Шавейка. Ведаеце такога? Ну, дык ён следчым у міліцыі працуе. Якраз гэтую справу і вядзе.

— І што, нічога ўжо зрабіць нельга? — працягваў дапытвацца Юзік.— Ну, грошы там сабраць, ці яшчэ што?..

— Так, рабіць нешта будзем,— адказаў Іван Кірылавіч.— Але гэта ўжо мой клопат. А вас я хацеў прасіць падумаць наконт гэтага тыпа, наконт Казлова...

— Ды мы яго разатрэм на парахню! — патрос кулаком Лёня Навумчык.

Назаўтра ўсе з затоеным нецярпеннем чакалі з'яўлення Казлова. Настроіліся даць яму бой. Але Ігар не прыйшоў. Ён увогуле больш не з'явіўся. Пасля прайшла чутка, што Казлова выключылі са школы. На ўроку спыталі пра гэта ў Івана Кірылавіча. У таго ажно твар перасмыкнуўся:

— Э-э, калі б я мог яго выключыць!.. Але эмоцыі ж да загаду не падшыеш. Патрэбны доказы... Казлову я проста параіў не трапляцца мне больш на вочы...

— І ён паслухаўся? — здзівіўся Алег Федарэнчык.— Нікуды не пайшоў скардзіцца? Як мне здаецца, Казлоў за сваё ўласнае каму хочаш горла перагрызе.



— Ну, можа б ён і паспрабаваў учапіцца за маё горла, ды, акрамя мяне, ёсць жа вы, цэлы клас. От і прыкінуў Казлоў, што на ўсіх зубоў не хопіць...

— А Маша? Чаму яна ў школу не прыходзіць? Ці вы і ёй тое самае параілі? — дапытваўся Алег.

Ва ўсіх выцягнуліся шыі. Насцярожана чакалі, што адкажа дырэктар. У класе шкадавалі Дубравенскую. Ад Сымона Шавейкі чулі: Маша з перапуду і сораму паехала было з сынам у вёску, ды хутка вярнулася назад. Ведалі і пра тое, што Жукоўскі ўнёс у касу грошы, да адзінай капеечкі...

— Маша? — задумліва перапытаў Іван Кірылавіч і ўздыхнуў.— Падвяла нас Маша. Ну, ды чаго не бывае. Адной меркай тут нельга мераць. Маша прыйдзе. Толькі вы глядзіце, не насыпце ёй солі на рану...

— Ды што вы, Іван Кірылавіч!.. Мы ж разумеем...

Загаманіў, заварушыўся ўвесь клас. Некаторыя выскачылі з-за партаў. Лёня Навумчык, дык той ажно кінуўся да століка, за якім сядзеў дырэктар.

— Ну, ну, спакойна, даволі! — гукнуў узрушаны Жукоўскі.— Забыліся, што ў класе? Сядайце, усе сядайце! У мяне ж з вамі апошні ўрок, а не апошняя сустрэча...



— Здавайце работы, хуценька здавайце! Ваш час скончыўся,— Міхаіл Сцяпанавіч хадзіў паміж партаў і падганяў вучняў. А тым, як звычайна, не хапала некалькіх мінут. Хто таропка дапісваў апошнія сказы, хто ліхаманкава перакідваў старонкі, правяраючы напісанае. Эх, яшчэ б паўгадзінкі...

Атаманчук азіраўся на інспектара з райана — немаладую спакойную жанчыну, якая сядзела на апошнім радзе, і зноў паўтараў:

— Здавайце работы, хуценька здавайце...

Алесь сабраў лісткі, акуратна іх склаў і зірнуў на Юзіка:

— Здаём?

— Здаём! — кіўнуў Юзік.

Яны выйшлі на школьны дворык і прыселі на лавачку.

— Галава трашчыць,— паскардзіўся Юзік.— Калі рашаю задачы, дык нібы адпачываю. А сачыненне мне пісаць — усё адно як жорны круціць.

— Не бядуй. Гэта апошняе. У тэхнічных інстытутах сачыненняў не пішуць.

— А на ўступных экзаменах?

— Во, яшчэ ж уступныя... Ну, нічога, вытрымаем. Гарачае ў нас будзе лета.

— Дый якое гарачае...

Дадому ніхто не спяшаўся. Усе, хто выходзіў са школы, затрымліваліся ў дворыку. Вечар быў цёплы, празрыста-сіні. Уводдалі, зачапіўшыся краем за высокую таполю, высвечваў скрозь рэдкае бялявае воблачка маладзічок, а над самай галавой карагодзіліся, мігцелі далёкія-далёкія зоркі.

Юзік, схіліўшы галаву набок, не спускаў вачэй са школьных дзвярэй.

— Ты каго выглядаеш? — пацікавіўся Алесь.

— Ды Галя ж недзе забавілася.

— А табе які клопат да Галі?
— Мы можа з ёю ў адным інтэрнаце жывём. Ісці ж разам.
— Блізкія суседзі, значыць,— Алесь адчуў, як нейкі казытлівы клубочак варухнуўся ў яго грудзях. Гэта ж трэба: сам прасіў Юзіка дапамагчы Галі ўладкавацца касіркай на прыстань, радаваўся, калі ёй далі месца ў інтэрнаце, а цяпер во часам такое падумаецца, што хоць ты забірай яе адтуль. На ўсялякі выпадак Алесь прыгразіў сябру: — Ты ў мяне глядзі!..
— Ат, не плявузгай абы-што,— адмахнуўся Юзік.— Ты лепш падумай, што будзем цэлы вечар рабіць.
— Разбіраць памылкі.
— Спрахлі б яны, твае памылкі. У мяне прапанова: возьмем лодку ды праедземся па Бярэзіне.
— Прапанова прымаецца...
З дзвярэй куляй выскачыла Галя, азірнулася і, угледзеўшы хлопцаў, падбегла да іх.
— Ой, хлопчыкі, страх мяне бярэ! Я, здаецца, правалілася... Пыталася ў Міхаіла Сцяпанавіча, а ён толькі смяецца. Там з ім гэта, што сядзела на сачыненні...
— Не прадавай загадзя дрыжыкаў, усё будзе добра,— супакоіў Галю Алесь.— А калі будзеш дрыжаць, дык не возьмем з сабой на рэчку.
— На рэчку? Цяпер?—здзівілася Галя.— Ой, а можа і праўда!?
— Ваганняў быць не можа. Пастанова прынята...
— Тым больш, што ключ ад лодкі ў маёй кішэні,— пахваліўся Юзік.— Во ён! Акрамя ўсяго іншага, можа служыць для самаабароны.
Ключ сапраўды быў адмысловы — вялікі, як ад свіроннага замка, з фігурнай галоўкай.
За дэбаркадэрам, прытуліўшыся бакамі да прычалаў, драмалі замурзаныя катэры, а за імі, уткнуўшыся насамі ў прыбярэжны пясок, выстраілася цэлая флатылія лодак. Юзік лёгка знайшоў сваю, бразнуў ланцугом, адмыкаючы замок, і сказаў з наўмыснай напышлівасцю:
— Брыганціна гатова да рамантычнага падарожжа...
— Я бачу, што фізікі не цураюцца лірыкі,— азвалася Галя, здзіўленая раптоўным парывам заўсёды ўраўнаважанага Юзіка.
— Няма марака без лірыкі...
— Рачнога марака, рачнога,— уставіў свае слова Алесь.
— Няхай сабе і сухапутнага... Сядайце на карму. На вёслах — я! І рушым мы з вамі вунь па той дарожцы,— Юзік паказаў на зыбкую расплывістую палоску — адбітак на вадзе жаўтлявага месячнага святла.
Ціха рыпалі ўключыны ды было чуваць, як кожны раз, калі Юзік паднімаў вёслы, звонка падаюць кроплі. Лодка, набраўшы разгон, ішла плаўна і роўна.
— Не хапае гітары,— пашкадаваў Алесь.
— І без гітары хораша. Цішыня і спакой,— летуценна адгукнуўся Юзік.— Так, Галя?
— Вам, можа, і хораша,— азвалася Галя,— а ў мяне на сэрцы кошкі скрабуць.
— Пры гэткай раскошы? Ды ты азірніся навокал — вада як свеціцца, ракітнік вунь нешта шэпча табе. А месяц? Дзе і калі яшчэ ты бачыла такі месяц?
Не, Юзік і сапраўды сёння быў проста такі паэтам. То скардзіўся, што галава трашчыць пасля сачынення, а цяпер во так і сыпле сентыментамі.
— Што мне твой месяц, ракітнік! — Галя рэзка варухнулася, і лодка ледзь не чарпанула бартом вады.— Я ўжо ведаю, што тры памылкі зрабіла. А Міхаіл Сцяпанавіч яшчэ нешта знойдзе. Я ж кажу, што прапала...
— Ды ну, Міхаіл Сцяпанавіч — чалавек! — запярэчыў Юзік.
— У цябе ўсе чалавекі...
— Не верыш? — Юзік падняў вёслы, агледзеўся і рыўкамі загроб да берага.— Калі не верыш, дык мы зараз у яго самога спытаемся.
Лодка, шкрабнуўшы днішчам па жвіры, уссунулася носам на пясок фарштацкага пляжа.
— Што ты яшчэ надумаў? — не зразумела Юзікавага намеру Галя.
— Я табе ясна сказаў: спытаемся ў самога Міхаіла Сцяпанавіча,— Юзік выскачыў на бераг, ухапіўся за ланцуг і падцягнуў лодку вышэй.— Вылазьце, прыехалі!
Алесь, калі яшчэ працаваў шафёрам, некалькі разоў падвозіў Атаманчука і па яго просьбе прыпыняў аўтобус каля невялічкай хаткі на ціхай, амаль вясковай вуліцы, якая пятляла ўдоўж самай рэчкі. І ён адразу зразумеў намер Юзіка — тут да Атаманчуковага жытла рукой падаць. «Але ці не нахабствам будзе з'явіцца да людзей амаль сярод ночы? І праз што!» Алесь гмыкнуў сам сабе, але нічога не сказаў.
За вузенькім пляжам пачынаўся круты ўзлобак берага. На яго грэбні суцэльнай сцяной чарнелі садкі і крывыя платы. Юзік, відаць, добра арыентаваўся ў гэтых мясцінах, бо адразу знайшоў сцежку, якая вяла прама да Атаманчуковай хаты. У вокнах святла не было. Яно і не дзіва — ноч... Юзік патаптаўся каля брамкі, заглядаючы цераз паркан. Ён нават было ўзяўся за клямку, ціхенька пакратаў яе, але стукаць не стаў. Зразумеў, што няёмка трывожыць людзей у такі позні час.
— Пойдзем назад,— пацягнула яго за руку Галя.— Гэта ж трэба прыдумаць такое...
— От няўдача. Спіць наш Міхаіл Сцяпанавіч, як пяньку прадаўшы,— пашкадаваў Юзік.— Пазнавата мы...
— Хто гэта там уллажыў Міхаіла Сцяпанавіча на пярыну?
Галя не пазнала голасу Атаманчука і, войкнуўшы, з перапуду схавалася за Алеся.
— Гэта мы, Міхаіл Сцяпанавіч! — узрадаваўся Юзік.— Праходзілі міма і думаем: дай заглянем, калі не спяць...
— Міма? — здзівіўся Міхаіл Сцяпанавіч, адчыняючы брамку.— Ладны ж круг вам трэба было зрабіць, каб прайсці міма гэтай хаты.
— А мы на лодцы,— адгукнулася Галя.
— Вунь як! — засмяяўся Атаманчук.— Ну, заходзьце, заходзьце... Чуеш, Лена,— напаўголасу гукнуў ён, павярнуўшыся ў бок хаты,— пра воўка памоўка, а воўк і тут.
— Ды чую ж,— азвалася Алена Пракопаўна аднекуль з засені бэзавых кустоў.— І не шумі, бо Міколку пабудзіш. Вядзі іх сюды.
Міхаіл Сцяпанавіч паказаў сваім нечаканым гасцям дарогу ў невялічкую альтанку, дзе сядзела Алена Пракопаўна.
— Я думала, яны ўжо над хіміяй карпеюць. Аж не, гуляюць сабе,— дабрадушна ўпікнула сваіх вучняў Алена Пракопаўна, пасоўваючыся, каб даць ім месца на лавачцы.— Праз тры дні мы з вамі сустракаемся.

— Ды мы не забыліся,— бесклапотна адказаў ёй Юзік.— Во толькі ад сачынення ачухаемся і адразу ж упражомся.

— Доўга вам ачухацца...

— Нядоўга,— пагадзіўся Юзік,— калі б то не было агрэхаў.

— А што, знайшліся-такі агрэхі?

— Іванова ў нас ледзь жывая ад страху.

— Зноў Іванова! — прытворна жахнуўся Міхаіл Сцяпанавіч.— Яна мне са школы не давала выйсці... Праглядзеў я работу Івановай. Ну, калі адна коска стаіць не там, дзе трэба, дык ці варта з-за гэтага ўсім тлуміць галаву?

— Ой, няўжо ўсяго адна? — Галя з радасці ажно падскочыла.— Праўда, адна?

— Адна, адна,— супакоіў яе Міхаіл Сцяпанавіч.— Калі знойдзецца больш, дык я за гэта ў адказе.

— Міхаіл Сцяпанавіч! — Галін голас ад хвалявання сарваўся на піск.— Ой, Міхаіл Сцяпанавіч, калі б вы не былі нашым настаўнікам, дык я б вас пацалавала...

— Я б і сам рады, ды што скажуць некаторыя,— патрапіў ёй у тон Атаманчук, паглядаючы на Страхаля.

Алесю заўсёды не падабаліся такія намёкі. Ад іх ён чырванеў, як дзяўчына. Добра, што хоць зараз цёмна. Чырванеи колькі хочаш — ніхто не заўважыць. Алесь крышачку адсунуўся ад Галі, быццам паказваючы, што ён тут ні пры чым.

— Глядзіце, зорка ўпала! — паказала ўверх рукой Галя.

Сапраўды, у небе, прачарціўшы доўгі след, растала знічка.

— Эх! — са скрухаю гукнуў Міхаіл Сцяпанавіч.— Вось так і гады нашы. Чырканулі, і толькі след ледзьве-ледзьве свеціцца... Мы тут да вашага прыходу пра нешта такое якраз і вялі гаворку.

— Ідуць гады,— пагадзіўся з ім Юзік,— і не вяртаюцца назад.

— Ну, даражэнькі, не табе гэта казаць. У вас уся дарога яшчэ наперадзе. І столькі дарог, колькі вунь зорак на небе.

— Нам адну б выбраць,— задуменна вымавіў Алесь.— І каб не знічка была...

— А я што кажу! — Міхаіл Сцяпанавіч моцна абняў Алеся за плечы і загаварыў так, быццам хацеў давесці сваю думку не толькі хлопцам і Галі, а ўсяму свету — і таямніча фіялетаваму небу, і соннаму ветру, які клаўся на спачынак у бэзавай лістоце, і далёкім зоркам, што гулліва падміргвалі ў бяздоннай вышыні:— Ад вас саміх цяпер усё залежыць. Думайце і выбірайце! Самі выбірайце! Вы павінны ведаць, што шукаеце, чаго хочаце. Толькі захацець трэба так, каб гара табе здалася купінай...

— Добра, Міхась, вельмі добра сказана,— пагадзілася Алена Пракопаўна.— Не заўсёды гару можна абысці. Бывае, што яе трэба браць прыступам. Тады націсні на тую гару ўсю сваю волю, усю сілу — і здасца яна купінай...

Недзе далёка за садамі, за ваколіцай ціхага Фарштата настойліва дудукнуў параход, нібы напомніўшы, што даўно ўжо час пакідаць старую альтанку.





***леанід дайнека***



# ПАЭЗІЯ



■

Вуголле спаленых хацін.
І чорны дым. І чорны вецер.
У кожнага свая Хатынь.
І ўсё ж Хатынь адна на свеце.
У кожнага свая Хатынь —
Хатынь ці ў Віцебску, ці ў Мінску.
Ды ў посвіст куль, у грукат мін
Пайшоў бы я, каб мёртвы сын
Падняўся з Вашых рук, Камінскі.

■

Магутны дуб. Духмяны бэз.
Арэшнік гнуткі, пакручасты...
Які твой лёс, мой родны лес,
Пад грознаю сякерай часу?
Ты цвіў над рэкамі журбы,
Ты рос пад ветрам злым і рэзкім.
Ва ўсе бакі ляцелі трэскі,
Ды не ламаліся дубы.
Блішчыць раса. Звініць туман.
Стаю маўкліва на узлессі.
...О, колькі многа ў вечным лесе
Палян!

■

Лясная шумлівая радасць.
І птушак і дрэў галасы.
Ды тых, хто аднойчы ім здрадзіў,
Караюць маўчаннем лясы.

Вы хоць на хвіліну ўявіце —
Ад кветак гарыць сенажаць,
Вясновае сонца ў зеніце,
А дрэвы стаяць і маўчаць.

Ля іх каранёў можаш поўзаць,
І локці ў адчаі кусаць,
І выць на халодную поўню —
А дрэвы стаяць і маўчаць.

## «Кацюша»

На пляжы, ля цёплага мора,
Дзе дрэмле над сонцам Каўказ,
Іграе «Кацюшу» звышмодны,
Траскучы, узвінчаны джаз.

Маэстра, вусаты і гнуткі,
Матыўчык сыпнуў з-пад рукі,
І льюцца вясёлыя гукі,
Прывабныя, як шашлыкі.

Пад поглядам гор непарушных
Экстаз музыкантаў трасе.
Ды дзе ж ты, Кацюша, Кацюша,
Якую мы любім усе?

Каб толькі табе пакланіцца,
Праз полымя крочыў салдат.
Не веру, што ў міні-спадніцы
Прыйшла ты на моды парад.

Не веру я і не паверу
Нейлонавай цёзцы тваёй.
...Выходзіць Кацюша на бераг,
Стаіць над туманнай ракой.

І шчырую песню заводзіць
І ўдалеч трывожна глядзіць.
Дык годзе, маэстра! Годзе!
Трубу ў футарал пакладзі.

■

Чым вы сталі? Кастрамі? Аблокамі?
Звонкім ветрам, што хіліць сасну?
Чым вы сталі, мужчыны далёкія,
Што калісьці пайшлі на вайну?

Я прашу: не марудзьце, вяртайцеся,
Пашкадуйце, мужчыны, жанчын,
Што і ноччу і днём углядаюцца
У бязмежную далячынь.

■

Плачце над вершамі, плачце,
Плачце, дзяўчаты, ўсе ночы.
Нібы вясельныя плацці,
Вершы бываюць аднойчы.

Потым усё гэта пройдзе,
Як красаванне у жыце.
Плачце, дзяўчаты. Прыродзе
Прама у вочы глядзіце.

Плачце. Ад вас усё далей
Тонкія, звонкія кніжкі,
Возера срэбныя хвалі,
Майскіх маланак успышкі.





**яўген шабан**

*

паэзія

*

## Чэрвень

Ужо галодныя сініцы
ніжэй нуля склявалі ртуць,
а у вачах маіх суніцы,
і чэрвень не дае заснуць.
Густы застылы морак золкі
даўно пакрыў усё наўкол,
а мне, адкроены вясёлкай,
акраец неба лёг на стол.
Я там,
у чэрвені, блукаю
і прыгаршчамі п'ю блакіт,
і гладжу жвір на дне ракі
я праз марозную блакаду.
І бачу,
як гарбатыя
за ледзянымі кратамі
спяць акуні вірлатыя,
самы вусамі кратаюць,
як пад фіранкай снежнаю,
рамонкі шэпчуць «любіць»
і як суніцай свежаю
тваe прапахлі губы...
Няхай завея
ашалела —
я ў чэрвені,
дзе ты была,
дзе сарамліва і нясмела
мне шыю летам абвіла.

■

А я сумую кожны вечар
па тых блакітных берагах,
дзе нарачанскі цёплы вецер
дыханнем вечнасці прапах,

сумую па знаёмых дрэвах,
маіх шматрукіх дружбаках,
па ручаінаў звонкіх спевах,
па добрых гаваркіх шпаках,

па вербалозе каля хаты,
па сыпкай бульбе на стале,
па ўсім,
па ўсім, чым быў багаты
і чаго зараз нестае...

Чаго мне зараз нестае.







*міхась даніленка*

# АПАНАСКА ЛУГАВЫ

## АПОВЕСЦЬ

● Мал. **Б. Суслянкова.**

Усё ён рабіў подбегам, усюды спяшаўся.

І цяпер заспяшаўся, калі ляснічы сказаў:

— У вашым абходзе, Лугавы, у восьмым квартале захламленасць вялікая. Сухастой вывезлі, а галлё не спалілі.

— Сёння спалім, Мацвей Трафімавіч,— паскубваючы рэдзенькія вусы, адказаў Лугавы.— Сёння к вечару не будзе галля.

— Калі ж вы спаліце? — не паверыў ляснічы.— Да вечара лічаныя гадзіны засталіся.

Леснікі пераглянуліся: ведалі, што Апанаска Лугавы паспее зрабіць. Хто яго ведае — двухжыльны ён, ці што. І як у тым лядашчым целе душа трымаецца — маленькі, дробненькі, як смарчок. А ўсюды Апанаска паспявае.

— Глядзіце хаця — пажару ненарокам не нарабіце,— папярэдзіў Мацвей Трафімавіч.— Сухмень каторы дзень стаіць.

Апанаска толькі дакорліва паківаў галавой: каму-каму, а ці ж яму, Лугавому, трэба напамінаць аб пажары? Усё жыццё, лічы, пражыў тут, кожны куст у сваім абходзе ведае. Не дапусціць, каб пакаціў, крый божа, пажар.

А сам, ледзь толькі дачакаўся канца нарады,— на веласіпед — такі ж лядашчы, як сам,— і ў восьмы квартал. Леснікі пасмейваліся:

— Панёсся, як ведзьма на мятле!

— І калі ён гімнасцёрку сваю зменіць?

— Мусіць, тады, як нявестка сілком з плячэй здзярэ.
— Да восьмага квартала напрамкі добры дзесятак кіламетраў набярэцца. Няўжо ўправіцца?
— Чорт яго не возьме. Апанаску зносу не будзе.
А той націскаў кірзачамі на педалі і адчуваў: за апошнія дні ўсё цясней робіцца ў грудзях, нешта падпірае пад дыхавіцу. Позна вечарам, калі, зморапы, вяртаўся дадому, моцна балела спіна, быццам цягаў на сабе тоўстыя бярвенні.
— Перакусілі б чаго, тата,— звычайна гаварыла нявестка.
Свёкар сцягваў адзін, потым другі бот, вешаў на цвік фуражку з залацістымі дубовымі лістамі і без сіл валіўся на канапу.
Не, Апанаска не быў двухжыльны. Гэта ён адчуў тады, калі прыкаціў на веласіпедзе ў лес.
На расцярэбленай лініі ў яго была прыхавана рыдлёўка. Апанаска спачатку абкапаў некалькі мясцін, куды рашыў сцягваць галлё — у лаўжы.
І можа ўпершыню ў жыцці адчуў: дарэмна ён запэўніў Трафімавіча, што навядзе парадак у квартале. Некалькі лаўжоў дагарэлі. На папялішчы паблісквалі жарынкі. Пройдзе мінута-другая — і яны таксама ператворацца ў попел, які пасля прыб'е дождж ці развее вецер. Апанаска падумаў: як і яго жыццё. Перагарэла — і няма, застанецца толькі маленькая жменька попелу. Лугавы сядзеў, прыхіліўшыся спіной да дубовага паліка. На ім ужо нельга было разгледзець выпаленую лічбу — у лесе цемень згушчаецца хутчэй, чым на паляне. Але ляснік з заплюшчанымі вачыма мог бы прачытаць тую лічбу: на яго памяці ставілі гэты слуп. Апанаска правёў шурпатай далоняй па ім. Пасыпалася труха. Ляснік засмучона паківаў галавой.
— Пастарэў і ты, брат,— прашаптаў ён.
А потым баязліва азірнуўся. Здалося: нехта пачуў яго шэпт і насмешліва цікуе з-за дрэў. Апанаска рыўком падхапіўся і міжвольна войкнуў: востры боль працяў усё цела. Нейкі момант ён стаяў сагнуўшыся — трымаўся рукой за палік. Але боль не адпускаў. Дыхаць стала цяжка. Апанаска перапалохаўся. Скруціць так аднаго ў лесе, і да раніцы будзеш ляжаць, спруцянелы, як тое бервяно. Нікому і ў галаву не прыйдзе ехаць шукаць супраць ночы чалавека. Васіль можа дзе гарэлку з сябрамі жлукціць, а Люба, відаць, толькі ад кароў вярнулася — ёй і з гаспадаркай трэба ўправіцца, і дзяцей накарміць, і вячэру зварыць.
У лесе было ціха. Звінелі камары. У гушчары сонна азвалася птушка, залапатала крыламі. Апанаска асцярожна апусціўся каля паліка, адчуваючы спіной зямлю. Яна яшчэ не аддала ночы цяпла, назапашанага за дзень. Але спіна праз гімнасцёрку ўжо адчувала прыемную прахалоду. Над галавой нясмела паблісквалі зоркі. «Пазнавата ўжо»,— падумаў Апанаска. І раптам ён так ясна, быццам яму хто невядомы шапнуў на вуха, зразумеў, што вось-вось надыдзе і яго, Апанаскаў, канец. Але дзіўна: гэтая думка ніколькі не спалохала. Усё жыццё ён некуды спяшаўся, вечна рабіў, стараўся ні сабе, ні іншым не даваць палёгкі. Можа так ад нараджэння некім заведзены, бы той гадзіннік, кожны чалавек? Праўда, спружыны бываюць неаднолькавыя. У аднаго заводу хапае надоўга. У іншых, як у яго Васіля, толькі каб дабрацца да першай крамы, да Нінкі.
Падумаўшы пра сына, Апанаска ўспомніў, што сёння Васіль з раніцы меўся ехаць у Рэчыцу, на станцыю, па ўгнаенні. «Цяжка Любе з ім»,— падумаў Лугавы.
Трохі адпусціла, дыхаць стала вальней. Паспрабаваў падняцца.



Цяпер у грудзях ужо не калола, але кружылася галава, ногі былі, быццам ватныя. Апанаска пакаціў перад сабой веласіпед. Сцяжынка, якую ў поцемках мог распазнаць толькі ён, вяла ад лініі да наезджанай лясной дарогі.
Некалькі разоў Апанаска адпачываў. У грудзях пацяжэла, даймаў кашаль. «Дабегаўся, стары скрыпель»,— паспеў падумаць Апанаска, як раптам у вачах пацямнела, на лбе выступіў халодны пот.
Ён спыніўся, як укопаны. Доўга стаяў, пераступаючы з нагі на нагу — чакаў: вось-вось пройдзе слабасць, і ён зноў пацяху пакоціць пыльнай дарогай веласіпед. А лаўжы заўтра раненька Васіль з Любай спаляць. Можа і на дождж сабярэцца, не дарма ж увесь дзень парыла. І яму, відаць, дрэнна стала, бо высільваўся на рабоце ў такую спёку.
У вачах усё так жа было цёмна, нейк пуста стала ў сярэдзіне. Сэрца зайшлося ў частым стуку. Апанаска ціха апусціў на зямлю веласіпед і тут жа, на ўзбочыне дарогі, прылёг на халаднаваты ад вячэрняй расы дол.
Паўз дарогу нямой сцяной стаялі кусты. Далёка з грачанішча даляцелі самотныя крыкі жураўлёў. Да Апанаскі ўсё даходзіла, быццам з нейкага іншага свету. Было адчуванне, нібы не з ім стала нядобра і не ён дакрануўся няголенай шчакой да травы, да галовак палявога рамонку, дзяцеліны. Ён то ўпадаў у забыццё, то ачынаўся і тады на дзіва абвостраным слыхам лавіў глухія ўдары. Лугавы зразумеў — білася зношанае старое сэрца.
Раптам Апанаска пачуў тарахценне колаў. Па дарозе нехта ехаў. «Мусіць, Ахвіцэраў Федзя вяртаецца. Вечарам паіў цялят»,— паспеў падумаць і зноў упаў, быццам праваліўся ў цёмную яму, у забыццё.
Апанаска расплюшчыў павекі: адчуў— нехта тармошыць яго, катурхае, штосьці гаворыць. Спачатку ўбачыў над сабой цёмную вялікую постаць. Зверху даляцеў знаёмы, трывожны, Федзеў голас:
— Што з вамі, дзядзька Апанас?
Лугавы перадыхнуў раз-другі, адчуў, як звінела доўга-доўга ў вушах — якраз так, як пасля той кантузіі пад Лазавой, ля Харкава, і прахрыпеў:
— Занядужаў я. Дрэнна мне стала.
— А я еду, чую: нешта мой конь усхрыпвае,— гаварыў Федзя.— А гэта ён да валісапета дайшоў і — стоп — ні ў якую: якраз на дарозе валісапет ляжаў.
У вачах Апанаскі пасвятлела. Ён убачыў, што веласіпед ляжыць ужо ў задку калёсаў, дзе ў цярушанцы прымасціліся бітоны.
— То давайце — дапамагу вам,— падхапіў яго пад рукі Федзя.— Сядзем ды памаленьку і паедзем: дома, бо, можа трывожацца?
— Чаго ім трывожыцца? — перадыхваючы і прыслухоўваючыся, як рыпела ў яго грудзях, гаварыў Апанаска.— Служба такая... І ноччу, і досвіткам... Заўсёды ў лесе...
Федзя яго падтрымаў пад рукі, і Апанаска дацягнуўся да драбін. Тут ён трохі памарудзіў — не хацелася пры староннім чалавеку паказваць слабасць. Але ж сам ён нізавошта не ўзбярэцца на гэтыя праклятыя калёсы. Федзя спрытна падхапіў старога, дапамог узлезці на калёсы. На іх ляжала некалькі добрых ахапкаў аўсянкі. «Запаслівы, чорт,— падумаў Лугавы.— Відаць, і ў бітоны прыхапіў з сабой перагону». Раней бы Апанаска не прамінуў аб гэтым сказаць. Ён не цярпеў, калі пацiхеньку цягнулі тое, што можна было сцягнуць. Ведаў: за гэта некаторыя аднавяскоўцы недалюблівалі яго. Недалюб-

ліваў і Федзя, які ў апошні час нешта захаўрусаваў з яго Васілём. Але цяпер Апанаску ўсё стала абыякавым.

— Гэ, нешта вы, дзядзька Апанас, здалі,— паглядзеўшы на лесніка, сказаў Федзя. Ён тузануў лейцамі, сцебануў бізуном каня. Веласіпед забразгатаў рулём аб драбінкі калёс. А Федзя зноў пачаў расказваць, як ехаў ён, а гняды натапырыў вушы, усхрыпнуў, і ён, Федзя, западозрыў — нешта нядобрае тут.

— Чый, бо, думаю, валісапет валяецца сярод дарогі? — голасна, як глухому, крычаў Федзя.

Апанаска быццам не чуў. Прыпомнілася, як у дзяцінстве аднойчы гэты вось самы Федзька бяды нарабіў у Апанасавым садзе...

Тады было добрае лета — вельмі радзіла на садавіну. У канцы жніўня ў Лугавых аж гнуліся галіны ад яблыкаў. Вяліся ў іх апорт, пепінка, антонаўкі. А ў самым кутку сада — там, дзе межавала Апанасава сядзіба з Ахвіцэравай (так па-вулічнаму клікалі ў іхніх Грамыках Федзькаву радню), расла кучаравая «цыганка». Яблыню гэтую, можна сказаць, выпеставаў Апанас. Некалі прышчапіў да перанесенай з лесу дзічкі (тады яшчэ не рабіў леснікам) кволую галінку. Яе яму даў у адным гадавальніку за Дняпром знаёмы садоўнік. Рашыў: прымецца — няхай расце, вельмі ж хваліў той гатунак садоўнік.

Дрэўца, як на дражджах, пайшло ў рост. З кожным годам яно выганяла новыя какаты, крона раздавалася шырэй. Яблыня абганяла роўныя ганцы. Радзіць «цыганка» пачала рана — яблыкі былі яркачырвоныя, бы шчокі ў маладзенькіх цыганак, што часам праязджалі з табарам праз іхнюю вёску.

Колькі ж было тады гадоў паганцу Федзьку, як панадзіўся ён лазіць у Апанасаў сад? Гадоў дванаццаць — ён жа равеснік Васілю...

Федзька адарваў адну штакеціну, зрабіў лаз у гарод. Там, на мяжы, гусціўся маліннік, буяла дрымучая крапіва, у якой аблюбавала несціся адна курыца Лугавых. Можа і не спаймаў бы Апанас Федзьку, калі той латашыў за пазуху чырвоныя яблыкі, каб не пайшоў вечарам шукаць курынае гняздо.

— Схадзі, стары, паглядзі ў малінніку,— паслала мужа Куліна.— Днём сакатала рабая там. Ніяк не падпільную яе, гадаўку.

Апанас соўгаўся каля малінніку, варушыў палкай тоўстыя прыпыленыя сцябліны крапівы, і ўвесь час яго не пакідала адчуванне, быццам нехта сочыць за кожным яго крокам. У лістоце яблыні раптам нешта зашамацела. Апанас прыўзняў галаву. На ніжняй галіне, якраз над ім, згорбіўшыся, сядзеў Федзька. Хлопец спалохана лыпаў вачыма на Лугавога. Адной рукой трымаўся за галіну, другой прытрымліваў на штанах папружку, каб не вываліліся з-за пазухі яблыкі.

— Злазь! — закамандаваў Апанас.

Федзька маўчаў, толькі аблізваў языком парэпаныя губы. Ён не такі дурань, каб трапляць Лугавому пад гарачую руку. Апанас, абпякаючыся, нарваў добры жмут крапівы.

— Злазь, кажу табе,— прыгразіў ён.

Абломваючы галінкі, Федзька гопнуўся ледзь не ў рукі Лугавому. Яблыкі рассыпаліся — пакаціліся ў бульбоўнік. Апанас схапіў Федзьку за кашулю. Ён можа і адпусціў бы паганца — ліха з ім, была б ахвота настырнянца з гэтымі Ахвіцэрамі. У іх языкі ўсё роўна, як брытвы — і асялка нe трэба. Але Федзька нахабна вылупіў на Апанаса вочы і заверашчаў на ўвесь сад:

— Пусці, праклятьі Апанаска! Усё роўна ссяку тваю «цыганку».

Лугавы спачатку аж аслупянеў. Ён, вядома, ведаў, якое нахабнае



насенне гэтыя Ахвіцэры. Ды каб ляпнуць такое — Апанас не чакаў. Ён сцебануў Федзьку па нагах. Адна калашына ў таго была падкасаная, і Федзька смешна падскочыў, як малады пеўнік. Ён умомант пераляцеў праз маліннік і драпануў у свой двор цераз вуліцу: лазам не было калі лезці. На вуліцы Федзька перагнуўся цераз плот і прыгразіў:

— Усё роўна, праклятьі Апанаска, не будзеш з «цыганкі» яблыкаў есці!

— Згінь з вачэй, нягоднік!

Праз які час Апанаска і забыўся пра тое здарэнне. Якраз тады ўладкаваўся ён у лясніцтва, і Мацвей Трафімавіч пасылаў яго то ў лясгас з даручэннем, то вазіў з сабою — паказваў будучы абход. А паганец усё роўна адпомсціў.

Вясной Апанас араў пад яблынямі — садзіў бульбу. Ля «цыганкі» ён прыпыніў коней і доўга тупаў вакол дрэва.

— Прынюхайся. Ты нічога не чуеш? — запытаўся ў Васіля, які вадзіў коней.

Той пашморгаў носам:

— Як газай нясе з зямлі.

Лугавы капануў наском бота, падняў жменю зямлі. Пахла сапраўды газай — не задрыжэлі нечыя рукі, каб выліць тут, пад дрэвам, яе мо цэлую каністру...

З той вясны дрэва пачало ўсыхаць. Яно чахла ўвачавідкі, як чалавек, у якога не дабрылася са здароўем. Пажаўцела і абляцела лісце на самай тоўстай галіне, на якой кожнае лета радзіла столькі яблыкаў. Пад яе звычайна Апанас ставіў аж тры рагулі-падпоркі. Цяпер не трэба было ставіць ніводнай. Восенню яе Лугавы адпілаваў нажоўкай, а зрэз старанна абмазаў разбаўленым цэментам.

Ён тады шоргаў нажоўкай, а ў вачах стаяў Федзькаў твар і чуліся словы, якія Федзька з нянавісцю выкрыкваў,— быццам Лугавы пачуў іх зноў:

— Усё роўна, праклятьі Апанаска, «цыганку» са свету зжыву!

— Вось і зжыў, нягоднік,— сказаў Апанас Куліне.

Жонка стаяла тут жа, ля яблыні. Яна склала на фартуху натруджаныя рукі і сачыла, як піла ўсё глыбей і глыбей упіваецца ў дрэва.

— Забіць мала за такую шкоду,— гаварыў між тым Апанаска. Ён уцямнеў з твару, прыгорбіўся. Ну, прыходзь у сад, рві яблыкі — ліха з табою. Нават не лазь праз адарваную штакеціну — яе з таго дня Апанас так і не прыбіў. Але ж не зводзь са свету дрэва. Яно ж было жывое, расло, перамагала хваробы, цягнулася да сонца. А вясною з пупышак выпускала кветкі. Пялёсткі на «цыганцы» былі ружаватыя, і калі стаяла яна, густа абсыпаная цветам, была падобна на дзяўчыну ў падвянечным уборы. У квецені чулася засяроджанае пчалінае гудзенне, а пах даносіла аж на вуліцу. А потым дол пад ёю густа ўсціляўся пялёсткамі...

— Не звязвайся з імі, чалавек,— гаварыла Куліна.— Няхай з імі нячыстая сіла звязваецца.

Жонка ведала, аб чым пакутліва думаў муж. Ці ж дакажаш, хто так нашкодзіў? Ну, спаймаў ты гэтага Федзьку, як ён яблыкі краў. Прыгразіў яму крапівою. Але ж паспрабуй дакажы, што гэта ён наліў пад яблыню газы ці бензіну, каб засохлі карэнні. Завядзіся толькі з гэтымі Ахвіцэрамі — яны і з-пад палкі, як тая вужака, выслізнуць і ніколі вінаватыя не будуць.



«І праўда,— разважаў Лугавы.— Дрэва да жыцця не вернеш, а ворагаў нажывеш».

Прыпомнілася, як некалькі гадоў назад у мястэчку судзілі Лявона — Федзькавага дзядзьку. Казалі: у вайну адзін час гэты самы Ахвіцэраў Лявон ледзь не нейкім нямецкім паслугачом хадзіў. А вось жа выкруціўся. Раздабыў даведкі, што партызанам дапамагаў. Нават быццам выратаваў ад расстрэлу аднаго падпалкоўніка. Таго і падпалкоўніка на судзе бачыў Апанаска: з Кіева тэлеграмай выклікалі Лявон і Сямён — Федзеў бацька...

Так, даўнавата тое было. Выраслі даўно і пастарэлі, як і сам ён, Апанаска, яблыні і грушы ў садзе. У Федзі трое дзяцей — ён так і не аддзяліўся ад Сямёна. Даўно парыць костачкі ў сырой зямлі Куліна, а пра «цыганку» чамусьці прыпомнілася зараз, калі Фёдар вёз Лугавога.

Колы шапацелі па пяску. Фёдар замоўк і толькі час ад часу касіўся на Апанаску, які ціха сядзеў ззаду і зрэдку кашляў, быццам бухаў у бочку.

Нізка на небе чырванеў поўнік. Калёсы затарахцелі на мосце цераз канаву, якую пракапалі мінулым летам меліяратары. Паказалася вёска — хаты зліваліся ў чарнату. У доме Лугавых свяціліся вокны. Фёдар спыніў каня, хацеў дапамагчы Апанаску злезці, але той сам абмацаў нагой вось — стаў на яе і памаленьку ссунуўся з воза. «Ліха, бо, ведае гэтага нездаляку,— падзівіўся сам сабе Ахвіцэрык.— Нядаўна ж ляжаў і ледзь хаўкаў. А заўтра, калі хочаш, пабяжыць у дзялянку, калі надумаешся якую сухастоіну ссекчы». Федзя зняў з калёс веласіпед і паставіў да лавачкі ля гародчыка.

— Ну, бывайце. Я паехаў,— сказаў хутчэй сам сабе, чым Лугавому.

Стары пачакаў, пакуль той заязджаў у свой двор, а потым расчыніў веснічкі і патупаў да ганка.

Падумалася, што яшчэ не за яго, апанасавай, памяццю прыклалі злыя языкі Федзеваму дзеду мянушку «Ахвіцэр». Казалі: вярнуўся той з вайны. На грудзях — георгіеўскі крыж, вусы стрэлкамі падкручаны, юхтавыя боты наглянцаваны — хоць глядзіся ў іх, як у люстэрка. Амаль кожнаму стрэчнаму, выпнуўшы дугой грудзі, паведамляў:

— Мяне павінны перавесці ў ахвіцэры. Сам енарал казаў, калі Георгія чапляў. Ахвіцэрам буду, от як.

Федзеў дзед склаў галаву недзе на палях Галіцыі, а дзецям пакінуў у спадчыну гэтую мянушку «Ахвіцэр».

Жоўтае святло з вокнаў лілося ў гародчык. У ім густа кусціліся вяргіні, астры, настурцыі, браткі. Па чыстым вугле дома цягнуўся на жалезны дах дзікі вінаград. Куліна любіла кветкі. Апанаску прыемна было ведаць, што і Люба, калі надаралася вольная хвіліна, корпалася ў гародчыку — праполвала, а позняй восенню выкопвала абсыпаныя зямлёй цуголкі-клубні ад вяргіні і пераносіла ў трысцен — хавала ў падполле.

Лугавы зашкрабаў клямкай. У сенцы затупалі босыя ногі.

— Гэта вы, тата? — спыталася Люба.

Яна клікала яго на «вы», звала «татам». З расчыненых дзвярэй у апанаскавы вочы ўдарыла зыркае святло. Ён зажмурыўся і, абмацваючы рукой вушак, сцяну, нібы сляпы, пацёгся ў хату. Нявестка спалоханымі вачыма сачыла за свёкарам. Яна не так даўно вярнулася з фермы — з вячэрняй дойкі. Ферма знаходзілася ў бліжняй ад Грамы-

каў вёсцы—у Цярэнічах. Апанаска нічога не адказаў: зноў зацяло дыхавіцу, у вачах мітусіліся кругі, у вушах доўга, нудна звінела.

Ён сеў на канапу і пачаў здымаць бот. Аслаблі, дрыжэлі рукі.

— Можа памагчы вам? — памкнулася да яго Люба.

Не, разуецца і распранецца ён сам. На канапе ляжала брызентавая салдацкая сумка. У ёй — Лугавы ведаў — два білеты на дровы. Гэта для Ахвіцэравых. Але як ехаў з Федзем, забыўся сказаць, каб той напомніў бацьку, у якім квартале можа ён забраць дровы.

А потым Апанаска ў адгароджанай шырмай баковачцы прыслухоўваўся, ці не едзе Васіль. Унукі, трынаццацігадовы Толік і пяцігадовая Ленка, спалі на ложку.

Люба выключыла святло. Нейкі час тупала босымі нагамі, а потым заціхла. У акно лілося бляклае месячнае святло. На шыбах трапяталі карункавыя ўзоры, калі начны ветрык перабіраў дробнае лісце на слівах і вішанніку. На момант Апанаску здалося, што ідзе ён па лесе. А перад ім, ласкава памахваючы хвастом, носіцца дурны ад радасці Жук. У руцэ ў Апанаскі сякера. Ёю ці то залысіну на дрэве зрабіць, ці кусцік які выцерабіць, каб не заценяў пасадкі, вельмі ж зручна... А насупроць на рысорнай павозцы едзе Мацвей Трафімавіч. На ляснічым форменная фуражка з белым парусінавым верхам, на пятліцах пінжака блішчаць залацістыя дубовыя лісцікі.

— Куды гэта вы, Лугавы, у такую рань выбраліся? — хітра жмурыць вочы Мацвей Трафімавіч.

Азірнуўся Апанаска вакол сябе і здзівіўся: як жа ён не заўважыў такога хараства! І праўда: толькі-толькі занялося на дзень. Жук лапамі збівае спорную сцюдзёную расу. А яна блішчыць на лісцях дрэў, на павуцінні. Яго вунь колькі наткалі павукі. Ад дубняка, з зямлі прыемна нясе грыбным духам. Дзе-нідзе Апанаска бачыў тугія капялюшыкі зялёнак, што вытыркнуліся з зямлі. А вунь і апенькі абляпілі пні. «Трэба не забыцца Толіку сказаць,— думае ён.— Няхай хлопец прыхопіць вядзерца ды прабяжыць па гэтых мясцінках».

Апанаска глядзіць у вочы ляснічага, на яго святочную фуражку і адказвае:

— Трэба ж паглядзець, Трафімавіч, як там мой лясок? Мо дзе прасвятліць трэба.

Мацвей Трафімавіч знімае фуражку, і толькі цяпер Лугавы са здзіўленнем бачыць: здаў за апошні час ляснічы. Ля вушэй прыкметна пасерабрыліся валасы.

— Быў я там,— весела паведамляе Мацвей Трафімавіч.— І ведаеце? Грыбніцы пад дрэвамі знайшоў.

Апанаска сам сабе дзівіцца: грыбніца — добры знак. Значыць, лес, можна сказаць, сапраўды вырас. А некалі ж, на апанаскавай памяці, садзілі яго жанкі пад разакі. Тады і ў паміне не было лесапасадачных машын, якія прысылаюць цяпер у лясніцтва...

І тут Апанаска са страхам зразумеў: у прыродзе нешта няўлоўна перамянілася, стала не так, як прывык ён бачыць. Спачатку падалося, што ён ходзіць зусім не па тым лесе, які некалі садзіў з жанчынамі.

Лугавы азірнуўся. Ляснічага ўжо не было. А з далечыні да Апанаскі данеслася ледзь чутнае кукаванне зязюлі. Позняя восень і кукаванне зязюлі — такога не здаралася чуць на доўгім апанаскавым вяку. А стаяла ж восень, ён добра бачыў кроплі расы на кроснах, вытканых павукамі. І жалуды, што ападалі з дубоў, часта шпокалі на дол— гэта таксама запомнілася Лугавому. І ён з жахам зразумеў: гэта яму адлічвае вешчая зязюля. Не гады, а дні...



Апанаска не чуў, як да дома падкаціла машына і па сценах, а потым па століі прабеглі палосы святла ад фараў. Адразу ж паднялася Люба, быццам яна і не спала, шчоўкнула ў другім пакоі выключальнікам.

Ляпнуўшы дзверцамі кабіны, па двары пратупаў Васіль. Жартуючы, ён хапіў Любу за руку. Тая адхіснулася ад мужа, замахала на яго:

— Ціха ты. Бацька вельмі занядужаў... А ты зноў налізаўся? Глядзі, каб правы не забралі.

— А што са старым?

— Дрэнна стала. Федзя Ахвіцэраў дарогай падабраў.

— А я бачу ля лавачкі веласіпед,— узбуджана гаварыў Васіль.— Думаў: можа хто да нас прыехаў і начаваць застаўся. І ў галаву не прыйшло, што гэта — наш. Пайду закачу ў сенцы.

Васіль удаўся ў бацьку — такі ж мітуслівы. Што адрознівала сына ад бацькі, дык гэта, як кожны з іх адносіўся да працы, да жыцця. Васіль бываў па вярбоўцы і ў Казахстане, рабіў на лесараспрацоўках у Карэліі. І нідзе доўга не награваў месца. То яму мала плацілі, то работа не падабалася, то яго проста вытурвалі.

Тады ўжо, як Апанаска працаваў лесніком і пачаў будаваць у Грамыках новы дом, Васіль вярнуўся з Карэліі, ажаніўся на цярэніцкай Любе і стаў працаваць у калгасе шафёрам. Месяцы са два ўсё ішло як належыць: Васіль то падвозіў да фермаў скошаны лубін, то вывозіў зімой з-за Дняпра лугавое сена. А потым паслалі яго везці забракаваных кароў на мясакамбінат аж у Нова-Беліцу. Можа каб з Васілём не ехаў Ахвіцэраў Федзя, усё абышлося б добра. У горадзе яны падрадзіліся аднаму чалавеку прывезці з бліжняга кар'ера пяску. А калі вярталіся дадому, дарогай выпілі.

— *Які, бо, чорт нас тут сустрэне,— пераконваў Федзя Васіля.*— Тут цяпер на сто вёрст міліцыянера не знойдзеш: яны нюхам чуюць, дзе Спаса спраўляюць.

Няшчасце падпільнавала Васіля, калі ён, можна сказаць, быў ужо дома — пад'язджаў да Грамыкаў. З райцэнтра чорт нёс на матацыкле мясцовага «гаешніка» Бандарэнку. Так і развітаўся з правамі Васіль. На Бандарэнку не падзейнічалі ні ўгаворы, ні просьбы, ні нават тое, што Федзя абяцаў падкінуць машыну дроў.

— Яго бацька лесніком робіць,— казаў ён.— Прывязем табе, бо, такіх бярозавых — аж звінець будуць.

З месяц пасля таго здарэння Васіль сноўдаўся, як не свой — ні да чаго не мог прыкласці рук. Люба раненька бегла ў Цярэнічы даіць кароў, бацька, як звычайна, чапляў цераз плячо сумку, свістаў Жуку і часаў у абход. А ён сноўдаўся цалюткі дзень па двары, гыркаў на Толіка і Ленку, што круціліся пад нагамі. Разоў колькі зазірнуў быў да Федзі. Але той цяпер згадзіўся паіць цялят. Яму выдзелілі каня, і Ахвіцэрык, як толькі надаралася вольная хвіліна, то вёз дадому капіцу ўкошанага паміж кустоў сена, то цярабіў у дзялянцы дровы — прывезці было на чым і хто яго будзе кантраляваць?

Правы перадаў Апанаску Мацвей Трафімавіч. Ляснічы бачыў, як перажывае Лугавы за сына, як змарнеў чалавек за тыя дні. У валасах прыкметна прыбавілася сівізны. У вачах застыў сум.

— Аддайце сыну,— вяртаючы дакументы, гаварыў ляснічы.— Праўду кажучы, мы са старшынёй калгаса добра такі ўспацелі, пакуль уламалі Бандарэнку: не хацеў дапускаць Васіля да руля.

Мацвей Трафімавіч бачыў, як радасна заблішчэлі вочы ў старога, як задрыжалі рукі, калі браў ён маленькую кніжачку. Апанаска пра-

мармытаў у рэдкія вусы, што цяпер не будзе спускаць вока са свайго пустадомка. Ды хіба ўгледзіш за ім? Мусіць, як урадзіўся чарвівы яблык, дык не так проста вывесці таго чарвяка. Няхай бы піў, ды меру знаў. Але ж калі Васіль перабіраў лішку, дык не раз чапляўся з-за дробязяў да Любы, палохаў дзяцей. Леначка прыбягала тады да Апанаскі, тулілася шчупленькім, як у вераб'я, целам, уся дрыжала.

— Не пайду да таткі, дзеду. Баюся яго,— лепятала яна.

Калі Васіль быў «у норме», як ён казаў, дык тады хоць вузлы з яго вяжы, хоць прыкладай да раны. Стараўся дагадзіць, насіўся, быццам апантаны—рабіў усё пры доме. Цяпер Васіль якраз і быў у гэтай самай норме — выпіў трохі: пачаставала адна цярэніцкая маладзіца. Ён ёй падкінуў пару капіц сена з урочышча. Таму і прыпазніўся.

Асцярожна ступаючы на пальцы, Васіль прайшоў да баковачкі. Бацькаў твар у месячным святле бялеў на падушцы. Васіль спалохана прыслухаўся: падалося, што бацька памёр,— не дыхаў і ляжаў скурчаны пад коўдрай.

— Люба! Люба! — паклікаў Васіль.

Жонка прайшла нячутна па палавіку, з-за Васілёвай спіны трывожна зірнула на свёкара. Ён ляжаў ціха, надзіва маленькі — быццам падлетак. Люба ўзяла свёкраву руку, якая звесілася з ложка. Рука была лёгкая, як высахлая трасціна, і халаднаватая.

— Трэба, Вася, у гарадок па доктара,— павярнулася Люба да мужа.— Едзь па Дору Абрамаўну.

Васіль паглядзеў на Любу і ніякавата закруціўся на месцы.

— Ну, чаго ты?

— Разумееш, узяў я каліва ў Цярэнічах. Сена Сцепанідзе Клёўчысе прывозіў.

— Я ж чую: нясе ад цябе...

— Каб, чаго добрага, Бандарэнка не перастрэў. — У Васілёвым голасе была няпэўнасць. Відаць, хацелася, каб жонка падбадзёрыла, сказала, што не трэба баяцца аўтаінспектара — хіба будзе ён ноччу гойсаць па райцэнтры?

— Гора хадзячае! Едзь, кажу табе. У таты рука халодная, бы лёд.

Васіль сарваўся з месца і выскачыў на вуліцу. Чуваць было, як заводзіў машыну — пракручваў завадной рукаяткай матор, сам сабе лаяўся. Засвяціліся фары. Спачатку на сценах, потым па столі прабеглі палосы святла. Машына, пагуркваючы, развярнулася і паехала. Шум матора заціх у канцы вуліцы.

Люба прынесла з сянец конаўку вады, а потым прылегла ля дзяцей, каб быць бліжэй да свёкара. Ленка раскінула гарачыя рукі, соўгала нагамі — у малой трывожны, неспакойны сон. За занавескай чуваць было, як застагнаў свёкар, зацерабіў каля сябе рукамі. Люба паднялася, трывожна нахілілася над ложкам. Свёкар глядзеў перад сабой глыбока запалымі вачыма. Мусіць, прытомнасць вярталася да яго павольна — так паступова праяўляецца на фотаплёнцы здымак: спачатку вырысоўваюцца цьмяныя абрысы, пасля прадметы адлюстроўваюцца ясней, выразней. Перад Апанаскам была белая пляма, потым ён убачыў Любіны вочы. А пасля ўжо даляцеў з далечыні яе голас:

— Можа вам падаць чаго, тата?

Ён паварушыў вусамі — сіліўся сказаць і не мог. Люба падалася да свёкара тварам, паправіла коўдру.

— Васіль... Дзе?



— Ён паехаў па доктара. Па Дору Абрамаўну паехаў,— паўтарыла Люба, бачачы, што Апанаска няўцямна глядзіць на яе і не разумее.

На нейкі момант Апанаску падумалася: хоць у адным яму пашанцавала — з нявесткай. Не прападзе за Любай непуцёвы Васіль. Як бы парадавалася Куліна за такую нявестку! Ды не дачакалася, пакуль вярнуўся з далёкай Карэліі Васіль — хвароба за лічаныя дні загнала ў магілу.

Апанаска знямогла варухнуў галавой і зноў невідушчымі вачыма глядзеў на акно. Месячык павярнуў ужо, і цяпер святло яго засцілі вішні, што раслі ад вуліцы. На шыбах застылі трапяткія цені. Апанаску здавалася, што калі дажыве ён да той хвіліны, як сын прывязе Дору, тады можа працягне які дзень-другі — на большае неставала сіл.

І ён убачыў Дору Абрамаўну. У белым — аж сляпіла вочы — халаце з саквояжам. Але прыехала яна не да Апанаскі.

— Дзе парадзіха? — сурова запытала доктар.

— Там, там яна,— паказаў рукой за полаг Апанаска.

Ён уздыхнуў з палёгкай: раз прыехала Дора Абрамаўна, значыць, Куліна разродзіцца. Апанаску толькі цяпер прыйшло ў галаву, што гэта ж ён прывёз Дору з раённага гарадка, каб прыняла яго першынца. Дора схавалася за полагам, дзе ляжала Куліна, а Апанаска тупаў па двары, з трывогай прыслухоўваўся да незнаёмага, дзікага жончынага крыку. Мусіць, нялёгка ёй прыходзіцца.

А потым ён убачыў Пятра. Не маленькага Пятра, а ўжо сталага, у гадах. Сын запрасіў яго ў горад на наваселле. Адзін з пакояў вялікай сынавай кватэры выходзіў на пустку. Там сярод кучаў пабітай цэглы, друзу выглядвалі астраўкі лазы, травы, рос быльнёг. Сярод гэтага быльнягу кожны дзень хадзіла каза.

— Хочаш, бацька,— гаварыў Пятро,— жыві ў мяне. Гэты вось пакой тваім будзе.

Апанаска маўчаў. Ведаў: жыць у Пятра нізавошта не стане. Не таму, што не любіў фарсухі-нявесткі. Проста не прывык ён да гарадскога тлуму, жыць сярод камяніц, глядзець з чацвёртага паверха на пустку, на казу, што абрывае дробныя лісцікі з лазы.

— Рашайся, бацька,— дудзеў настойліва Пятро. — А твой дом прадамо. Навошта ён?

Апанаска павярнуўся да сына, нібы бачыў яго ўпершыню. Пятро палысеў, раздаўся ў плячах. З-пад піжамы выпіраў тугі, як гарбуз, жывот. Мусіць, няблага яму жылося — працаваў Пятро забеспячэнцам у нейкай водніцкай арганізацыі. Сын вельмі ж хутка прыстасаваўся да гарадскога жыцця. У Грамыкі ён прыязджаў рэдка. У апошні раз, здаецца, тады, як жаніўся Васіль.

— Дом, кажаш, прадаць? — перапытаў Апанаска.— А дзе ж Васіль з Любай жыць будуць?

— Дзівак ты, бацька,— разважаў Пятро.— Дом жа ты будаваў, пакуль насіла яго па Казахстану? Ты. Ды і я якую капейчыну табе на яго перакінуў. Васіля ў крыўду не дадуць: як шафёру выдзеляць гатовую кватэру.

Што праўда, то праўда: раз ці два Пятро грошы прысылаў. Прыслаў пасля таго, калі напісаў яму Васіль, што бацьку з райвыканкомаўскіх фондаў, як інваліду вайны, выдзелілі дахавае жалеза. Але ж трасцу купіў Апанаска за тыя грошы жалеза. Нямала і Любіны рукі

пашчыравалі на дом, дый Васіль — няма чаго грашыць,— калі на машыне стаў працаваць, дык падсабляў будавацца.

— Прадаваць дома не буду,— пасля працяглага маўчання гаварыў Лугавы.— У Васіля дзеці растуць — Толік, Ленка. А прыйдзе лета — Валя ж да цябе не паедзе?

— А чаго? Няхай едзе... Нешта за апошні час яна дужа заганарылася — вучонай стала. Калі праз Гомель едзе, дык ніколі носа не пакажа.

— Пра Валю так не гавары. Можа часу не выстарчыла ці вам лішняга клопату не хацела даваць...

І адразу, быццам яна дзе ў суседнім пакоі падслухоўвала, да іх заходзіла Пятрова жонка Святлана і ўмешвалася ў гутарку:

— Як жа, часу ёй не хапала! Мы ёй трэба былі толькі тады, як недзе было дзецца. А як закончыла сваю акадэмію, дык даўно пра нас забылася.

Апанаска разумеў: нявестка намякала на тое, як Валя жыла ў іх тыдзень, калі здавала экзамены ў чыгуначны інстытут. Тады яна не прайшла па конкурсе, вярнулася, засмучаная, дадому. Але не такая была яго Валя, каб доўга хадзіць з апушчанай галавой. Характар у малодшай дачкі быў роўны: з многімі яна сябравала, удалася яна і паставай у маці. Былі ў Валі такія ж густыя каштанавыя валасы, як і некалі ў маладой Куліны, глыбокія прамяністыя вочы з доўгімі вейкамі. Нешта каля года яна рабіла ў калгасе ўчотчыцай на ферме — запісвала надоенае малако такімі ж, як і Люба, даяркамі. А потым паехала паступаць у акадэмію. Дзякаваць богу, здала і закончыла. І працуе недзе за Мінскам. А як наведаецца ў Грамыкі летам, дык што тая мятла — і з граблямі, і з сярпом ад жанок не адстае, дарма што колькі гадоў над кнігамі прасядзела.

— Ты, Святлана, мне Валю не чапай,— гаварыў Апанаска нявестцы.— Яна свайго дабілася і ў вас поперак дарогі не стаіць. І ёй жа трэба, каб было куды летам прыехаць.

Нявестка пакрыўджана замаўкала і толькі ўсё ўздыхала ды моўчкі выцірала пыл з дарагога чэшскага серванта. Не мог у іх доўга бавіцца Апанаска. Аднойчы яго абрадавала, што прывязаная на пустыры каза адарвалася і, паматваючы галавой, памчалася за бліжнія дамы. За ёю подбегам нёсся, пераскокваў цераз бітую цэглу тоўсты мужчына з такой, як у Пятра, лысінай.

— Трасцу ты яе дагоніш! — высунуўшыся з акна, крыкнуў Лугавы.

Святлана спалохана зазірнула да яго ў пакой, але так і не зразумела, чаго развесяліўся свёкар...

...Апанаска яшчэ быццам бачыў, як сярод будаўнічага друзу цягнуўся за казой адарваны матузок вяроўкі з калком, а ўжо ў свядомасць уварвалася нешта другое, новае. На вуліцы зафыркала машына, на століі прапаўзлі цені ад асветленых фарамі сліў, вяргіняў. У сенцах затупалі, і адразу паднялася Люба.

Як да яго падыходзіла Дора Абрамаўна, Апанаска не бачыў: зноў праваліўся ў забыццё. Цяпер ён наўрад ці прызнаў бы ў распаўнелай жанчыне, на якой ледзь сыходзіўся халат, тую Дору, што некалі прымала яго першынца. Дора Абрамаўна падаткнула пасівелыя валасы пад накрухмаленую шапачку, выцягнула з нагруднай кішэні стэтаскоп. Яна доўга слухала Апанаскава сэрца, лічыла пульс. А перад ёю ў трывожным чаканні застылі Васіль з Любай.



— Даўно з ім так? — запыталася Дора Абрамаўна ў Любы (Васіля яна быццам не заўважала).

Люба сказала, што са свёкарам здарылася тое падвечар у лесе. А прывёз яго сусед Федзя. Урач дакорліва паківала галавой:

— Сэрца слабае. Зараз я зраблю ўкол, рацэпт выпішу. Але ў яго гадах,— толькі цяпер Дора Абрамаўна павярнулася і ўважліва паглядзела на Васіля,— самі разумееце... Ён і так малайчына.

Пасля таго як доктар зрабіла ўкол, Апанаска расплюшчыў вочы, няўцямна паглядзеў перад сабой. Але было відаць, што ні сына з Любай, ні Доры Абрамаўны, якая трымала яго за руку, не пазнае. Зноў у вушах аднекуль з глыбіні мозга нарадзіўся танюсенькі гук — быццам звінела балалаечная струна. Гук звінеў на адной ноце, як камар, што ўляцішь цёплай ноччу ў пакой і гудзе, гудзе над галавой.

Так звінела ў вушшу тады, каля Лазавой, як рванула бомба. Апанаска з другім нумарам бег, блытаючыся ў доўгім крыссі шыняля — нёс супрацьтанкавае ружжо. Вось-вось дабягуць яны да запасной пазіцыі. Каля прысыпанага свежым сняжком пагорка быў выкапаны на поўны рост акоп. Да яго вёў вузкі звілісты ход. Ногі напарніка — намнога маладзейшага за Апанаску татарына Ахмета — толькі мільгаюць перад вачыма. Камякі гразі са снегам адлятаюць ад Ахметавых ботаў, шлёпаюць пад ногі Апанаску.

— Быстрэй, атэц,— прыспешвае Ахмет.— Сычас бомбы брасаць будэ...

Нямецкі бамбардзіроўшчык з крыжамі на крылах нёсся проста на іх. Ён «прасаваў» акопы. Рабіў адзін за другім заходы — паліваў свінцом з кулямётаў. На брустверы ўзрываліся фантанчыкі з зямлі і снегу — здавалася, з неба біў касы град.

Да ячэйкі яны не дабеглі. Ад самалёта аддзялілася выцягнутая, падобная на чарнільную кляксу, кропка. Спачатку Лугавому здалося: бомба ўпадзе далёка ад іх, ён нават на хвіліну прыўзняўся, каб перавесці дых.

Перад пагоркам вырас слуп агню і зямлі. Магутная сіла вырвала з рук у Лугавога ружжо, а потым прыўзняла і з размаху гахнула аб зямлю яго самога. У вушы і ноздры наляпілася зямля ўперамешку са снегам. Зацяло дых. Ён толькі паспеў са здзіўленнем падумаць, адкуль сярод зімы паявілася столькі вос. Яны кружыліся роем, садзіліся на рукі, сляпіцай лезлі ў вочы. Потым цёмнае забыццё адагнала некуды вос, і ў вушах толькі застаўся нудны, бясконцы звон...

Калі Апанаска адкрыў вочы, у пакоі свяціла сонца. Аса білася крылцамі аб шкло. На двары голасна кукарэкаў певень. Леначка падкралася да дзеда і здзіўлена глядзела шэрымі, як у Любы, вачанятамі.

— Ты не памрэш, дзедка? — нахіліўшыся да яго, запытала Леначка.

Ён, заплюшчыўшы вочы, кіўнуў галавой. Якая ты разумніца, Ленка! Хто цяпер табе прынясе з лесу грыбкоў, вавёрачку, калючага вожыка?

Апанаска песціў малую. Калі паяўляліся ў бары, на сонечных угрэвах, духмяныя суніцы, прыносіў іх у трубцы, зробленай з кары маладой алешыны.

— Еш, малая,— падахвочваў Апанаска.— Чуеш, якім смачным лясным духам ад іх нясе?

Аднойчы прынёс Лене вожыка. Калі цямнела, той выбіраўся з кар-

тоннай скрынкі, дзе ўнучка зрабіла яму пасцель, тупацеў па пакоі, тыцкаўся лычыкам у сподак. Люба прывучыла яго піць сырадой.

Ленка пакруцілася нейкі час ля дзедавай пасцелі і пабегла на вуліцу. А калі ў наступны раз Апанаска расплюшчыў павекі, то ўбачыў Васіля. Сын корпаўся ў яго сумцы.

— Білет Сямёнаў на дровы недзе тут,— убачыўшы, што бацька глядзіць на яго, растлумачыў Васіль.

Апанаска паварушыў пальцамі — падазваў сына да сябе.

— Валю,— прасіпеў здушаным горлам,— і... і... Пятра... Тэлеграмай... Пабачыцца трэба...

Васіль сарваўся з месца, пакружыўся па пакоі — чагосьці не мог знайсці. Потым махнуў рукой і стаў выкачваць з сянец веласіпед — грукаў там.

Паволі надыходзіў вечар. Цені ад вяргіняў падаўжэлі, працягнуліся цераз увесь пакой. Некалькі разоў прыбягала Люба — садзілася каля свёкара на табурэт, папраўляла падушку. Яна адпрасілася, каб кароў падаіла заўтра другая даярка. Вярнуўся Васіль, сказаў, што даў тэлеграмы і Пятру ў Гомель, і Валі ў Негарэлае. Апанаска слухаў, але да яго свядомасці, відаць, не даходзіў сэнс таго, аб чым гаварылі. Шкрэбаючы кульгаваю нагою, прышкандыбаў дзед Дзяніс. Ён доўга аддыхваўся, пераводзіў позірк з Любы на Апанаску. Потым зручней прыладзіў крывую нагу, прысеў на табурэт.

— Што ж гэта ты, Апанаска, здаўся, брат,— загаварыў Дзяніс.— Ды яно, сказаць, з усякім бывае. Мяне вунь на мінулым тыдні так скруціў радзікуліт, што разагнуцца не мог. А ты яшчэ, дзякуй богу, нічога — у лесе, як малады, бегаеш. Яшчэ мы з табой, хлопец, яно, на Толікавым вяселлі па чарцы прыгубім. Так жа кажу, Толік?

Толік, зладзейкавата зыркнуўшы на старога Дзяніса, адпаласаваў з буханкі, што ляжала на стале, ладны акраец і вымеўся на вуліцу.

Апанаска з высілкам павярнуў да Дзяніса галаву, стомлена заплюшчыў вочы. І ўсе — Люба, Васіль і дзед Дзяніс убачылі, як зблажэў ён за ноч, высах, схудзеў.

— Не, Дзяніс,— ледзь чутна, аддыхваючыся, з натугай гаварыў Лугавы.— Не працягну. Не жылец я...

Люба ўсхліпнула, закрыўшы твар гарусоўкай. На яе прыкрыкнуў Васіль. Ён павярнуўся да бацькі — такі ж маленькі, шчуплаваты, як натапыраны верабей.

— Заладзіў адно: не жылец, не жылец,— нахмурыўся ён.— Я лякарствы прывёз — тыя, што Дора Абрамаўна выпісала. Маладзец, кажа, твой бацька. Ён і не такі сардэчны прыступ пераажыве.

— Ты, яно, трымайся, Апанасе,— загудзеў у бараду Дзяніс.— Хвароба да тых ліпне, хто ў пасцелі любіць вылежвацца. А ты ж — усё на нагах. Колькі аднаго лесу панасадзіў...

З вуліцы прытэпала Ленка. Яна прытулілася льняной галоўкай да маткі і з-пад ілба паглядвала на дзеда: чаго гэта ён цалюткі дзень ляжыць, нават есці не просіць?

— То я, Любка, пайду,— падняўся Дзяніс.— Нешта паясніца, як чужая ўсё роўна. А заўтра, яно, праведаю — прыграбуся адно.

Люба правяла Дзяніса на ганак і, баязліва азіраючыся на дзверы, зашаптала:

— Баюся я, дзедачка. Не дажыве бацька да раніцы: учора з ночы Жук жаласна скуголіў. Падыме пысу на месячык і завывае...

Дзяніс паскуб бараду, пераступіў з нагі на нагу і сказаў:

— Яно, дзеўка, так. Можа к дабру, а мо і к няшчасцю...



І адразу ж, як нейкая навалач: прымроілася Лугавому, як прыходзіла да яго Хадоска. Жыла яна ў другім канцы Грамыкаў — туды, к лесу. Прасторная хата пад шыферам хавалася ў засені густых ліп.

— Апанаска, мой татка,— прасіла Хадоска, адкідваючы з ілба пасму рэдзенькіх, пасечаных валасоў.— Зайшоў бы ты да нас. Зноў мой дурань нявестку з дому выганяе.

Апанаска ведаў: мусіць, добра разбушаваўся Хадосчын Пятро, калі маці не пасаромелася пайсці па яго.

— От жа ў людзей дзеці, як дзеці,— уздыхала Хадоска.— А мяне шчасцем бог абмінуў.

Яна ціхенька прысела ля сцяны на табурэце і трывожнымі вачыма сачыла за Апанаскам. А ён глядзеў у акно і думаў, што сапраўды шчасце не аднолькавае для ўсіх. На тое яно і жыццё, каб розным быць.

— Цябе ён паслухае,— між тым гаварыла Хадоска.— Усё ж такі ты — дэпутат наш.

Апанаска ўсміхнуўся. Некалькі гадоў запар яго выбіралі дэпутатам у сельскі Савет. Відаць, аднавяскоўцы наіўна верылі, што ён, Апанаска, многае можа. Прыйшла вось Хадоска, каб паўшчуваў ён яе бэйбуса. У які гэта раз ён ідзе да яе, Хадоскі? Лічы, у трэці раз. Лугавы трохі падумаў і павярнуўся да дзвярэй.

— Ладна,— сказаў ён.— Так таму і быць, Хадоска. У апошні раз пайду да Пятра. А калі словы мае не памогуць — у народны суд справу аформім. У Светлагорск Пятра адправім лячыцца: гарэлка да дабра не давядзе...

А сам міжвольна падумаў пра свайго Васіля: людзям то ты радзіш, а што ўласны сын такі ўдаўся, хто таму віною?

— Ой, Апанаска! — спалохалася Хадоска.— Толькі не трэба тых праклятых судоў. Ці ж ён не чалавек? Адумаецца, за розум возьмецца. Ты толькі пагавары з ім, мой татка...

Ліпы з вялікімі шатрастымі кронамі цвілі. Мядовы пах ад іх даносіўся аж да палавіны вёскі. У цвеце працавіта, зладжана гулі пчолы. На лавачцы ля Хадосчынай хаты сядзела нявестка Каця. Яна, як і Люба, рабіла даяркай. Белая хустка насунута на лоб. Жанчына сарамліва апусціла галаву, калі перад ёю спыніўся Лугавы.

— Ты, Каця, не была сёння на ферме? — запытаўся Апанаска.

— Ой, дзядзечка! — раптам заплакала Каця.— Не была. Пасварылася з Пятром.

Кацproperties плечы, абцягнутыя старэнькай кофтай, трэсліся. Яна яшчэ ніжэй апусціла галаву і пагладжвала далоняй лавачку.

— Пайшлі, Хадоска, у хату,— рашыў Апанаска.

А калі ён гаварыў з Пятром — нягоненыя шчокі ў таго пакрыліся рудаватай шчаціннай,— дык сам сабе дзівіўся, як ніякавата адчувае перад ім гэты здаравенны дзяцюк.

— Зразумей ты, садовая галава,— гаварыў Лугавы.— Ці ж лёгка вось ёй, маці, ісці па мяне, каб разбірацца тут з вашымі справамі?..

— Калі ж яна, дзядзька Апанас, з Ахвіцэравым Федзем усё хвастом круціць.

— А ты бачыў тое? Хто табе казаў?

— Казалі...— Пятро часта заморгаў вачыма, надзьмуў губы, як пакрыўджанае дзіця.— Зямля слухамі поўніцца.

— Не слухай, мой татка,— панізіла голас Хадоска, баязліва азіраючыся на дзверы.— Добрая дзеўка. Ніхто благога слова пра яе не скажа. А гэты соўсень залле вочы гарэлкай і слова Каці потым з чужым чалавекам сказаць не дасць. Раўнуе...

...І яшчэ чамусьці ўсплыло ў Апанаскавай памяці.

Вялікая зала драматычнага тэатра ў абласным горадзе. Прыгожая люстра вісіць пад высокай столлю. Святло агеньчыкамі блішчыць, пераліваецца ў мудрагелістых вісюльках. Крэслы мяккія, абабіты плюшам.

Здаецца, то была вялікая нарада па ахове прыроды. І яго, Апанаску, запрасілі. З іхняга лясніцтва толькі і прыехалі ён ды ляснічы Мацвей Трафімавіч.

— Вам, Лугавы, трэба абавязкова выступіць,— перад пачаткам нарады гаварыў яму ляснічы.— Раскажыце, як лес садзілі, як вырас той лес. Людзі ж па грыбы ўжо ў яго ходзяць.

— Што вы, Трафімавіч! — захваляваўся Апанаска.— Не ўмею я складна гаварыць. Наблытаю, чаго добрага.

— Скажыце, як умееце. Я вось тут накідаў вам,— падаў ляснічы паперу.

Апанаска сядзеў у прэзідыуме і з цікавасцю прыглядаўся да суседзяў. Аказваецца, вось гэты з сівой чупрынай — ужо ў гадах чалавек—дырэктар навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі. Гэта ж тымі машынамі, што сканструявалі ў іхнім інстытуце, Лугавы лес садзіў. А вунь той, тоўсты, у акулярах — па меліярацыі галоўны. І яшчэ вельмі здзівіла Апанаску, калі ў зале тэатра ён убачыў Хадосчынага Пятра.

Пятро апрануў новенькі касцюм, нейлонавую кашулю, завязаў адмысловага колеру гальштук.

— І ты тут? — запытаўся Лугавы.

— А як жа, дзядзька Апанас. Трэба і меліярацыю з розумам праводзіць. У нас вунь буслы перасталі вясціся.

Лугавы ведаў, што ў апошні час Пятро пачаў працаваць у нейкім асушальным атрадзе. «За розум хлопец узяўся,— задаволена падумаў Апанаска.— Добра, што я тады паверыў яму, не стаў справу ў народны суд афармляць...»

Апанаска ўсё трывожыўся, што яго прозвішча могуць назваць сярод выступаючых. Ён разглядваў паперу, якую даў яму Мацвей Трафімавіч, углядаўся ў літары, надрукаваныя на машынцы — мусіць, машыністка ў лясніцтве цэлую гадзіну ляскала — і ўсё чакаў: вось-вось скажуць: «Наступным будзе выступаць таварыш Лугавы». Не, дзякаваць богу, пранесла. Жадаючых выступіць набралася столькі, што калі б усім давалі слова, дык і к вечару не закончылі б тую нараду. Але Лугавога радавала: гаварылі ўсе дзелавіта, з розумам. І праўда: прырода — яна, браце, не любіць, калі да яе абыякава ставішся. «Трэба б і ў школах часцей бываць,— падумаў Апанаска, паглядваючы на сівога дырэктара інстытута.— Такім неслухам, як Толік, трэба дзяўбці і дзяўбці, каб птушак не крыўдзілі, мурашнікаў, паганцы, не разбуралі...»

Чамусьці прыпомнілася, як аднойчы павёў яго Пятро, калі Апанаска гасцяваў у старэйшага сына, у гарадскі парк.

Пад высокімі выносістымі клёнамі пасля дажджоў спорна расла трава. На схілах пагоркаў, у цяню, буяла крапіва. Два цыбатыя юнакі, узяўшы ў далоні па газеціне, асцярожна, каб не паджыгаць рукі, рвалі яе і складалі ў газету.

— Навошта гэта яны? — здзівіўся Апанаска.

— Ат. Няма чаго рабіць,— неахвотна адказаў сын і прыгладзіў лысіну, якая паспела ўжо загарэць.— Кажуць: адварам з крапівы добра валасы мыць.

На гушкалках гулялі дзеці. Пенсіянеры, забыўшыся пра ўсё на свеце, забівалі за доўгім сталом «казла». Тут трава была скошана — ляжала ў рэдзенькіх касмыляватых валках. Пахла звялымі краскамі, гаркава пяршыла ў горле — сена ўжо добра прасохла. Пятро спыніўся.

— Пачакай, бацька,— папрасіў ён.— Чуеш, як хораша пахне?

Пятро не вытрымаў. Азірнуўшыся па баках, ён па-змоўніцку падміргнуў бацьку, ступіў з вузенькай сцежкі, якіх нямала было ў парку, і ўзяў жменю духмянага сенца.

Сена было не лугавое і не палявое: відаць, у парку падсявалі траву. Сярод мятліку траплялiся часам тугія сцяблінкі цімафееўкі і галоўкі чырвонай канюшыны. Лугавы пераціраў на далонях засохлыя сцяблінкі, лісцікі і думаў, што Пятро, лічы, даўно стаў гараджанінам. Ці чуў ён хоць раз, як на грачанішчы, туды, за Цярэнічы, у ясныя асеннія дні, калі сонца аддавала ўсё сваё апошняе цяпло прыціхшай зямлі, пераклікаюцца жураўлі? Калі Апанаска неяк быў у абходзе, ён не вытрымаў: рашыў непрыкметна падкрасціся да асцярожных птахаў — паглядзець на іх зблізку. Не змог. Мусіць, важак заўважыў чалавека здалёк: невялічкая чародка ўзнялася над полем і знікла за асмужанымі палямі.

Лугавы глядзеў на Пятра, і ён чамусьці здаваўся бацьку старэйшы на свае гады. Рэдзенькія валасы старанна прычэсвае, каб не так прасвечвала лысіна, пад вачыма вунь сiняватыя кругі. Ад чаго б то? Здаецца, і не напінаецца вельмі сын на гарадской рабоце. Апанаска глядзеў на яго і ў душы шкадаваў, хоць ведаў, што жыве ён, можа, у многа разоў лепей і за Васіля з Любай, і за яго, Лугавога. Чуў, як Пятро са Святланай прыкідвалі, ці не купіць ім на будучы год «Масквіча».

А Пятро ўсё нюхаў шматок падабранага сена — пахла яно дзяцелінай, мятлікам і, здавалася, нават завялымі смолкамі, хоць тут яны не раслі...

За далёкімі зазубрынамі бору садзілася сонца. З поля прыгналі чараду. У паветры доўга яшчэ вісеў пыл. Апанаска то правальваўся ў забыццё, то ці трызніў, ці сапраўды бачыў, як Толік выцягнуў з-за бажніцы скрыначку і прымерваў яго медалі. А калі Лугавы прыгледзеўся, дык зразумеў: ніякі гэта не Толік. Перад ім то расплываўся, быццам у тумане, то быў ясна відаць пабіты рабаціннем твар палкоўніка Бацюка.

— Малайчына, сержант,— гаварыў Бацюк, прышпільваючы на Апанасаву ватоўку медаль.— Так іх, гадаў, трэба лупіць.

А Лугавы намагаўся прыўзняць да шапкі руку і не мог — знямела, стала цяжкая, быццам чыгунная, рука і вісела нежывой. Ведаў Апанаска, што палкоўнік уручае медаль за падбіты ім, Лугавым, танк. Ён, відаць, пацэліў браніраванай пачвары ў бензабак: з танка пасля таго, як на ім заскакалі спачатку ледзь прыкметныя языкі агню, выбухнула полымя. Цяжкі люк вежы сарвала ўзрывам.

Усюды плаваў шызы дым. Смурод несла ў іхні акоп. Было цяжка дыхаць. Лугавы ж толькі пакутліва думаў, як ён адказырае Бацюку, як прыстукне валёнкамі і цвёрда адкажа:

— Служу Савецкаму Саюзу!..

Люба раскінула на падлозе брызент — паслала сабе і Васілю, каб быць бліжэй да свёкара. У куце цьмяна блішчэў начнічок: вялікага святла не запальвалі.

Нявестка часта падымалася. Падыходзіла да свёкаравай баковачкі, услухоўвалася ў ледзь чутнае дыханне. На дварэ зноў завыў Жук. Васіль падхапіўся, пачаў нацягваць боты.

— Пайду праганю ваўкарэзіну,— сказаў ён.— Спаць цяпер не дасць.

Жук сядзеў каля хлява і, прыўзняўшы галаву ў шэрае, зацягнутае хмарамі неба, сумна падвываў, быццам скардзіўся на свой сабачы лёс.

— Гэць, нягоднік! — замахнуўся на яго палкай Васіль.

Сабака падціснуў хвост і патрусіў у бульбоўнік. Васіль трохі пастаяў на вуліцы, зябка захутваючы на грудзях ватоўку. Было золка. Сланечнік хаваўся ў тумане, што наплываў ад поплава на агарод.

«Не працягне бацька больш дня»,— падумаў Васіль і адчуў, што на вачах закіпелі слёзы.

Успомніў, як ехаў ён аднойчы на луг. Тады бацька яшчэ не працаваў у лесе. Гняды ляніва трухаў, адмахваўся ад сляпнёў. На калёсах ляжаў вялікі закураны кацёл, вядро і пагнуты чарпак — бацьку прызначылі варыць у калгасе касцам на лузе абед.

Калі пачалі ўзводзіць гнядога на паром, ён спалохана застрыг вушамі, скасавурыў вокам на ваду, пачаў упірацца — нізавошта не хацеў ісці на хісткія дошкі. Бацька пяшчотна гладзіў каня, трымаў за аброць, ціха ўшчуваў:

— Ну, чаго ты, дзівак? Не трэба баяцца. Ідзі спакойна за мной і не дрыжы так.

Каб памагчы бацьку, Васіль замахнуўся на гнядога пугай. Бацька злосна накінуўся на яго, быццам Васіль зрабіў немаведама што:

— Пакладзі пугу! Жывёліна неразумная. Чаго ты ад яе хочаш? Відаць, ніколі не прыходзілася перапраўляцца яму цераз раку — вось і баіцца — аж прысядае, бядак.

Гняды ўсхрыпваў, напінаў повад, але патроху падаваўся за Апанаскам. А за канём ускочваліся на паром і калёсы з катлом. Заспаны паромшчык з пацярухай у нячэсаных валасах параіў бацьку:

— Ты яму, дурню, вочы брылем прыкрый. Няхай думае: у канюшню вядуць...

Колькі і помніць Васіль сябе, бацьку ў вёсцы звалі двухжыльным. Калі надыходзіла ранняй вясной бяскорміца, ён перабываў не адзін раз у кожным грамыцкім двары, а потым раскрываў уласны хлеў — рабіў сечку, каб працягнулі які тыдзень да першай травы арцельныя каровы. Пятро незадаволена бурчэў, што начальства не скажа бацьку «дзякуй» за яго дабрату і стараннe. А яму і праўда ніколі не казалі цёплага слова за тое, што не ашчаджаў ён сябе. Мусіць, прывыклі: Апанаска Лугавы, дзе ні працаваў, дык добрую памяць пасля сябе пакідаў.

Неба трохі праяснела — забялела над галавой шырокая паласа Млечнага Шляху. З вышыні падалі на сонную зямлю, на вёску, на пожні тужлівыя крыкі. Васіль прыўзняў галаву. У вырай ляцелі гусі. Каб не адсталі слабейшыя ў ланцугу, вопытны важак, у якога былі дужэйшыя крылы, падаваў голас.

Світанне набліжалася павольна: праз вокны скупа працэджвалася святло, выразней даносіліся гукі. Здаецца, толькі звяла вочы Люба, як яе нібы хто падштурхнуў пад руку. Яна ўмомант падхапілася, зірнула на свёкараў ложак. Рука старога звесілася да самай падлогі. Ляжаў ён тварам да сцяны. Адчуваючы нядобрае, Люба дакранулася да рукі — была яна халодная, як лёд.



— Ой, няма нашага татачкі! — зайшлася ў гучным плачы Люба.

Ускочыў Васіль, пачаў надзяваць штаны і ўсё ніяк не мог патрапіць нагой у калашыну. Апанаска ў апошнія свае хвіліны павярнуўся тварам да сцяны, каб ніхто не бачыў, як сканае ён.

Пад дзвярыма драпаўся Жук. Прачнулася Ленка. Дзяўчынка працірала бруднымі кулачкамі вочы і румзала. А Толік пераводзіў недаўменны позірк з маці на бацьку: думаў, што яны бачылі, як выцягнуў ён дзедавы медалі і забыўся іх пакласці за бажніцу.

Паволі праяснiўся дзень. Сонца сагнала рэшткі туману. На бурачным бацвінні блішчэла раса. Певень вывеў курэй з двара. Вось ён гучна залопаў крыламі — узляцеў на тын і звонка закукарэкаў. Пад вільчыкам запішчэлі вераб'і. Кот настабурчыў поўсць — недзе бадзяўся, бяздомнік, усю ноч і цяпер цёрся аб Любіны ногі — чакаў, каб упусцілі пагрэцца.

А потым зарыпеў журавель, закруціўся калаўрот. У глыбокі калодзеж — у Грамыках капалі глыбокія,— раскручваючы ланцуг, палящела драўляная бадзейка. Леначка асцярожна апусціла на падлогу адну, затым другую нагу. Папраўіла на сабе майку і патэпала да дзедавага ложка. Яна доўга стаяла перад ложкам, прыклаўшы да вуснаў пальчык. Дзіця было ўражана першай у яго жыцці смерцю. Дзед ляжаў зусім незнаёмы — з жаўтаватым тварам, рэдзенькімі вусамі. Дзяўчынка адыходзіла крок за крокам назад, да дзвярэй, а сама ўсё глядзела на дзедаў ложак. Відаць, пакутліва намагалася зразумець і ўсё не магла — адбылося нешта незвычайнае, а вось што — спасцігнуць пакуль яе дзіцячаму розуму было цяжка.

А ў гэты час Васіль стаяў у доме крамніцы Нінкі і ўсё паўтараў:

— Ведаеш, паднялася раніцай мая — бацька ўжо халодны. Я вось да цябе. Дай душу разагрэць — не магу дадому ісці.

Нінка — чарнявая, сярэдніх гадоў жанчына — мыла над вядром рукі. За грубкай спала дачка — лічы ўжо, нявеста. Мужа Нінка прагнала гады два назад за тое, што, як яна казала, любіў на чужым карку ехаць у рай.

На Нінцы — прыгожы квяцісты сарафан. На поўных прыгожых руках — ямачкі. Адчуваючы, што Васіль усё ж любуецца яе мажнай постаццю, яна какетліва гаварыла:

— Не бяры моцна да сэрца, Васілёк. Усе там будзем. Адзін раней, другі пазней. Твой бацька хоць аджыў сваё — патупаў многа па свеце... Колькі яму было? — выціраючыся ручніком, запыталася ў Васіля.

— Да сёмага дзесятка не дабраў.

— Ну, от. А мы з табой не дажывем да яго гадоў. У мяне дык і цяпер часам нервы так расходзяцца, што хоць уголас крычы. А ці ж пачуе хто цябе?

«Ведаю, якія цябе непакояць нервы»,— падумаў Васіль. Яму ўспомнілася, як аднойчы прывозіў у краму з гарадка тавары. А пасля сядзеў вечарам у нінчынай хаце і, п'янеючы не столькі ад выпітай гарэлкі, колькі ад гарачага нінчынага дыхання, слухаў, як яна шаптала: «Васілёчак, галубок мой. Ці ж цябе так трэба кахаць, як Люба?..»

— ...У краму я не пайду: рана яшчэ,— расціраючы махрыстым ручніком твар і выпеставаную шыю, гаварыла Нінка.— Дома ёсць... Можа табе тут наліць?

— Не,— падхапіўся Васіль.— Заскочу да Федзі, каб, ведаеш, душу адратаваць...



Калі ён подбегам спяшаўся праз двор, Нінка задуменна сачыла за ім з акна. У губах трымала прыколкі ад рассыпаных па спіне валасоў.

Пасля першай шклянкі ў Федзі Васіль адчуў, што на вочы зноў нагортваюцца слёзы. На стале стаяла міса з салёнымі агуркамі, на талерцы ляжалі нарэзаныя ружаватыя скрылікі сала. Федзеў бацька Сямён звесіў з печы худыя ногі — яму нездаровілася — і раз-пораз уздыхаў.

— Прачнулася раніцай Люба,— расказваў Васіль Федзю,— а бацька ўжо нежывы. Адляцела душа, быццам і не было яе.

— Не кажы. Гэта ж як вёз я твайго старога з валісапетам той ноччу, дык як што цюкнула мне: сядзіць ён, бедны, у задку калёс. Адны лапаткі тырчаць. І як усё роўна не чуе, пра што расказваю...

Стары Сямён пашкроб спіну, перахрысціўся і прасіпеў з печы:

— Надарваўся на рабоце Апанаска. Мог бы цягнуць яшчэ, як той карэннік...

— Думайце, што кажаце, дзядзька,— пакрыўдзіўся Васіль.— Дзе гэта бацька надарваўся? Рабіў, як усе робім. Не сказаць, каб надрываў сябе ў абходзе. Праўда, і абход не маленькі — пяцьсот гектараў...

— Там яшчэ я яму білет свой на парубку даў,— напомніў Сямён.— Дровы дрэнь — тапорнік. Ды зіма і яго падбярэ...

— Я тэлеграму Пятру і Валі адбіў,— гаварыў Федзю Васіль.— Як думаеш, сёння прыедуць?

— Ну, Валя можа сёння і не паспее. А Пятро прыляціць, ён такі...

Які Пятро, Федзя не дагаварыў — гэта павінны былі і так разумець тыя, хто яго слухаў. Ён зайздросціў Пятровай чыстай рабоце ў горадзе і новай кватэры, у якую той нядаўна перабраўся. Зайздросціў, што ў Пятра прыгожая, разбітная жонка Святлана. Казалі: яна ў атэлье працуе. На Васілёва вяселле прыязджала, як якая краля — расфуфыраная, у моднай сукенцы.

— Хе. Пецця бацьку канечне ж прыедзе правесці,— згадзіўся і стары з печы.

Калі Васіль прыйшоў дадому, бацька ляжаў ужо на канапе галавой на покуць. Ля бажніцы цьмяна тлела лампада. Хоць Апанаска і не верыў у бога, але ж хаваць рашылі так, як людзей яго веку. Перад ім сядзелі маўклівыя бабулькі ў цёмных хустках. Адзін за другім заходзілі аднавяскоўцы. Пакрэктваючы, зноў прышкандыбаў Дзяніс. Ён доўга хрысціўся на абраз, нешта шаптаў сам сабе, а потым падышоў да канапы.

— Адтупаў ты сваё, Апанаска. Усяго было — і добрага, і благога. І рукі твае перарабілі нямала. Перадай там куме Куліне: і я неўзабаве выберуся ў тваю дарогу.

Каля галавы свёкара сядзела ў цёмнай сукенцы Люба з Леначкай на руках. Яна паціху пакалыхвала малую і гаварыла:

— Пайшоў ад цябе дзядуня, дачушка. Не прынясе ўжо больш залатых арэхаў і пахучых сыраежак, не пакажа птушанят у цёплым гняздзечку...

Леначка цёрлася светлавалосай галоўкай аб матчына плячо і з цікавасцю разглядала Дзянісаву кульбу. На канцы яе быў убіты завостраны цвік, а зверху, калі стары знімаў далоню, віднелася вытачаная балабешка. «Вось бы Толіку такую палку,— думала Леначка.— Тады ён быў бы ўсё роўна, як дзед Дзяніс». Толік часта любіў перадражніваць старога, нават налаўчыўся і накульгваць якраз, як Дзяніс.

Прыехалі на матацыклах два маладыя леснікі. Яны чулі тады, як

ляснічы пасылаў Апанаску спаліць галлё ў восьмы квартал... Леснікі адазвалі Васіля ў трысцен і загаварылі:

— Тут Мацвей Трафімавіч трохі грошай выдзеліў. Ды і самі скінуліся — трэба ж правесці чалавека як належыць... Вы яго па-новаму ці па-старому хаваць будзеце?

— Старыя рашылі па-свойму,— збянтэжыўшыся, адказаў Васіль.— Без папа, канечне.

Рыжы ляснік са шрамам на шчацэ сказаў:

— Дарогай добры дубок прыгледзелі. Крыж з яго сто гадоў прастаіць.

— Дзякуй, браткі. Я скажу Федзю, каб з хлопцамі адскочыў у лес.

— Навошта Федзю? — запярэчыў рыжы.— Падганяй машыну: піла з намі. Умомант і зрэжам — будзе ўсё чын чынам.

Люба пасылала Толіка з хаты паглядзець, ці не едзе Пятро з Валяй. Думалі, што да раённага цэнтра дабірацца яны будуць разам — «Ракетай». Але мінуў поўдзень, калі звычайна цеплаход праходзіў на Кіеў, а іх не было.

— Мусіць, яны заўтра, Любачка, прыедуць,— гаварыў Дзяніс.— Гэта як чакаем, дык здаецца, што можна на крыллях прыляцець. А дарога ж доўгая...

І вось зноў ціхі вечар заглядвае ў вокны дома. Зарыкала нядоеная карова. Пацягнуўся ў будку з калючкамі ў поўсці Жук. Кот саскочыў з печы, соладка пацягнуўся і заняў сваё звыклае месца ля хлява — чакаў, калі бразне Люда даёнкай.

Каля Апанаскі засталіся сядзець старэйшыя кабеты ды мужчыны. Стомленая бессанню, прыдрамала на ложку Люба. Але падхапілася, бы ў кожным воку не было і сну, калі на вуліцы загула машына.

Прыехаў з леснікамі Васіль. Ён прывёз не толькі дубок, а і дошкі з Цярэніч на дамавіну. У іх на складзе ў калгасе якраз былі дошкі. Ды і то сказаць — свая ж піларама.

Зносячы ў двор з машыны дошкі, Васіль сказаў Федзю:

— Мінулай ноччу нешта не спалася. Я ў двор выйшаў. А гусі, брат, так жаласна крычалі — у вырай якраз ляцяць.

Федзя нічога не адказаў. Ён думаў, што вось і сёння не прывёз капіцу ўкошанай атавы. І яшчэ думаў: трэба неяк напомніць Васілю пра той праклняты білет, што бацька аддаваў Апанаску. Але ж і заводзіць гаворку аб дрывах цяпер было нязручна. І ён толькі шпурляў адну за другой дошкі да будкі, у якой прытаіўся Жук.

Люба прылегла на палку ў трысцене і думала: заўтра клапатлівы будзе дзень. Трэба не толькі правесці свёкара. Пасля будуць памінкі. А каму ахвота, каб абгаворвалі? Не, яны правядуць бацьку не горш за людзей. Трэба не забыцца Васіля паслаць да Нінкі ў краму па гарэлку. Шкада, што няма пакуль Пятра і Валі...

Пятро з Валяй прыехалі, як сонца ўжо высока паднялося над Грамыкамі. Да дома падкаціла таксі. З яго выскачыла танклявая дзяўчына ў цёмным касцюмчыку. Потым выбраўся Пятро, а пасля ўжо адчыніла дзверцы і паказала стройныя, як у маладой, ногі Пятрова жонка Святлана.

Пакуль Пятро разлічваўся з шафёрам, Святлана цярпліва стаяла каля машыны і паглядвала на чырвоны дах дома, на які ўзбіраўся дзікі вінаград. А Валя як выскачыла з таксі, дык і паляцела паўз людзей да ганка — у дом, дзе ляжаў бацька.

Людзі расступіліся. Жанчыны сурова падціснулі вусны, пераглянуліся, калі Валя прыпала да бацькавых грудзей, загаласіла:



А мой жа ты татачка!
А на каго ж ты нас пакінуў?

Валасы рассыпаліся ў Валі. З пачырванелых вачэй ліліся слёзы. Яна абхапіла за шыю Любу, і абедзве зноў зайшліся ў плачы. Валя любіла братавую, як родную сястру. Люба — не тое, што Святлана. У яе і хітрасці, і прагнасці няма. Яна і сустрэне, бывала, Валю ўсё роўна, бы маці, і ў дарогу правядзе, і паспачувае твайму гору.

У пакой зайшлі Пятро са Святланай. Пятро разгублена выціраў хусцінкай лысіну і ўсё паўтараў:

— Ах, бацька, бацька... Хто б падумаў?!

На яго і Святлану жанчыны таксама кідалі адна за другой позіркі. Хадоска нахілілася і шапнула кабеце, што сядзела поруч:

— Бач, прыбралася. Як у які ціятр прыехала, бессаромная.

На Святлане сапраўды была караткаватая для яе гадоў сукенка. Але ці ж стане яна апранаць такую, што падолам тратуар замятае? Усё-такі жыве ў горадзе, дзяцей няма. То чаму б і не справіць сабе што мадней...

— Эх, бацька, бацька,— уздыхаў Пятро.

Васіль стаяў у двары, безуважліва глядзеў, як мужчыны габлявалі дошкі. Распараджаўся рыжаваты ляснік са шрамам. І дзіўна: цяпер Васіль быццам і не адчуваў сябе гаспадаром у родным доме. Ляснік сам адшукаў у клеці цвікі, малаток. Сам зняў мерку з нябожчыка.

«Ладную дамоўку змайструем дзядзьку Лугавому»,— забіваючы цвікі ў дошкі, гаварыў ён.

Павольна разгараўся дзень. Загудзелі пчолы ў дробных кветачках «бабінага лета» — шчыравалі за апошнім узяткам. Куст яго разросся ў гародчыку і аж глушыў вяргіні, што звешвалі кветкі цераз штакетнік. Кусцік «бабінага лета» некалі пасадзіла маці, як Васіль быў маленькім.

Выбегла з хаты заплаканая Валя.

— Асірацелі мы з табой, братка,— уткнулася яна ў Васілёва плячо.

Труну абабілі чырвоным сацінам. Яго прывезла з сабой Святлана. Мільгаючы іголкай, яна шыла з гэтага ж саціну маленькую наўлечку.

— Напхаем стружак,— гаварыла яна рыжаму лесніку.— Мяккая будзе падушачка бацьку.

Валя глядзела затуманеным позіркам, як лоўка лятаюць над тканінай святланіны рукі, і адчувала: не можа спакойна бачыць яна і гэтых рук, і гэтай жанчыны, што рыхтуе бацьку падушку для яго вечнага сну. Валя адышлася да паркана. Прыхілілася да сукаватага камля старой вішні — бацька шкадаваў яе зрэзаць — і плакала доўга адна.

У Гомель яна прыляцела з Мінска самалётам. У той жа дзень, як атрымала тэлеграму. І адразу прыехала да Пятра — удваіх зручней дабірацца.

— І я паеду,— рашыла раптам Святлана.

Валя прымірылася з непазбежным — няхай едзе. Практычная Святлана дастала недзе стос чырвонай тканіны, каб абабіць труну. Сама купіла для бацькі танны касцюм, тапачкі.

— Трэба, каб усё новае было,— гаварыла Святлана, калі дабіраліся яны на таксі прамым шляхам да Дняпра.

Калі звярнулі з асфальта шашы на дарогу, у адным месцы машына забуксавала. Шафёр, Валя і Пятро насілі і звальвалі пад заднія колы сухое галлё, каменне. А Святлана толькі выбралася з машыны.

Каб не набраць пяску ў басаножкі, стаяла на цвярдзейшым месцы і раіла:

— Ты б, Пеця, якое таўсцейшае бярвенца адшукаў...

— Ну і жоначка ў цябе,— упікнула брата Валя.— Калі б ёй далі волю, яна і дарожным міністэрствам кіравала б...

— Не заядайся,— агрызнуўся Пятро, навальваючы вялікую кучу галля.— Якая ні ёсць, ды мая. А ты вось нешта за сваім доўга не красавала.

Пятро намякнуў, што Валя з Косцем пажылі ўсяго паўгода і разышліся. Валя адчула, як заліўся чырванню твар. Яна падхапіла галлё і хуценька панесла да машыны, дзе завіхаўся шафёр.

Яны і прыпазніліся таму ў Грамыкі, што машына доўга не магла выбрацца з глыбокай пясчанай калдобіны. Калі пераехалі на пароме на гэты бок Дняпра, Пятро выцер пот з лысіны і ўслых падумаў:

— Цікава, ці перапісаў стары дом на Васіля?

Валя маўчала — адчувала: калі загаворыць, то выкажа ўсё, што набалела на сэрцы. Выкажа і брату, і яго жонцы.

Валя апомнілася тады, калі бацьку выносілі з хаты.

Адна з кабетаў сыпанула перад людзьмі жменю жыта. Зноў чулася галашэнне і ўсхліпы. Валя ішла поруч з Любай за адкрытым бортам машыны. Аўтамашына то ехала марудна — ледзь-ледзь сунулася, то рыўком — прыбаўляла хуткасць.

Далёка, аж да крайніх хатаў, расцягнулася працэсія. Ішлі леснікі ў форменных фрэнчах. Паволі крочыў, апусціўшы пасівелую галаву, Мацвей Трафімавіч.

Ззялі на сонцы трубы. Глуха бухаў у такт жалобнай мелодыі бубен. А Валі здавалася ўсё гэта лішнім, непатрэбным.

Ціха шумелі хвоі на грамыцкіх могілках. Кара на іхніх ствалах аблупілася, парэзы зацягнула смалой...

Пасля таго, калі кожны з іх, дарослых бацькавых дзяцей, дакрануўся вуснамі да нежывога, халоднага апанасавага лба і труну апусцілі ў магілу, Валя сыпанула жменю жвіру на вечка труны.

Яна не стала чакаць астатніх. Узяла за руку Ленку і ў ціхім одуме пайшла ў вёску. Трэба было памагчы братавай і жанчынам управіцца, пакуль не пачнуцца памінкі.

Стаяў ясны асенні дзень. У верасе звінелі пчолы. Над іржышчам лёталі вароны. Яно трохі пацямнела ад нядаўніх дажджоў. Валя ішла і думала, як раней ездзіла яна на веласіпедзе — тым, старэнькім, які потым перайшоў да бацькі,— вось па гэтай цвёрдай, як ток, сцяжынцы. Цяпер тут густы зялёны лубін, а тады, помніцца, лапушылася бульба. Валя рабіла ўчотчыцай — прымала ад даярак малако.

Мусіць, гэты ўчастак лубіну пакінулі на насенне — стручкі пацямнелі, і калі іх Валя разлушчвала, раскрываліся з сухім трэскам.

Ззаду тэпала Ленка. Яна ўсё збірала позні палявыя кветачкі,— каб пасля з маці прынесці на дзедаву магілку.

У небе шырокімі кругамі, распластаўшы крылы, плаваў каршун. Праляцелі з рэзкім, трывожным крыкам да бліжняга ляска сойкі. На сцяблінку ўзабралася «божая кароўка». Расправіла крылцы і пырснула — растала ў паветры. Жыццё ішло, як і раней. І ўсё ж у ім штосьці парушылася, змянілася.

З могілак вярталіся людзі. Святлана асцярожна падтрымлівала Пятра. Васіль і Федзя неслі рыдлёўкі. Валя азірнулася: на абгароджаных свежымі жэрдкамі могілках ціха гойдалі шырокімі верхавінамі сосны. Яна адчула, як зноў шчымліва заныла сэрца. Яна пахіснулася, але нехта падтрымаў яе за руку.





***яўген крупенька***



ПАЭЗІЯ



## Удзячнасць

Я шчыра ўдзячны роднай хаце
І добрай печы, на якой
Сядзелі мы, малыя дзеці,
Зімой завейнаю, калі
Трашчэлі ад марозу сцены,
А мы пад кажухом старым
Хаваліся, сядзелі ціха,
А печ сцюдзёная была.
І ўсё ж я ўдзячны роднай печы
За казкі шчырыя, якія
Матуля дзіўна гаварыла.

Я шчыра ўдзячны роднай сцежцы,
Расе пякучай, як агонь,
Калі на сінім золку з хаты
Я з кошыкам спяшаў у лес.
Нібы іголкі, так калола
Ногі сцюдзёная раса.
Табе я шчыра ўдзячны, лес мой,
Што ты, як бацька, нас карміў
Заечым сакавітым шчаўем,
Суніцамі, баравікамі,
Апенькамі на пнях старых.

Удзячны шчыра цішыні я
І цвыркуну, які ў запечку
Іграў на скрыпачцы ўсю ноч.
Я лугавому ўдзячны сену
І каласку, што пацвярдзеў,
А я яго ірваў і смажыў —
Які цудоўны гэта хлеб!
Калодзежу я вельмі ўдзячны.
І аднакласніцы, якой
Сказаў упершыню я шчыра
Слова адзінае: «люблю».

## *Вярталіся з выраю гусі*

Хоць пуста і гола на лузе,
Ды толькі з далёкіх краёў
Вярталіся з выраю гусі
Да родных сваіх берагоў.
Край лепшы не знойдзецца, мусіць,
Чым бераг сівога Дняпра.
Вярталіся з выраю гусі,
І іх цалавала зара.
Звінелі вясёлыя гуслі
Над магілёўскай зямлёй.
Вярталіся з выраю гусі
Шчасліваю дружнай сям'ёй.

І ў небе пявучыя гукі
Цяплелі, вясніліся днём —
Вярталіся з выраю гусі
Да родных дняпроўскіх стром.

## *Курганы*

Прайдзі мой край — усюды курганы,
Нямыя сведкі вечнасці яны.

Схавалі чалавечыя сляды,
Адным — стагоддзі, а другім — гады.

Ні ліўні, ні дажджы не змылі іх,
Стаяць яны як памяць аб жывых.

Тут прашчуры далёкія ляжаць,
Што ўмелі за свабоду пастаяць.

Я пакланіцца ім прыйшоў здаля,
Дык будзь ім пухам, добрая зямля!

Маўчаць зацішкі росныя палян.
Бясконца дораг кожны мне курган.

Адным — стагоддзі, а другім — гады,
Іх насыпалі прадзеды, дзяды.

І сосны акрапляліся слязой,
Што больш не ўстане партызан-герой.

Маўчаць зацішкі рослыя палян,
Як помнік славы высіцца курган.

І зорка пяцікутная гарыць...
Зямля мая, ты будзеш вечна жыць!





# ПУБЛІЦЫСТЫКА







Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі СССР аўтары праекта «Верцялішкі» архітэктар В. Н. Емяльянаў, старшыня калгаса «Прагрэс» Ф. П. Сянько, архітэктар Г. У. Заборскі.





# ЁСЦЬ ТАКАЯ ВЁСКА— ВЕРЦЯЛІШКІ

Далёка сёння чуваць пра Верцялішкі. Назаві калгас «Прагрэс» — мала хто ўспомніць, што яго праўленне ў гэтых самых Верцялішках. На адной Гродзеншчыне колькі «Прагрэсаў» — адгадай, пра які іменна «Прагрэс» пойдзе гутарка. А Верцялішкі адны... Сціплая назва запамінаецца.

У Верцялішкі ідуць пісьмы. З самых розных мясцін, пра якія раней мясцовыя школьнікі, бадай, толькі чулі на ўроках геаграфіі. Людзі просяць расказаць пра калгас, падзяліцца набытым вопытам.

Уладзімір Антонавіч Лапыш, паштальён, гаворыць:

— Вось не думаў, што дажыву да дня, калі ў Верцялішкі столькі лістоў будзе. А гэта, гляньце, дажыў, і, здаецца, сілы прыбавілася...

Але пра Лапыша гутарка свая. Мы да яго яшчэ вернемся.

Зойдзем у Палац культуры. Тут, сказалі, знаходзіцца кніга, а ў ёй запісы людзей, якія пабывалі ў Верцялішках. Запісаў гэтых шмат. Іх у розны час пакінулі касманаўт і архітэктар, рабочы і аграном... Наведваюцца ў калгас дзесяткі, сотні людзей паглядзець, убачыць усё сваімі вачамі, потым падумаць пра тое, што ўбачылі. Але першае іх уражанне — «Гэта цудоўна!»

Сапраўды, такое пакуль яшчэ далёка не ва ўсякай вёсцы ўбачыш. Па калгасных вуліцах — зграбныя двухпавярховыя домікі — катэджы. Цэнтр уяўляе сабой цудоўны ансамбль будынкаў, пабудаваных з улікам сучасных запатрабаванняў архітэктуры ў самым высокім сэнсе гэтага слова. Кінатэатр, рэстаран, сталовая, магазіны — і ўсё гэта зроблена прадумана, разлічана з такім густам і так патрабавальна, што можа зрабіць гонар любому абласному цэнтру.

Але будаўніцтва калгаснага цэнтра і домікаў для калгаснікаў было справай доследна-эксперыментальнай; і ўжо ў сілу гэтага новыя Верцялішкі і з'яўляюцца нечым незвычайным для вясковага побыту.

Калі я ўпершыню ўбачыў увесь гэты комплекс цудоўных будынкаў — яго хараство чалавеку новаму ў гэтых месцах кінецца ў вочы адразу, — то падумаў: хораша, нават занадта добра пабудаваны Верцялішкі. З любога ракурсу здымай і друкуй з паштовачным глянцам. Уражвае! Інакш кажучы, гэта заўтрашні дзень вёскі ў камені, шкле і жалезабетоне. А які дзень сённяшні Верцялішак?

Ён, гэты дзень, прыгожы і ясны. Верцялішкаўцы сваёй стараннай працай набліжаюць будучыню. Нездарма старшыня калгаса Фёдар Пятровіч Сянько так і назваў сваю кніжку — «Новыя Верцялішкі». Пад словам «новыя» маюцца на ўвазе перш за ўсё людзі Верцялішак. Іх новыя, калектыўныя адносіны да працы, да зямлі, на якой выраслі...





У гасцінным пакоі адной з верцялішкаўскіх кватэр.

●

Прадавец сельмага ў Верцялішках Анцулевіч К. М. з сынам на кухні.

●

Двухкватэрны домік.







Выкладчыца рускай мовы і літаратуры Валянціна Шапавалава.



На ўроку ў чацвёртым класе.

## ЯК ДАСТАЛІСЯ ВЕРЦЯЛІШКАЎСКІЯ МІЛЬЁНЫ

Зямля... Яна шмат памятае. Яна многа магла б расказаць, гэтая маўклівая зямля. Толькі ўмей яе слухаць.

У 1950 годзе быў створаны ў Верцялішках калгас. Нялёгкія былі першыя крокі. Не хапала тэхнікі, угнаенняў. Зямля не давала таго, што магла б даць.

Так і прычапілася да верцялішкаўскага калгаса назва «адстаючы». Бывала, адзін паказчык выцягнуць, другі — не дацягнуць.

І раптам... Але скажам адразу — «раптам» і ў паміне не было. Усе гады — да таго, як стаў у калгасе за старшыню Фёдар Сянько, і пасля — ішла будзённая, малапрыкметная на першы погляд работа.

Гартаваўся калектыў, выбіраліся напрамкі дзейнасці. Аказалася, што самым рэнтабельным для гаспадаркі з'яўляецца адкорм буйной рагатай жывёлы.

І вось вынікі, самыя апошнія, а значыць і самыя запамінальныя. Калі ў 1960 годзе прыбытак калгаса складаў 260,1 тысячы рублёў, то ў 1971 годзе калгас «зарабіў» 3.342 тысячы рублёў. Больш чым у дванаццаць разоў за адзінаццаць гадоў — хто скажа, што ў «Прагрэсе» не апярэджваюць час?

Сёння калгас мае пяцьдзесят чатыры трактары, дваццаць пяць аўтамашын. Палепшана арганізацыйная структура — яна заснавана на дакладным вытворчым прынцыпе: функцыі кожнага цэха строга размежаваны, да драбніц улічаны здольнасці і магчымасці кожнага звяна, кожнага чалавека ў ім.

Дзіўнае пераўтварэнне? Можа яно і было. Але ж адзінаццаць гадоў — тэрмін не малы, каб жыццё стала лепшым. Яно непазнавальна змянілася. Узяць такую праблему, як ссяленне з хутароў. Моладзь — тая даўно знялася з іх, а старыя яшчэ трымаюцца свайго струхнелага парога.

Праўленне плануе: да 1980 года ўсім перасяліцца ў «цэнтр». І, вядома, перасяляцца.

Ніхто не стане пярэчыць, што жыць разам — весялей.

## ШТО НЕ ЗДОЛЕЕ ЭВМ

Школа ў Верцялішках прасторная, светлая, але... на 320 месцаў, а вучняў ужо на сённяшні дзень 480. А заўтра? Павел Антонавіч Залуцкі, дырэктар школы, расказвае, што ў бліжэйшыя гады будзе ўзведзены яшчэ адзін школьны будынак: новыя класы, а таксама актавая зала, цяпліца, бібліятэка з прасторнай чытальнай залай...

Затым мы як бы незнарок спыталі:

— Раскажыце, Павел Антонавіч, аб школьнай вытворчай брыгадзе.

Дырэктар аж загарэўся ўвесь:

— Школьная вытворчая — наш гонар. Выдатныя рабяты, малайцы! Толькі вось зіма. Улетку вы паглядзелі б, як школьнікі завіхаліся на ўборцы ўраджаю...

Разглядаем фатаграфіі. Вяснушкаватыя твары, бялявыя, цёмныя валасы... Мінулым летам многія вучні 7—9-х класаў працавалі на палях памочнікамі трактарыстаў, камбайнераў. Маглі б і самастойна, але на гэта няма дазволу. Адзін з тых «незаконных» трактарыстаў прызнаўся нам:

— Толькі нікому ні слова, добра? Хай гэта застанецца паміж намі. А мы ўсё ж такі калі-нікалі і самі водзім трактар...

Сакрэт дык сакрэт. Але трэба было бачыць вочы гэтага хлапчука: у іх гарэў яркі агеньчык натхнення.

Любоў да зямлі... Як яна прыходзіць? Наконт гэтага ёсць мноства ўсялякіх меркаванняў і нямала паэтычна прыгожых. Менавіта я не маю нічога супраць узвышанага прызнання ў любові да зямлі-маці, якая нарадзіла ўсё, што ёсць на ёй. Тым больш, калі вершы сапраўды хвалюючыя. А вось аб прозе выхавання гэтага «зямнога» пачуцця, будучы ў «Прагрэсе», немагчыма не задумацца — не ведаючы зямлі, як свае пяць пальцаў, як жа любіць яе?

Расказвалі, быў такі выпадак. Выехаў у поле трактарыст. Выдатна працаваў, дзённую норму за паўтараста працэнтаў, як правіла, выганяў. І раптам асечка: «Паўнормы, — пачаў скардзіцца таварышам, — гэта я яшчэ магу, а звыш — хоць забі — не зраблю».

У чым справа? Араць трэба было глыбей, а там каменне. Пакуль іх з зямлі павыварочваеш... Але ж раней неяк абыходзіліся? Абыходзіліся, бо плугам не забіралі ўглыбіню. Дык, можа, і на гэты раз абыдзецца. Што ж прасцей, тым больш, калі побач нікога няма — толькі ты ды трактар? Але ж поле не змоўчыць — летам усё выявіцца...

Значыць, усё залежыць ад твайго сумлення. Гэты прыклад, можа, ужо надзвычай «рашучы»? Але факт застаецца фактам. Вясковы чалавек не любіць зямлю не можа. Нітка, якая звязвае жыхара Верцялішак з зямлёй, вельмі моцная. Матэрыяльны бок — гэта толькі на першы погляд так здаецца. Чалавека тут з самых ранніх гадоў вучаць адкрываць зямлю, быць удзячным за ўсё, што яна дае.

Любоў да зямлі пачынаецца ў школе. Яна працягваецца ў полі; штодзённа ўносіцца нешта новае ў адносіны чалавека з зямлёю, на якой жыве, а ў канчатковым выніку дае яму ўсё ўзмацняючую радасць творчасці.

Дарэчы, гэта паняцце, якое ніяк не ўставіш у ЭВМ.

## ПРА ЛЕСВІЦУ ПОШУКАЎ, ШТО ВЯДЗЕ Ў ГЛЫБІНЮ

У пачатку мы ўспаміналі імя Уладзіміра Антонавіча Лапыша, паштальёна. Ён быў тут за старшыню яшчэ да вайны, у 1940 годзе.

— Сеў я тады за старшынёўскі стол і рукамі разводжу, — успамінае Уладзімір Антонавіч, — з чаго пачынаць? Некалькі малатарняў, адзін старэнькі ХТЗ... А сёння «Прагрэс» далёка пакрочыў. Ці ж мы маглі аб гэтым тады марыць? Дамы, як у горадзе. Людзі сталі жыць заможна, шчасліва. Гляджу я на ўсю гэту прыгажосць і думаю: ці ж усе калгасы будуць такімі? А будуць жа, абавязкова будуць...

Потым, раніцою, адбылася яшчэ адна сустрэча, на гэты раз з цяперашнім старшынёй Фёдарам Пятровічам Сянько. Ён толькі што вярнуўся з камандзіроўкі. Запрасіў, расчыніўшы дзверы, у кабінет.

— Пытайцеся — адказваем? Ну, што ж, гатоў даць інтэрв'ю...

Да інтэрв'ю так і не дайшло. Але мы даведаліся, што старшынёй Фёдара Пятровіча абралі ў лютым 1959 года. Многа тады ў эканоміцы было «вузкіх» мясцін. Ледзь канцы з канцамі зводзілі. Паўстала пытанне, як здабыць грошы. Вядома, на зямлі. Каб мець нешта ад зямлі, трэба пастаянна ўдасканальваць арганізацыю працы, працаваць з кадрамі, расціць кадры, нарэшце, усур'ёз узяцца за ўдасканаленне ведаў у галіне эканомікі.

Ну, які ты спецыяліст, калі не працуеш над сабой. Значыць, і да жыцця ў цябе адносіны пасіўныя. І дзелавога чалавека з цябе не будзе. Дзелавы ж чалавек — гэта ў першую чаргу ініцыятар, арганізатар справы.

Для кіраўніка ж, які ўзначальвае калектыў, трэба мець веды і вопыт. Ад таго, як ён зможа прымяніць свае здольнасці на практыцы, залежыць яго асабісты аўтарытэт і аўтарытэт усяе гаспадаркі.

І яшчэ каб у кіраўніка была каштоўная чалавечая якасць — бачыць перспектыву. Загадваць на будучае? Не, чотка, ва ўсіх вымярэннях бачыць карціну будучага. Зараз 1972 год, а што будзе на канец пяцігодкі? Бадай, ды і напэўна, узнікнуць у чым-небудзь дыспрапорцыі, якія могуць парушыць дакладны рытм усяе гаспадаркі. Сёння трэба думаць сур'ёзна, як заўтра расставіць сілы, усё прадумваць у дэталях.

— Вялікая наша надзея, — сказаў Фёдар Пятровіч, — моладзь. Залатым фонд калгаса. Адукаванасць, энергія, дапытлівасць — цудоўныя яе рысы. Нашы камсамольцы актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці калгаса, яны ўсюды першыя — на фермах, на палях...

Называюцца імёны. Віктар Пацэвіч — трактарыст... Генадзь Федасевіч — аграном першага ўчастка... Камсамольцаў у калгасе — 51 чалавек, па-







Устаноўка для ахалоджвання малака на ферме буйной рагатай жывёлы.

●

Адзін з кутноў сяла.

●

Вітраж ля Палаца культуры.

●

На калгаснай вуліцы.






Удзельнікі калгаснай самадзейнасці.

лова з іх мае сярэднюю адукацыю, 9 — сярэднюю спецыяльную, двое — вучацца ў ВНУ...

Надзейныя кадры калгаса. Гэта зразумела — без іх у цяперашніх Верцялішках ніяк нельга.

...Пісалі неяк дзесяцікласнікі сачыненне. «Верцялішкі праз дзесяць гадоў». Цікавае атрымалася сачыненне.

Стануць Верцялішкі сапраўдным горадам. Паязды пачнуць хадзіць праз Верцялішкі — хоць да Масквы, хоць да Уладзівастока можна будзе ездзіць без перасадкі. У кожнага вясковага жыхара будзе аўтамашына, а ў некаторых, каму пашанцуе, нават... самалёт. Нястрымная дзіцячая фантазія. Яна прыдумала нават рэгулярныя рэйсы касмалётаў па маршруце «Верцялішкі — Марс». Нават месца пасадкі ўдакладнілі: на касмадроме побач з возерам, якое праз некалькі гадоў узнікне непадалёк ад вёскі.

Прачытаў Фёдар Пятровіч Сянько такое, здзівіўся:

— Верцялішкі праз дзесяць гадоў? Ды такое, на маю думку, і праз сто не збудзецца. — А потым задумаўся: — Усё ж добра, што рабяты любяць мару, вельмі добра!..

Ёсць свая праўда ў дзіцячай мары. Мара, яна ж старт бярэ ад жыцця. У «Прагрэсе» яно, гэтае жыццё, мяняецца на вачах з такой хуткасцю, аб якой раней нікому і не снілася. Значыць, калі жывеш у Верцялішках, варушыся, спяшайся па вялікім шляху жыцця. Пільна ўглядайся ў будучыню. А гэта і ёсць — марыць...

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**

Фота **Ю. Іванова** і **Я. Краўчанкі.**



# НАШ ТАВАРЫШ ПАДЛЕТАК

**Некалі, звяртаючыся да юнакоў і дзяўчат, Янка Купала гаварыў:**

**Мілая моладзь, слаўная моладзь**
**Нашай бязмежнай краіны!**
**Горы і моры можаш ты здолець,**
**Сэрцам расплавіць ільдзіны.**

**Сапраўды, нашай моладзі шырока адкрыты ўсе дарогі ў жыццё, юнакі і дзяўчаты, верныя запаветам бацькоў, узводзяць гіганты індустрыі, самаадданна працуюць на калгасных палях і фермах, штурмуюць вяршыні навукі. Кожны дзень прыносіць ім радасць — працоўныя перамогі.**

**Але ў той жа час ёсць яшчэ маладыя людзі, што імкнуцца пражыць лёгенька, не працуючы, за кошт бацькоў, грамадства.**

**Пра выхаванне падрастаючага маладога пакалення — падлеткаў — і ідзе гаворка ў матэрыялах, што друкуюцца ніжэй.**



● **Вадзім ДАПКЮНАС,**
**сакратар Фрунзенскага РК ЛКСМБ г. Мінска**

# У ПОШУКУ КАНТАКТАЎ

Жыццё сцвярджае, што пытанне работы з падлеткамі надзённае і патрабуе самай пільнай увагі райкома камсамола, камсамольскіх камітэтаў. Мы ў сваёй раённай камсамольскай арганізацыі імкнёмся аб'яднаць у гэтай справе намаганні грамадскасці, школы і сям'і. Як вядома, падлетак выхоўваецца ў сям'і, у школе, на двары і на вуліцы — усе гэтыя выхаваўчыя сферы існуюць адначасова, ва ўзаемнай сувязі і ўзаемапранікненні. Праўда, пра гэтыя сувязі ўспамінаюць часцей, калі трэба знайсці вінаватага.

Бацькі ў такіх выпадках ківаюць на школу. Там — спецыялісты, педагогі, яны і павінны па сваім абавязку несці адказнасць за навучанне і выхаванне дзяцей.

Школа ж у сваю чаргу ва ўсіх грахах абвінавачвае сям'ю. У сям'і, як правіла, школьнік знаходзіцца больш, чым у школе. І кантакт там, у сям'і, больш цесны, сталы. Калі сям'я вы-

хоўвае дзіця няправільна, не ў адпаведнасці са школьнымі патрабаваннямі, то адсюль і ўсе грахі. Што ж яшчэ можа зрабіць школа?

Затым і бацькі, і школа, калі што здарыцца з падлеткам, аб'ядноўваюцца і агульнымі намаганнямі накідваюцца на «вуліцу». На двары, на вуліцы дрэнная кампанія, благія прыклады, бойкі, хуліганства. Трэба неяк адгарадзіць ад «вуліцы», але як, якім чынам?

Вуліца ж сапраўды існуе, і ад яе адгарадзіцца немагчыма. Вуліца, між іншым, не такая ўжо і страшная, яна ж, мусіць, і добрая. І вучыць яна не толькі благому. І наўрад ці варта было б ад яе зусім адгароджвацца, калі б гэта і можна было. Рыхтаваць чалавека да жыцця, выкарыстоўваючы як сродак такой падрыхтоўкі спробу адгарадзіцца ад жыцця,—зусім не лепшы сродак выхавання.

Першае, на што райком камсамола нацэльвае ў гэтай справе камсамольскія арганізацыі—працоўнае выхаванне моладзі, у тым ліку і падлеткаў, вучняў. Вядома, што звычкі, набытыя на пачатку працоўнай дарогі, застаюцца на ўсё жыццё. На прадпрыемствах існуюць праграмы індывідуальнага і брыгаднага навучання, але ў іх, на жаль, не прадугледжаны заняткі аб змесце і значэнні сацыялістычнай працоўнай дысцыпліны. Інакш жа нельга растлумачыць той факт, што нярэдка маладыя рабочыя не адчуваюць належнай адказнасці за сваё працоўнае прызначэнне, за захаванне працоўнай дысцыпліны і рэжыму.

Аналізуючы прычыны прагулаў і парушэнняў дысцыпліны працы, прыходзіш да высновы, што пераважная большасць іх звязана з п'янкай. І, між іншым, само п'янства з'яўляецца вынікам парушэння працоўнай дысцыпліны. Іншымі словамі, п'янства з'яўляецца вынікам недысцыплінаванасці, расхлябанасці на рабоце. А дзе ж так званыя грамадскія выхавацелі, якія ёсць на кожным прадпрыемстве—брыгадзіры, майстры? Што робіць у гэтым кірунку камсамольская група?

У нас ёсць прыклады ўмелай, карпатлівай работы камсамола ў выхаванні так званых «цяжкіх» падлеткаў у рабочых калектывах, і тады сама па сабе спрашчаецца праблема падлеткаў—іх сталення, духоўнага ўзмужнення і самасцвярджэння.

Узяць, да прыкладу, фабрыку імя Куйбышава. У механічным цэху ёсць малады рабочы Валодзя Сашко. Ён паступіў на працу і неўзабаве пачаў рабіць прагулы, спазняўся без уважлівых прычын, ухіляўся ад даручэнняў. Затым пачаліся больш сур'ёзныя вывіхі ў яго паводзінах—прывод у міліцыю за парушэнне грамадскага парадку і, нарэшце, судовая справа. Сашко быў асуджаны ўмоўна.

Камсамольская арганізацыя задумалася над тым, як ратаваць Валодзю Сашко і паставіць яго на правільны шлях. Камсамольцы звярнуліся за дапамогай да ветэрана працы камуніста І. М. Пятровіча. Іван Міхайлавіч згадзіўся і пачаў займацца са сваім падшэфным. Цяпер Валодзя стаў зусім інакш сябе паводзіць, вучыцца ў школе рабочай моладзі, выконвае вытворчае заданне, рыхтуецца павысіць свой разрад слесара.

Такія прыклады, вядома, ёсць і на многіх іншых прадпрыемствах. Яны гавораць за тое, што калектыў можа многае зрабіць для прыцягнення ў грамадскае жыццё так званых «цяжкіх» падлеткаў, калі знайсці правільны падыход да кожнага ў паасобку, разбудзіць у яго цікавасць да спраў калектыву, і тады поспех прыйдзе абавязкова.

Мы ў райкоме задумаліся, як палепшыць выхаваўчую работу з падлеткамі, зблізіцца з імі, каб перасцерагчы асобных «цяжкіх» юнакоў і дзяўчат ад дрэнных звычак і дзеянняў, зацікавіць іх карыснымі грамадскімі справамі, сцвярджаючы ў паводзінах камуністычныя нормы маралі. Адной з новых формаў грамадскага ўздзеяння на фарміраванне асобы падлетка, задавальнення растучай яго патрэбнасці ў пазнанні навакольнага свету з'явіліся студэнцкія педагагічныя атрады, якія пачалі працаваць у дзіцячых і піянерскіх пакоях пры домакіраўніцтвах. Студэнты Мінскага пединстытута імя А. М. Горкага выступілі з добрай ініцыятывай—узялі шэфства над дварамі і вуліцай. З ліку старшакурснікаў сфарміраваны атрады, якія спачатку налічвалі 12—15 чалавек, а цяпер па 20—23 чалавекі. Сюды падабраліся камсамольцы-добраахвотнікі, іх кандыдатуры абмяркоўваліся і зацвярджаліся на пасяджэннях камітэтаў камсамола факультэтаў.

Сваю работу студэнцкія педатрады праводзяць у цесным кантакце з педагогамі-арганізатарамі, якія працуюць у дзіцячых і піянерскіх пакоях, з саветамі домакіраўніцтваў. У райкоме мы запрасілі і кіраўнікоў домакіраўніцтваў. Выявілі агульную задачу, якая, нам думаецца, у тым, каб дапамагчы падлеткам у поўнай меры развіць свае здольнасці. І дапамога гэтая павінна садзейнічаць стварэнню такіх выхаваўчых умоў, у якіх бы змаглі праявіцца яго схільнасці і інтарэсы, захапіць такімі заняткамі, якія былі б ім па душы і садзейнічалі раскрыццю прыродных задаткаў. Звернута ўвага на наладжванне сувязі са школамі, з бацькоўскай грамадскасцю.

Студэнцкія атрады працуюць згодна планам і графікам, якія складзены разам з педагогамі-арганізатарамі. Ужо можна гаварыць пра першыя крокі іх дзейнасці, пра нейкі вопыт, накоплены ў пошуках кантактаў з падлеткамі.

Пры домакіраўніцтве № 30 працуюць студэнты з гістарычнага факультэта на чале з камандзірам атрада студэнтам 2-га курса Леанідам Гушчэняй. Згодна графіку ў дзіцячым пакоі дзяжураць штодзённа 4—5 чалавек. Тут працуюць гурткі дзіцячай творчасці. Сіламі студэнтаў і саміх падлеткаў пабудаваны спартыўны комплекс, афармлены піянерскі пакой, праведзена віктарына «Хачу ўсё ведаць».

Студэнты педатрада трымаюць пастаянную сувязь са школай № 16. Настаўнікі падказваюць ім, якія рабяты маюць большую патрэбу ў дапамозе, вызначаюць аб'екты сумесных дзеянняў. Іменна з дапамогай студэнтаў было ліквідавана адставанне ў вучобе асобных падлеткаў, праводзяцца лекцыі і гутаркі для «цяжкіх» падлеткаў.

Цікава будуе сваю работу з падлеткамі пры домакіраўніцтве № 14 студэнцкі атрад фізіка-матэматычнага факультэта, які ўзначальвае студэнтка 3-га курса Людміла Струкава. У летні час студэнты арганізавалі піянерскі лагер, і жыццё ў ім струменіла. Цяпер сістэматычна праводзяцца гутаркі для бацькоў, займаецца калектыў мастацкай самадзейнасці, працуюць розныя тэхнічныя гурткі. Створаны кансультацыйныя пункты, дзе можна атрымаць патрэбную параду, адказ на хвалюючае пытанне.

Праўда, яшчэ не ўсе кіраўнікі домакіраўніцтваў ідуць насустрач камсамольскай ініцыятыве і не ўсе разумеюць, як важна згуртаваць у дружны калектыў падлеткаў, зацікавіць іх карыснымі справамі і гэтым вырваць іх з-пад уплыву падваротняў і так званай «вуліцы». Не ўсюды яшчэ студэнты здолелі наладзіць кантакты з педагогамі-арганізатарамі, і гэта з'яўляецца пэўнай перашкодай.

Калі думаеш аб праблемах, звязаных з выхаваннем падлеткаў, то ловіш сябе на думцы, што яшчэ далёка не ўсе камітэты камсамола, знаходзячыся часам у палоне цякучкі, даходзяць у сваіх дзеяннях да кожнага юнака і дзяўчыны, як кажуць, за групай, за ўсім калектывам не заўважаюць асобнага чалавека, мала думаюць пра выхаванне яго як асобы. У кожным камсамольскім калектыве ёсць актыў — група камсамольцаў, якія ў любую хвіліну гатовы да грамадскага мерапрыемства, і дзякуючы іх энтузіязму мы дамагаемся масавасці ў спорце, у правядзенні розных мерапрыемстваў культуры і адпачынку. А асноўная маса калектыву дзе? Аказваецца, што яна ў баку ад грамадскага жыцця—у ліку так званых «пасіўных». Да іх мы чамусьці адносімся спакойна, раўнадушна, а тым часам у многіх калектывах «пасіў» расце, і між іх туляцца тыя ж «цяжкія».

Яшчэ адно пытанне хвалюе нас. У Мінску збудаваны цудоўныя палацы культуры, спартыўныя комплексы, танцавальныя пляцоўкі ў парках. А ў нашым раёне такой залы, дзе можна было б сабрацца моладзі, няма. Завод ацэпляльнага абсталявання, трэст квартальнай забудовы, домабудаўнічыя камбінаты № 1 і № 2, заводы металаканструкцый, электрамантажных вырабаў і іншыя не маюць клубаў, дзе можна было б правесці вольны ад работы час, наладзіць работу гурткоў мастацкай самадзейнасці.

Ды і ў тых клубах, якія ў нас ёсць, далёка не ўсё задавальняе моладзь. Зачастую заняткі ў самадзейных гуртках праводзяцца сумна, рэпертуар іх бедны і нецікавы. Сярод мастацкіх кіраўнікоў самадзейнасці ўкаранілася заганная практыка сумяшчальніцтва. Бывае, што такі гастралёр-самадзейнік не паспее правесці заняткі ў адным калектыве, як спяшаецца ў другі і ў трэці...

Маладзёжныя вечары часта праводзяцца па заведзеным шаблоне, без выдумкі і натхнення. Зноў жа многае залежыць ад культмасавіка. А культмасавікі абмяжоўваюць свае абавязкі аб'явамі танцаў і перапынкаў між імі. Рэдка пачуеш на вечары добрую камсамольскую песню, не ў модзе сталі маладзёжныя гульні. Камітэты камсамола не праяўляюць заклапочанасці да выяўлення і падрыхтоўкі масавікоў для рабочых клубаў і маладзёжных калектываў.

Не вырашана як мае быць і пытанне падбору выхавацеляў у інтэрнатах. Часцей за ўсё на гэтую пасаду трапляюць людзі, якія жадаюць атрымаць гарадскую прапіску і жыллё. Звычайна як толькі такі гора-выхавацель атрымае ўсё, што яму трэба, то пачынае прыглядацца, дзе б знайсці больш цёплае месца. Чамусьці доўга не затрымліваюцца на адным месцы і выхавацелі пры домакіраўніцтвах.

Іншая справа, калі ў інтэрнаце працуе на пасадзе выхавацеля чалавек па прызванні, ад душы, тады работа ў яго ладзіцца, і моладзь да яго пачне хіліцца.

Прыгадаю такі прыклад. Адзін час вельмі не ладзілася справа ў інтэрнаце тонкасуконнага камбіната: было шмат парушэнняў унутранага распарадку. Але прыйшла сюды Вольга Андрэеўна Пракапеня. Яна прапанавала дзяўчатам стварыць свой клуб

«Алеся», раскатурхала членаў савета, і пайшла адна ініцыятыва за другой: конкурсы на лепшы пакой, агляды, дыспуты, вечары... Праўда, на камбінаце трэба яшчэ нямала папрацаваць, каб палепшыць побыт маладых рабочых, але тое, што зроблена ў інтэрнаце, заслугоўвае адабрэння і пераймання.

Тут, на маю думку, нельга абмінуць і такое пытанне, як арганізацыя свят і масавых відовішчаў. Я маю на ўвазе футбольныя матчы на стадыёне «Дынама». У час матча, асабліва калі мяч ляціць у сетку, над стадыёнам стаіць дзікі лямант балельшчыкаў, і можаш пачуць лаянку і дзікія выкрыкі... А побач жа дзеці, падлеткі. Пасля матча—так званая замочка, масавыя выпіўкі. З выпадку перамогі ці няўдачы. Выпіўкі часта ў прысутнасці і на вачах дзяцей. Заўважце, што сярод падлеткаў-рабочых больш за ўсё прагулаў і парушэнняў працоўнага распарадку ў дні, калі бываюць матчы. Трэба, каб дырэкцыя стадыёна «Дынама» прадумала меры паляпшэння культуры паводзін балельшчыкаў. Магчыма, для падлеткаў трэба выдзеліць асобныя сектары.

Усё гэта, як мне здаецца, мае самае непасрэднае дачыненне да праблем, якія паўстаюць перад намі ў рабоце па выхаванні моладзі. Вельмі хацелася б пачуць думкі, а можа нават і парады тых, хто непасрэдна вельмі блізка сутыкаецца з моладдзю—гэта і старэйшы па ўзросце рабочы, і настаўнік у школе, і майстар у цэху, і перш за ўсё бацькі, якія заўсёды бачаць, як растуць і мужнеюць іх дзеці.

Падлетак — чалавек велізарнай энергіі, закладзеных прыродай вялікіх магчымасцяў. Ён заўсёды ў пошуку, прагне хутчэй паспрабаваць свае сілы, знайсці занятак па душы. І цягнецца ён да таго, хто яму здаецца больш цікавым, моцным, разумным, з кім яму не сумна, хто малады сэрцам і душою. Лепшы і самы верны спосаб знайсці кантакт з падлеткам—сумесная дзейнасць дарослых з моладдзю і аўтарытэт дарослых.

роздум над праблемай

● Земфіра АБРАМАВА,
старшы інспектар дзіцячага пакоя Фрунзенскага райаддзела міліцыі г. Мінска



# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

— Як справы, Саша?

— Не вельмі, прыкра атрымалася. Спачатку мы выпілі, потым залезлі на нейкую дачу, дзе нікога не было. Узялі там варэнне, віно, стрэльбу. Віно выпілі, варэнне выкінулі, а з ружжа пастраляць рашылі.

— Ну і як?

— Затрымалі нас, матэрыял у следчага.

— Ты працуеш цяпер?

— Будзеш працаваць, дык і пагуляць не зможаш. І наогул дзеля чаго даюць пенсіі старым? Яны ж весяліцца і то не ўмеюць. Вось давалі б пенсію гадоў з шаснаццаці і да сарака пяці, а пасля і папрацаваць можна...

Так разважае Саша, вялікі аматар пасваволіць. Колькі не паўтарай яму, што праца можа прыносіць радасць, пачуццё задавальнення, нават асалоду—не верыць. Не хоча верыць.

Глядзіць пагардліва, усміхаецца. Маўляў, не зразумець табе, інспектар, вольнага жыцця.

Думаеце, ён адзін такі? Каб жа так! Адкуль усё-такі ў некаторых падлеткаў спажывецкія адносіны да жыцця? Бываючы ў школах, на прадпрыемствах, маючы гутаркі з рабятамі ў дзіцячым пакоі міліцыі, я часта сутыкаюся іменна са спажывецкімі адносінамі непаўналетніх да жыцця.

Такі погляд на рэчаіснасць падлеткаў—небеспадстаўны. На гэта ёсць пэўныя прычыны. Матэрыяльны дабрабыт сям'і не заўсёды спалучаецца з культурным і маральным узроўнем. Яшчэ і цяпер дае сябе адчуць цяжкі ваенны і пасляваенны перыяд, калі не ўсе бацькі змаглі набыць адпаведную адукацыю.

Сённяшняе пакаленне расце зусім у іншых умовах, а бацькі па старой звычцы гавораць: «Мяне ніхто не выхоўваў, але я вырас прыстойным чалавекам».

Хіба можна параўнаць цяжкасці мінулых гадоў з сённяшнім жыццём.

Большасць людзей жыве цяпер у добрых кватэрах, хатняму быту дапамагаюць пыласосы, пральныя машыны і інш. Фізічнай працы для падлеткаў амаль няма. А калі якая нагрузка для іх і засталася, дык маці ахвотна бярэ яе на сябе: «Мне цяжка жылося, няхай сыну лягчэй будзе».

А можа гэтая лёгкасць якраз не на карысць, а на шкоду?

Расце дзіця і з малых гадоў прывыкае, што і апрануць яго, і накормяць, і столькі цацак накупляюць, што вочы разбягуцца. Спачатку вочы разбягуцца, а потым яны не здзіўляюцца. Малы спачатку робіцца абыякавым да цацак, потым да гульняў. А ў 15—16 гадоў яго ўжо нічым не здзівіш.

Да працы яго не прывучылі. Шчырыя бацькі імкнуліся пазбавіць яго ад «непрыемных» заняткаў—заслаць ложак, падмесці падлогу, схадзіць у магазін. Пазней не дакучалі яму праверкай дамашніх урокаў. Пераходзіць з класа ў клас—і дзякуй богу, а калі і застаўся—таксама нішто сабе: хлеб ёсць—пражывём.

Паступова ўзнікаюць непаладкі ў вучня з пэўнымі прадметамі і настаўнікамі. Прычына кожнага «цяжкага», педагагічна запушчанага падлетка ў тым, што працоўных навыкаў у яго няма, валявыя якасці не развіліся.

Воля загартоўваецца ў паўсядзённых практыкаваннях у пераадоленні цяжкасцяў. А менавіта ад «цяжкасцяў» бацькі імкнуцца ўсяляк пазбавіць сваіх дзяцей.

Расце ў сям'і маленькі паніч. Да 15—16 гадоў ён адчувае сябе перапоўненым ад забаў. Да сур'ёзнай працы ён не прывык, а прага да дзеяння ў яго ёсць. Энергіі зашмат, куды яе накіраваць? Тым больш, што ёсць жаданне выявіць сябе як асобу незвычайную, здольную на штосьці выключнае.

...Віця С., які трапіў у кампанію сабе падобных юнакоў і дзяўчат, рашыў, што ўсім для смеласці неабходна выпіць. Але ў кафэ спасаліся на іх непаўналетні ўзрост і спіртнога не далі. Тады Віця захацеў паказаць сябе героем. А праявіць актыўнасць яму дапамагло тое, што ўжо да гэтага ён узяў чарку. Вядома ж, што ап'янелы і шарак харобры.

З кафэ Віктар накіраваўся ў магазін, патрабаваў віна. Яму не далі. І тады нерастрачаная энергія праявілася: на прадаўца паляцела бутэлька, затым была ўшчэнт разбіта вітрына. Пасыпаліся непрыстойныя словы.

Віцю затрымалі, прывялі ў аддзел міліцыі. Але ён не разгубіўся, бо пачаў: «...не палохайце мяне, я ведаю сутнасць справы, непаўналетніх не судзяць. Вы мне нічога не зробіце».

Так, юнак ведае, што наша грамадства сапраўды гуманнае да непаўналетніх. Таму ён, так разважаючы, мяркуе, што гуманнасць можна эксплуатаваць гэтак жа, як бацькоў.

Бывае і такое. У пэўных сем'ях бацькі прывыклі гаварыць пра ўсіх і пра ўсё пагардліва. Для такіх сем'яў не існуе ніякіх аўтарытэтаў. Але такія бацькі не ведаюць, што яны сякуць сук, на якім сядзяць, бо падлеткі пераймаюць звычкі дарослых. Спачатку яны не лічацца з аднагодкамі, потым з настаўнікамі, пасля ўжо чарга даходзіць да сваіх бацькоў. Затым у дзіцячы пакой міліцыі паступае заява, што сын ці дачка выйшлі з-пад уздзеяння і бацькам не пад сілу з імі справіцца.

...Маці Валерыя Т. заўсёды была ўпэўнена, што толькі яна можа зразумець свайго сына. Сын штодзень да поўначы прападае на вуліцы. Яго прыводзяць дамоў, а маці злуецца: «...не даяце пагуляць дзіцяці!» А ў сына, якому 14 гадоў, у кішэні цыгарэты. «Ну і што?»—адказвае маці. Сын не наведвае школу? А маці адказвае: «...што вы маеце да дзіцяці, у яго слабае здароўе!»

Пры такіх адносінах да сябе Валера хутка зразумеў «важкасць» сваёй асобы і непрыступнасць да яе.

Спачатку дробныя правапарушэнні, потым больш буйныя, затым знаёмства з півам. А маці тым часам у камісіі па справах непаўналетніх крычыць: «Забярыце яго тэрмінова, інакш будзе позна!»

Каментары, як кажуць у такіх выпадках, не патрэбны.

Практыка працы з «цяжкімі» дзець-

мі ў дзіцячым пакоі міліцыі часцей гаворыць за тое, што вялікая любоў да сыноў і дачок, любоў бяздушная, самаахвярная, больш спараджае трагедый, чым прыносіць бацькам шчаслівых мінут.

Дзеці прывыкаюць карыстацца любоўю, «дабратой» бацькоў. А ў выніку гэта робіць іх маленькімі панічамі, эгаістамі, якія толькі і ведаюць, каб вымагаць.

— Што ты мне купіла басаножкі за восем рублёў!—крычыць на маці чатырнаццацігадовая Надзя Б.—Цяпер ніхто ў школе ў такіх не ходзіць. Мне сорамна ў клас паказвацца, усе з мяне смяяцца будуць...

Пасядзела маці, падумала, паківала галавой, цяжка ўздыхнула і купіла дачушцы басаножкі за 25—30 рублёў.

Сама, магчыма, замест гарачага абеду ў сталовай з'есць сухама бутэрброд. Або адкладзе пакупку новай сукенкі для сябе да наступнага сезона. А просьбу дачкі задаволіць, не адмовіць ёй ні ў чым.

Ці не таму, прыйшоўшы ў школу на бацькоўскі сход, бачыш сціпла апранутых татаў і мамаў. Затое ў якіх уборах іх дзеці!

З густам быць апранутым—добра, але ж нельга дапускаць, каб адзенне, мода засланялі галоўнае ў жыцці падлеткаў.

Успамінаецца трагічны выпадак у адной школе, калі пятнаццацігадовая дзяўчынка хацела атруціцца. Яна няблага вучылася, расла, па характары была вясёлая. У школе лічылася актыўнай, карысталася аўтарытэтам у равеснікаў. Усё было нібыта добра. І ніхто не заўважыў, што ржа зайздрасці, спажывецкія жаданні раз'ядаюць мілую, прывабную дзяўчынку.

Яе маці працавала прыбіральшчыцай. Заробак сям'і—невялікі. Але маці імкнулася, каб дачка была апранута не горш, чым іншыя.

Вспратка ж самой маці была надзвычай сціплай—на працы і дома насіла адзін і той жа шэры халацік. Затое дачушка на школьныя вечары прыходзіла ў туфлях коштам не менш як за сорак рублёў. Ды і сукенка на ёй была не абы-якая—нейлонавая.

Красуецца дачка—радуецца матуля.

Але вось грымнуў гром. Не вытрымаўшы спаборніцтва з цэлым класам, дзяўчынка рашыла сама заняцца набыццём «прадметаў першай неабходнасці».

Пачалі знікаць гадзіннік, басаножкі, плашч-балоння, купальнік, грошы, транзістар.

Гадамі набытыя павага і аўтарытэт у класе разляцеліся ў адзін дзень.

Толькі цяпер маці раптам успомніла, што ў дачкі зусім не анёльскі характар. Што дачка не вельмі любіць працаваць, больш таго, саромеецца матчынай працы. Ёй не да спадобы прайсці побач з матуляй па вуліцы, бо занятак маці—«чорная праца».

Асноўная норма сацыялістычнага грамадства: ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па працы. Падчас бацькі забываюць пра гэта. Яны залішне песцяць дзяцей, і ў сем'ях вырастаюць не людзі працы, а спажыўцы, панічы, якія трапляюць у дзіцячы пакой міліцыі.

...У дзесятым класе ўрачысты дзень: Аляксандру споўнілася 17 гадоў. Сябры віншуюць яго, а шчаслівы Саша частуе аднакласнікаў цукеркамі.

Цудоўны дзень, выдатная традыцыя, калі б іржа, імя якой зноў жа «не горш чым у іншых», не трапіла і сюды. Грошай, што маці дала падлетку, не хапіла на дарагія цукеркі. Аляксандр «здабыў» цукерак, на этыкетцы якіх намалявана вавёрачка, у магазіне самаабслугоўвання.

Гэты выпадак наводзіць на думку: чаму сярод непаўналетніх цяпер такую вялікую ролю адыгрываюць грошы, матэрыяльны бок справы? Сапраўды, цікава! Бо дзеці нашы прыгожыя, непасрэдныя, поўныя аптымізму, бадзёрасці. Галоўная іх задача—набірацца розуму, ведаў. Яркая думка, удалы жарт, бляск вачэй—што можа параўнацца з гэтым. Якія ўборы, якое моднае адзенне можа замяніць прывабнасць душы!

Калі падлеткі залішне імкнуцца да знешняга эфекту—значыць, многае не дагледзелі бацькі, шмат чаго не падказала школа. Але ж і самі непаўналетнія павінны думаць, разважаць. Яны ж ужо і не такія маленькія.

Кожны з іх імкнецца быць асобай паважанай, цікавай, але ж адных жаданняў мала.

Дзе воля, характар, імкненне да мэты? Хіба ж не хапае ў падлеткаў сілы, энергіі?

Ёсць энергія, сіла, але няма мэтанакіраванасці. І ў гэтым у першую чаргу вінаваты дарослыя. Бацькі, занятыя справамі (а калі яны не былі занятыя), мала займаюцца дзецьмі. Акрамя таго, старэйшыя лічаць залішнім перадаваць падлеткам нават дробязі. Яны нават стараюцца забаўляць іх, а не прыцягваць да сур'ёзных спраў.

— Малы яшчэ, няхай трохі падрасце,—чуеш у такіх выпадках.

Гайдару ў шаснаццаць гадоў давяралі палком камандаваць. А мы семнаццацігадоваму юнаку не давяраем у школе на ўроку працы зрабіць рэч, якая спатрэбілася б у жыцці, а не толькі для адзнакі.





А бывае і зусім іншае. У адной школе мне давялося ўбачыць заплаканую дзяўчынку—пэўна, шасцікласніцу. Што такое?

Настаўніца загадала змайстраваць геаметрычную фігуру. Дзяўчынка пастаралася дома і прынесла ў школу прыгожую прызму. Вучаніца атрымала пяцёрку і заззяла ад шчасця. Але радасць яе была кароткая. Настаўніца, паставіўшы дзяўчынцы «пяцёрку», шпурнула прызму ў сметнік. Гэта і з'явілася прычынай слёз.

Хіба можна выхаваць любоў да працы, гэтак абыходзячыся з малалетнімі? Хіба можна так цаніць найвялікшую радасць—вынік працы?

А вось і другі прыклад. Ва ўсіх школах цяпер дзеці самі прыбіраюць класы, акрамя маленькіх. Гэта цудоўна! Дзеці з ранняга ўзросту прывыкаюць да працы. Але пацікавімся, ці ва ўсіх школах створаны для гэтага неабходныя ўмовы? Далёка не ўсюды. Не хапае халатаў, вешалак, шафак. Бацькі выпраўляюць у школу дзіця ў чыстым адзенні—з белым каўнерыкам, манжэтамі. Скончацца ўрокі, хлопчыкі і дзяўчынкі пачнуць прыбіраць свае класы. Як жа быць? Працаваць сумленна—снежныя манжэты не зберажэш. Застанецца чыстае адзенне—значыць, толькі выгляд рабіў, што працаваў. Значыць—ілгаў, халтурыў. А хлусня, халтура—страшныя словы. Яны—біч для заводаў і прадпрыемстваў. Выхаванне нельга пачынаць з падману, халтуры, гультайства.

Здаецца, халат—гэта дробязь. Ці варта пра яго гаварыць? Варта. Бо маці патрабуе ад дзяўчынкі ці хлопчыка, каб са школы яны прыйшлі ў чыстым адзенні. Настаўнік чакае ад вучняў добрай работы, хоча бачыць свой клас прыбраным. Тут маюць рацыю і бацькі, і школа, а вось падлеткі трапляюць у цяжкае становішча, бо не адрэгуляваны дробязі—няма халатаў.

Калі не звяртаць увагі на такія дробязі, мы многае страцім. У падлетка з цягам часу выяўляцца благія рысы—абыякавасць да працы, няшчырасць, непавага да аўтарытэту. Трэба, каб у выхаванні дзяцей быў адзіны накірунак і ў школе, і ў сям'і. І патрабаванні да непаўналетніх павінны быць сур'ёзныя, абгрунтаваныя.

Падлеткі нашых дзён дзякуючы радыё, тэлебачанню, кіно, лекцыям, мастацкай літаратуры чэрпаюць вялікую колькасць карыснай інфармацыі. А калі так, дык і патрабаваць з іх трэба больш.

Міні падчас псуе воблік прывабных дзяўчынак. А хлопцы, не разабраўшыся, ці стасуе прычоска да твару, адпускаюць такія грывы, што нагадваюць сабой пячорных істот.

Дзе ж дзелася ў такіх падлеткаў пачуццё прыгажосці, гармоніі? Чаму стройная пастава лічыцца амаль што не фізічным недахопам? А згорблены, размяклы, з абвіслымі, як бізуны, рукамі тып успрымаецца ледзь не ўзорам прывабнасці.

Нашы непаўналетнія цікавяцца пытаннямі культуры, эстэтыкі, але, знаходзячыся ў асяроддзі непрыстойных, цягнуцца да іх. Чаму? Пэўна таму, што яшчэ мала звяртаецца ўвагі на эстэтычнае выхаванне, на развіццё тонкага, здаровага густу. Мала і сям'я, і школа клапоцяцца пра культуру мовы непаўналетніх, бо з іх вуснаў так часта чуюцца непрыстойныя слоўцы, лаянка.

Хочацца яшчэ раз спыніцца на працоўным выхаванні дзяцей з ранняга ўзросту. Падлеткі павінны палюбіць карысныя для грамадства заняткі. Іх трэба навучыць высока трымаць сваю марку, марку рабочага чалавека, які ўсё ўмее, які працу любіць, як сваё жыццё.

Калі мы набываем рэч, дык хочам, каб яна была і прыгожая, і трывалая. Да гэтага ж імкнуцца і падлеткі, якія паступаюць на працу. Чаму б не вылучыць іх прадукцыю з патоку агульнай? Чаму б не дапамагчы зрабіць яе высакаякаснай, каб яна гаварыла пра іхнюю ўмеласць, любоў да працы? Бо самі ж гэтыя якасці не прыйдуць. Іх трэба выхоўваць настойліва, упарта, заахвочваць асабістым прыкладам.

У заключэнне яшчэ пра бацькоў. Сем'і, у якіх адбываюцца спрэчкі і бойкі, дзе няма ўзаемнай павагі, дзе бацькі дрэнна гавораць пра школу,—заўсёды благі прыклад для выхавання дзяцей.

Дзеці вельмі рана бачаць сапраўдныя адносіны ў сям'і, разумеюць фальш, няшчырасць і робяць з гэтага свае вывады.

Працуючы ў дзіцячым пакоі міліцыі, даводзіцца сустракацца з падлеткамі, якія ні ў што не вераць, яны грубыя і цынічныя ў адносінах да іншых. Практыка абыходжання з імі наводзіць на думку, што вытокі такога становішча схаваны ў сям'і, і даводзіцца шмат працаваць, перш чым падлетак змяняе свае адносіны і пачынае верыць, што «жыццё добрае і жыць добра!»

Звяртаемся да бацькоў, саміх падлеткаў з просьбай выказаць сваю думку. Ісціна нараджаецца ў размове, спрэчцы, а ісціна патрэбна нам у працы, бацькам і дзецям—у жыцці.

● Лідзія ТАРАТЫНАВА,
арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы СШ № 80 г. Мінска



# НАРАДЖАЮЦЦА ХАРАКТАРЫ

У нашай васьмідзесятай школе займаецца 1821 вучань. Гэта—1821 характар. Іх навучаюць 85 настаўнікаў. Гэта таксама столькі ж характараў.

Усе мы, і вучні і настаўнікі, займаемся, працуем. Мы—настаўнікі—вучым, ставім добрыя і дрэнныя адзнакі; яны—усе вучні—атрымліваюць добрыя і благія адзнакі.

Па-рознаму складуцца лёсы кожнага. Па-рознаму! Але хочацца, каб усе вучні былі шчаслівымі, усе ішлі—кожны сваёй, але ўпэўненай, цвёрдай дарогай у жыццё. За гэтую ўпэўненую, цвёрдую хаду кожнага вучня мы, настаўнікі, і змагаемся.

У нашай школе многа добрых вучняў, жыццярадасных, дапытлівых. Усе яны жадаюць набываць веды. Але сярод іх ёсць і такія, якіх мы, педагогі, завём «цяжкімі». Ды і кожны вучань па-свойму «цяжкі», бо гэта розныя характары. І яны, характары, у пэўных умовах праяўляюцца па-рознаму. Так і нашы «цяжкія», якія да пары былі выхаванымі, прыстойнымі вучнямі, раптам выявілі адмоўныя рысы характару.

Чамусьці, як я заўважыла, у нашай школе да 4—5 класаў усе дзеці вучацца няблага, наведваюць школу, не выклікаюць цяжкасцяў у працэсе навучання і выхавання. І толькі між чацвёртакласнікаў і пяцікласнікаў раптам з'яўляюцца «цяжкія». Але з такім становішчам я ўсё ж не згодна. Пра гэта я выказвала сваё меркаванне неаднойчы на педсавеце. Я прапанавала выяўляць складаныя, няўстойлівыя характары з першага класа. Хутчэйшае «адкрыццё» такіх характараў дапаможа нам выхоўваць у вучня валявыя якасці, устойлівасць у поглядзе на жыццё, дапаможа яму правільна абраць таварыша. З гэтай мэтай з вучнямі і іх бацькамі мы праводзім індывідуальныя гутаркі. Дзяцей імкнёмся зацікавіць грамадскімі справамі класа, піянерскімі абавязкамі, мастацкай самадзейнасцю. За добрыя ўчынкі падлетка, як правіла, хвалім.

З дзецьмі 4—5-х класаў лягчэй весці выхаваўчую работу. Больш клопатаў бывае са старшакласнікамі. Гэта зразумела. У падлеткаў склаліся пэўныя звычкі, меркаванні, рысы характару. Таму галоўным выхаваўчым фактарам трэба лічыць шчырасць, справядлівасць ва ўсім, добры сяброўскі тон, пачуццё давер'я і таварыскасці. Тут дарэчы нагадаць словы Н. К. Крупскай, якая гаварыла, што «трэба паважаць асобу падлетка, трэба добра ведаць дзяцей, любіць іх, бачыць у іх дарослую асобу».

У рабоце з такімі падлеткамі, якія схільны да хуліганскіх учынкаў, «адзічэлі», патрэбен заслужаны аўтарытэт, давер, бо яны асабліва востра заўважаюць самую непрыкметную няшчырасць да сябе.

...У дзесятым класе займаецца Мікалай К. Раней ён сябраваў з хлопцамі, намнога старэйшымі за сябе. Здарылася так, што ён прыняў удзел у крадзяжы. Ім зацікавіліся ў міліцыі. Каб уберагчы хлопца ад слізкай дарожкі, на працягу года з ім вялася карпатлівая работа. Мы расказвалі яму пра выдатныя справы юнакоў, вучылі яго аналізаваць свае ўчынкі, крытычна адносіцца да іх. На ўроках па гісторыі, грамадазнаўстве і літаратуры мы звярталі яго ўвагу на дадатных герояў, на моцныя, прыгожыя характары. Цяпер Мікалай—камсамолец, актывіст класа, намеснік сакратара камсамольскага аператыўнага атрада школы.

А вось яшчэ прыклад. У школу на практыку прыйшоў студэнт другога курса—былы наш вучань Саша Ч. Саша, калі займаўся ў школе, трапіў у вір «стыляг». Ён адпусціў шавялюру, пафарбаваў валасы. Нямала працавала з ім класны кіраўнік. Яна пераконвала яго, прапаноўвала развітацца з такой звышмоднай прычоскай. Хлопец упарціўся, уцякаў з урокаў. Сумеснымі намаганнямі дапамаглі яму стаць на правільны шлях.

Саша зноў у школе. Але ён ужо не вучань, а настаўнік і выхавацель. І як усім было радасна бачыць і чуць, калі гэты «цяжкі» ў мінулым юнак стаяў перад класам і гаварыў вучням пра хараство чалавечай душы!

Летась нашу школу закончыў Анатоль Г. Ён таксама раней прыцягваўся да адказу за крадзеж. Доўга і настойліва змагалася за свайго выхаванца класны кіраўнік. Яна паўсядзённа кантралявала яго паспяховасць, трымала цесную сувязь з бацькамі. Мы яму знайшлі занятак, даручылі быць памочнікам камсамольскага сувязнога з інспектарам дзіцячага пакоя міліцыі.

Мінаў час. Характар хлопца мяняўся. Анатоля прынялі ў камсамол, ён стаў членам аператыўнага атрада, паспяхова скончыў школу.

Можна нагадаць такія прыклады, калі ўпартая, настойлівая праца сям'і і школы з вучнем дала добры плён.

Педагогі надаюць першаступенную ролю ў выхаванні дзяцей сям'і, бацькам. А вядома ж, што некаторыя таты і мамы занадта песцяць сваіх дзяцей, не заўважаюць, як іх нашчадкі злоўжываюць любоўю, залішнім даверам. Гэта і прыводзіць да непрыемнасцяў.

Бывае і так, што бацькі кідаюць сваіх дзяцей на волю лёсу, «даручаюць» выхаванне іх толькі школе і вуліцы. Такія бацькі няправільна рэагуюць і на трывожныя сігналы школы. Канечне, любая маці і бацька бачаць у сваіх дзецях толькі добрае. І ім балюча, калі пра сына ці дачку кажа благое настаўнік або класны кіраўнік.

...Вучань шостага класа Валодзя А. паводзіў сябе ў школе фанабэрыста, да аднакласнікаў быў пагардлівы, абыякавы. А гэта ўжо сігнал трывогі. Мы звярнуліся да бацькоў. І вось з'явілася маці. Колькі сілы, энергіі, слоў і думак давялося патраціць настаўніцы, каб пераканаць, што за сына трэба ёй брацца і як найхутчэй! А маці ў адказ:

«Ён у мяне не курыць, не лаецца, нікога не забіў. Дома ён ціхмяны, добры!»

Выклікалі і сына. Заўважыўшы маці, ён імгненна змяніўся, ператварыўся ў сціплае, пакрыўджанае дзіця. Маці ён слухае, не пярэчыць, а настаўніку хлусіць. Усё робіць дзеля таго, каб матуля паверыла сыну, а не нашаму сігналу трывогі.

Я ўжо казала, калі пабочныя не задаволены дзіцем, маці балюча. Гэта зразумела, бо для кожнай маці яе дзіця лепшае ў свеце. Пераканаць яе ў адваротным цяжка. Але ж і да сваіх дзяцей трэба ставіцца крытычна.

Настаўнік мае прафесійны, асаблівы зрок. Ён рэдка памыляецца, яму дапамагае вопыт і веданне характару вучня. Але бывае і так.

...Класны кіраўнік б'е трывогу. Валодзя М., увогуле неблагі вучань, раптам пачаў грубіць, весці сябе развязна. Адкуль гэта? Класнаму кіраўніку невядома. Вось тут і патрэбна дапамога маці, каб высветліць прычыны такіх паводзін Валодзі і дапамагчы яму пазбавіцца благіх рыс, што ўзніклі ў яго характары. Але маці не жадае зразумець класнага кіраўніка. Школе давядзецца яшчэ нямала змагацца за Валодзю. І мы ўсё ж спадзяёмся, што яго маці зразумее нашу трывогу.

Нельга не прывесці і такі прыклад. У нашай школе займаецца Толя Л. Ён сямікласнік, чацвёрты з сям'і. Усе трое—Валера, Валодзя і Зіна—раней скончылі нашу школу. Колькі сілы, нерваў, працы аддалі педагогі, каб вывесці іх у жыццё. І вось цяпер у нас апошні.

Маё першае знаёмства адбылося з ім у 1971 годзе. Памятаю, перада мной—сімпатычны хлопец, склаўшы рукі на грудзях, ён уважліва слухае мяне, з усім згаджаецца, міла ўсміхаецца. Я думала, што ён зразумеў мяне,—будзе сумленна наведваць школу, выконваць дамашнія заданні, сябраваць з таварышамі. Але я памылілася. Толя схлусіў мне. Ён не вучыў урокаў, уцякаў са школы, ілгаў таварышам, настаўнікам і бацькам.

Цяпер Толя зноў вучыцца, другі год у сёмым класе. Але ён вырас, і ў яго характары выявіліся новыя рысы—жорсткасць у адносінах да таварышаў, вера ў беспакаранасць сваіх учынкаў.

Школа змагалася за ўсіх дзяцей і атрымала ад бацькоў «узнагароду». Іх маці абвінаваціла і цяпер вініць настаўнікаў, што школа сапсавала яе дзяцей, што яна несправядліва да іх адносілася і адносіцца. Такое пачула я ўпершыню за ўсе гады сваёй педагагічнай працы.

Без кантролю з боку бацькоў падлетак не зможа выхаваць у сабе пачуццё абавязку, адказнасці. А калі няма гэтага пачуцця—цяжка жыць у калектыве. Пяцікласнік нашай школы Жора М. не разумее сэнсу слова «нельга». Ён не ўсведамляе, што вучоба—гэта праца. Ён без прычыны пакідае школу, не вучыць урокі. Бывае, што падлетак знікае з дому. Дзе ён прападае, не ведаюць і самі бацькі.

Варта запытаць, чаму такое здарылася? Хто вінаваты? Сям'я? Школа?

Школа вучыць яго любіць працу, прыроду, расчыняе перад ім свет дзівос і ведаў. А падлетку нецікава.

А сям'я? Хіба і яна — не аснова выхавання? Бацькі таксама абавязаны навучаць сваіх дзяцей усяму добраму, абуджаць у іх пачуццё дапытлівасці.

У Жоры адсутнічае цікавасць да вучобы, да ўсяго новага. І толькі таму, што маці мала займаецца сынам. Яна апраўдваецца, спасылаецца на яго слабы стан здароўя. У сям'і, дзе расце Жора, няма дружбы, узаемапавагі паміж бацькамі. А калі няма гэтага, дык няма ўмоў для развіцця, выхавання падлетка. І Жора зразумеў, што можна жыць, як хочаш, рабіць, што ўздумаецца. Словам, быць вольным.

Колькі кемлівасці, педагагічнага такту спатрэбіцца школе, каб пераканаць маці, што яе сын здаровы. Проста трэба яго любіць, бачыць у ім асобу, аддаць яму гадзіны ўвагі, дапамагчы. А бацька Жоры? Ён плаціць дакладна ў тэрмін аліменты і выхоўвае сына толькі спосабам фізічнага ўздзеяння.

Цяжка школе адной справіцца са станаўленнем характару, з выхаваннем падлетка. Хіба зможа яна накіраваць яго жыццё па правільным рэчышчы, калі няма трывалага тылу — сям'і?

Можна шмат расказаць і добрага, і крыўднага з жыцця нашых школьнікаў-падлеткаў. Заўсёды хочацца, каб было болей прыемнага, бо дзіця не нараджаецца «цяжкім».

Каб менш было «цяжкіх» падлеткаў, варта нашы педагагічныя стрэлы скіраваць на калектывы заводаў, фабрык і прадпрыемстваў. Педагагічныя інстытуты, дамы палітасветы, педпрапаганды — хіба не яны заклікаданы ствараць лекторыі для бацькоў на заводах, фабрыках? Хіба не ім ісці з педпрапагандай у цэхі, на будоўлі?

Добра было б, каб лекцыі на педагагічныя тэмы па выхаванні падлеткаў слухала і наша моладзь. Бо сённяшнія юнакі і дзяўчаты неўзабаве стануць бацькамі і прывядуць сваіх дзяцей у школу.

Трэба больш перадач на педагагічную тэматыку па радыё і тэлебачанні. Толькі агульнымі намаганнямі можна дасягнуць поспеху ў выхаванні непаўналетніх.

Сям'я, школа і камсамол павінны змагацца за характар падлетка, за станаўленне яго як асобы.

■■■



# ВЫХАВАЦЕЛІ ПАЧУЦЦЯЎ

У Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага існуюць два аддзяленні — музычна-педагагічнае і культурна-асветнай работы.

Музычна-педагагічнае аддзяленне, створанае пры філалагічным факультэце пяць гадоў назад, рыхтуе выкладчыкаў спеваў і музыкі для агульнаадукацыйных школ. Яшчэ зусім нядаўна ўрокі спеваў і музыкі былі толькі ў пачатковай школе, а цяпер яны ўведзены да 7-га класа ўключна. Мабыць, не за гарамі і той час, калі гэтыя ўрокі будуць ва ўсіх класах сярэдняй школы. Навучыць школьніка музычнай грамаце, адкрыць яму цудоўны свет музыкі — задача настаўніка спеваў і музыкі.

За чатыры гады навучання студэнты праходзяць курс музычна-тэарэтычных дысцыплін, займаюцца дырыжыраваннем, вакалам, працягваюць навучанне на выбраным музычным інструменце, спяваюць у хоры, вывучаюць методыку выкладання музыкі і спеваў у школе, праходзяць практыку ў школах Мінска.

Аддзяленне культурна-асветнай работы рыхтуе кіраўнікоў самадзейных харавых і вакальных калектываў для клубаў і палацаў культуры. Тэрмін навучання на гэтым аддзяленні таксама чатыры гады. Вывучаюцца амаль тыя ж прадметы, але крыху ў іншых прапорцыях (шырэй гісторыя мастацтва, але менш вакалу, няма курсу дзіцячага музычнага выхавання, але ёсць курс клубнай работы і г. д.).

Для паступлення на музычна-педагагічнае аддзяленне і на аддзяленне культурна-асветнай работы, акрамя агульнай сярэдняй адукацыі, неабходна мець так сама і спецыяльныя музычныя веды ў аб'ёме музычнага вучылішча або музычна-педагагічнага вучылішча, у аб'ёме спецыяльнай сярэдняй музычнай школы або сярэдняй школы з музычным ухілам.

У тых, хто скончыў музычныя вучылішчы, узровень ведаў, вядома, вышэйшы, чым у выпускнікоў музычнай школы. Гэта ўлічваецца пры камплектаванні акадэмічных груп і падгруп. Асобы, якія маюць закончаную сярэднюю музычную адукацыю, аб'ядноўваюцца ў так званую «моцную» групу, дзе музычна-тэарэтычныя прадметы вывучаюцца больш глыбока. Тым, хто выканаў адпаведны вучэбны план, акрамя агульнай кваліфікацыі выкладчыка спеваў і музыкі ў агульнаадукацыйнай школе, прысвойваецца і дадатковая кваліфікацыя выкладчыка музычна-педагагічнага вучылішча.

Штогод на першы курс музычна-педагагічнага аддзялення прымаецца 25 чалавек. Аднак з наступнага навучальнага года колькасць месцаў будзе значна павялічана. Апошні раз на 25 месцаў было пададзена каля 60 заяў, на 50 месцаў аддзялення культурна-асветнай работы — каля 80 заяў. На абодва аддзяленні залічваліся амаль усе, хто паспяхова здаў уступныя экзамены. Экзамены наступныя: спецыяльнасць, сачыненне па літаратуры (на беларускай або рускай мовах), вусны экзамен па мове (беларускай або рускай) і літаратуры (беларускай або рускай), гісторыі СССР. Усе прадметы, акрамя спецыяльнасці, здаюцца на агульных падставах.

Першым экзаменам звычайна бывае спецыяльнасць. Менавіта тут выяўляецца прафесійная прыгоднасць абітурыента да будучай работы. Гэта сапраўды самы цяжкі экзамен, бо ён складаецца з некалькіх экзаменаў (частак): а) вакал, б) ігра на музычным інструменце, в) элементарная тэорыя музыкі і г) сальфеджыо, хоць адзнака выстаўляецца агульная. Гэты экзамен прымае камісія з трох-чатырох чалавек (дырыжор, вакаліст, інструменталіст і тэарэтык). Якія патрабаванні прад'яўляюцца да абітурыента?

Вакал. Неабходна выканаць адзін які-небудзь вакальны твор: народную песню або песню якога-небудзь кампазітара, раманс і г. д. Твор павінен быць напеўнага складу, а не крыклівыя частушкі-скорагаворкі або мікрафонныя творы «моцнага шэпту». Неабходна мець добрую дыкцыю (выразна вымаўляць словы), без моўных дэфектаў (заіканне, шапялявасць, адсутнасць гука «р» і г. д.). Галоўнае, каб былі чыстыя галасавыя звязкі, здаровае горла.

На музычным інструменце неабходна выканаць прыблізна наступныя творы: эцюд (паказаць сваю тэхніку ігры), п'есу (пажадана кантыленнага складу і эмацыянальнага зместу, паказаць у ёй валоданне гукам, нюансамі, фразіроўкай), паліфанічны твор (паказаць сваё ўменне выконваць паліфанічнае шматгалоссе) і, нарэшце, вялікую форму — санату, канцэрт (або частку санаты, частку канцэрта), санаціну, варыяцыі і г. д. Я не агаварыўся, сказаўшы слова «прыблізна», бо не на ўсіх музычных інструментах выконваюцца паліфанічныя творы (домра, цымбалы

і г. д.), не ўсе паступаючыя маюць у сваім інструментальным рэпертуары творы вялікай формы; напрыклад, асобы, якія закончылі толькі дзіцячыя або вячэрнія музычныя школы, і вакалісты з адукацыяй нават у аб'ёме музычнага вучылішча. Да тых, у каго фартэпіяна не з'яўляецца прафіліруючым (асноўным) інструментам, патрабаванні па ігры на фартэпіяна наогул меншыя, чым да струннікаў, духавікоў і г. д. Галоўнае — гэта паказаць сваё ўменне ігры на тым або іншым інструменце. Асабліва прыхільна ставіцца камісія да абітурыентаў, якія выконваюць вакальны твор пад уласны акампанемент. Але не ў літаральным сэнсе, г. зн. не «вынаходзіць» свой уласны акампанемент (звычайна гэта гучыць жахліва!), а суправаджаць спяванне пісьменным акампанементам, г. зн. іграць па нотах. Калі партыя суправаджаючага інструмента занадта складаная, то акампанемент можна крыху спрасціць, але абавязкова захаваць арыгінальныя гармоніі і ў той жа час не даводзіць да занадта бясколернага прымітыву.

Элементарную тэорыю музыкі ўсе абітурыенты павінны ведаць не ніжэй праграмы дзіцячай музычнай школы. Звычайна пытанні задаюцца кароткія і лёгкія (даць вызначэнне рытму, тэмпу, памеру і г. д.), але рэдка тыя, хто адказвае, даюць дакладныя фармуліроўкі, часцей блытаюць метр з размерам, рытм з тэмпам і г. д. Слаба памятаюць музычныя тэрміны, народныя лады, а часам і танальныя знакі, вельмі марудна будуюць інтэрвалы, акорды, дрэнна арыентуюцца ў ступенях ладу.

Па сальфеджыо неабходна не толькі ўмець будаваць і вырашаць інтэрвалы і акорды, прадугледжаныя курсам элементарнай тэорыі музыкі, але і валодаць чыстай інтанацыяй. Акрамя таго, з ліста трэба ўмець спяваць аднагалосыя нумары са зборніка па сальфеджыо. На слух вы павінны вызначыць усе інтэрвалы, усе трохгучнасці (мажорныя і мінорныя са зваротамі, павялічаныя і зменшаныя з дазволамі), септакорды (дамінантавы септакорд і яго звароты з вырашэннем, септакорды II і VII ступеняў толькі з дазволам). Пасля папярэдняй настройкі вызначаць на слых ступені мажорнага і мінорнага ладоў. Калі ў прыёмнай камісіі ўзнікае сумненне адносна чысціні інтанацыі пры выкананні тых або іншых вакальных практыкаванняў, то прапануецца абітурыенту праспяваць мажорны лад (натуральны, або гарманічны) або мінорны лад трох відаў (натуральны, гарманічны або меладычны). З ладоў горш за ўсё спяваюць натуральны мінор (сёмую ступень). Танальнасці прапануюцца падыходзячыя для данага голасу, але не больш чым чатыры знакі пры ключы.

З прычыны вялікай перагружанасці экзамену па спецыяльнасці дыктант па сальфеджыо не пішацца. Але замест гэтага прапануецца праспяваць кароткую музычную фразу з назвай нот і з дырыжыраваннем.

Экзамен па спецыяльнасці праводзіцца без білетаў. Інструментальная праграма і вакальны твор рыхтуюцца, як правіла, на працягу года. Па тэорыі задаюцца кароткія і асноўныя пытанні, пра якія пісалася вышэй, а адказы па сальфеджыо (тым больш слыхавы аналіз) не патрабуюць часу на падрыхтоўку.

Парадак адказаў прапануецца абітурыентам выбіраць самім. Можна пачынаць адказ з інструментальнай праграмы або з сальфеджыо. Звычайна абітурыенты выбіраюць такі парадак: ігра на музычным інструменце (гэта праграма звычайна засвоена лепш, і на ёй можна супакоіцца), затым выконваюць вакальны твор (крыху супакоіўшыся, голас не так ужо моцна дрыжыць), і ўрэшце адказваюць тэорыю з сальфеджыо (такі парадак хутчэй можна вытлумачыць слабай падрыхтоўкай). Раю пры падрыхтоўцы да экзаменаў па спецыяльнасці звярнуць большую ўвагу імена на сальфеджыо і элементарную тэорыю музыкі.

Перад уступнымі экзаменамі для сельскай моладзі арганізуюцца дзесяцідзённыя падрыхтоўчыя курсы. За гэты час слухачы паспяваюць з кваліфікаванымі выкладчыкамі інстытута прайсці вузлавыя тэмы па элементарнай тэорыі музыкі, праспяваць асноўныя практыкаванні па сальфеджыо, прарэпеціраваць свае вакальныя творы. Акрамя гэтага, на курсах праводзяцца заняткі па гісторыі СССР, па мове і па літаратуры. Сельская моладзь карыстаецца перавагамі і пры залічэнні ў інстытут.

Усе паступаючыя, якім неабходны канцэртмайстар, атрымліваюць індывідуальны час для рэпетыцый. Але, на жаль, большасць абітурыентаў прыходзіць толькі на апошнюю кансультацыю, і часу для рэпетыцый застаецца вельмі мала. Часам бывае і так, што на рэпетыцыі (а часам і на экзамен) абітурыент прыходзіць без нот. Якасць адказу пры гэтым, вядома, толькі пагаршаецца.

На аддзяленне культурна-асветнай работы пры бібліятэчным факультэце экзамены праводзяцца амаль такім жа парадкам.

**Артур ЗАГАРОДНЕЎ,**
**загадчык кафедры спеваў Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ, АПУБЛІКАВАНЫЯ Ў НУМАРЫ № 1.

### Матэматычны факультэт

1. $2\,\mathrm{arctg}\,\frac{\sqrt{k}}{2}$, дзе $0 < K < 4$;
2. $x = 2$;
3. $x_1 = \frac{11}{8}\pi$; $x_2 = \frac{21}{16}\pi$;
4. а) 3; 6; 12;
   б) 12; 6; 3;
   в) $\frac{24}{9+\sqrt{65}}$; $-6$; $\frac{3}{2}(9+\sqrt{65})$;
   г) $\frac{24}{9-\sqrt{65}}$; $-6$; $\frac{3}{2}(9-\sqrt{65})$.

### Фізічны факультэт

1. $V = \frac{8}{3}\pi r^3\left(\frac{k^2-1}{k^3}\right)^2$, пры $k > 1$;
2. $x = 48$;
3. $x = \pm\frac{\pi}{3} + 2\pi K$;
4. $-3 < \mu < 5$

### Хімічны факультэт

1. $\frac{V\ \text{цыліндра}}{V\ \text{паралелепіпеда}} = \frac{\pi}{4}\cdot\frac{\cos^2\alpha + \cos^2\beta}{\cos\alpha\cdot\cos\beta}$;
2. $x = 7$;
3. $2 - \frac{\sin 8\alpha}{\sin^4 2\alpha - \cos^4 2\alpha} = 4\sin\left(2\alpha + \frac{\pi}{4}\right)\cdot\cos\left(2\alpha - \frac{\pi}{4}\right)$;
4. 40 кг сталі I гатунку і 100 кг сталі II гатунку.

### Геаграфічны факультэт

1. $V = \frac{a^3}{8}\cdot\mathrm{tg}\,\alpha\cdot\mathrm{tg}\,\frac{\alpha}{2}$;
2. $x > 1$;
3. $x_1 = 3$; $y_1 = 4$;
   $x_2 = \frac{7\sqrt{2}}{2}$; $y_2 = \frac{\sqrt{2}}{2}$;
4. $1 - 3\left(\frac{a^2-1}{2}\right)^2 = b\left(\frac{a^2-1}{2}\right)^3$.

Падрыхтаваў
**Генадзь ДРАБУШЭВІЧ,**
**загадчык кафедры матэматычнага забеспячэння электронных вылічальных машын БДУ імя У. І. Леніна.**




# 1972

## САКАВІК

**1**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Ф. Т. Касцюковіча, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара кафедры эканомікі сельскай гаспадаркі Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава.

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Я. І. Радзялоўскай, беларускага мастака-жывапісца.



А. Р. Чарвякоў.

**3**

905 гадоў назад (1067) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Мінск. (Бітва на рацэ Нямізе. Мінск быў разбураны войскам вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха).

50 гадоў з дня нараджэння (1922) Ф. І. Валадзько, беларускага мастака прыкладнога мастацтва.

**5—8**

25 гадоў назад (1947) праходзіў XV з'езд камсамола Беларусі.

**7**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Т. К. Хадкевіча, вядомага беларускага пісьменніка.

**8**

**Міжнародны жаночы дзень.**

80 гадоў з дня нараджэння (1892) А. Р. Чарвякова, старшыні Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. Памёр у 1937 г.



М. І. Гамолка.

**11**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) М. І. Гамолкі, беларускага пісьменніка.

**13**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) П. М. Герасімовіча, беларускага мастацтвазнаўцы.



П. М. Герасімовіч.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) П. С. Малчанава, народнага артыста СССР.

50 гадоў з дня нараджэння (1922) А. А. Ткачонка, беларускага мастака-графіка.

**15—19**

50 гадоў назад (1922) праходзіў VI з'езд КП(б) Беларусі (XI канферэнцыя КП(б)Б).

**20**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) М. Ф. Гікалы, першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі. Памёр у 1937 г.



М. Ф. Гікала.

**23**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) В. Я. Віхрова, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара, загадчыка кафедры драўніназнаўства і лесаэксплуатацыі, рэктара Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава.

**27**

45 гадоў назад (1927) адбылася нарада пісьменнікаў, прысвечаная стварэнню Усебеларускай асацыяцыі пісьменнікаў і паэтаў. (Прысутнічалі прадстаўнікі «Маладняка», «Узвышша», групы «Звенья», гісторыкі і публіцысты).



В. Я. Віхроў.



**Уладзімір Барысавіч Карпаў.**

# СЛОВА ПРА СЯБРА

Вядомаму беларускаму пісьменніку-раманісту Уладзіміру Барысавічу Карпаву ўжо шэсцьдзесят гадоў. Чалавек к гэтаму часу робіцца лагаднейшым не толькі ў асабістым жыцці, але і ў сваіх творах. Нічога, маўляў, не зробіш—старасць. Слабеюць і прыглушваюцца ўсялякія там страсці. Некаторыя, кажуць, нават пачынаюць прыхарошвацца перад сваімі сябрамі.

Але я штосьці не заўважаў, каб гэта было ўласціва нашаму юбіляру. Аўтабіяграфія яго не ператворана ў прыгодніцкую легенду, якую часам ствараюць некаторыя людзі, дзе ёсць усё, апрача фактаў.

З Уладзімірам Карпавым мне давялося ўпершыню сустрэцца толькі пасля вайны, але мне сёння здаецца, што я запомніў яго яшчэ з цяжкога для нашай краіны 1921 года. Вучыўся я тады ў Мар'інагорскай чыгуначнай школе. Аднойчы ў зімнюю сіверную раніцу нас, даволі скалелых ад лютага марозу хлопцаў і дзяўчат, сустракалі яшчэ ў калідоры нейкія вельмі заклапочаныя нашы настаўнікі і бадай шэптам паведамлялі, што заняткаў сёння не будзе, што мы можам вяртацца дадому. Пры гэтым яны непакойліва азіраліся на дзверы, якія вялі ў класы, і прасілі нас не шумець.

— А што такое? Чаму не шумець, Міхаіл Васільевіч?—запытаўся я ў выкладчыка мовы і літаратуры.





— Цсс! Не крычы,—прыўзняўшы далонь, зашаптаў ён.—Позна ноччу прывезлі дзяцей з Паволжа. Яны цяпер спяць...

Дзеці з Паволжа! Іх вывозілі адтуль, ратуючы ад голаду. Змарнелыя і стомленыя доўгай дарогай, яны спалі цяпер упокат, адно пры адным, проста на чыста вымытай падлозе ва ўсіх класах. Асцярожна прычыняючы дзверы, мы выходзілі са школы на дыбачках.

З таго дня прайшлі, здаецца, сотні гадоў, кожны з нас, старэйшых, шмат пабачыў і добрага і злога, але сон згаладалых і здарожаных дзяцей, які пільна вартавалі нашы настаўнікі, мне запомніўся назаўсёды. Добра ведаючы, што Уладзімір Карпаў таксама быў вымушаны ў той час пакінуць свой родны прыволжскі Хвалынск, я запытаўся ў яго, ці не спыняўся ён часам у Мар'інай Горцы.

— Не,—адказаў Уладзімір Барысавіч.—Я знаходзіўся тады ў дзіцячым доме, дзе мая маці працавала выхавацелькай. Нас усіх з дзіцячага дома пагрузілі ўлетку на параход і павезлі ўверх па Волзе. Памятаю добра, што наш параход трапляў часам на мялізны. Тады капітан камандаваў нам лезці ў ваду і папіхаць параход. Усялякага было ў гэтым падарожжы. Аднаго дня захварэла маці. Медыцына ўспалашылася. Падазравалі страшную халеру. Ужо збіраліся ссадзіць з парахода і пакласці ў першы бліжэйшы ізалятар. Але неяк абышлося. І маці неўзабаве паправілася. Мы паволі прабіраліся далей ад спустошаных засухай і голадам мясцін. Я ўжо не памятаю, якім чынам мы апынуліся ў Казлове, потым трапілі ў Кіеў, адтуль нас перавезлі у Рэчыцу. Тут мы і асталяваліся.

У Рэчыцы, як вядома са скупога біяграфічнага даведніка, Уладзімір Карпаў вучыўся ў сярэдняй школе, працаваў на лесазаводзе, пасля настаўнічаў у Гомельскай і Віцебскай абласцях, не перапыняючы, аднак, далейшай вучобы. Толькі ён здаў дзяржаўныя экзамены ў Мінскім педагагічным інстытуце імя Горкага, як пачалася Вялікая Айчынная вайна.

Гавораць, што, мусіць, толькі ў аднаго бельгійца Мэтэрлінка адразу пасля школьнай лавы пачалося прафесійнае пісьменніцкае жыццё. А ўсе іншыя, каго мы ведаем з гісторыі літаратуры ўсіх часоў і народаў, спярша выпрабоўвалі свае здольнасці і талент у жанрах, часта вельмі далёкіх ад паэзіі і мастацкай прозы. На рэчыцкім лесазаводзе Уладзімір Карпаў прапрацаваў тры гады: спярша каля пілярам, адносячы ад іх дзевяціметровыя цяжкія аполкі, потым яго павысілі да качагара, далей прызначылі бракёрам. У краіне пачалася масавая калектывізацыя. Бывалыя рабочыя лесазавода часта выязджалі з дапамогай на вёску і заўсёды ўключалі ў сваю брыгаду маладога таварыша па працы — Валодзьку Карпава, як ласкава тады яго называлі.

Мне думаецца, што гэты актыўны ўдзел у працы і жыцці дружнага рабочага калектыву лесазавода, дзе чалавека ацэньваюць не за прыгожыя словы, а за жывыя яго справы, вельмі дапамог Уладзіміру Карпаву ў яго далейшым лёсе. Асабліва ў вострыя і рашаючыя хвіліны, калі ты застаешся сам-насам з небяспекай, калі ты адначасова з'яўляешся і генералам і салдатам.

Уявіце сабе акупіраваны крывавымі гітлераўцамі, але няскораны Мінск, штодзённыя аблавы на падпольшчыкаў і тых, хто да іх прыходзіў з навакольных лясоў. Выконваючы спецыяльнае заданне партызанскага камандавання, Уладзімір Карпаў спыніўся на кватэры аднаго з першых журналістаў Беларусі Алеся Лявонавіча Матусевіча. Неўзабаве раптоўны моцны грукат у дзверы, нямецкая лаянка за імі і злое патрабаванне зараз жа адчыніць. Відаць, ворагі сачылі за кватэрай аднаго са шматлікіх мінскіх падпольшчыкаў і цяпер вырашылі схапіць і гаспадара і яго ляснога госця.

Увесь збялелы ад грознай нечаканасці, Алесь Лявонавіч паволі, каб даць час Уладзіміру Карпаву закрыцца ў цёмнай кладоўцы, пайшоў да дзвярэй. А ў іх ужо малацілі настойліва падкаванымі салдацкімі ботамі.

Тым часам Уладзімір Барысавіч зачыніўся ў кладоўцы і, падрыхтаваўшыся да бою, шчоўкнуў засцерагальнікам свайго неразлучнага сябра «ТТ». Ён ведаў, колькі ў яго ў запасе патронаў, і цвёрда вырашыў, што апошні з іх трэба берагчы для самога сябе. Толькі б не памыліцца ў падліку стрэлаў, калі давядзецца пачаць агонь!

Вось гітлераўцы ўжо ўварваліся ў калідор, лаючыся апошнімі словамі. Загрукалі па падлозе цяжкімі ботамі. Мінецца яшчэ адна якая хвіліна... Але што гэта? Уладзімір Барысавіч падлавіў напружаным слыхам, што немцы, перапыняючы адзін аднаго, распытваюць у Алеся Лявонавіча: як ім прайсці на Камароўскі рынак? Толькі цяпер разабраў Уладзімір Барысавіч, што галасы ў салдатаў даволі п'яненькія... Хутка яны пайшлі.

А магло быць інакш.

І тут, і пры выкананні іншых баявых заданняў, як, напрыклад, у час раззбраення і вываду аднаго з гарнізонаў так званай самааховы ў лес.

Гэтая напружаная партызанская вайна з гітлераўскімі акупантамі закончылася

для Уладзіміра Барысавіча адразу пасля вызвалення Мінска і ўсёй Беларусі нашай гераічнай Савецкай Арміяй.

Мы ведаем, што ён зноў пачаў працаваць настаўнікам. Яго хвалявала, аднак, і літаратурная праца. Хацелася сказаць нешта сваё пра тэатральныя пастаноўкі ў вызваленай сталіцы, пра новыя літаратурныя творы. Газеты надрукавалі яго першыя рэцэнзіі на кнігі, выпушчаныя аднаўленым Дзяржаўным выдавецтвам. Потым Уладзіміра Барысавіча запрасілі на працу ў рэдакцыю газеты «Советская Белоруссия». Неўзабаве «лімаўцы» ператалявалі яго ў свой калектыў.

Найбольш Уладзімір Барысавіч запомніўся нам, відаць, як удумлівы і патрабавальны рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя». Для многіх вядомых цяпер літаратараў ён быў першым кансультантам і сябрам, якога шчыра хвалявала і радавала кожнае трапнае і дакладнае слова пачынаючага пісьменніка.

Але я не памятаю, каб Уладзімір Карпаў як вядомы ўжо ў той час крытык і літаратуразнаўца пайшоў на змову са сваім сумленнем і заплюшчыў вочы нават на самыя малыя ў ідэйных адносінах хібы таго ці іншага твора, які трапляў у яго рукі. Тут ён быў і застаўся па сённяшні дзень непахісным і ваяўнічым, што, вядомая рэч, не кожнаму да спадобы.

Тым часам свой уласны жыццёвы матэрыял усё мацней і мацней трывожыў яго сэрца. Перад яго позіркам паўставалі людзі, якія разам з ім хадзілі са зброяй на баявыя аперацыі, прарываліся праз варожыя блакіроўкі, спалі побач у няўтульных буданах. Нямала іх гераічна загінула ў жорсткай барацьбе за вызваленне нашай рэспублікі. Ён, Уладзімір Карпаў, павінен расказаць пра іх справы і думкі.

Так нарадзілася аповесць «Без нейтральнай паласы». Мне даводзілася назіраць, як ён працаваў над рукапісам нават у часе камандзіровак. Стомленыя літаратурнымі выступленнямі, многія спалі, а Уладзімір Карпаў, выкарыстоўваючы цішыню начы, праседжваў у гасцініцы над сваім творам ледзь не да самай раніцы.

Сотням тысяч чытачоў палюбіліся яго раманы «За годам год», «Вясенніія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць» — тэтралогія пра людзей, якія ваявалі за вызваленне Мінска ад фашысцкай навалы, пасля падымалі яго з руінаў, каб зрабіць такім, якім ён выглядае сёння. Мне хочацца толькі дадаць, каб чытачы ведалі, што заключную кнігу тэтралогіі Уладзімір Барысавіч пісаў пасля цяжкай хваробы, якая многіх і многіх збівае з ног. І трэба радавацца і здзіўляцца той мужнасці і жалезнай настойлівасці, якія праяўлены гэтым чалавекам, каб давесці да канца сваю задуму.

У час вайны, як вядома, Уладзімір Барысавіч быў баявым партызанскім разведчыкам. Такім дзейсным і неспакойным ён застаецца і ў нашым сённяшнім літаратурным жыцці, разведваючы новыя тэмы, ствараючы натхнёныя вобразы перадавых рабочых, інжынераў, архітэктараў — актыўных будаўнікоў камунізма.

Савецкі ўрад высока ацаніў баявыя заслугі і працоўную дзейнасць Уладзіміра Барысавіча Карпава, узнагародзіўшы яго ордэнамі Чырвонай Зоркі, Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

У свае шэсцьдзесят гадоў ён застаецца такім жа маладым і поўным новых творчых планаў, як дзесяць і дваццаць гадоў назад.

Добрага табе здароўя і вялікіх творчых поспехаў, дарагі дружа!

**Макар ПАСЛЯДОВІЧ.**





Міхась Андрэевіч Савіцкі.

# За вышынёй — вышыня

У рэдакцыю «Маладосці» Міхась Савіцкі зайшоў, толькі што вярнуўшыся з Масквы — з пленума Саюза мастакоў СССР. Гаворка там вялася сур'ёзная — аб праблемах развіцця сучаснай тэматычнай карціны. І ў зале пасяджэнняў не раз называлася імя беларускага мастака Міхася Савіцкага. На творчасці яго акцэнтавалі ўвагу, яго параўноўвалі з іншымі майстрамі. Гаварылася, у прыватнасці, аб двух шляхах развіцця тэматычнай карціны. Першы з іх — **натурны** — ілюстраваўся работамі Віктара Іванова, другі, звязаны **са стварэннем** карціны, знаходзіў важкія аргументы ў палотнах Міхася Савіцкага.

А як жа сам мастак ставіцца да гэтых паралеляў?

Міхась Андрэевіч сцвярджае, што асаблівых разыходжанняў у гэтых двух творчых метадах ён не бачыць. Скажам, Віктар Іваноў робіць карціны з натуры. Але ж і ён, Міхась Савіцкі, перш чым прыступіць да асноўнай працы, збірае натурны матэрыял, аналізуе яго, абагульняе.

І ўсё ж, усміхаецца Міхась Андрэевіч, розніца ёсць.

Кожную сваю карціну ён пачынае з выразнага ўяўлення, што такое мастак — у шырокім плане. Перш чым узяцца за работу, трэба даць сабе недвухсэнсоўны адказ на гэтае пытанне. Ён заўжды ўсведамляе, што поле яго дзейнасці надзвычай складанае: мастак бярэ прадмет і дае яму другое жыццё. А гэты факт ставіць цэлы комплекс праблем. З аднаго боку — якому прадмету даць блаславенне на жыццё. Потым — якое яно, гэтае жыццё,— пратэст, дабрата ці штосьці іншае? Па-другое, кожны прадмет мае сваю радаслоўную. Выявіць яе, засведчыць нацыянальную прыналежнасць — таксама вельмі і вельмі важны момант творчага працэсу.

У сучасным мастацтве, гаворыць Міхась Савіцкі, ёсць нямала прыкладаў, калі натура бярэ верх. Творца становіцца фіксатарам. Карціна яго губляе многія якасці: прытупляецца вастрыня праблемы, прыглушаецца сутнасць, сэнс з'явы. А менавіта гэты фактар павінен быць клопатам нумар адзін. Праца мастака — гэта, перш за ўсё, уменне аналізаваць, даваць ацэнку, мысліць шырока і маштабна.

Толькі тады, падкрэслівае Міхась Савіцкі, калі прыйшло да яго ўсведамленне гэтага, ён адчуў, што можа па-сапраўднаму рабіць карціну. Яна з'явілася ў 1963 годзе і называлася «Партызаны». У карціне яскрава акрэсліўся творчы почырк мастака. Ён прымяніў тут метад мантажу. Асобныя кампаненты арганічна зліліся ў адзінае мастацкае рэчышча.

Сюжэтна гэта выглядала так. Партызан развітваецца з сям'ёй. Праз яго твар, праз яго жэст трэба было даць глыбокую характарыстыку. Характарыстыку менавіта **савецкага** чалавека, за плячыма ў якога і гады рэвалюцыі, і разрухі, і са-

цыялістычнага будаўніцтва. Словам, прадмет выбіраўся такі, каб праз яго паказ адлюстроўваліся рысы часу, каб вобраз гаварыў не пра нейкую лакальную ісціну, а пра тое, што перажыў увесь народ. Але абагульненне ні ў якім выпадку не павінна было закрэсліць рысы індывідуальныя. І мастак дамогся гэтага. Яго герой валявы і, разам з тым, інтымна-чалавечны — з такім, як кажуць, жыць не надта спакойна, але — надзейна.

Гэта першы кампанент карціны. Другі — група партызанаў. Праз яго ў многім рашаўся рытмічны лад твора, праяўляўся характар часу: воля і перакананасць савецкіх людзей.

Такі комплекс ідэйна-тэматычных задач быў здзейснены ў «Партызанах».

Аднак апроч філасофскай канцэпцыі, перад мастаком паўстае і праблема эмацыянальнага вырашэння карціны. А пачуццё не сфармулюеш, яго трэба выявіць. Міхась Савіцкі імкнецца, каб карціна выклікала ў гледача не адзінарныя, а складаныя пачуцці. Кожны з кампанентаў яго твора нясе пэўны эмацыянальны зарад. І гэтая «дазіроўка» нагрузкі перажыванняў стварае гарманічны пачуццёвы лад карціны. Жыццё як бы паўтараецца наноў, праходзіць праз сэрца гледача.

Кожную сваю работу Міхась Савіцкі разглядае як прыступку на вялікай творчай дарозе. Для яго новая карціна — гэта крок наперад, новы этап, новая вышыня. Прынцыпы, замацаваныя ў «Партызанах», развіваліся, паглыбляліся ў «Партызанскай мадонне». Той жа ідэйна-мастацкі комплекс паўстаў перад намі ў больш складаным выяўленні: Міхась Савіцкі стварае ў карціне ўжо не проста вобраз, а сімвал Беларусі-партызанкі.

Так высняецца адна з асноўных якасцяў мастацкай індывідуальнасці Міхася Савіцкага. Творчасць для яго — ад карціны да карціны — адзіны, непарыўны працэс: заваяваны плацдарм адкрывае новыя гарызонты.

Разважаючы над гэтым, я прызнаўся Міхасю Андрэевічу, што лічыў яго карціны «Пакаранне», «Рабочыя» і «Хлеб» трыпціхам. Мастак запярэчыў, даючы, аднак, зразумець пры гэтым, што ўсе яго работы пэўным чынам звязаны «кругавою парукай», з'яўляюцца звеннямі непарыўнага творчага поступу. Хоць ёсць, зразумела, і яшчэ больш шчыльныя кантакты паміж асобнымі творамі. Так, названыя тры карціны яднае тэма чалавечай годнасці. Відаць, гэта і з'явілася прычынай (падумаў я сам сабе), што яны зліліся ў маім уяўленні ў штосьці арганічна блізкае, адзінае.

А Міхась Савіцкі тым часам заўважыў, што тры гэтыя карціны ўсяго толькі аднойчы і сустрэліся на выстаўцы (там і пашчасціла мне іх бачыць побач). Наогул жа, дарогі іх разышліся. «Рабочыя», напрыклад, больш за ўсё падарожнічаюць за мяжой. Проста з майстэрні мастака карціна трапіла на выстаўку ў Венецыю (у сям'і з «Партызанскай мадоннай» і «Віцебскімі варотамі»). Потым пабывала ў Асака, адтуль трапіла ў Ростак — на выстаўку работ мастакоў краін Прыбалтыкі. Зноў жа — з «Партызанскай мадоннай». Праўда, апошнюю цяпер не вельмі ахвотна пускае ў турнэ Трацякоўка: карціна патрэбна і тут, дзе яна атрымала пастаянную прапіску.

Гутарка наша неяк неўпрыкмет схіляецца да пытання аб выхаванні маладых мастакоў.

Сістэму нашай адукацыі, гаворыць Міхась Савіцкі, трэба разглядаць вельмі пластычна. Лекцыйны прынцып у мастацкім навучанні не можа быць галоўным. Тут патрэбен выключна індывідуальны падыход, бо кожны творца — гэта асобы свет, непаўторная індывідуальнасць,— урэшце-рэшт, такім павінен выхоўвацца мастак. Яму неабходна атрымаць у сваёй галіне незвычайна вялікія веды. Грамадскія навукі ў мастацкай ВНУ заклікаsuccessfully развіць у кожнага глыбіню філасофскага мыслення. Мэта простая і складаная — выхаваць будучага мастака, выхаваць так, каб не блытаўся ён у праблемах цудоўнага ці, па крайняй меры, каб хоць мог ён выразна разумець, што такое ў творчасці добра і што такое дрэнна.

Ну і яшчэ адна маленькая дэталь. Трэба кожнаму навучыцца адрозніваць жаданне быць добрым мастаком ад прызвання быць такім. Першыя ў гэтым радзе толькі мітусяцца. Другія—трапляюць па цэлі, пры бясспрэчнай умове — працаваць, працаваць, працаваць.

І мне падумалася пры гэтым: працаваць, як Міхась Савіцкі.

Ён сам прызнаецца, што кожны дзень майстэрня забірае ў яго не абы-які кавалак часу: з 9 гадзін раніцы да 5 вечара. А дома — зноў работа. Аналітычная. Назаўтра ён павінен стаць ля мальберта і не думаць, што рабіць, а **рабіць.**

Шлях да прызнання, шлях да поспеху, творчы шлях складаны і нялёгкі.

Ён пачаўся ў Міхася Савіцкага на Віцебшчыне. Тут, у Коханаве, бегаў ён хлапчуком, адкрываў першыя сакрэты жыцця і — маляваў, маляваў... Адгэтуль, атрымаўшы атэстат сталасці, у 1940 годзе пайшоў у армію. Потым — гады вайны, суровыя выпрабаванні. А пасля — вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, у Сурыкаўскім інстытуце ў Маскве. І зноў — родная Беларусь. Беларусь-маці. Беларусь-партызанка. Беларусь-гераіня.

Родныя вобразы навеялі мастаку шмат задум, прынеслі шмат здзяйсненняў. І сёння, на парозе свайго пяцідзесяцігоддзя, Міхась Савіцкі працуе натхнёна, з юнацкім запалам і самаадданасцю. Пажадаем жа яму добрага плёну!

**Васіль ЗУЁНАК.**

У свеце прыгожага

# ПАЛЕСКІЯ ЎЗОРЫ

З матацыклетнай каляскі я выйшаў добра такі хістаючыся, у шэрым ад пылу адзенні і з сівымі скронямі. Чалавек, які вёз мяне доўгую дарогу праз лясы, пяскі, балоты, не захацеў узяць ні рубля і нават пакрыўдзіўся. Развярнуўся, даў газу і памчаў, узняўшы слуп пылу, назад у свой Хомск. А гэта было Крамно. Аўтобус сюды, у гэтае Палессе, ужо не даходзіць: глыбінка... І вось у гэтую глыбінку я прыехаў, можна сказаць, з ератычнай мэтай: абвергнуць адну эстэтычную думку, якая стала ўжо настолькі трафарэтнай, што здаецца нават натуральнай...

У Бярозе на кірмашы сярод скрыняў са свіннямі, сярод мерак пшаніцы, кашоў з яблыкамі і памідорамі я раптам заўважыў надзвычай яркія плямы. Сярод будзённай базарнай прадукцыі яны стваралі ўражанне нечага незвыклага, святочнага. Гэта былі малюнкі на шкле. На чыстым белым фоне расцвіталі дзівосныя ружовыя, фіялетавыя, сінія кветкі, выгіналіся ў буйным перапляценні сцяблiны, хадзілі, распусціўшы яркія хвасты, паўліны, плавалі лебедзі, імчаліся алені. Падыходзілі жанчыны, вясковыя, а нават і не вясковыя, відаць, бярозаўскія і, перабраўшы тое-сёе, акуратна клалі «кветкі» ў свае кашалі. Я толькі дастаў фотаапарат і пачаў здымаць на каляровую плёнку гэты яркі, зіхатлівы свет, перакідваючыся словам з маладой жанчынай, якая і намалявала гэта і прадавала, як раптам пачуўся хрыплы ўладарны голас:

— Зноў яна тут! Хто дазволіў? Ану адсюль!

Невысокага росту жвавы чалавек, як я адразу здагадаўся, дырэктар базару, нервовымі рукамі выхапіў проста з-пад майго апарата малюнкі і, запіхваючы іх у сумку, усё прыгаворваў:

— Я ж табе казаў, што такія малюнкі прадаваць не дазваляецца. Не дазваляецца! Разумееш? Гэта брыдота! Каб болей цябе тут не было!

Жанчына падхапілася, пайшла; «маўр», «зрабіўшы сваю справу», гэтак жа нечакана знік, як і з'явіўся, а я, абвешаны недарэчнымі фотаапаратамі, збянтэжана стаяў сярод устрывожанага натоўпу жанчын. Потым кінуўся шукаць дырэктара. Трэба яму сказаць... Але што я яму скажу? Ён, вядома, спалохаўся, што пра яго базар скажуць недзе, што тут гандлююць «базарнымі творамі», таму так і накінуўся. Але ж... Ці не маімі гэта словамі і многіх такіх, як я, ён лаяўся? Яшчэ зусім нядаўна мы так і стралялі пагардлівымі словамі: «базарныя, аляпаватыя, безгустоўныя». У друку, на нарадах, у прыватных гутарках. Білі добры дзесятак гадоў. І нарэшце — дабіліся: твораў народнага мастацтва амаль не сустрэнеш. Зразумела, мы не звальвалі ўсё ў адну кучу: збаны, бочкі, лыжкі, скрыначкі, посцілкі, кашы — гэтаму мы даравалі жыццё, а вось чыста дэкаратыўным, прызначаным толькі для ўпрыгожання рэчам,— не. Тут мы былі строгія: не павінны такія рэчы псаваць добры мастацкі густ — і крышка! Прыняўшы такую катэгарычную думку, якая стала ледзь не законам, мы наогул перасталі цікавіцца развіццём сучаснага дэкаратыўнага мыслення на вёсцы. Нават навуковыя работнікі, якім, здавалася б, акадэмічнасць і грунтоўнасць падыходу павінны былі і не дазволіць гэтага.

Склалася такое ўражанне, што сучаснага народнага мастацтва як з'явы няма. Яшчэ гадоў дваццаць назад — было, а сёння — няма. Мы з пагардай ставіліся да распісных насценных дыванчыкаў, вышывак, малюнкаў на шкле і паперы, роспісаў на куфрах. Аж да таго часу, пакуль мода ў мастацтве не абвясціла адыход ад функцыяналізму з яго чыстымі аднатоннымі сухімі плоскасцямі і зварот да фальклорнага барока. Мастакі пусцілі ў ход пеўнікаў, конікаў, ружачкі. А паколькі беларускага фальклорнага матэрыялу, сабранага і апрацаванага ў дастатковай колькасці, не было, а мастацкія вучылішчы многія нашы мастакі заканчвалі ў Абрамцаве, Львове і Кастраме (у нас тады не было



Куфар з Огава. Роспісы зроблены Лідзіяй Іванаўнай Доўгер.



Роспісы на шкле, зробленыя Вольгай Іванаўнай Юрашэвіч. Вёска Крамно.



Фрагмент роспісу огаўскага куфра.



Фрагмент дывана, намаляванага Канстанцінам Канстанцінавічам Сацутам з Огава.



Фрагмент сурвэткі, звязанай Фёклай Міхайлаўнай Суравой. Горад Бяроза.



Маладая паляшучка ў старадаўнім убранні.



Ручнік. Вёска Спорава.

Фота В. Говара.

дэкаратыўна-прыкладнога факультэта ў тэатральна-мастацкім інстытуце), нашы выстаўкі, інтэр'еры кафэ і магазінаў, прылаўкі былі запоўнены фальклорнымі матывамі, далёкімі ад нашых нацыянальных вытокаў. Так і адчуваюцца Растова-Суздальскія матывы ў чаканцы Юрыя Любімава і Зубарава, у гліне Васіля Карунова, украінскія — у дэкаратыўных керамічных роспісах Віктара Гаўрылава. Не, я не супраць гэтых рэчаў. Яны цікавыя, арыгінальныя. Але ж...

Адным словам, мы аказаліся непадрыхтаванымі да прыняцця новай мастацкай плыні. І па сённяшні дзень амаль ніхто ў рэспубліцы не збірае як належыць творы народнага мастацтва, не дае ім эстэтычнай ацэнкі. А заглянуўшы ў любую хату на вёсцы, нават пад Мінскам, можна знайсці яшчэ ўсю тую «брыдоту», якую мы так бязлітасна выкаранялі. Людзі быццам і не чулі нашых слоў. Яны жылі, як жывуць, па сваіх уласных законах, не зважаючы на пісаныя рэкамендацыі і парады.

Што гэта? Як да гэтага адносіцца? Чым вытлумачыць устойлівую схільнасць людзей да пэўных эстэтычных нормаў? Ці можна лічыць гэта народным мастацтвам?

Так я пачаў пошукі найбольш выразных народных узораў. Шляхі прывялі на Палессе, у мясціны, далёкія ад людскіх дарог. Цывілізацыя, як вядома, не песціць пышныя суквецці народнай творчасці. Даючы танную масавую прадукцыю ў выглядзе мастацкіх рэпрадукцый, фабрычных дываноў, жакардавых посцілак і інш., яна стварае ўражанне, што эстэтычныя запатрабаванні людзей задаволены. Мастацкі пошук спыняецца. Культура нівеліруецца, збядняецца.

...Гэта было Крамно, самае Палессе. Цэнтр вельмі развітага некалі промыслу куфраў, прытым распісных. Вёска адразу здзівіла сваім знешнім выглядам. Шырокая і прамая, быццам пад лінейку, вуліца цягнецца на некалькі кіламетраў і забудавана вялікімі хатамі з вялікімі вокнамі. Відаць, людзі тут любяць прастору, шырыню, святло. Я спыніўся ля высокага дома, упрыгожанага разьбой. Выхады бярвенняў па вуглах былі ашаляваны і заканчваліся адмысловымі капітэлямі — матыў даволі рэдкі ў аздабленні беларускага дома, на вокнах — пышныя ліштвы. Кожная дэталь апрацавана старанна, з густам.

Я пераступіў парог, і мне давялося скінуць абутак, бо нельга было ступаць бруднымі чаравікамі па бліскучай, без адзінай смецінкі, падлозе. Дарэчы, і потым, калі я хадзіў па хатах, часам даводзілася разувацца яшчэ на дварэ — такая ўсюды была чысціня. Некаторыя двары, зацэментаваныя, былі дагледжаны і прыбраны не горш за кватэру. Маладая гаспадыня Лідзія Максімаўна Тыковіч фарбавала ў адным з пакояў падлогу. Нават дзіўна было: які яшчэ большы парадак можна навесці ў гэтым парадку!

Лідзія Максімаўна закончыла фарбаваць і пачала паказваць сваё рукадзелле. Жыва цікавілася маім уражаннем ад яе ткання, вышывак. Раней яна распісвала таксама і куфры, якія рабіў стары Тыковіч, сталяр. Што мяне ўразіла і здзівіла ў гэтай жанчыне— дык гэта годнасць і сур'ёзнасць, з якой яна адносілася да зробленых рэчаў. Не, не забаўка то была для яе, а такая ж работа, як і ў полі, у хаце. Само жыццё. І я міжволі прыгадаў нашы гарадскія рэчы, якія мы не заўважаем, якія даўно страцілі сваю каштоўнасць. Так, так, нашы рэчы абясцэньваюцца. І чым далей — тым болей. З'явіліся прадметы наогул аднаразовага карыстання. Нават самыя дарагія набыткі праз нейкі час, калі зменіцца мода, перастаюць нас цікавіць. Ручнік для нас — проста кавалак тканіны. Танюткай павуцінкай-капронам завязваюць мех бульбы. Абрусы ў нас з поліэтылвінілхларыду пластыфікаванага, упрыгожаныя кветачкамі, таксама танныя. Кватэры мяняюцца з лёгкасцю, калі трэба выбраць зручнейшы раён. Можа для таго, каб зрабіць сваё жыццё больш устойлівым, стабільным, людзі ў апошні час пачалі набываць рэчы дарагія — дываны, бліскучыя гарнітуры, «каралеўскі» фарфор, залатыя пярсцёнкі. Але дзіва дзіўнае! Седзячы ў дарагім крэсле ля электрычнага каміна, на экране якога ходзяць штучныя языкі полымя, адчуваючы на пальцы вагу залатога пярсцёнка з велізарнейшым рубінам, гартаючы кніжку па мастацтве за 15 рублёў, мы ніяк не можам пазбавіцца ад трывожнага пачуцця іх часовасці.

Тут, у далёкім Крамне, свет мае не проста ўстойлівасць. Ён вечны. Рэчы, як і павінна быць, маюць належную вагу. Так, гэта ручнік. Вытканы з адбеленага ці неадбеленага льну мудрагелістым перапляценнем нітак, як тчэцца толькі залатая парча, ён набывае важкасць, прахалоду і прыгажосць сапраўднай залатой парчы. Альбо гэтыя гладдзю вышываныя па канцах буйныя несіметрычныя букеты кветак. Гэта ж як зіхатлівыя каштоўныя эмалі! Мы здзіўляемся лаканізму японскіх мастакоў, што дзвюма-трыма лініямі здольны перадаць адчуванне прасторы. А тут — Крамно! Вытанчаная артыстычнасць, дакладнае немнагаслоўе.

Яшчэ і яшчэ ручнік. Посцілка, абрус, або, як кажуць у Крамне, настольнік. Законы пабудовы кампазіцыі ў посцілках і абрусах — класічныя. У цэнтры абавязкова вянок кветак, па перыметры — узоры. Многа чыстага белага поля. Колеры звонкія, лакальныя, добра згарманізаваныя. Няма выпадковых, рэзкіх, неўраўнаважаных. Тут і рэчы тканыя, вышываныя літаральна якіх два месяцы назад. Ткацкі станок яшчэ ў павазе, яго яшчэ не збіраюцца так скора паліць, нягледзячы на магазінныя танныя тканіны.

На двары Тыковічаў мы арганізавалі часовы фотапавільён. Свяціла шчодрае летняе сонца, і фарбы ззялі так, як яны толькі маглі ззяць. Пачалі прыносіць свае рэчы суседзі. Перавярнулі куфры аж да дна, і вось — узоры даўніх сарочак, даўнія ручнікі, чапцы, наміткі, андаракі, катанкі, кажухі...

О, якая старажытная культура! Можна нават прасачыць яе эвалюцыю за апошнія паўстагоддзя.

Спачатку было во гэта — сарочкі з бялюткага льну. На рукавах і гэстцы— сціплая вышыўка або тканая паласа чырвоным. Белы фартух таксама мае толькі вузкую чырвоную аздобу. Намітка з вельмі тонкага льну, доўгая, наогул без дэкору. Гэта было летняе ўбранне. Да яго дадаваўся яшчэ і плецены з воўны доўгі, шырынёй сантыметры ў чатыры, пояс, якім абкручваліся некалькі разоў. Ручнік — толькі некалькі чырвоных палосак на белым фоне. Доўгі, расклёшаны кажух з белай недублёнай аўчыны таксама мае асобныя яркія элементы — дзве чырвоныя расшыўкі па баках, на таліі, дзве кароткія чырвоныя палоскі на падале, якія заканчваюцца чырвонымі і зялёнымі шарыкамі-кутасікамі. Кромка пярэдняй полкі і падол аздоблены чырвонай лініяй і прыгожай паласой, сшытай з кавалкаў чорнай і белай аўчыны. Трэба сказаць, што элементы дэкору, нягледзячы на іх нешматлікасць, робяць даволі моцнае ўражанне. Яны нібы гараць на белым-белым фоне.

Кажуць, у тыя часы існавалі і роспісы. Хадзілі па вёсках людзі і распісвалі сталы і іншую мэблю — што каму. На сталах любілі маляваць кветкі, а збоку выводзілі львоў. Аднак узораў старажытнага роспісу, нягледзячы на старанныя пошукі, ні ў адной з палескіх вёсак знайсці пакуль што не ўдалося. Таму застаецца толькі гадаць, што то былі за львы ды кветкі.

З цягам часу ў адзенні і тканінах да чырвонага колеру далучылася чорная аздоба, і паступова склаўся той арнаментальны чырвона-чорны лад, які аж па сёння аб'яўляецца некаторымі як тыпова беларускі. Але мне ён здаецца толькі этапам у развіцці народнага дэкаратыўнага мыслення. Узоры ён сапраўды пакінуў высокія.

Пашанцавала адшукаць некалькі такіх выдатных рэчаў, створаных у 20—30-х гадах. Найбольш цікавыя з іх — ручнікі з аленямі (належаць Марыі Восіпаўне Гражэўскай з Хомска) і з паўлінамі (належаць Алене Канстанцінаўне Пракурат, в. Спорава). Зробленыя ў розных вёсках рознымі людзьмі, яны маюць агульныя стылявыя рысы, а гэта, на маю думку, даказвае існаванне пэўнай плыні ў тагачасным дэкаратыўным аздабленні на Палессі.

Як і раней, колер скупы. Яго, быццам соль, ужывалі беражліва. Калі ўжо рашаліся ўжыць, то на нешта значнае. Рабілі дакладны лаканічны малюнак і вышывалі шчыльным, вельмі дробным крыжыкам. Два алені ляжаць адзін насупраць другога. Іх раздзяляе дрэўца. Ніжэй—арнаментальная паласа кветак, а ля самага канца — радок вельмі дробных стылізаваных птушачак, то з адным, то з двума крыльцамі, і класічная кампазіцыя з кутасамі і хвалістай чырвонай лініяй, што нагадвае картушы.

Падобным чынам закампанаваны ручнік з паўлінамі. Яны стаяць адзін насупраць другога, распусціўшы хвасты, між імі дрэўца. Тут жа радок дробных птушачак, стылізаваная паласа кветак. Нягледзячы на падобныя кампазіцыйныя элементы, у кожным з іх адчуваецца свая рука майстра.

Прайшло 30 гадоў...

Тое, што паяўляецца ў нашым народным мастацтве сёння, я назваў бы дэкаратыўным выбухам. Яно ніколі не было шэраньскім, непрыкметным, мастацтва нашага народа,— маўляў, такая ў нас і прырода. Гарачая, бы агонь, аздоба ў жаночым касцюме, чырвонапалоскія ручнікі, яркія, з перавагай чырвонага колеру, андаракі і папярочкі, шырокія чырвоныя паясы. Але тое, што можна ўбачыць у вясковай палескай хаце сёння — амаль неверагодна. Яна ўпрыгожана літаральна ад падлогі да столі, па ўсіх сценах, ва ўсіх пакоях. На відным месцы вышываныя або тканыя ручнікі з плеценымі карункамі, побач — шматлікія вышыўкі ў рамках, малюнкі на шкле, распісны дыванчык ля ложка, яркая посцілка, гара падушак з мудрагелістымі прошвамі, велізарны куфар, фарбаваны, размаляваны ў розныя кветкі. Усе колеры яркія, звонкія — вясёлка, дый годзе!

Я ўжо гаварыў пра звонкія, нібы з эмалі, кветкі на ручніках Лідзіі Тыковіч. Такі прыём сустракаецца і ў іншых палескіх вёсках — у Моталі, Крамне, Спораве, Огаве, Лышчы. Жанчыны карыстаюцца многімі чыстымі і звонкімі колерамі, яны любяць фактуры матэрыялу шчыльныя, цяжкія і не проста белыя, гладкія, як то было ў трыццатых гадах, а па-мастацку

апрацаваныя, найчасцей у палоску і клетачку, з адбеленага і неадбеленага льну, а то і з больш складанымі геаметрычнымі ўзорамі.

Посцілкі цяпер маюць быццам бы тыя ж «ваконцы», разеткі, квадраты, што і раней, але колер іх стаў больш напружаны. Няма і параўнання з тым, ранейшым. Часам нават не верыцца, што пачатак ляжыць у тых сціплых чырвоных палосках,— быццам узнікла новая культура! І толькі з паасобных фармальных элементаў дэкору відаць, што традыцыі наследуюцца, што менавіта з іх і ад іх гэта ўсё пачалося.

Працэс гэты, гэты «выбух», мае свае псіхалагічныя тлумачэнні. З бядоты і зямлянак пасля вайны людзі перасяліліся ў вялікія *светлыя* дамы. І нічога не было спачатку — толькі голыя сцены ды шырачэзныя вокны. *Святло і прастора*. І ўжо немагчыма было запаўняць гэтую прастору нечым танным і часовым. Патрэбна было нешта сваё, трывалае, устойлівае, як гэтая хата, як свет, што глядзеў у яе вокны.

Магчыма — такая прычына. А магчыма іншая. Магчыма, дэкаратыўны талент народа стрымліваўся вякамі, а калі прадаставілася магчымасць — талент закрасаваў.

Могуць сказаць: добра, іголка і чаўнок людзям вядомы ўжо стагоддзямі, тут не дзіва зрабіць *нешта адметнае*. А як жа роспісы? Пэндзаль і фарбы многія вясковыя людзі ўбачылі *пасля* Вялікай Айчыннай вайны. Дык малюнкі на шкле і дыванчыках можа сапраўды базарная халтура? Ці ж можна ўзяць упершыню ў рукі пэндзаль і стварыць нешта мастацкае?

Вось і яно: аказваецца, можна!

Да вайны куфры звычайна не фарбавалі. Пра малюнкі на іх ніхто не чуў. Можа дзе і былі такія, маляваныя, але адшукаць іх не давялося. Праўда, трапілася некалькі куфраў, фарбаваных і апрацаваных спецыяльным прыёмам — пра гэта скажу ніжэй. А вось пасля вайны ўвайшлі ў моду куфры, распісаныя кветкамі. Нявесту на вяселлі саджалі на куфар, накрыты аўчынай—каб у доме вялося багацце. Потым куфар нявесцін перавозілі да жаніха. Зразумела, што гэтыя тэатралізаваныя моманты — сядзенне на куфры, вынас яго і перавозка — павінны былі ў першую чаргу неяк упрыгожыцца. Так нечакана, быццам з нічога, узніклі роспісы. Звычайна мужчыны рабілі куфры, а жанчыны іх распісвалі. У Крамне майстроў было многа, як кажуць, праз хату жылі. І кожная гаспадыня ўзяла ў рукі пэндзаль. Я спачатку не верыў гэтаму. Думаў: ну адзін у вёсцы такі мастак, ну два, а тут — усе... Аднак пра роспісы жанчыны гаварылі, як пра будзённую звыклую работу. Распісвалі, *маўляў, што ж тут дзіўнага?*

Я бачыў гэтыя распісныя куфры — і не мог паверыць у будзённасць такой работы. Ды і паверыць цяжка. Не гавару пра ўсе — былі і зробленыя наспех, толькі б прадаць. Але ў большасці — дабротны, моцны малюнак. Каб зразумець прычыны гэтых удач і няўдач, звернемся да тэхналогіі роспісаў.

Спачатку куфар фарбавалі ў белы колер, потым, як фарба высыхала, накладвалі блакітную ці зялёную і адразу ж па сырой наводзілі грабянцом «хвалі» і «палосы» — там, дзе прайшлі зубы грабянца, з-пад блакітнай фарбы *праступала белая*. Так ствараліся рамкі, што падзялялі вялікую плоскасць века і пярэдняй сценкі на больш дробныя сэнсавыя кавалкі. Рабілі тры вялікія рамкі па цэнтры і некалькі драбнейшых па перыферыі. Такі падзел на многа рамак быў абумоўлены, як мне здаецца, тым, што майстры ў ткацтве і вышыўцы звычайна мелі справу з дробным узорам, сіметрычна закампанаваным, які паўтараўся. Гэта толькі ў апошні час у вышыўцы пачаўся адыход ад сіметрыі да больш вольнага і буйнога малюнка. А 20 гадоў назад сіметрыя і рапортнасць, паўтарэнне былі асновай любой кампазіцыі. Яны ж механічна былі перанесены і ў роспісы куфраў. Потым старанна, як пры вышыўцы, алоўкам або праз перавадную паперу наносіліся контуры малюнка і запаўняліся фарбай, яркай, чыстай, без паўтонаў. Прыём гэты, пашыраны ў японскім жывапісе, шырока ўжываўся і ў славянскіх лубках. Ствараўся чоткі выразны малюнак, які для ажыўлення яшчэ дадаткова апрацоўваўся. Часам па сырой фарбе завостранай палачкай або проста алоўкам рабілі лініі — наводзіліся блакітныя жылкі ліста, тычынкі, аддзяляліся адзін ад аднаго пялёсткі і г. д.

Некаторыя майстры, як напрыклад Лідзія Іванаўна Доўгер з Огава, што ля Іванава, дасягнулі ў роспісах віртуознасці. Лідзію Іванаўну, *па яе словах*, звала маляваць куфры паўвёскі— з добрымі малюнкамі іх можна было хутчэй прадаць. І хоць яна таксама старанна зафарбоўвала пялёсткі, лісце, аднак, адчуваецца, не наносіла папярэдняга малюнка алоўкам. Таму роспісы яе сталі больш свабодныя, непасрэдныя, жывыя. Міжволі пачаўся адыход ад сіметрыі, бо рука не машына — нельга дакладна паўтарыць справа тое, што намалявана злева. Інакш выгіналіся лісты, з'явілася розная колькасць пялёсткаў і тычынак, вольна паверх фарбаў ляглі «ажыўкі». Гэта была ўжо не расфарбоўка, а жывапісанне колерам.

Што ж датычыць каляровага сугучча, то гэтае пачуццё моцна развіта ва ўсіх паляшучак. У Лідзіі Іванаўны Доўгер, напрыклад, белыя хвалістыя рамкі добра вылзяляюцца на цёмна-зялёным фоне. Шырокімі палосамі яны акаймоўваюць сценку па перыметры, ствараючы ўражанне каштоўнай рэчы. Буйныя кветкі з лісцем пісаны чыстымі фарбамі. Яна не любіць бруднаватых зямлістых таноў, а толькі самыя яркія, якія, здаецца, выпраменьваюць святло. Колеры ўдала згарманізаваны. Гэта для мяне пастаянная загадка. Чалавек не закончыў ніякіх вучылішчаў і, кіруючыся толькі прыродным чуццём, удала далучае да цёмна-зялёнага колеру — зялёны, фіялетавы, малінавы, жоўты. Пераважаюць зеленаватыя халодныя таны, і на іх фоне ярка ўспыхваюць кветкі. Малюнак кампактны, густы. Гэта ўжо не літаральнае паўтарэнне вышывак і ткання, хоць аснова, адчуваецца, прыйшла адтуль.

Лідзія Іванаўна імкнецца кожны элемент малюнка падаць у найбольш выразным ракурсе. Кветкі разгортваюцца ўсімі сваімі пялёсткамі на гледача, а лісце нібы старанна разгладжана. Каб паказаць тычынкі, яна кладзе іх на бок, кожную паасобку, на чысты фон, дзеля чаго не дапісвае некалькі пялёсткаў. Кветка, такім чынам, мае адначасова від збоку і зверху. Але гэта не рэжа вока — успрымаецца арганічна.

Усе гэтыя тэхнічныя прыёмы маюць адну мэту — дасягнуць найбольшай выразнасці. І трэба сказаць, Лідзіі Іванаўне ўдалося стварыць творы высокага народнага мастацтва. Шкада, што яны раскіданы па ўсім Палессі і з цягам часу псуюцца і знікаюць. Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і музеям трэба было б набыць іх і такім чынам матэрыяльна зафіксаваць адзін з этапаў развіцця нашага народнага мастацтва на Палессі пасля Айчыннай вайны.

У параўнанні з вышыўкай на ручніках кветкі на куфрах сталі буйнейшыя, набылі закончаную самастойнасць, нагадваючы карціны ў рамках. Адсюль быў адзін крок да іх сапраўды самастойнага жыцця. Так яны перайшлі на шкло. Нават тэхналагічна яны пісаліся гэтак жа. Толькі замест алоўка бралі тут туш або чорнае чарніла. Тонкія чорныя лініі акаймоўваюць розныя фарбы, раздзяляюць пялёсткі, абазначаюць жылкі лістоў. Менавіта гэтыя лініі надаюць малюнку строгасць, арганізуюць унутраны вытанчаны рытм. Каб такое зрабіў прафесіянал— я зноў бы сказаў, што на яго ўплывала японскае мастацтва, некаторыя плыні якога гэтак жа карыстаюцца і тонкай чорнай лініяй, і чыстымі, без паўтонаў, колерамі, а часам, як і ў нашых малюнках на шкле, толькі чорна-белай ці адной чырвонай фарбай. Але ж гэта рабілі майстры ў Огаве, Крамне, Савіне, Спораве, на якіх аказаць што ўплыў амаль немагчыма, бо іх мастацтва развіваецца па ўласных унутраных законах. Відаць, у сучасным побыце палешукоў, у звычцы скідаць абутак яшчэ на ганку, наводзіць парадак у парадку, у іх сур'ёзным стаўленні да дэкаратыўнага аздаблення кватэры, схільнасці да некаторай урачыстасці, святочнасці, якая ўпрыгожвае будзённае жыццё, ёсць нешта такое, што нараджае светлае, жыццесцвярджальнае мастацтва.

Хацелася б крыху больш сказаць пра малюнкі на шкле. Нельга сцвярджаць, што яны з'явіліся толькі пасля вайны, сёння. Цяпер назіраецца іх росквіт. Як памятаю яшчэ з даваеннага часу, на вялікіх кірмашах на Гомельшчыне прадаваліся шкляныя распісныя рамкі, зробленыя адмыслова. Мне, хлапчуку, здавалася, што такое немагчыма стварыць чалавечымі рукамі. Пасля вайны шкляныя рамкі былі пашыраны на Беларусі. А сёння яны ператварыліся ў карціны. Лідзія Іванаўна Доўгер, калі перасталі выраблядь у вёсцы куфры, зрабіла шмат карцін на шкле. Новы матэрыял, новыя магчымасці падказалі ёй і новую тэхналогію, новую кампазіцыйную пабудову, новы мастацкі лад. Па-ранейшаму яна прыхільнік чыстых колераў, але ад сіметрыі адышла зусім. Малюнак стаў яшчэ больш свабодны, непасрэдны, але натуралізмам тут і не пахне. Малюнак цалкам умоўны, дэкаратыўны. Лідзія Іванаўна не робіць на шкле папярэдняй наводкі тушшу, а адразу бярэ пэндзалёк. Ім яна малюе шырокі сакавіты светла-зялёны контур лістоў, іх жылкі, зафарбоўваючы сярэдзіну цёмна-зялёным. Пэндзалёк ідзе лёгка: то размашыста — кладучы простыя, злёгку выгнутыя лініі, то пакручаста— запаўняючы свабоднае месца. Асобныя дэталі становяцца шматкаляровымі. Кветка—нібы вясёлкавы пераліў — ад сіняга да чырвонага. Вось ружа. Яе абрысы, яе танюткія кволыя пялёсткі, яе свежасць. Зноў і зноў дзівішся фармальным метадам, якімі гэта дасягнута. Быццам бы простыя, нават неахайныя чырвоныя, белыя, ружовыя, светла-ружовыя палосы, жоўтыя плямы. Колеры па-ранейшаму—кожны паасобку, няма паўтонаў, светаценяў, калёраў. І — ружа! Ды яшчэ якая — найсакаўнейшая! Бутоны — нібы ў разрэзе. Чырвоныя пялёсткі так сціснуты, што нават сінеюць. Бутон гатовы вось-вось выбухнуць пышнай кветкай. Мы адчуваем напружанне!

І яшчэ колькі слоў у абарону рас-

пісных дыванкоў. Імі мы абураліся больш за ўсё. О, не трэба спяшацца з вывадамі!..

Я сфатаграфаваў адзін такі дыванок у Огаве, яго намаляваў на байкавай коўдры Канстанцін Канстанцінавіч Сацута. У спешцы камандзіроўкі не давялося добра разгледзець тое, што здымалася. Зрабіў і буйныя планы. А калі праявіў плёнку, быў уражаны гэтым — не перабольшваю — цудам. Матыў, здаецца, банальны. Усё той жа лес, тыя ж алені і палац. Нават аднекуль перамалявана. Але вось пень. Ніколі раней не бачыў болей «пністага» пня, чым гэты. Ён уеўся ў зямлю дзесяткамі сваіх цёмных каранёў, гадавыя кольцы моцна счэплены — зломіш сякеру. А дрэвы—якія драўляныя! Пругкія, аднекуль з сярэдзіны, пышныя травы, здаецца, пакрыты пяшчотнымі густымі варсінкамі. Пацешны, горды, нібы леў, алень. Я не паверыў дыяпазітывам: перабольшваюць, мусіць? І калі давялося яшчэ раз трапіць у Огава, рашыў глянуць зноў на гэты «базарны» дыван. Ён уразіў мяне яшчэ больш. І пяшчотнымі варсінкамі пакрытыя блакітныя лісты, і вельмі моцны каржакаваты пень, і жоўты *цар-алень, нібы леў... Твор* наіўны, шчыры, займальны, па-мастацку яскравы, як і многія падобныя рэчы.

Так, так, нам неабходна крыху змяніць свае эстэтычныя ўяўленні. Трэба дапусціць, што народны малюнак, народны твор — сур'ёзна-наіўны, пацешна-займальны — каштоўнасць, значная ў псіхалагічна-эстэтычным плане, не меншая, чым выразны, эмацыянальна напружаны прафесійны малюнак. Не, гэта нельга параўноўваць. Кожнаму — сваё. Прафесійны твор вабіць думкай — пачуццём, што выказаны з дапамогай або на базе тэхнічных прыёмаў, усвядомленых, зафіксаваных... Не, справа больш складаная. Розніца ёсць, але яе цяжка вызначыць. Словам, неабходна расшырыць нашы эстэтычныя ўяўленні. Побач з прафесійнай эстэтычнай культурай існуе народная — спецыфічная, глыбокая, самабытная. Не другарадная і ніжэйшага гатунку, а самастойная, са сваёй гісторыяй, сваімі законамі, сваімі каштоўнасцямі. Яна шчырая, праўдзівая, бясконцая, як крыніца. І менавіта з яе скарбніцы можа чэрпаць тэмы, вобразы, абнаўляць свае тэхналагічныя прыёмы, вучыцца эмацыянальнай напружанасці, жыццесцвярджальнай сіле і наша прафесійнае мастацтва.

**Віктар ГОВАР.**



# КАМУНІСТЫЧНЫ ДРУК ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Набліжаецца дзень, калі працоўныя нашай рэспублікі будуць урачыста адзначаць 50-годдзе КПЗБ — кіраўніка рэвалюцыйнай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю. Ва ўмовах жорсткага тэрору і насілля Камуністычная партыя Заходняй Беларусі мужна абараняла інтарэсы працоўных мас, цвёрда стаяла на пазіцыях марксізма-ленінізма і пралетарскага інтэрнацыяналізму.

На захопленых буржуазнай Польшчай землях Заходняй Беларусі жыло 3.373 тысячы чалавек. Большасць насельніцтва — 2.371 тысяча чалавек (70,5 працэнта) — складалі беларусы. Польскае насельніцтва *налічвала 311 тысяч чалавек*, яўрэі — 385 тысяч. У Вільні, Віленска-Трокскім і Свянцянскім паветах, па далёка няпоўных дадзеных, жыло больш ста тысяч літоўцаў.

Шматнацыянальны склад пралетарыяту Заходняй Беларусі ствараў аснову для пранікнення ў яго шэрагі нацыяналізму. Асабліва небяспечны быў націск польскага вялікадзяржаўнага шавінізму. Да некаторай ступені гэта зразумела. Большасцю палякаў яшчэ не быў забыты царызм. Нечуваныя яго здзекі над нацыянальнай польскай культурай, варварскае імкненне знішчыць усё польскае, гвалтоўная русіфікацыя — усё гэта не магло *не пакінуць глыбокага следу* ў свядомасці працоўных Польшчы. Кампартыі Польшчы і Заходняй Беларусі павінны былі ўлічваць гэтыя абставіны пры вызначэнні нацыянальнай палітыкі. «Было б жорсткай памылкай пры вызначэнні гэтай палітыкі,— гаварыў, выступаючы на III з'ездзе КПП вядомы дзеяч міжнароднага камуністычнага руху тав. Мануільскі,— прымаць у разлік толькі «паражэнчы» настрой ускраін і не ўлічваць становішча ў самой Польшчы. Пакуль польскі селянін і польскі рабочы не стануць сытыя ад нацыяналізму, да таго часу задача рэвалюцыі будзе надзвычай цяжкай у сучасных польскіх умовах».

У гады сусветнага эканамічнага крызісу, разгулу фашызму і рэакцыі ў Еўропе, у гады шалёнай падрыхтоўкі да ўзброенай інтэрвенцыі супраць СССР задачы інтэрнацыянальнага выхавання паўсталі перад КПЗБ з асаблівай сілай.

Галоўнай зброяй КПЗБ у інтэрнацыянальным выхаванні працоўных быў камуністычны друк. У Заходняй Беларусі нелегальна выдаваліся тэарэтычны часопіс ЦК КПЗБ «Бальшавік», часопіс «Партработнік», цэнтральны орган — газета «Чырвоны сцяг». Выходзілі таксама газеты «Малады камуніст» — орган ЦК КСМ і «Чырвоная дапамога» — орган ЦК МОПР Заходняй Беларусі, на польскай мове — «Do walki», «Kujmy broń», на літоўскай — «Барыкадыс» і інш. Улічваючы нелегальны характар выданняў, варта сказаць, што тыраж іх быў значны. 3 мая 1927 года па чэрвень 1930 года агульны тыраж газет, брашур, лістовак складаў 154.495 экземпляраў.

У 1932—33 гадах шырокая хваля забастовак пракацілася па ўсёй Польшчы, акупіраванай Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Баставалі 16 тысяч партавікоў Гдыні, тэкстыльшчыкаў Лодзі і Беластока, тры тысячы віленскіх абутнікоў, гарнякі Верхняй Сілезіі. Кампартыя Заходняй *Беларусі праз друк заклікала* сялянства падтрымліваць барацьбу гарадскіх рабочых масавымі выступленнямі супраць падаткаў, шарварак, вайны і белага тэрору. І сельская бедната ўзнімалася на забастовачную барацьбу, у якой сціраліся рамкі нацыянальнай прыналежнасці. Сяляне працягвалі брацкую руку дапамогі бастуючым рабочым, збіралі для іх грошы і прадукты.

Праяўленнем інтэрнацыянальнага адзінства польскага і беларускага пралетарыяту была славутая забастоўка чатырох тысяч рабочых Белавежскай пушчы, якія жылі ў жудасных умовах. Іх заработная плата складала ўсяго 80 грошаў у дзень, *туліліся* яны ў *зямлянках, якія* пакінулі немцы ў часе вайны. Каб узмацніць эксплуатацыю, дзяржава, акрамя мясцовых рабочых і суседніх беларускіх вёсак, наймала рабочых з карэннай Польшчы, імкнучыся такім чынам выклікаць нацыянальную грызню сярод рабочых. Камуністычны друк разгарнуў з першых дзён забастоўкі шырокую кампанію салідарнасці з ляснымі рабочымі. Сяляне навакольных польскіх і беларускіх вёсак адгукнуліся на барацьбу рабочых зборам прадуктаў, пасылалі бастуючым вазы з бульбай, хлебам.

Плячо ў плячо з працоўнымі Польшчы і Заходняй Беларусі змагаліся за сацыяльнае *і нацыянальнае* вызваленне свайго народа працоўныя Заходняй Украіны. Газеты і лістоўкі інфармавалі працоўных Заходняй Беларусі пра жыццё іх украінскіх братоў, знаёмілі з вопытам іх барацьбы, заклікалі да згуртаванасці.

У 1932 годзе ў сувязі з разгулам паліцэйскага тэрору КПЗБ зрабіла спробу выдаваць легальную газету ў Львове. Каб абысці закон аб друку, які патрабаваў дазволу ўлад на выдавецкую дзейнасць, беларускія камуністы пачынаюць выдаваць сваю газету ў форме аднадзёнак.

Выйшлі дзве аднадзёнкі пад назвай «Беларускае жыццё» і «Жыццё». Першая была выдадзена на чатырох старонках, другая — на дванаццаці. У іх былі змешчаны артыкулы і заметкі аб сацыяльным і нацыянальным прыгнёце, аб барацьбе за школу на роднай мове ў Заходняй Беларусі.

Аднадзёнкі выдадзены былі тыражом па 1500 экземпляраў. Аднак большая частка тыражу была канфіскавана паліцыяй. Падпольшчыкам, якія выдавалі газеты (аднадзёнку «Жыццё» выдаў беларускі камуніст Я. Гаральчонак), удалося схавацца ад паліцыі.

КП Заходняй Беларусі для мабілізацыі мас на рэвалюцыйную барацьбу шырока выкарыстоўвала розныя міжнародныя пралетарскія святы і кампаніі салідарнасці: 1-е Мая, 7-е Лістапада, Міжнародны дзень барацьбы з беспрацоўем, Міжнародны дзень селяніна, Міжнародны дзень юнацтва і інш. Яны нярэдка суправаджаліся сутыкненнямі з паліцыяй і фашысцкімі баявымі дружынамі. 1-га Мая 1929 года тры тысячы віленскіх рабочых ішлі на дэманстрацыі за камуністамі. Яны самааддана абаранялі сцягі Камуністычнай партыі, змагаліся з паліцыяй. Дваццаць чатыры рабочыя былі паранены, адзін — забіты.

У турэмных засценках Польшчы і Заходняй Беларусі ў гэтыя гады пакутавала дзесяць тысяч палітычных вязняў, сярод якіх знаходзіліся лепшыя сыны беларускага, польскага і іншых народаў. І тут фашысцкія каты імкнуліся раскалоць адзінства сярод зняволеных, пасеяць нацыянальную варожасць. Менавіта з гэтай мэтай адміністрацыя ўстанавіла ў віленскай турме Лукішкі так званае турэмнае «гета», якое падзяляла ўсіх вязняў на «іудзеяў» і «хрысціян».

Друк змяшчаў шматлікія матэрыялы, якія расказвалі пра жахі турэмнага рэжыму, рэгулярна аказваў дапамогу КПЗБ у зборы сродкаў для палітзняволеных і іх сем'яў.

Шмат увагі надаваў камуністычны друк заваёвам і прыцягненню на свой бок яўрэйскіх рабочых, вызваленню іх з-пад уплыву Бунда і сіяніцкіх партый. Калі па ўсёй Польшчы і Заходняй Беларусі ў 1931 годзе пракацілася хваля яўрэйскіх пагромаў, КПЗБ была адзінай партыяй, якая рашуча выступіла ў абарону яўрэйскага пралетарыяту.

Нацыянальна-вызваленчая барацьба працоўных *Заходняй Беларусі знаходзіла* актыўную падтрымку сярод прагрэсіўных *людзей Польшчы і іншых краін*. Супраць жорсткага нацыянальнага прыгнёту выступалі Янка Купала і Якуб Колас, лепшыя пісьменнікі Польшчы: Ванда Васілеўская, Уладзіслаў Бранеўскі, Лявон Кручкоўскі. У дзень свайго 50-годдзя Янка Купала пісаў: «...я з глыбокім болем у сэрцы думаю пра жудасны прыгнёт, пад якім стогнуць працоўныя масы Заходняй Беларусі, і заклікаю іх да барацьбы за поўнае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне».

Паведамленне пра расстрэл бастуючых гарнякоў Жылаўскага басейна ў Румыніі, дзе было забіта 60 чалавек і 120 паранена, паслужыла сігналам для выступленняў міжнароднага, у тым ліку і заходне-беларускага пралетарыяту. У 1933 годзе неаднаразова праходзілі выступленні пралетарыяту ў абарону Дзімітрава і Тэльмана. «Рукі прэч ад т. Тэльмана!»— такія рэзалюцыі прымалі рабочыя і сяляне ў многіх гарадах і вёсках Гродзеншчыны, Навагрудчыны, Віленшчыны і ўсёй Заходняй Беларусі.

Падзеі на Кітайска-Усходняй чыгунцы ў 1924 годзе і ў Маньчжурыі ў 1931 годзе адкрылі паласу ваенных правакацый супраць СССР. У сваіх лістоўках, газетах і на сходах кампартыя растлумачвала, што акупацыя японцамі Маньчжурыі накіравана перш за ўсё супраць Савецкага Саюза, і заклікала працоўных не верыць пацыфісцкім фразам Пілсудскага, а арганізаваць рэвалюцыйныя выступленні пад лозунгам «Рукі прэч ад Кітая! Усе на абарону Савецкага Саюза!».

На сходах і масоўках салдаты прымалі рэзалюцыі аб гатоўнасці перайсці ў выпадку вайны на бок Чырвонай Арміі. Настрой салдатаў паказвала карэспандэнцыя з Кобрына, змешчаная ў часопісе «Бальшавік». У ёй паведамлялася пра тое, што ў адной з вёсак сабралася на вечары каля 200 чалавек, у тым ліку 9 адпускнікоў-салдатаў. Адзін з прамоўцаў звярнуўся да іх: «А праўда, што афіцэры, гэтыя буржуйскія сынкі, узводзяць паклёп на СССР і заклікаюць да вайны супраць яго?» «Так ест». «Няўжо вы пойдзеце ваяваць супраць СССР, супраць сваіх братоў, як гарматнае мяса ў руках буржуазіі і памешчыкаў?» «Нема глупых». «А што вы будзеце рабіць, калі вас пашлюць супраць СССР?» «Бронь в бжух своіх офіцеров і буржуев». Гэтыя словы патанулі ў громе апладысментаў. У Маладзечна, Смаргонскім павеце, на станцыі Браслаў і ў іншых месцах адбываліся рэвалюцыйныя хваляванні сярод рэкрутаў.

Працоўныя Заходняй Беларусі выхоўваліся Кампартыяй у духу вернасці пралетарскаму інтэрнацыяналізму.

**Генадзь ВАТКОВІЧ.**



**Алег ЛОЙКА**

# ВЕЕ ВЕЦЕР ЧАСУ

Адзін з маіх лепшых леташніх сяброўскіх падарункаў прыйшоў з Украіны. Падарункам гэтым стала новая кніга вершаў вядомага ўкраінскага паэта Сцяпана Крыжаніўскага «Формула шчасця». Паэт, чый творчы шлях пачынаўся ў 30-я гады, сёння вядомы ўкраінскі літаратуразнаўца, доктар навук, прафесар, адзін з рэдактараў і аўтараў васьмітомнай гісторыі ўкраінскай літаратуры, перад сваім шасцідзесяцігоддзем выдаў не надта аб'ёмістую, але шмат у чым красамоўную кніжку, змест якой і прымусіў мяне задумацца над праблемамі, якія мне хочацца закрануць.

У пасляслоўі да свайго выбранага С. Крыжаніўскі піша: «У 30-х гадах мы былі іншымі і паэзія выглядала інакшаю—публіцыстычнаю, больш лагізаванай, у больш значнай ступені дыдактычнай і ўтылітарнай, чым цяпер». Паэт слушна заначае, што: «тады, як цяпер, у лепшых сваіх узорах, яна была ідэйнаю і народнаю, рэвалюцыйнаю і наватарскай». Але ў сваёй новай кніжцы паэт прагнуў «быць паэтам не 30-х, а 60-х гадоў», быць «наколькі мог сучасным і надзённым— ці гэта датычыцца асацыятыўнага мыслення, ці характару эмоцый, ці вобразнасці веку навукова-тэхнічнага прагрэсу, ці вольнага верша...»

Няхай не ўсе рысы паэзіі 30-х ці 60-х гадоў гэтым вызначаны, нельга не згадзіцца, што ў сваіх лепшых узорах паэзія 30-х гадоў застаецца нам блізкаю і сёння, хоць, кажучы зноў жа словамі ўкраінскага паэта, за гады, якія адгарадзілі нас ад далекаватых ужо трыццатых, «паспелі памерці не толькі вершы, але і людзі, багі і дзяржавы».

Сцяпан Крыжаніўскі—паэт філасофскага складу. Пафас сваёй новай кнігі ён звязаў у значнай ступені з роздумам над праблемай, што сцісла абазначана ім самім:

...А вітер вічності поволі
Полову слова одвіва.

Сапраўды, нешта з таго, што мы пішам, застаецца, нешта—не пакідае і ценю. Вецер вечнасці робіць сваю справу моўчкі. Як гэта ўпадобніцца да яго?.. Як гэта займець відушчасць вечнасці? У гэтым сваім высокім клопаце наш старэйшы ўкраінскі сябра, думаецца, не можа не быць блізкі кожнаму з нас.

У цэлым «Фромула шчасця»—кніжка глыбокага роздуму, напружанага эмацыянальнага жыцця. У ёй—шырокае выяўленне асобы нашага сучасніка, «высновы,—як піша сам аўтар,—перажытых гадоў, вайною выпакутаваныя словы, складаны пасляваенны свет...» Але пачнем з больш прыватнага.

У свой юбілейны зборнік С. Крыжаніўскі адным з раздзелаў уключыў «Санетарый». Санет—форма для нашай паэзіі пасля Я. Купалы і М. Багдановіча не новая. Шмат санетаў напісана ў нас і ў 60-я гады, з'явіліся нават вянкі санетаў—у Н. Гілевіча, Хв. Жычкі, А. Сербантовіча, П. Сушко.

Даўняя ісціна: ёсць ідэі часу і ёсць формы часу. Ды наўрад ці хто з нас прызнае формай нашага часу санет, хоць ён у апошнія гады быў даволі папулярны. Прыцягнуў ён да сябе ўвагу і Сцяпана Крыжаніўскага. І якіх толькі вядомых класічнай паэтыцы форм не ўвабраў санетарый украінскага паэта! Санет кананічны, санет шэкспіраўскі, санетоід, санет без рыфм, кульгавы санет, санет перавернуты, безгаловы, палавінны, каструбаваты, на дзве рыфмы, санет-акраверш з кодаю, хвастаты санет, санет-дыялог і санет падвойны—прызнацца, пра некаторыя з санетных форм я даведаўся, чытаючы санетарый С. Крыжаніўскага, упершыню. Але больш за ўсё мяне радавала, што ўвесь санетарый украінскага паэта—не проста гульня формай. Выкарыстоўваючы старыя, паўзабытыя каноны, паэт напоўніў іх вельмі надзённым зместам, роздумам, душэўнасцю. Я ўпэўнены, што санетарый украінскага паэта не адвее вецер часу, што гэтым сваім творам паэт даў адзін

з прыкладаў, як «вечная» форма можа зноў і зноў браць на сябе нагрузку надзённасці, можа дапамагаць у пошуках эстэтычных адкрыццяў непераходзячай вартасці.

Ужо стала агульным месцам у развагах крытыкаў аб паэзіі другой паловы 50-х, 60-х гадоў, што яна ў асобе многіх сваіх старэйшых прадстаўнікоў, ды і шэрагу маладзейшых, шырокім фронтам павярнула да выкарыстання класічных традыцый. На пачатку XX ст. руская паэзія шмат прыклала намаганняў дзеля ломкі «старых» традыцый, супрацьпастаўляючы сябе перш за ўсё пушкінскай лірыцы, якая—у шырокім сэнсе слова—аб'явілася вяхой на шляхах развіцця сусветнай класічнай паэзіі, пачынаючы з яе антычных вытокаў. Ды спробы ломкі засталіся спробамі. І, відаць, сёння мала хто стане аспрэчваць думку, што пушкінская мадэль паэзіі і на сёння застаецца сучаснай. Яе чалавечная змястоўнасць і артыстычнасць нездарма натхніла выдатнага паэта сучаснасці А. Твардоўскага кінуць кліч: «Наперад—да Пушкіна!» Лішні раз гэтая простая ісціна адкрылася перада мною і тады, калі ў Парыжы ў серыі «Паэты сённяшняга дня» мне прапанавалі купіць... Пушкіна. Прапанавалі, відаць, не толькі таму, што да французскага выдаўца не дайшлі творы сённяшніх рускіх паэтаў, хоць за гэтым фактам і праглядвала пэўная «адсталасць» выдаўцоў, іх вузка-тэндэнцыйная пазіцыя ў адносінах да рускай савецкай класікі. У дадзеным выпадку мяне асабліва ўразіла тое, што Пушкіна вось так катэгарычна называлі паэтам сённяшняга дня.

Не будзем аднак думаць, што ўсё з пушкінскай паэзіі жыве сёння. Паэзія гэтага паэта—шматслойная, шматстылёвая, розныя рэчы пісаліся ў розны час з розных творчых перадумоў і прынцыпаў. Сённяшні наш Пушкін—гэта Пушкін у сваіх вяршынях, асоба глыбакадумная і глыбокапачуццёвая, паэт пластычны, гарманічна дакладны ў выяўленні рэалій знешняга свету і псіхалагічнага перажывання. Але зірнем на наш шлях да яго—да Пушкіна. Ён быў няпросты.

Даволі шырока аспрэчвала Пушкіна руская савецкая паэзія 20-х гадоў. Пушкінскія традыцыі не былі ў фаворы ў 20-я гады і ў нас, і таму ад маладнякоўцаў даставалася перш за ўсё Якубу Коласу, які так відавочна цягацеў у дарэвалюцыйнай лірыцы, у паэме «Новая зямля» да Пушкіна.

Калі гаварыць пра тое, які перыяд у развіцці нашай беларускай савецкай паэзіі меў найбольш ярка акрэсленыя, яркія свае ідэі і формы, то кожны, відаць, згодзіцца, што такім перыядам была першая палова 20-х гадоў. Нельга пераўявіць здабыткаў гэтага перыяду, не бачыць даволі вузкай змястоўнасці і пэўнай стылёвай аднакалёрнасці, аднатоннасці паэзіі гэтага перыяду. Магутным пафасам былі акрэслены лепшыя вершы маладых маладнякоўцаў. Ён вынікаў з іх тэмпераментнасці, энтузіязму разняволеных рэвалюцыяй людзей, з іх шчырага палымянага вітання перамогі Вялікага Кастрычніка, новага жыцця, якое адкрывалася перад народамі былой царскай Расіі. Ды паэзія гэта была, па сутнасці, адназначнаю па сваёй ідэі—кожны з паэтаў сцвярджаў радаснае ўспрыняцце рэвалюцыі, яе гістарычную ролю для беларусаў, Беларусі. Купалаўскае «Арлянятам», чаротаўскі верш «Маладняк», верш Ул. Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына», верш А. Дудара «Паэты рэвалюцыі»—гэта творы адзінага пафасу, адзінай ідэі. І адзінай формы. Не пушкінская гарманічна рэалістычная дакладнасць, пластычнасць, «ціхая» натуральнасць самавыяўлення вызначылі яе. Яе вызначылі алегарызм і сімволіка, рамантычная «размытасць» контураў, узорыстасць метафар, трыбунныя інтанацыі. Усе названыя вершы ўзніклі менавіта як найлепшыя ўзоры выяўлення ідэй і форм паэзіі свайго часу—першай паловы 20-х гадоў. Таму яны шмат у чым і прадвызначылі ў цэлым аблічча аднаго з этапаў нашай паэзіі. Імі, аднак, быў дадзены не толькі штуршок дзеля яе далейшага ўзбагачэння, але і дзеля самаразбурэння ідэйна-эстэтычнай мадэлі, імі сцверджанай. Самаразбурэнне гэта будзе звязана перш за ўсё з інфляцыяй вобразнасці, якая за свой першаўзор брала вобразна-выяўленчыя асаблівасці вершаў Чарота, Пушчы, Дудара, Труса.

Успомнім верш Чарота «Маладняк» (часопіс «Маладняк», 1923, № 1):

Тут учора бура выла нам,
Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток,—
Стары бор з карэннем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца — вір агню...
Буралом спаліла з голлямі!..
Зніклі хмары... І пад чырванню
Усе прасторы сталі голымі.

Успомнім верш «Раніца» Я. Пушчы і «Паэты рэвалюцыі» А. Дудара, надрукаваныя ў адным і тым жа нумары «Маладняка» (1924, № 2—3):

У сутонні п'яніцай
Хістаецца пад плотам цень.





Умыўшысь яркай раніцай,
На сіні выган
Выганяе
Сонца пасвіць дзень...
Падшывалец-вецер
Лапоча песняй у лісцве:
Разбіўся мутны вечар.
Аб сонца ў сіняве.

Пяём віхурай песні мы, агнём рытмуем іх —
Няма ў іх гнілі, плесені, няма ў іх слёз нямых.
У іх гоман сталі звонкае, удары малатка,
Напевы агнятонныя фабрычнага гудка.
Іх песнямі вясеннімі звівае чарназём,
Лясы прыгожаць ценьмі іх вясёлы срэбразвон.

Пафас гэтых вершаў, вобразны лад адзіныя. Але ці хвалююць яны сёння? Мне яны здаюцца не толькі цікавымі сведкамі гістарычнага развіцця нашай паэзіі. Яны для мяне і прыгожыя, і хвалююць, хоць я разумею, што сённяшні час—не іх час, што сённяшняя мадэлі паэзіі далёка не падобныя да іх. Ды мая павага да гэтых вершаў асабліва расце ад усведамлення таго, што яны—першаўзоры маладнякоўскага стылю ў паэзіі, што яны былі адкрыццём, пачаткам чагосьці новага ў нас.

Разам з тым усе мы ведаем, якія завіхрэнні пайшлі ў паэзіі маладнякоўцаў пасля таго, як падобнымі вершамі час сябе сцвердзіў. Алегарызм, рамантычная ўмоўнасць метафар, увасабленняў, эпітэтаў выклікалі ўсмешку і насмешку ўжо і ў самых сучаснікаў маладнякоўцаў (вершы «Муза падвяла» (1923), «Ці то — здольны пясняр, ці то—модны пляткар?» (1925) К. Крапівы, сяброўскі шарж Якуба Коласа «Трыумф» (1925).

Яно сапраўды звонка, паэтычна гучала ў Чарота: «Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток...»; было на месцы і ў Пушчы: «падшывалец-вецер лапоча песняй у лісцве». Але потым, як пачаў да паэтаў гэты «вецер... заходзіць у госці»! Той жа Я. Пушча частаваў яго ўжо «рабінавым сокам» («Ліст да паэтаў»), «вірабурна... буяніў» ён у П. Труса («Пад напевамі ветраў асенніх»), быў бадзякам, снежнарукім, белагрывым у М. Багуна, «распранаўся вецер—і голы—па раллі—у карагодны скок!»—у Ю. Лявоннага («Зімовая радасць»).

Лайся, вецер, вол рабы!
Бурапень ты, мая песня новая!
Сэрца рыжае, скачы!
Вецер п'яны носам клёвае,
А з стрэх віснуць смаркачы,—

парадыраваў усе гэтыя бурапенныя празмернасці стылю маладнякоўцаў Якуб Колас. І было за што.

Кудлата-зялёныя хвалі
Чупрынаю кудзер кудзеліў,—

напісаў у 1924 годзе Я. Пушча («Я раніцы кланяўся ў пояс»). І як ланцуговая рэакцыя, пайшло: «рунь кудравіцца—цёмна-сіні бор кучаравіцца».., «кудлатая зіма», «кудлатая сінь», «туман-малачай серабрысты... кудзеліў твой стан», «Маруся—дачка русакудрага дня».

Сёння цяжка нават зразумець, як гэта ўсё прымалася, друкавалася—як не адчувалі псеўдапаэтычнасць усіх гэтых «кудлатасцяў» самі творцы. Але, відаць, найбольш пяжкая справа сёння размежаваць у часе, паказаць, дзе было сапраўды новае адчуванне, адкрыццё эпохі ў рамантычным варыянце, а дзе пачыналася псеўдавыражэнне, спароджанае самапаўтарэннем, нятворчым пераймannем?

Выхад з бурапены паэзія 20-х гадоў знаходзіла, пераключаючыся на рэйкі новай паэтыкі. Стрэлачнікам быў час, ды—даволі марудлівым. Рэалістычная адухоўленасць, пластычнасць, канкрэтнасць даваліся паэтам нялёгка.

Адмаўленне адмаўлення ў мастацтве, відаць, ніколі не бывае без празмернасцяў, без перабольшванняў. Накладныя выдаткі нашай рамантычнай паэзіі 20-х гадоў ішлі несумненна і ад няўрымслівасці адмаўлення рэалістычна-канкрэтнай паэзіі нашаніўскага Якуба Коласа. Дарэчы, маладыя рамантыкі 20-х гадоў часта вельмі цьмяна ўяўлялі сабе, што яны—не першапраходцы ў рамантычным светаўспрыманні і адкрыцці свету, што да іх быў у беларускай літаратуры вялікі рамантык Купала, рамантычная Цётка, Бядуля. Падкрэслім таксама, што не ўсе агулам паэты, якія пачалі ў 20-я гады ў рамантычным кірунку, трапілі ў тупік. Прыкла-

дам таго—Уладзімір Жылка, які інтэнсіўнай духоўнасцю сваіх вершаў штурмаваў неба рамантызму, а не буксаваў хадульнай вобразнасцю на пракладзеных да яго схематычных рэйках. Таму час і вярнуў нам гэтага паэта.

У 20-я гады, такім чынам, мы мелі не крызіс рамантызму ўвогуле, а крызіс рамантычнай мадэлі паэзіі, які, прагучаўшы напачатку натхнёна і моцна, вельмі скора аказаўся шаблонам. Што наша паэзія не ведала крызісу рамантызму ўвогуле, выдатна сведчаць і 30-я гады, у якія пачала развінацца лірыка У. Хадыкі, Ю. Таўбіна, А. Куляшова, а ва ўмовах былой Заходняй Беларусі—М. Танка, П. Пестрака, В. Таўлая, А. Іверса. Рамантызм ярка палымнеў у большасці з гэтых паэтаў і ў самой падзесяцяронасці эмацыянальнага напалу верша, і ў магутнай сіле творчай фантазіі, і ў асацыятыўнасці паэтычнага мыслення.

У адной з рэцэнзій на вершы А. Іверса, надрукаванай у «ЛіМе» за 1940 год, рэцэнзент, увогуле слушна папракаючы паэта за мудрагелістасць асобных яго вобразаў, пры гэтым спасылаўся на выслоўе М. Горкага: «Пішыце проста». Імкненне да прастаты было заканамернай рэакцыяй на рамантычную мудрагелістасць. Але, на жаль, патрабаванне «пішыце проста» не ўсімі аднолькава разумелася.

Знакам часу ў нашай паэзіі з 30-х гадоў стаў паварот да натуральнай пушкінскай прастаты. Гэты паварот быў, па сутнасці, у адначассі з такім жа паваротам у рускай савецкай паэзіі, калі Б. Пастарнак пісаў:

Нельзя не впасть в конце, как в ересь,
В неслыханную простоту.

З'явілася тады ў нас «нечуваная прастата» «Юнацкага свету» А. Куляшова, яркіх лірычных вершаў А. Жаўрука, А. Коршака, ранняга П. Панчанкі. Ды разам з тым недзе з таго ж самага часу пачала прыжывацца шэрая апісальнасць, нудныя нагрувашчванні празаізмаў, тая правільнасць, аголенасць думкі, якая ніякага дачынення да паэзіі як мастацтва не мела.

І здарылася так, што другая палова 40-х, пачатак 50-х гадоў сталі не самым лепшым часам для старту пачынаючых паэтаў. Нельга сказаць, што паэзія гэтага перыяду не мела сваіх здабыткаў, бо ён даў «Іранскі дзённік» П. Панчанкі, зборнік «Каб ведалі» М. Танка, асобныя вершы П. Броўкі, А. Куляшова, А. Вялюгіна, М. Аўрамчыка, А. Русецкага, А. Бачылы, С. Дзергая. Паэзія была шматгранная тэмамі і ідэямі, паліфанічная гучаннем, з дзесяткам ярка выражаных творчых індывідуальнасцяў. Так лёгка, як у паэзіі першай паловы 20-х гадоў, ідэю, форму паэзіі на пераломе 40—50-х гадоў не вызначыш. Панчанка прываблівае, напрыклад, своеасаблівай экзотыкай іранскіх уражанняў, А. Русецкі—мініяцюрамі, навеянымі Далёкім Усходам, М. Лужанін, А. Вялюгін—вершамі аб Сталінградзе. У залежнасці ад творчай манеры па-рознаму ў розных паэтаў гучала тэма пасляваеннай адбудовы краіны, тэма барацьбы за мір. І ўсё ж былі і ў гэты перыяд ідэі толькі гэтага часу, формы толькі гэтага часу. Зноў жа, як і ў 20-я гады, яны спарадзілі як творы арганічна паэтычныя, так і стэрэатып псеўдапаэтычнага выражэння часу. Як яно ні горка прызнаваць, ды маладыя паэты канца 40-х, пачатку 50-х гадоў у большасці выпадкаў пачыналі якраз пад уплывам стэрэатыпаў і не неслі ў літаратуру ні сваёй тэмы, ні свайго вобразнага складу мыслення. Даніну стэрэатыпнаму вершатворству аддалі ў свой час маладыя Н. Гілевіч, П. Макаль, У. Нядзведскі, С. Гаўрусёў, М. Арочка, Г. Кляўко і інш. Памятаю вершы Н. Гілевіча пра Волга-Дон, пра сады, што растуць у Кара-Кумах, якія паэт друкаваў у «Полымі». Прывяду таксама для прыкладу пачатковую страфу з верша «Дом у рыштаванні» М. Арочкі:

Чорныя груды руінаў
Згрыз экскаватар без стомы.
Падрыхтавалі машыны
Месца для дому.

Гэта паэзія?—здзівіцеся вы.—Так, тады лічылася паэзіяй. Час неўзабаве адсеяў гэты антыпод рамантычнай бурапеннасці і квяцістасці, бо ні ў свой першы зборнік «Песня ў дарогу» (1957) Н. Гілевіч, ні ў свой першы зборнік «Не ўсе лугі пакошаны» (1958) М. Арочка шэраг сваіх ранніх вершаў уключаць і не падумалі.

Гэта не значыць аднак, што паэты першага пасляваеннага пакалення не ўключалі ў свае першыя зборнікі вершаў, якія з вышыні сённяшняга дня здаюцца, мякка кажучы, наіўнымі.

Перагарніце раннія зборнікі П. Макаля «Першы след» (1955) і С. Гаўрусёва «Паходныя кастры» (1955). Зірніце на назвы першага: «Думы трактарыста», «Над праектам», «Дом», «Парад міру», на назвы другога—«Валгадонец», «Геолаг», «Шкляр», «На парадзе», «Выстаўка». Ужо з саміх загалоўкаў відаць, што вершы раскрываюць не асабістыя перажыванні паэтаў, а перажыванні кагосьці—трактарыста, архітэктара, шкляра або проста паэтызуюць постаці валгадонца, геолага, будаўніка, як правіла, рамантызуючы іх, ідэалізуючы, цягацеючы ў цэлым да парадняга агляду з'яў. Ва ўсім гэтым даволі ярка выявіліся асаблівасці нашай паэзіі першай паловы 50-х гадоў.





Падобна да таго, як у прозе на пераломе 40—50-х гадоў панаваў так званы вытворчы раман, у тагачаснай паэзіі, асабліва ў пачынаючых паэтаў, склаўся своеасаблівы тып сюжэтнага верша, нешта накшталт міні-вытворчага рамана, у якім дзейнічалі ён (трактарыст, брыгадзір, муляр, электрык або аграном), яна (калі ён муляр, дык тынкоўшчыца; калі трактарыст ці брыгадзір, дык звеннявая або аграном, або электрык, што запальвае на міжкалгаснай ГЭС высненыя разам з ім агні). Нашы гарады будаваліся, калгасная вёска электрызавалася, расла сельская інтэлігенцыя, словам, краіна прадаўжала ісці шляхам росту, героямі яе сапраўды былі людзі працы, але, выходзячы з высокіх намераў раскрыць іх лёс і багаты ўнутраны свет, паэзія трапіла на шлях спрашчэнства, сухога апісальніцтва, павярхоўнага сузіральніцтва. У свой першы зборнік Н. Гілевіч, напрыклад, вядома ж, свядома, з упэўненасцю, што твор варты таго, каб змяшчаць яго ў кнізе, уключыў верш «У новым сінім хвартуху». Як відаць з загалоўка, у вершы паведамлялася, у якім юнак-будаўнік быў хвартуху, і што ён цэглу звонкую у мур кладзе любоўна дзень пры дні», і што «ўвечар хлопец кожны раз... спяшае ў школу, у родны клас», і што «юнак і там не адстае». З гэтага рабіўся вывад:

І дом расце,— прыгожы дом,
Кладзецца цэгла рад у рад —
Штодзень вышэй, і з кожным днём
Шырэй у хлопца кругагляд.

Усё было правільна, але—ці было гэта паэзіяй?.. У 1968 годзе выйшла выбранае Н. Гілевіча—зборнік «Лісце трыпутніку»,—вершаў, падобных да цытаванага, у ім няма. Адзінаццаць гадоў, якія прайшлі з часу надрукавання верша «У новым сінім хвартуху», зрабілі сваё.

Наша маладая паэзія другой паловы 40-х, пачатку 50-х гадоў аказалася як бы глухой сцяной агароджаная ад эмацыянальнай празмернасці і рамантычнай узорыстасці лірыкі маладнякоўцаў. Адгароджвалі яе не толькі імкненне паэтаў выдаваць сябе за рэальных трактарыста, камбайнера, муляра, але і нарматыўна, адзіны крытэрый, які прад'яўляўся да вобразнай фактуры верша—патрабаванне вобраза рэалістычна-канкрэтнага. І толькі. Нават А. Вялюгін крытыкаваў М. Лужаніна за нязжытую ім прыхільнасць да паэтыкі 20-х гадоў, а Вялюгіна ў сваю чаргу крытыкавалі за мудрагельства, калі ён спрабаваў выйсці за рамкі бытавога ўпадабнення.

Словам, якраз за тое, за што крытыкі 60-х гадоў стануць ухваляць М. Лужаніна і А. Вялюгіна як арыгінальных паэтаў, за гэта ў 40-я гады іх крытыкавалі.

Другая палова 50-х—60-я гады былі для нашай паэзіі часам шматграннага ўзбагачэння. Асноўнымі тэмамі заставаліся ў ёй ранейшыя—тэма працы, антываенная, патрыятычная. Хіба што адна толькі маральна-этычная тэма заакцэнтавала на сабе ўвагу ў такой ступені, што адразу ўзніклі падставы гаварыць аб ёй як аб ярка выражанай тэме менавіта толькі гэтага часу. Ды трэба тут жа падкрэсліць, што і патрыятычная тэма ў другой палове 50-х, у 60-я гады загучала па-іншаму. Гэтая інакшасць, звязаная перш за ўсё з развіццём і паглыбленнем самых разнастайных матываў, з узмацненнем драматызму, рэфлектыўнасці, філасофскага струменю ў нашай лірыцы, абумовіла ў выніку тое, што знакам часу сталі абедзве гэтыя тэмы ў сваім асобным, новым пафасным гучанні.

Калі ў цэлым гаварыць пра пафас новага перыяду, які пачаўся з другой паловы 50-х гадоў, то ён быў звязаны з набліжэннем да рэальнага чалавека—нашага сучасніка, з адмаўленнем хадульных фігур лірычных герояў, канструяваных паэтамі «а'прыоры», з даверам да асабістага жыццёвага вопыту і, з аднаго боку, з узнёслай, трыбунна-публіцыстычнай споведдзю, прамоўніцтвам, з другога—з даверлівасцішанай інтанацыяй лірычнага самараскрыцця.

Калі ж у цэлым гаварыць аб формах, якія другая палова 50-х, 60-я гады сцвердзілі, як свае, то гэтых форм было некалькі. Паэзія вынесла на сваю паверхню не адну якую-небудзь эмацыянальна-стылёвую мадэль, а «ў сувязі з развіццём розных стылёвых кірункаў»—па крайняй меры, тры. Формай часу стала цяпер не толькі асацыятыўнасць паэтычнага мыслення, раскаванасць верша, строфікі, верлібр, як гэта імкнуліся даказаць некаторыя паэты, што свае густы і творчыя пошукі звязалі толькі з гэтымі новымі для нашай паэзіі (у параўнанні з 50-мі гадамі) рысамі. Якраз другая палова 50-х—60-я гады паспрыялі станаўленню натуральнай прастаты ў паэзіі — развіццю пушкінскай, класічна-анталагічнай традыцыі. Справа толькі ў тым, што пушкінская традыцыя была не новаю, а таму «сціпла» заставалася ў цяню. Асацыятыўна-рамантычны ж стыль, наадварот, праяўляў сябе «панам часу». Уласна кажучы, новым пасля Янкі Купалы і маладнякоўцаў ён у нас не быў. Ён проста на некаторы час аказаўся пазбаўленым увагі і цяпер як бы «браў» рэванш.

У меншай ступені прадукцыйнай на новым этапе стала традыцыя нацыянальна-фальклорная, песенна-народная. З фальклорам наша паэзія і цяпер не парывала, але яе традыцыйных метрычных, архітэктанічных форм выкарыстоўвала параўнаўча мала. Ды ўсё ж выкарыстоўвала, і прыкладаў паспяховага выкарыстання можна нямала знайсці ў П. Броўкі і А. Вялюгіна, А. Бялевіча і Р. Барадуліна, М. Лужаніна і Н. Гілевіча, А. Русака і Д. Бічэль-Загнетавай.

Такім чынам, паэзія 60-х гадоў з яе шырокімі прасторамі для развіцця розных традыцый і стыляў, выкрышталізоўвання творчых індывідуальнасцяў (а з гэтых перадумоў развівалася не толькі беларуская, але і ўсе іншыя нацыянальныя паэзіі краіны) зусім заканамерна спарадзіла такія азначэнні самой сябе ўвогуле, якую даў ёй Яўгені Вінакураў. У сваёй прадмове да выбранага («Избранное. Из девяти книг», Масква, 1968) на пытанне, што такое паэзія, ён адказваў: «Думаю, што гэта не нешта адно,—яна адначасова і тое, і тое, і тое». Часцей бы ўспаміналі вінакураўскае азначэнне тыя з нашых паэтаў і крытыкаў, якія, самаўлюбёна азіраючы толькі свой паэтычны агарод (ці агарод свайго падапечнага паэта), не хочуць ні бачыць, ні прызнаваць іншых агародаў і азяродаў!

Паэзія 60-х гадоў сцвердзіла па-новаму і сутнасць таго, што мы называем творчай індывідуальнасцю. Патрабаванне мець творчую індывідуальнасць было ўжо на парадку дня і ў другой палове 40-х, першай палове 50-х гадоў. Але ў сувязі з тым, што не ад рэальнага чалавека, не ад непасрэдна ўласнага паэтычнага асэнсавання з'яў ішлі паэты, іх творчая індывідуальнасць часта была яўнай, фармальнай. Не выяўляючы непасрэдна глыбінь чалавечай істоты, арыгінальнасці, што вынікае непасрэдна з таленту, тое, што называлі тады творчай індывідуальнасцю, было ў шэрагу выпадкаў бляскам формы, прыёму, майстэрства тых ці іншых знешніх аксесуараў. І таму ў многіх нашых лепшых паэтаў самых розных пакаленняў творчыя індывідуальнасці ў сваёй паўнаце раскрыліся больш у 60-я гады, чым у другой палове 40-х, першай палове 50-х гадоў.

Знакам часу ў 60-я гады станавіўся таксама новы, бурны, шматлікі прыток у нашу паэзію маладых сіл. Якую ж сітуацыю яны засталі? Да канца 60-х гадоў пасталелі ў паэзіі ўжо тыя, што пачыналі ў другой палове 50-х гадоў (Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Наўроцкі, Я. Сіпакоў). Толькі на гэтыя гады выпала таксама пасталенне тых, што пачыналі значна раней—Н. Гілевіча, С. Гаўрусёва, П. Макаля, Е. Лось, А. Вярцінскага, Х. Жычкі і інш. У поўні росквіту сваіх талентаў аставаліся паэты ваеннага пакалення—А. Вялюгін, М. Аўрамчык, А. Пысін, А. Русецкі, М. Калачынскі, А. Бачыла. Галоўную службу прадаўжалі несці і старэйшыя паэты—П. Броўка, Ул. Дубоўка, М. Лужанін, С. Дзяргай, М. Танк, А. Куляшоў, П. Панчанка і інш. Гэта была вялікая, баяздольная армія паэтаў, якой хапала і таленавітасці, і жыццёвага вопыту, і майстэрства, каб узняць праблемы, народжаныя часам, каб выказаць час і сябе.

У паэзіі ўсё вырашае талент. Тым не менш і талент існуе заўсёды ў рамках часу; і трэба сказаць, што нават самым таленавітым з маладых нашых паэтаў 60-х гадоў сцвярджаць сябе прыходзіцца цяжка. Моладзь, што дэбютавала ў другой палове 40-х, першай палове 50-х гадоў, дабралася да пярэдніх рубяжоў нашай паэзіі толькі каля сваіх саракагоддзяў (ды яно і цяпер яшчэ Х. Жычку, Н. Гілевіча, П. Макаля, А. Вярцінскага, С. Гаўрусёва і іншых з гэтага пакалення называюць маладымі). Няўжо і самым нашым маладым суджана так доўга чакаць свайго пасталення?!

Падключаючыся да тэм і пафасу творчасці сваіх старэйшых папярэднікаў, да тэм і пафасу, што, як знак часу, ужо сябе выявілі, усім маладым перш за ўсё пагражала небяспека перапеву. І многія з іх яе не ўніклі.

Ці прынеслі маладыя 60-х гадоў штосьці новае ў паэзію? Прынеслі, і яно было перш за ўсё звязана з іх адкрыццём свайго часу.

А я з сорак пятага,
А я з сорак пятага —
Равеснік Дня Перамогі
І выбуху першага атамнага,—

як бы ад імя ўсіх іх сказаў Рыгор Семашкевіч.

Якім жа быў гэты час? У вершы «Перамога» Юрка Голуб малюе яго з даволі значнай сілай экспрэсіі: гэта быў час, калі пад нагамі пераможцаў, што вярнуліся ў сяло з фронту, «дыміла горача пад крокам папараў парная ралля», калі яго, падлетка, «нібы радасны раяль, сляпілі клавішамі кроквы». І зноў як абагульненне менавіта ўбачанага вачамі толькі гэтага пакалення, да якога належыць Юрка Голуб, ішлі ў тым жа вершы радкі:

Хавалі,
Сеялі,
Радзілі
Пад гул уквечаных сталіц.
Сляза прапальвае сталы.
Жыты калосяцца Радзімы.

Адчуванне сябе за шырокай спіной бацькоў-пераможцаў, за шырокімі плячамі ўсенароднай Перамогі хораша выказалася ў вершы таго ж Юркі Голуба «На Нарачы»:

Такі спакойны міг.
Зялёны вецер лета.
Сягоння верым мы
Яшчэ мацней, чым летась.
Які трывожны міг!
І войны...
І радзіны...
І як блізняты — мы
Пад сэрцам у Радзімы.

«Пад сэрцам у Радзімы», якая перамагла, якая адбудоўвала і будавала, расла і мацнела, сапраўды, як пад сэрцам маці, крыяла новае, другое пасляваеннае пакаленне нашай паэтычнай моладзі.

Звяртаючыся да маці-Радзімы, зноў жа выражаючы глыбокую праўду пачуццяў і свайго жыццёвага лёсу, як бы ад імя ўсяго свайго пакалення ў першай сваёй кніжцы «Вочы вясны» заявіла і Вера Вярба:

Я не глытала па акопах дыму
І франтавых не ведаю дарог.
Калі я нарадзілася, Радзіма,
Ты святкавала свята перамог...

Мае сябры ў жыцця дасхочу бралі
Усё, чым навучаеш даражыць.
Мы за цябе яшчэ не паміралі,
Мы для цябе, Радзіма, будзем жыць!

Але, бадай, на гэтым навізна тэмы ў маладых 60-х гадоў вычэрпваецца. Можна ўспомніць, праўда, дзесятак, два запамінальных, моцных вершаў пра вайну, напісаных і заўчасна памёршым А. Сербантовічам, і А. Грачанікавым, Р. Тармолай, М. Рудкоўскім, Л. Дайнекам і іншымі, але... яны проста становяцца ў шэраг за напісанымі ўжо ў такім жа плане, у такіх жа ракурсах вершамі паэтаў старэйшых і сярэдняга пакаленняў.

Больш уласна свайго было ў распрацоўцы маладымі патрыятычнай тэмы. Сагрэтыя любоўю да ўсяго роднага, своеасаблівa засвяціліся лірычныя імпрэсіі С. Панізніка. Тонка выгравіраваныя, яны нясуць нейкае, у традыцыях «Слова аб палку Ігаравым», своеасаблівае адчуванне зямлі, гісторыі, роднага слова. Лірычнай непасрэднасцю ўразілі вершы аб прыродзе Я. Янішчыц. Апаэтызаваўшы родныя бярозы, алешыны, хвоі, свой родны кут у трыпціху «Дрэвы» (зборнік «Сінія брады») свежа, па-свойму ўбачыў М. Рудкоўскі. У Яўгеніі Янішчыц і Міхася Рудкоўскага, мне здаецца, увогуле ўпершыню так непасрэдна і шматколерна засвістала ў нас у паэзіі зялёнае Палессе, пачало выяўляцца, я б сказаў, глыбінна-паляшуцкае адчуванне злітнасці чалавека з прыродай, паэтычнасці Палесся—гэтага ўсё яшчэ шырока не адкрытага нашай паэзіяй маляўнічага кутка Беларусі.

Але, на жаль, у цэлым пераважная большасць маладых паэтаў 60-х гадоў і асабліва тых, хто пачынае сёння, падымаючы тэмы вайны, маральнай чысціні і дабраты, любові да роднага краю, часта не можа выйсці за рамкі кволасці, неарыгінальнасці. Не так ад недахопу таленту, як ад недахопу жыццёвага вопыту, свайго погляду на рэчы, з'явы, сваёй тэмы не хапіла вершаў на асобныя, свае паэтычныя кнігі ў А. Казловіча і С. Законнікава. Вершы іх увайшлі ў калектыўны зборнік «Рунь» і паказваюць жывасць паэтычнага светаадчування, даволі высокую культуру стылю, прычым у А. Казловіча—выразна свайго, адметнага.

Нельга сказаць, што С. Законнікаў не шукае, не шукаў сваёй тэмы. Але... Чытаю канцоўку яго верша, змешчанага ў «Руні»:

Чорны колер — у смерці,
Чырвоны колер — жыцця.

Што ж гэта? Па-першае, канстатацыя вядомага, па-другое, спразаізаваны паўтор сапраўды глыбока драматычнага першаўзору—пысінскіх радкоў:

Чырвонь, чырвань — колер праваты.

Чытаю другі верш — «У Брэсцкай крэпасці». Успамінаю з такой жа назвай вершы маладых Р. Барадуліна, С. Гаўрусёва, і становіцца проста шкада аўтара новага верша, які сам не ведае, у якое неспрыяльнае становішча сам сябе паставіў.

Трэці верш — «Рэквіем». Пасля «Рэквіема» Р. Раждзественскага, «Рэквіема» А. Вярцінскага — зноў жа ён, як дзесятае рэха.

Маладая паэзія 60-х гадоў — руская, украінская, літоўская — у шэрагу выпадкаў узяла сабе як сваю тэму нацыянальнае гісторыі, акрыліўшы яе новым пафасам, звязаўшы з сучасным нашым светаадчуваннем. Гэта ж назіраецца і ў нашых маладых паэтаў. Так, сярод лепшых вершаў зборніка Мар'яна Дуксы «Спатканне» вершы «Каліноўскі», «Смаргонская акадэмія». Але разам з тым і ідавочнае, бяздумнае перайманьніцтва спарадзіў наплыў «гістарычнай хвалі». Для мяне, напрыклад, зусім не зразумела, чаму ў вершы «Не плакалі, не галасілі» М. Губернатарава, дзе гутарка ідзе пра «Іванаў русых і Алесяў» іх маці называюцца «багародзіцамі Расіі»? І навошта было С. Законнікаву ўслед за Я. Еўтушэнкам пісаць верш «Апошні дзень Разіна». Вядома ж, у Еўтушэнкі гэты дзень выпісаны куды лепш, чым у яго падгалоска.

Затое паглядзіце, які жывы, пругкі, густа напісаны ў таго ж самага С. Законнікава верш «Сякуць жанчыны на градах капусту»:

Стаю і гляджу: на зямлю, як на лусту,
Сняжынкамі вецер, бы соллю, сыпле,
Сякуць жанчыны на градах капусту,—
Мароз качанамі тугімі рыпае.

Відаць, маладым зноў і зноў трэба паўтараць даўнюю, агульнавядомую ісціну: бачанае, перажытае, адчутае і перададчутае табою — вось перш за ўсё з чаго заўсёды пачынаецца паэзія.

Маладая паэзія 60-х гадоў шмат тэмпераменту аддала маральна-этычнай тэме. Пасля вершаў на гэту тэму М. Танка і П. Панчанкі, А. Вярцінскага і П. Макаля, здавалася, цяжка ўжо было знайсці тут штосьці новае. Тым не менш і А. Сербантовіч, і асабліва М. Маляўка, А. Разанаў гэтае новае знайшлі, сказалі, узнялі маральна-этычную тэму і як тэму спецыфічна свайго пакалення. Барацьбой назваў некалі Карл Маркс жыццё. Успрымаючы сваё жыццё як барацьбу за ідэалы камунізма, за светлае добрае, вечнае, прагай быць справядлівымі, сумленнымі напоўнілі свае вершы маладыя паэты. І такія з гэтых вершаў, як «Я памыліўся...» А. Сербантовіча, «Немагчымае» А. Разанава, «Мы сумленне перакупшчыкам» М. Маляўкі, «Сэнс жыцця» Н. Мацяш сталі, па сутнасці, голасам маладзейшага нашага пакалення ў цэлым. «Адшукаю ў барацьбе сябе!» — вось адзін з асноўных яго дэвізаў. Немагчымага на свеце няма — сцвярджае яно, поўнае веры ў свае сілы, як нашчадак гераічнай Прэсні і бацькоў — пераможцаў на палях Вялікай Айчыннай вайны.

Але зноў жа хапае ў маладых і паўторнага перажоўвання матываў дабраты, чалавечнасці, шчырасці, душэўнай шчодрасці. Высока, на поўны голас прагучалі гэтыя словы ў Панчанкі, Вярцінскага, Гаўрусёва. На духоўных асновах, што нараджаюць гэтыя словы, вядома, заўсёды трымаліся і будуць трымацца гуманізм, паэзія, але кожны час адчувае іх па-свойму, выяўляе па-свойму, і новага, свайго паэтычнага адкрыцця ў сувязі з далейшым поступам нашых дзён чакаюць яны ўжо і сёння.

Час адсейвае перапевы. Песні застаюцца жыць. Які пафас стане знакам паэзіі 70-х гадоў, якія формы як свае сцвердзяць гэтыя гады — хто сёння пра гэта скажа? Вялікім ідэйна-эстэтычным вопытам багата ўжо наша беларуская савецкая паэзія. Валодаючы ім, паэты несумненна выберуць самыя найлепшыя спосабы і сродкі, каб служыць людзям, часу, справе камуністычнага будаўніцтва.

■■■






**Н. ШКЛЯРАВА. МАЯ ВЁСКА.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.**

# ТАЛЕНТ ТРЭБА РАЗВІВАЦЬ

Свой першы зборнік вершаў маладая паэтэса Ніна Шклярава назвала сціпла і проста: «Мая вёска». Ужо гэтая назва акцэнтуе ўвагу на тым, што гаворка пойдзе пра бацькоўскі кут, пра тое, што люба і блізка з маленства. Сапраўды, у зборніку шмат мясцін, дзе пра любоў гэтую гаворыцца хораша і сардэчна, дзе паэтэса не губляе, не страчвае свайго бачання прадмета паэтычнага даследавання. Сцішаная, задуменная інтанацыя, жаданне знайсці адказ на тое, што хвалюе і непакоіць,— такі ў асноўным паэтычны лад зборніка. У Ніны Шкляравай, як і ў большасці паэтаў маладога пакалення з універсітэцкай ці інстытуцкай адукацыяй, паэзія сваімі вытокамі, сваімі карэннямі ідзе з краю маленства. Там засталося самае блізкае і самае зразумелае для іх. А пісаць, вядома, лягчэй пра тое, што добра ведаеш, бо ў гэтым вядомым свеце лягчэй адшукаць яркае, своеасаблівае, адметнае, такое, напрыклад, як «прамень босы, зіхатлівы за палеткам», альбо як цёплая рэчка Церуха, якою, як матчынай рукой, затулілася з поўначы родная вёска паэтэсы.

Н. Шклярава ўмее ў простым, часам нават будзённым убачыць паэзію. Гэтай паэтычнасцю і напоўнены лепшыя вершы зборніка.

**Напісаць хацела пра вайну,**
**Ды дзіця спрасоння засмяялася!**
**Выйшаў верш пра шчасце і вясну,**
**Хоць і восень на двары трымалася.**

Гэта радкі з «Майго верша». У ім маладая паэтэса выкладае свой погляд на паэзію і паэтычнае ў жыцці, задумваецца над вечнымі праблемамі чалавечага жыцця. «Мая вёска», «Родная хата», «Мой верш», «Бывае мудрай прастата», «Бяссмерце», «Світанне» — найбольш яркія, найбольш цэласныя вершы кнігі. А астатнія?

Вось верш «Беларусь» (падобных паэтычных варыяцый у зборніку некалькі):

**Рамонкай белай**
**Цвіці, зямля!**
**Суніцы спелыя —**
**Беларусь мая!**

Напісана, шчыра скажам, на звычайным вучнёўскім узроўні. Але чытаем далей:

**Дзяўчом басаногім**
**У прыполіку**
**Цябе, нямоглая,**
**Нясу я з Воленкі.**

Паспрабуем разабрацца, што і да чаго. Воленка — хутчэй за ўсё назва рэчкі. Што нясе ў прыполіку «дзяўчо басаногае» з ракі? Суніцы? Яны ў рацэ не растуць, ды і займеннік «цябе» адзіночнага ліку. Выходзіць, калі ісці за разважаннямі Н. Шкляравай,— яе лірычная гераіня нясе ў прыполіку Беларусь (!!!). Такую гіпербалу ў пародыях і то не часта сустрэнеш.

Яшчэ больш загадкавае заканчэнне верша:

**Мычаць каровы...**
**Мой крык ахрып...**
**На лоб альховы**
**Лісток прыліп.**

Тут ужо сапраўдны паэтычны рэбус. З якога боку ні падступіся, адны загадкі. Незразумела, пры чым тут каровы і чаго гэта голас у лірычнага героя ахрып. Маючы самую добрую фантазію, немагчыма ўявіць таксама і «лоб альховы», на які «лісток прыліп».

Стылістычная неахайнасць, недакладнасць, пагоня за «арыгінальнымі» вобра-

замі прыводзіць маладую паэтэсу да самай што ні на ёсць безгустоўшчыны:

**Ляснуў гром так, што змарана**
**Вярба на калені ўпала,**
**Падняўшы спадніцу да сораму, (!!!)**
**А грому было яшчэ мала.**

Н. Шклярава імкнецца закрануць розныя аспекты нашага жыцця. Гэта добра, што яна не замыкаецца апяваннем роднай аселіцы, хоць менавіта тут, як мы ўжо бачылі, яе чакаюць творчыя поспехі. Турбуе іншае. У пагоні за арыгінальнасцю яна пачынае забываць пра тое, пра што піша. Вобразная структура парушаецца, верш распадаецца на асацыяцыі, якія ляжаць у розных плоскасцях. А там, дзе няма адзінства вобразаў, няма і адзінства думкі. Параўнанне, якое, паводле задумы аўтара, павінна было несці асноўную сэнсавую нагрузку, ідзе супраць гэтай думкі, зводзіць яе на нішто:

**І я тут пасадзіла саджанец!**
**Каб падалі гранаты**
**З яблыні,**
**Каб хрумсталі дзеці**
**Яблыкі...**

Які недарэчны вобраз, жахлівы нават! Аналагічнае распаданне вобраза ў Ніны Шкляравай назіраецца і ў вершы «Родная мова»:

**Мова мая!**
**Мой ратунак!**
**Калі немаўляткай была —**
**Твой першы, найлепшы гатунак**
**З грудзей я матулі піла.**

Як недарэчы тут слова «гатунак»! Ці матчына малако (будзем прытрымлівацца аўтарскага слова) гатунак мовы? І хіба ў нямецкай, фінскай, якуцкай моваў гэты «гатунак» іншы? Прабачце...

Вельмі шкодзіць Н. Шклярвай бяздумнае рыфмаванне. Прыкладаў гэтага ў кнізе — больш чым трэба:

**Я нарадзілася ў лесе,**
**Сцяблінкай кволай, жывой.**
**Назвалі мяне Алесяй,**
**Я вырасла сярод хвой.**

А чаму назвалі не Зінай, не Нінай, не Светай? Ды проста таму, што не рыфмуюцца гэтыя словы са словамі «ў лесе».

У другім вершы Н. Шклярвай:

**...А хочаш ты, дык стану я рабыняй.**
**Магу яшчэ быць самаю святой**
**І жаркаю, да сораму, рабінай.**

Яшчэ ў адным:

**Выцерці б рукі, як маці,**
**Аб фартух квяцісты...**
**— Пахне сняданкам у хаце! —**
**Маці скажа ўрачыста.**

Лірычны герой у вершы з'яўляецца выразнікам думак і настрою аўтара. Чытаючы Н. Шклярву, часам немагчыма паверыць у яе шчырасць, а тым болей падзяліць яе думку: «Не шкадуйце вы мяне — я выжыву! Жонкай няверная ці любоўніцай». Паэтычная поза, не болей, але навошта яна чытачу?..

У адным са сваіх вершаў паэтэса прызнаецца:

***Радкі, як пчолка,***
**Свае збіраю,—**
**Што выйдзе толькі,**
**Пакуль не знаю...**

Не трэба быць прадказальнікам, каб згадзіцца з думкай, што ў Н. Шклярвай ёсць талент. Сведчанне гэтаму — лепшыя вершы зборніка «Мая вёска». А што большая палова кнігі не вытрымлівае высокіх крытэрыяў паэзіі, дык гэта вынік таго, што паэтэса паспяшалася зрабіць яе «таўсцейшай».

Многіх вершаў у зборніку магло б і не быць, калі б рэдактар паставіўся да рукапісу больш патрабавальна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Сакавік**

# НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ

## «Гойя, або цяжкі шлях пазнання»



Новая каляровая шырокафарматная мастацкая кінастужка сумеснай вытворчасці кінастудыі «Ленфільм» і ДЭФА (ГДР). Фільм створаны рэжысёрам Конрадам Вольфам па матывах аднайменнага рамана Фейхтвангера, у якім з надзвычайнай вастрынёй пастаўлена пытанне аб адказнасці мастака перад часам, перад светам.

Ролю вялікага іспанскага мастака Франсіска Гойі выконвае папулярны савецкі кінаакцёр Данатас Баніёніс. У яго выкананні Гойя нястрымны, але і мяккі, геніяльны, але часам і нікчэмны, незалежны, але і фанабэрысты. Аднак перш за ўсё ён сумленны мастак. Яго востры і пільны позірк ацэньвае людзей са здзіўляючай дакладнасцю. Прыдворны жывапісец, ён залежны ад нораву «іх высокасцяў», але як мастак ён мае магутную ўладу над імі. Гэта ўлада таленту.

Выпрабаванне духоўных сіл народа і чалавека, штодзённая барацьба за сваю годнасць у драматычных і трагічных сітуацыях — усё гэта надае карціне глыбокі і актуальны сэнс. Акрамя Данатаса Баніёніса, у фільме прымаюць удзел акцёры многіх краін, у тым ліку і нашы — Людміла Чурсіна і Арыядна Шэнгелая, Верыко Анджапарыдзе і Міхаіл Казакоў.

Кінематаграфісты «Масфільма» перадаюць на суд гледачоў сваю новую мастацкую кінастужку «Старонкі», прысвечаную лёсу паэта-камсамольца Сяргея Чакмарова.

Галоўныя ролі выконваюць Барыс Руднеў, Віктар Аўдзюшка, Балат Бейшаналіеў.

На «Масфільме» створана і новая шырокаэкранная мастацкая кінастужка, пастаўленая рэжысёрам Леанідам Галаўнёй па матывах рамана Васіля Шукшына «Любавіны». У ёй расказваецца пра класавую барацьбу, што разгарнулася ў сібірскай вёсцы ў пачатку 20-х гадоў. Новую мастацкую кінакарціну пра жыццё савецкіх шахцёраў — «Сёмае неба» — стварылі сцэнарысты М. Маклярскі, Г. Галіеў і рэжысёр-пастаноўшчык Эдуард Бачароў. У іх фільме заняты папулярныя кінаакцёры Ала Ларыёнава і Мікалай Рыбнікаў.

## «Рудабельская рэспубліка»

Шырокаэкранная мастацкая кінастужка «Рудабельская рэспубліка» створана на кінастудыі «Беларусьфільм» па матывах аднайменнай кнігі Сяргея Грахоўскага, якая расказвае пра першыя крокі Савецкай улады на Палессі. Сцэнарый напісаў Мікалай Фігуроўскі.

У галоўных ролях здымаліся Леанід Кміт, Юозас Будрайціс, Юры Каморны, Ігар Камароў, Наталля Чамадурава, Віда-Вайва Майнелітэ, Павел Кармунін.





## «Прапажа сведкі»

...У тайзе забілі чалавека. Добры ён быў чалавек ці благі — цяпер не да гэтага. Па законе, па абавязку сумлення «гаспадар тайгі» — участковы Сярожкін павінен знайсці злачынцу. З рознымі людзьмі гутарыць Сярожкін. Рознае гавораць яны пра загінуўшага вучонага Калганава. Цяжка даводзіцца малодшаму лейтэнанту міліцыі: ён змагаецца са спажывецкімі адносінамі да багаццяў нашай прыроды, уступае ў канфлікты з многімі, ставіцца непрымірэнча да тых, хто глядзіць на тайгу як на крыніцу асабістага ўзбагачэння. А тут яшчэ тыгр-людаед украў адзінага сведку, які бачыў, з кім сустракаўся Калганаў у апошні раз перад сваёй смерцю... Прыгодніцкі сюжэт новага мастацкага кінафільма «Прапажа сведкі», пастаўленага рэжысёрам Уладзімірам Назаравым на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыі Барыса Мажаева, дапамог яго аўтарам расказаць пра многае: пра абавязак чалавека перад прыродай, пра творчыя і спажывецкія адносіны да жыцця, пра радасць жыць не аб хлебе адзіным.

У галоўнай ролі здымаўся малады акцёр Валеры Залатухін. Ён на дзіва праўдзівы, гэты маладзенькі, зухаваты, па-дзіцячы непасрэдны, па-хлапечы адчайны і па-сялянску грунтоўны малодшы лейтэнант Сярожкін, які, відаць, захапляецца літаратурай пра дэтэктываў і метадамі іх работы.

## «Сказанне пра Рустама»



Эпапея Абуль Касіма Фірдоусі «Шахнаме» («Кніга цароў») па сваіх памерах у восем разоў большая за «Іліяду» і ахоплівае гісторыю некалькіх тысячагоддзяў. І цяпер, праз дзесяць з лішнім стагоддзяў пасля напісання, гераічная паэма працягвае жыць і заваёўвае сабе ўсё новых і новых чытачоў. Гамер Усходу, Фірдоусі пачаў пісаць «Шах-наме», калі яму было 36 гадоў, і закончыў на 71-м годзе жыцця. Наздарма «Кнігу цароў» называюць «цар-кнігай». Паводле яе матываў і пастаўлена новая каляровая двухсерыйная таджыкская мастацкая кінастужка «Сказанне пра Рустама», створаная рэжысёрам Барысам Кімяговым. На экране — барацьба дабра і зла. Дабро, увасобленае ў вобразах Рустама, Залея, Тахміны, воінаў Ірана, процістаіць у фільме злу, увасобленаму ў вобразе Тулада, усюдыіснага д'ябла, вымушанага ў сваёй барацьбе з чалавекам змяняць свой выгляд і дзейнічаць то сілай, то пагрозамі, то спакусамі... Зброяй Тулада становіцца шах Кавус, які не ўмее адрозніваць дабра ад зла.

Галоўныя ролі выконваюць Бембалат Ватаеў, Атар Каберыдзе, Святлана Нарбаева.

На экранах рэспублікі будуць таксама дэманстравацца новыя мастацкія кінафільмы «Востраў скарбаў» (экранізацыя аднайменнага рамана Р. Стывенсана Маскоўскай кінастудыяй імя А. М. Горкага), «Вандроўны фронт» (Свярдлоўская кінастудыя) — пра барацьбу за Савецкую ўладу ў Сібіры і іншыя.

Зарубежная кінематаграфія будзе прадстаўлена новымі кінастужкамі «Песні Балашшы» (Венгрыя), «Цуды пана Тау» (Чэхаславакія), «Туманная ноч» (ГДР), «Мерыдыян нуль» (Польшча), «Пастка для генерала» (Югаславія), «Вёска і горад» (Самалі), «Рака без моста» (Японія), «Серафіна» (Італія), «Рамэа і Джульета» (ЗША).



# ПРАЗ ЗАМОЧНУЮ ШЧЫЛІНУ

●

Засілле сексу і эротыкі, гангстарскіх і самурайскіх фільмаў выклікае пратэст прагрэсіўных японскіх кінематаграфістаў. Паявіліся «незалежныя» пастаноўшчыкі, якія, не звяртаючыся да «вялікай пяцёркі» кінафірмаў, здымаюць стужкі актуальныя па тэме і сацыяльным гучанні. «Незалежным» японскае кіно абавязана 418 міжнароднымі прэміямі, атрыманымі на разнастайных фестывалях.

Да «незалежных» у першую чаргу трэба аднесці такіх выдатных кінематаграфістаў, як сусветна вядомы рэжысёр Акіра Курасава і акцёр Тасіра Міфунэ. Яны часта не маюць сродкаў, каб зняць фільмы, і таму ім часта даводзіцца працаваць скааперававўшыся, а то і на адным энтузіязме. Добра сказаў пра гэтых рэжысёраў лаўрэат Маскоўскага кінафестывалю Канета Сінда: «Наш павільён — уся Японія, студыя — тое месца, дзе жыве здымачная група».

Акіра Курасава ўваходзіць у дзесятку лепшых пастаноўшчыкаў свету. У дзяцінстве ён марыў стаць мастаком, ды выйшла так, што ён стаў заснавальнікам японскага кіно. У 30-я гады, калі нараджалася японскае кіно, калі ў Японіі было ўсяго шэсць кінематаграфістаў, ён змяніў палітру на кінакамеру. Пра яго талент і энергію можна гаварыць многа. За пасляваенныя гады ён паставіў звыш 30 фільмаў і атрымаў столькі ж залатых і срэбных узнагарод на міжнародных фестывалях. У нас гэтага выдатнага пастаноўшчыка ведаюць па фільмах «Расёмон», «Чырвоная барада» і інш.

Аднак прадзюсары патрабавалі ад вядомага пастаноўшчыка гангстарскіх драм тыпу: «Шантаж — маё жыццё», «Свята злодзея», «Помста жанчыны-іграка», «Радасць катавання» і да т. п. «Свабода творчасці» Акіра Курасава аказалася эфемернай. Толькі пад пагрозай забастоўкі кінаработнікаў кампанія «Нікацу» дазволіла вядомаму рэжысёру працаваць над прагрэсіўнымі стужкамі «Японскі архіпелаг» і «Аповесць пра каханне і смерць». Але калі фільмы былі зняты, цэнзура выразала ў іх перад выпускам на экран сотні метраў «палітычных кадраў». Знявечаныя да непазнавальнасці карціны хоць і мелі поспех ў гледача, але не прынеслі рэжысёру творчага задавальнення.

Акіра Курасава ведае і любіць рускую літаратуру і мастацтва. Самыя любімыя яго пісьменнікі — Талстой і Дастаеўскі. Ён экранізаваў «Ідыёта», дзесяць разоў перачытваў «Вайну і мір», марыў паставіць М. Горкага. Але недахоп сродкаў прывёў Акіра Курасава ў Галівуд, дзе яму абяцалі свабоду дзеянняў і неабмежаваныя сродкі. Ды ўсё гэта было блефам. Пастаўлены ў 1967 годзе ў ЗША фільм «Ашалелы лакаматыў» аказаўся няўдалым, і не па віне рэжысёра. Проста яму не далі зняць таго, што ён хацеў.

У 1969 годзе Акіра Курасава атрымлівае ад галівудскай фірмы «XX стагоддзе-Фокс» цікавую прапанову зняць суперфільм «Тора, тора, тора» («Тыгр, тыгр, тыгр»). Як вядома, 7 снежня 1941 года Японія напала на амерыканскую ваенна-марскую базу на Ціхім акіяне — Пірл Харбор. Кадзіраваны радыёсігнал: «Тора, тора, тора» павінен быў абвясціць японскаму камандаванню пра тое, што аперацыя прайшла паспяхова. Вось гэтыя падзеі і павінны былі скласці сюжэт фільма.

Акіра Курасава імкнуўся паставіць філасофскі фільм. Ён 28 разоў перарабляў сцэнарый. На яго думку, гэта павінен быў быць антываенны фільм, які вучыў бы людзей не паўтараць памылак мінулага. Але задуме не суджана было ажыццявіцца. Галівуд знайшоў сотні прычын, каб сарваць творчыя планы пастаноўшчыка. У тым жа годзе Курасава пакінуў Галівуд і вярнуўся ў Японію.

Артыста Тасіра Міфунэ савецкі глядач ведае больш чым каго-небудзь з японскіх артыстаў. У нас дэманстраваліся такія фільмы з яго удзелам, як «Мёртвыя застаюцца злоснымі», «Чырвоная барада», «Чалавек-рыкша», «Геній дзюдо», а таксама зняты ў ЗША «Расёмон», які прынёс акцёру сусветную славу. Мне давялося бачыць Тасіра Міфунэ на кінафестывалі. Ён рухавы, высокі, што з'яўляецца рэдкасцю для японца, падобны на спартсмена, хоць па спецыяльнасці ён — інжынер-будаўнік. Імя сваё Тасіра, што азначае «быстры мужчына», Міфунэ

Заканчэнне. Пачатак у № 1.

апраўдвае. Рухавасць, неўтаймавальная энергія — вось што кідаецца ў вочы з першага погляду.

Жыццё Тасіра склалася не зусім удала. Ён нарадзіўся ў 1922 годзе і ў 18 гадоў стаў лётчыкам. Пра акцёрскую кар'еру ён і не думаў. У часе вайны займаўся аэрафотаздымкамі, а пасля разгрому Японіі быў беспрацоўным, перамяніў шмат прафесій, пакуль лёс не звёў яго з Акірам Курасава. З таго часу яны працуюць разам.

Крызіс японскага кіно прымусіў Тасіра Міфуне пакінуць Японію: ён едзе ў ЗША на заработкі. Там ён многа і з поспехам здымаецца, і гэта прыносіць яму немалыя грошы. За іх ён купляе кінаапаратуру і, вярнуўшыся ў Японію, адкрывае сваю студыю «Міфуне-прадукшн».

Пачаліся здымкі. Першы фільм не прынёс новаспечанаму прадзюсару прыбытку, але, па словах Тасіра Міфуне, унёс маленькую часцінку ў адраджэнне японскага кіно. На нашых экранах нядаўна прайшоў адзін з апошніх фільмаў студыі Міфуне — «Сцягі самураяў», дзе галоўную ролю, як заўсёды, таленавіта выконваў сам прадзюсар. Гэтая тыповая самурайская драма мела поспех у гледачоў, дала прыбытак, але недалёка адышла ад стандартных камерцыйных стужак.

Больш незалежна паводзіць сябе студыя рэжысёра Кенета Сінда — пастаноўшчыка «Голага вострава», які ўзнагароджаны на Маскоўскім фестывалі Залатым прызам. Кенета Сінда прыйшоў у кіно як сцэнарыст, а потым заняўся кінарэжысурай. «Голы востраў» — яго пятнаццатая работа і, бадай, самая ўдалая. Працавітасць гэтага чалавека здзіўляе. Ён — уладальнік студыі, прадзюсар, пастаноўшчык. Кенета Сінда напісаў звыш 200 сцэнарыяў, палова з іх — арыгінальныя. Акрамя ўсяго, ён яшчэ і добры педагог: у яго вучацца кінематаграфічным прафесіям да сарака вучняў.

Фільм «Голы востраў» добра ведае наш глядач. Ён атрымаў сусветнае прызнанне, хоць у сябе на радзіме поспеху не меў. Здымаўся ён у вельмі цяжкіх умовах і абавязаны сваім завяршэннем толькі нястачам і цяжкасцям яго стваральніка. Здымалі фільм амаль без грошай, пры жорсткім ліміце плёнкі і поўнасцю на натуры. Акцёры не патрабавалі ад пастаноўшчыка платы за сваю нялёгкую працу. У артысткі, якая іграла галоўную ролю, часта не было за што пабедаць у сталоўцы, і яна тут жа, на здымачнай пляцоўцы, гатавала сама сабе якую-небудзь страву.

Стаць незалежным прагрэсіўнаму мастаку ў Японіі вельмі цяжка. Пракат фільмаў знаходзіцца ў руках «вялікай пяцёркі», якая манапалізавала кінасетку краіны і дыктуе свае густы «незалежным». Таму не дзіўна, што многія майстры, каб дагадзіць кінапракатным фірмам, ідуць на кампраміс. Той жа Кенета Сінда пасля «Голага вострава» паставіў сексуальны фільм «Інстынкт», які не прыбавіў лаўраў да славы свайго пастаноўшчыка.

У апошнія гады выклікалі шмат спрэчак фільмы рэжысёра Хіросі Тасігавара «Жанчына ў пясках» і «Чужы твар». Абодва пастаўлены па раманах Кабо Абэ, якія ў свой час друкаваліся ў нас у «Иностранной литературе».

Хіросі Тасігавара таксама з «незалежных». Ён шукае новых спосабаў выяўлення думкі на экране. Адсюль — пільная ўвага да дэталяў, крайні натуралізм. Кабо Абэ ўласцівы натуралізм і своеасаблівы сімвалізм. Рэжысёр, экранізуючы пісьменніка, імкнецца не да сімвалічнасці кадра, а да такой яго кампазіцыі, якая здольна сімвалічна выказаць важную для яго думку. Унутраны змест карцін Хіросі Тасігавара — трывога чалавека, яго пакуты ў жыцці. Ад фільма да фільма рэжысёр ускладняе яго форму. Калі раман таго ж Кабо Абэ «Спаленая карта», таксама добра вядомы савецкаму чытачу, даволі просты па кампазіцыі, то яго экранная версія гранічна ўскладненая. Простая гісторыя пра дэтэктыва, які ў пошуках нейкай асобы сутыкаецца з многімі чалавечымі лёсамі, даведзена пастаноўшчыкам да такой сімволікі, што нават вопытным кінематаграфістам цяжка зразумець, што тут да чаго.

Вялікай папулярнасцю ў Японіі карыстаецца малады рэжысёр Нагіса Ашыма. Яго часта называюць «японскім Андрэ Кайятам». І сапраўды, у іх многа агульнага — абодва юрысты па адукацыі, абодва ставяць фільмы на вострa сацыяльныя тэмы, абодва расказваюць пра людзей, бязлітасна выкінутых за борт сучаснага буржуазнага грамадства. Як і французскі рэжысёр, Нагіса Ашыма добра ведае жыццё злачыннага свету. Героі яго фільмаў — людзі «дна» вялікага капіталістычнага горада. Прагрэсіўнага пастаноўшчыка цікавяць праблемы моладзі — многія яго фільмы прысвечаны лёсу маладых людзей у сучасным бязлітасным свеце. Фільм «Смерць праз павешанне» расказвае пра цяжкі лёс карэйскай меншасці ў Японіі; рэжысёр сцвярджае, што карэйцы ў яго краіне эксплуатуюцца і прыніжаюцца гэтак жа, як негры ў Амерыцы.

У Нагіса Ашыма ёсць таленавітыя паслядоўнікі. Рэжысёр Едзі Ямара паставіў смелую сатырычную камедыю «Мілы валацуга», у аснову якога пакладзены сюжэт з «дна». Кенета Асіда зняў хвалюючую драму «Я слёз не лью» пра мужнасць дзяўчыны, якая змагаецца з хваробаю. Фільм «Мярзотнік» рэжысёра Тэцутара Мурана выклікаў шырокі водгук у гледачоў тым, што ў ім праўдзіва расказваецца пра настаўніка, які прысвяціў сваё жыццё непадатлівым да выхавання хлапчукам.

Традыцыйнымі для японскага кіно сталі фільмы, якія паказваюць вынікі атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. Мы бачылі поўныя драматызму стужкі «Дзеці Хірасімы», «Хроніка кахання і смерці» рэжысёра Карэёсі Курахара, «Камені Хірасімы», «Лебядзіная песня» Цікумагавы па сцэнарыі Дзэндза Мацяма і інш. На першы погляд яны здаюцца шаблоннымі, зробленымі на адну калодку. Для замежнага гледача такая прывязанасць да адной тэмы можа здацца нават надакучлівай. Для замежнага, але не для японскага. Для Японіі гэтая тэма невычарпальная, таму што 300 тысяч японцаў знаходзяцца пад пагрозай смерці ад прамянёвай хваробы.

21 верасня 1945 года рэжысёр Акіра Івасакі зняў першыя кадры вялікага дакументальнага фільма «Вынікі атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі». Пастаноўшчык лічыўся ў Японіі «чырвоным» і ў часе вайны быў пасаджаны на два гады ў турму. Выйшаўшы з турмы, знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Кінафірмы адмовіліся ад яго паслуг. Толькі пасля разгрому Японіі пастаноўшчык прыступіў да здымкаў фільма — трагедыі, перажытай двума японскімі гарадамі. Два месяцы амерыканскія акупацыйныя ўлады не ведалі пра здымкі, а ў лістападзе ў Нагасакі ваеннаму патрулю здалося дзіўным, што чалавек з кінаапаратам ходзіць па руінах горада. Кінаапаратара выклікалі ў штаб акупацыйных войск і... прапанавалі прадаўжаць здымкі: у лістападзе з ЗША ў Японію прыбыла група ваенных і вучоных для вывучэння вынікаў атамнага выбуху.

Здымкі прадаўжаліся, але пад наглядам амерыканцаў. Было знята дзесяць тысяч метраў плёнкі, з якіх шэсць тысяч пяцьсот увайшлі ў вялікі, на тры гадзіны, фільм. Ён пачынаўся кадрамі, якія паказваюць Хірасіму да выбуху. Людзі спяшаюцца на работу. Па шумлівых вуліцах бягуць трамваі, ідуць школьнікі, у парках гуляюць малыя. І раптам гасне экран. Цемра. Цішыня. А калі зноў успыхвае палатнішча экрана, перад гледачом паўстае мёртвы горад. Абгарэлыя шкілеты дамоў, трамваяў, мастоў. І самае жудаснае, самае страшнае — ні ў адным кадры няма людзей. Няма жыцця.

Гатовы фільм, негатыў і дзённікі пастаноўшчыка адразу ж былі канфіскаваны і вывезены ў ЗША. Дваццаць два гады плёнка праляжала ў сейфах амерыканскага дзярждэпартамента, і толькі зусім нядаўна частка матэрыялу была вернута Японіі. У той жа час дзярждэпартамент ахвотна вяртае Японіі старыя мілітарысцкія фільмы, якія апяваюць вайну, жорсткасць, вернасць імператару.

Прагрэсіўныя кінематаграфісты Японіі, галоўным чынам з ліку «незалежных», імкнуцца здымаць актуальныя для краіны антываенныя фільмы. З вялікімі цяжкасцямі сутыкнуўся рэжысёр Іоці Адзума пры здымках фільма «Астравы Акінава», у якім паказаў, што ўсё жыццё людзей гэтай шматпакутнай зямлі падпарадкавана заакіянскаму ваеннаму распарадку.

Да антываенных фільмаў можна аднесці работу рэжысёра Масакі Кабаясі «Гімн стомленаму чалавеку». Гэта драматычная гісторыя адносін бацькі з сынам. У часе вайны бацька, студэнт універсітэта, трапляе на фронт і хутка становіцца ахоўнікам у лагеры ваеннапалонных. Там ён не дагледзеў, як амерыканскі палонны ўкраў рыс. За гэта ахоўнік быў пакараны так жорстка, што страціў слых. Прайшло многа гадоў. Выраслі дзеці. Сын былога ахоўніка пакахаў дачку афіцэра, які катаваў некалі яго бацьку. Цяпер былы садыст — буйны дзялок...



Кадр з фільма «Геній дзю-до».



«Камені Хірасімы».



«Пасёлак шалёных».

Фільм Масакі Кабаясі крыху наіўны, але ён — адкрыта публіцыстычны, у ім гучыць гнеўны пратэст супраць бесчалавечнасці войнаў.

Вайне прысвечаны адзін з апошніх фільмаў Кабаясі — «Полымя вернасці». Ён паўтарае вечную тэму Рамэа і Джульеты. Але не варожасць дзвюх сем'яў разлучыла закаханых, а вайна. Яна не ўваходзіць у драматургію твора з усімі сваімі жахамі, але яна нябачна прысутнічае ў кожным кадры.

Да антываенных фільмаў належыць і карціна рэжысёра Сіра Морыя «Галава». Дзеянне ў ёй разгортваецца ў двух планах: у часе вайны і ў нашы дні. Ідзе суд. Судзяць паліцэйскага, які мучыў ваеннапалонных. Але пракурор усімі мерамі імкнецца замяць справу. Толькі адвакат настойліва шукае праўды і нарэшце знаходзіць яе. Вінаватыя пакараны, але гледача не пакідае пачуццё, што яшчэ многа ваенных злачынцаў знаходзіцца на волі, таму што некаторым людзям нявыгадна выдаваць іх.

Антываенныя фільмы паявіліся на экранах Японіі як пратэст супраць фільмаў, якія прапаведуюць мілітарысцкую ідэалогію. А такіх выпускаецца вельмі многа. Не так даўно рэкламаваўся фальсіфікатарскі фільм Кіхаці Акамота «Самы доўгі дзень», у якім імператар, ваенныя і палітычныя дзеячы даваеннай Японіі, усе, хто нясе адказнасць за развязаную Японіяй вайну, паказаны патрыётамі, што імкнуцца да міру.

Кінафальшыўкі гатуюцца спрытна, з удзелам папулярных акцёраў. Для гэтага не шкадуюць сродкаў. Прадзюсары ведаюць — гэта акупіцца калі не касавымі зборамі, то ваеннымі ведамствамі.

Імкнучыся павялічыць армію, упраўленне абароны выпускае на экраны сотні дакументальных і прапагандысцкіх фільмаў, мэта якіх — уцягнуць японскую моладзь у так званыя атрады абароны. Гэтыя фільмы даюцца кінатэатрам бясплатна.

Майстры японскага кінамастацтва выступаюць з грамадзянскімі і сацыяльнавострымі творамі. Іх пошукі заўсёды звязаны з сучаснасцю. Таму фільмы такіх майстроў, як Акіра Курасава, Масакі Кабаясі, Нагіса Ашыма, Кенета Сінда, акружаны арэолам прыцягальнасці і цікавасці. Але фільмы прагрэсіўных і незалежных майстроў тонуць у патоку камерцыйнага кіно. Нельга не згадзіцца з Акірам Курасава, які гаворыць, што японскае кінамастацтва могуць выратаваць урадавыя субсідыі фільмам. «Дастаткова будзе малюсенькай долі сродкаў з астранамічнага нацыянальнага бюджэту, каб выпускаць у год дзесяць прыстойных карцін». Толькі высокамастацкія фільмы могуць вярнуць гледачоў у кіназалы.

Атрад японскіх кінематаграфістаў сёння па праве лічыцца адным з самых шматлікіх у сусветным кінамастацтве. Шлях, на які сталі ў нашы дні многія прагрэсіўныя рэжысёры Японіі,— шлях вызвалення з палону перайманьнасці сусветных стандартаў, шлях развіцця свайго нацыянальнага мастацтва. У Японіі ёсць мастакі, здольныя пайсці па гэтым шляху.

**Яўген КРУПЕНЯ.**

# ШАЙБА НА... ЗАДВОРКАХ

Хуткі і рашучы юнак-хакеіст праскочыў між абаронцаў і памчаў да варот, у якіх, быццам птушка ў клетцы, мітусіўся варатар. Імгненне — і шайба ў сетцы. Балельшчыкі радаваліся. Радаваўся і сам хакеіст. Ён ехаў да цэнтра поля ў акружэнні сваіх шчаслівых сяброў.

Такое можна ўбачыць на любых спаборніцтвах. Спорт мужных і смелых (успомнім словы папулярнай песні «баязлівец не гуляе ў хакей!») захапіў тысячы хлапчукоў. Сёння мы можам ўпэўнена сцвярджаць, што гэта лёдавая гульня стала другой пасля футбола і па папулярнасці, і, бадай што, па масавасці.

Дзякуючы поспехам зборнай краіны, пругкая шайба знайшла прыхільнікаў у горадзе і вёсцы. Штогод у рэспубліцы разыгрываюцца прызы газет, ідуць баталіі ўсесаюзнага клуба «Залатая шайба», розныя маланкавыя турніры. У Мінску, Магілёве, Віцебску, Оршы створаны секцыі і нават школы юных хакеістаў. Ігракі, якія ў свой час выступалі на розных турнірах і першынствах СССР, вядуць сёння навічкоў да вяршынь майстэрства.

Ледзь толькі ўсталююцца маразы, на дварах, тратуарах, вуліцах, ля пад'ездаў дамоў кіпяць баталіі. Гумавая чараўніца-шайба водзіць за сабою цэлыя чароды хлопчыкаў.

Гэтыя ўпартыя непаседы не ведаюць ніякіх цяжкасцяў. Можна толькі захапляцца, з якой настойлівасцю маленькія жыхары дома № 9 па вуліцы Казлова ў Мінску аберагаюць сваю пляцоўку ад заносаў. Іншы раз гурбы ў рост чалавека. А хлапчукі з рыдлёўкамі ў руках смела ідуць у атаку на снег. І лёд ажывае. І гэтак з дня ў дзень, на працягу ўсёй зімы...

Многія кіраўнікі дамоў добразычліва ставяцца да захаплення падлеткаў. У Мінску папулярнасць набыў спартыўны клуб «Гагарынец» (домакіраўніцтва № 29 у мікрараёне Усход-2), у Баранавічах — клуб «Космас» і г. д. Такіх аматарскіх дзіцячых хакейных клубаў ёсць нямала.

У апошнія гады зроблены захады і для папулярызацыі хакея ў вёсцы. Калгас імя Жданава на Навагрудчыне абсталёўвае лёдавае поле ў Любчы. На сродкі праўлення закуплены даспехі для дзвюх каманд. У Мінскім раёне добрую славу мае спартыўны калектыў эксперыментальнай базы «Русінавічы». Тут дзейнічае хакейная каманда, якая паспяхова ўдзельнічала ў першынстве вобласці. Здаўна сябруе з хакеем моладзь эксперыментальнай базы «Вусце» на Аршаншчыне.

Пералік такіх калектываў можна доўжыць. Хакей зрабіўся галоўным спартыўным захапленнем юнакоў. Стала ўжо добрай традыцыяй: калі хочаш зрабіць прыемнае сыну — падары яму клюшку.

Між тым нашы і клубныя, і зборныя юнацкія калектывы ўступаюць у майстэрстве многім камандам з іншых рэспублік. Асабліва з РСФСР. У нас нават адчуваецца нейкі спад. Некалькі гадоў назад нашы хакеісты выходзілі ў фінал усесаюзных спаборніцтваў. Цяпер жа нават на занальных першынствах мы ўступаем. У мінулым годзе ў зоне, дзе выступалі юніёры, беларусы занялі ўсяго толькі чацвёртае месца. Маладзёжная каманда рэспублікі і таго горш — пятае з шасці.

Слабыя вынікі маюць каманды Беларускага інстытута фізічнай культуры, Гомельскага універсітэта, Мінскага «Тарпеда», якія ўдзельнічаюць у першынстве краіны па класе «Б». Па сутнасці, яны вядуць барацьбу толькі паміж сабой, бо майстэрства маскоўскай і рыжскай каманд значна вышэйшае.

Спынімся на некаторых агульных прычынах маруднага развіцця хакея ў рэспубліцы. Ні для каго не сакрэт, што сучасны хакей — гэта даволі дарагі від спорту. Лёдавая каробка, асвятленне, спецыяльныя даспехі для ігракоў, заліўка поля і многае іншае патрабуюць і сродкаў і часу. А зай-

маюцца хакеісты два, самае вялікае чатыры месяцы. Дык ці варта «гарод гарадзіць»? — пытаюцца некаторыя кіраўнікі. Турбот шмат... Толькі зальеш поле, глядзіш, ртутны слупок вышэй нуля. Усё паплыло. Зноў пачынай спачатку.

Як ні дзіўна, але і камсамольскія арганізацыі, камітэты па фізкультуры і спорце, закліканыя быць ініцыятарамі ў гэтай справе, імкнуцца зачастую застацца калі не ў лагеры «праціўнікаў» хакея, дык і не сярод абаронцаў яго. А іх падтрымка, шчырая і гарачая, вельмі патрэбна. Бо сёння гуляюць у хакей з шайбай яшчэ і на тратуарах, вуліцах і проста на задворках. Лёдавых пляцовак (проста пляцовак!) не хапае нават у буйных гарадах.

Хаця, шчыра кажучы, на абяцанні мы не скупыя. Звычайна яшчэ з восені на сумесных са спартсменамі пасяджэннях камітэты камсамола намячаюць праграмы дзейнасці. Там і лыжныя базы, і спаборніцтвы канькабежцаў, і, вядома, лёдавыя бітвы хакеістаў. Бяда ў тым, што падобныя рашэнні застаюцца на паперы.

Можна было толькі парадавацца, як камсамольскія актывісты Навагрудка, Полацка выкладвалі сваю праграму. Здавалася, уся затрымка з-за маразоў. Але дзе там! Што маглі зрабіць самі дзеці, так усё і засталося. Прызнацца, камсамольцаў яны і не чакалі ў сваіх дварах і школах. Кожны год райкомаўцы і гаркомаўцы шмат чаго абяцаюць, але амаль нічога не робяць.

...Вернемся на вуліцу Карла Лібкнехта ў Мінску. Некалькі гадоў назад для магазіна-булачнай рашылі абсталяваць поле для гульні ў хакей. Нямала было затрачана сродкаў. Устанавілі барты, правялі асвятленне, спрабавалі нават радыёфікаваць поле-каток. Падышла зіма — залілі пляцоўку. На гэтым сваю місію ўсе палічылі закончанай. За некалькі гадоў тут не было праведзена ні адной сустрэчы. Вядома, не вялося ніякай трэніровачнай работы. Летам каробка не ўбіралася. Сонца, дождж прывялі яе ў поўную нягоднасць.

Адсутнасць хакейных палёў, няўменне іх выкарыстанне — яшчэ паўбяды. Вострая патрэба ёсць у трэнерскіх кадрах. Гэта гучыць як недарэчнасць. Беларусь, якая мае выдатнейшых спецыялістаў у такіх відах спорту, як фехтаванне, гімнастыка, лёгкая атлетыка, стральба і іншыя, не мае сваіх настаўнікаў хакея. Але гэта так. Уклад трэнераў хакея вельмі сціплы. Многія з выхавацеляў толькі спрабуюць, як кажуць, «штосьці рабіць», а нехта проста «адбывае час». Секцыі, асабліва ў абласных цэнтрах і буйных гарадах, працуюць бескантрольна, выхавацелям невядома сучасная методыка трэніровак. І па гэтай прычыне яны не рыхтуюць спартсменаў, якія б увайшлі ў каманды класаў «А» ці «Б». І што дзіўна, Федэрацыя хакея рэспублікі, камсамольскія арганізацыі, па сутнасці, ні разу не спыталі ў такіх, з дазволу сказаць, трэнераў, за што яны атрымліваюць грошы. Вынікам усяго гэтага з'явілася тое, што некаторыя секцыі хакея Полацка, Барысава, Бабруйска, Мазыра і іншых гарадоў не рыхтуюць спартсменаў нават юнацкіх разрадаў.

У корані павінны быць зменены і адносіны да трэнера. Сёння ён і загадчык гаспадаркі, і дыспетчар, і нават... работнік стадыёна. Настаўнікі мінскай аўтазаводскай школы хакеістаў майстар спорту Б. Ржанікаў, Ю. Яфімаў, Б. Чэрчас расказвалі, што, каб распачаць трэніроўкі мацнейшых юных хакеістаў рэспублікі, ім неабходна па гадзіне а то і больш займацца гаспадарчымі справамі: чысціць і заліваць лёд, ставіць вароты, дастаўляць да пляцоўкі інвентар і г. д. Вядома, іх каэфіцыент карыснай дзейнасці вельмі нізкі. Федэрацыя хакея звяртала на гэта ўвагу кіраўнікоў спартклуба «МАЗ», але далей размоў справа не пайшла.

Наспела неабходнасць мець у рэспубліцы спецыяльныя школы найбольш здольных хакеістаў. У гімнастыцы, фехтаванні, барацьбе мы іх маем. І плён іх работы някепскі. Яны выхавалі не аднаго юнага чэмпіёна краіны і Еўропы. І гэты добры прыклад варты пераймання.

Зрэшты, мэтазгодна праводзіць адкрытыя турніры юных хакеістаў — своеасаблівыя пошукі талентаў. Не першы год і з поспехам гэта робіцца ў Маскве. І ініцыятыва ідзе ад каманды ЦСКА — правафлангавага савецкага і сусветнага хакея. Штогод тысячы хлопчыкаў прыходзяць у госці да армейцаў. Лепшыя з лепшых — Фірсаў, Рагулін, Пятроў, Харламаў уважліва прыглядаюцца да рабят, шукаюць (і знаходзяць!) юныя таленты.

Чаму б падобныя пошукі не арганізаваць у нас. У Мінску пэўным аўтарытэтам у дзетвары карыстаецца каманда «Тарпеда» — удзельніца першынства СССР па класе «А». Няхай бы лепшыя хакеісты — Шыткоўскі, Малкоў, Ніканаў запрасілі да сябе рабят, правялі з імі заняткі, адабралі б лепшых у школу юнага тарпедаўца. Магчыма, праз некалькі гадоў адпала б неабходнасць камплектаваць сваю каманду майстроў за лік спартсменаў з іншых рэспублік.

Спорт, між іншым, пачынаецца з урокаў фізкультуры ў школе. Гэта аксіёма. Значыць, і хакей трэба смялей уводзіць у школы — заліваць каткі, набываць форму, праводзіць спаборніцтвы. І вось тут аказваецца, што існуюць бар'еры, якія шайба ніяк не можа пераадолець.

Дырэктары быццам бы і за. Але хто набудзе для нашых вучняў форму? — пытаюцца яны.— Гэта ж не прыбор які, а хакейная форма.

Да месца будзе сказаць, што ў школах ёсць слясарныя майстэрні, розныя гурткі і секцыі юных умельцаў. Чаму б не ўзяцца ім за выраб клюшак, пашыўку адзення? Самі рабяты могуць правесці электрычнасць, абсталяваць каробку для катка. Кіраўнікі ў майстэрнях вопытныя, інструменту хапае. Упэўнены, што за вучнямі затрымкі не будзе. Кожны пажадае зрабіць сабе клюшку, набыць даспехі. Зрэшты, школьныя майстэрні могуць рабіць і іншыя прыстасаванні для спорту — гарадкі і біты, рамантаваць мячы і абутак, тачыць і кляпаць канькі і многае іншае. За чым жа затрымка? Вядома, за ініцыятарамі.

І яшчэ. Многа часу выношваюцца смелыя планы будаўніцтва прасцейшых хакейных пляцовак са штучным лёдам. Такія магчымасці ёсць у месцах, дзе знаходзяцца буйныя хімічныя камбінаты і халадзільнікі. Як неабходны гэтыя міні-пляцоўкі сёння, гаварыць не прыходзіцца. Фігурысты, хакеісты і канькабежцы літаральна адчуваюць голад, бо на лёдзе яны стаяць зусім нямнога. Будаўніцтва гэтых пляцовак — справа не вельмі дарагая. А выгада вялікая. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што ўсё гэта пакуль што смелыя мары. Не больш.

**Мікалай ЧАХОЎСКІ.**

● Віктар ДАЙЛІДА



# ПЫЖЫКАВАЯ ШАПКА

### ГУМАРЭСКА

Даўно я марыў набыць сабе пыжыкавую шапку. Што не кажэце, а для мужчыны добрая вушанка — гэта галоўны прадмет убрання. Хай сабе ў цябе і прыгожае паліто, і новы модны гарнітур, і гальштук з праткнёным стралой сэрцам, а няма людскай шапкі — і грош цана ўсім тваім мужчынскім уборам. Ну што там мая аблезлая аблавушка ў параўнанні, скажам, з пыжыкавай шапкай! Сам я ростам не асабліва ўдаўся, малы, як грыб. А як нацягну яшчэ сваю хромавую аблавушку, дык хоць у каноплі стаўляй — не чалавек, а нейкі вухналь. А ў мяне, прызнаюся па сакрэце, хоць сівізны ў галаве і няма, але часам не-не, ды і штурхане чорт у рабрыну. Дык каб была добрая шапка, то чаму... А вось паспрабуй «падбіць кліны» ў гэтай аблезлай скуранцы!.. Аднойчы я зачапіў Машу з райзага, дык тая так на мяне скасавурылася, што век не забуду... «Ах ты, гарбуз пляшывы...— гаварыў яе позірк.— Віч, кавалер знайшоўся... Дык я ж цябе, пляма няшчасная, так скубяну, што і жонцы дома не спатрэбішся...» А была б пыжыкавая шапка... Эх, ды што гаварыць!

Іншая справа, калі ідзе па вуліцы, скажам, загадчык кілбаснай Пацыкайлік. Божа мой! Глядзіш і дзівішся: якая веліч! Не чалавек, а глыба! Сам то Пацыкайлік не сказаць каб асабліва кідаўся ў вочы. Шчуплы, худы і лысіна на галаве, не раўнуючы, як калена. А як надзене сваю пыжыкавую шапку... Лоб у яго робіцца высокі, твар разумны, позірк востры.

А як збяруцца на нараду! О божа! Якіх тады не ўбачыш шапак! У дырэктара кансервавага завода вушанка з куніцы. У загадчыка аддзела культуры — з барсука, пышная і лахматая, як стог сена. Нашто літсупрацоўнік райгазеты, зялёны шпінгалет, і той мае пыжыкавую шапку. А я ўсё ж загадчык бакалеі, як той казаў, граю не апошнюю скрыпку ў ансамблі, а хаджу ў аблезлай аблавушцы. І нездарма з мяне смяяўся аднойчы швейцар рэстарана:

— Ну што ты, Ляксей Мінавіч, за начальнік, калі не маеш пыжыкавай шапкі! Не, браток, што ты мне ні кажы, а начальнік без людскай шапкі — гэта ўсё роўна, што пляшка без затычкі. Пана пазнаеш па халяўках. Ну хто цябе паважаць будзе ў гэтай ярмолцы!..

А яно, як падумаеш, дык і праўда. Я і сам не раз заўважаў, як здзекліва пазіраў на мяне мой шэф, калі я адзяваў сваю аблавушку. Або вазьмі тую размаляваную сакратарку. Прыйдзеш у прыёмную, дык яна акіне цябе позіркам з ног да галавы і адразу фыркне:

— Нельга, нельга, таварыш... Іван Фаміч заняты... Сказана, не прымаюць, і баста... Калі ласка, шапку сваю не забудзьце...

Ну, браткі мае, усё можна сцярпець: крыўду, абразу, толькі даруйце, не такі здзек...

І вось з той пары я цвёрда зарубіў сабе на носе: душа вон, а пыжыкавая шапка павінна сядзець на маёй галаве. І стаў дзейнічаць. Першаму пазваніў загадчыку базы.

— Братка Хрумкін, так і так, памажы, злітуйся, калі хочаш, каб я быў падобны на чалавека, а не на малпу без хваста...

Той толькі свіснуў:

— О, дарагі! З мілай бы душой, ды няма... Павер... Ого, пыжыкавая шапка!.. Хай бы ж ты раней... Раней былі, а цяпер няма, расхапалі... А былі, былі харошыя... Можа бачыў у Пацяробкіна! Дык той, нахапюга, дзве схапіў: сабе і свайму пляменніку...





— От прахвост...— уздыхнуў я, паклаўшы трубку.

Пасля званіў на базу, потым у раймаг. І ўсюды чуў аднолькавы адказ:

— Няма... Былі, але...

І чым больш я шукаў пыжыкавую шапку, тым большая ахвота брала яе мець. Я аббегаў усе базары, аблазіў усе прамтаварныя і камісійныя магазіны. Я ўжо нават спыняў на вуліцы сустрэчных і, як блазан, прасіў прадаць шапку за любую цану. Жонка заўважыла, як я змардаваўся, і стала ўгаворваць мяне:

— Ды кінь ты, Ляксей... Я ж цябе і так кахаю...

«Гм... Ты то кахаеш, але як быць з падначаленымі, як быць з маім шэфам, нарэшце, ці пакахае мяне Маша з райзага...» Праўда, гэтую думку я хутка адагнаў прэч. «Цьфу, цьфу, цьфу!.. Хаця б, крый бог, не ляпнуць гэта ў сне!»

І вось аднойчы шчасце звалілася мне само ў рукі, як снег з неба. Неяк вечарам у аўтобусе адзін дужы бландзін, прыгледзеўшыся да майго макацёра, усміхнуўся:

— Слухай, стары, закінь ты гэтую футбольную пакрышку на гарышча ды надзень што-небудзь чалавечае...

— А дзе ж узяць тое чалавечае! — агрызнуўся я.

— Гм... Дзе ўзяць!..— зняважліва перадражніў мяне той асілак.— Эх, правінцыя... І дастаў з-пад крыса цудоўную карычневую вушанку.

— П-пыжыкавая!!— стаў заікацца я ад хвалявання.— Я-яна... п-пыжыкавая... Дык вось дзе ты, дарагая... А я ж цябе столькі шукаў, а ты тут, пад крысом, у цяпле, у дабрэ... Ах, бессаромніца!..

І, гаставіўшы праўцом вочы на таго бландзіна, я выдыхнуў:

— К-колькі!..

— Ды паўкавалка...— прабасіў той і азірнуўся кругом сябе.

Я дастаў дзве фіялетавыя паперкі і сунуў у жменю таму бландзіну. І не памятаю, куды шпурнуў сваю аблавушку, як апынуўся на вуліцы, як падышоў да свайго дома. Помню толькі, што ярка свяціў месяц, падміргвалі ў небе зоркі і за брамай у суседа весела гаўкаў сабака.

Назаўтра знаёмыя мяне віншавалі, хвалілі шапку і ўсё распытвалі:

— Ляксей Мінавіч, дзе! Скажыце — дзе!.. Ну, калі ласка...

— Дзе была, там няма...— усміхаўся я і з гонарам дабаўляў: — Вы там не возьмеце...

А мой сусед і сябар пажарнік Кішка прасіў:

— Братка, Ляксей, прадай... Богам прашу, я ж усё жыццё толькі і жыву такой шапкай... Не адкажы, мы ж з табой разам гадаваліся, свіней некалі пасвілі, а цяпер вось «казла» забіваем, па рубліку часам... Ну, няўжо ж ты мне не ўступіш!..

Але я і слухаць яго не хацеў. Я хутчэй пабег у кантору і там аж расцвіў ад радасці, калі на маю шапку зірнулі падначаленыя. А шэф, заўсёды суровы і грозны, на гэты раз павітаўся за руку і праспяваў:

— Пы-жы-ка-вая!! Вось гэта штука... Ма-ла-дзец...

А шапка сапраўды была нейкая напыжаная, нават, я сказаў бы, набычаная, нібы раптам я сабраўся з кім борацца. Калі я глядзеўся ў люстэрка, мне так і хацелася сказаць сабе самому: «Букіш... Букіш... Букіш...»

А Кішка браў мяне зморам. Дзе ні ўбачыць: прадай шапку. Як толькі прыйду з работы, дык ён садзіцца каля тэлефона і бясконца пачынае званіць. То набаўляе плату, то пачынае ганіць — маўляў, шапка мне не да твару. Я і ўгаворваў яго, і сараманіў, і прасіў мяне не турбаваць, але словы мае адляталі ад яго, як ад сцяны гарох. Якаў пачынаў званіць у сем гадзін вечара і канчаў так каля гадзіны ночы. А аднойчы ён пазваніў апоўначы, аж у тры гадзіны. Толькі я закалыхаў дзіця і прылёг сам, аж чую — бр-р-рынк... Дзіця прахапілася — і ў крык. Ну, тут то я і не сцярпеў.

— Ты,— кажу,— Кішка, хоць калі-небудзь дасі мне жыць на свеце спакойна, га! Калі ты, пажарная твая душа, яшчэ хоць раз брынкнеш, дык я разаб'ю тваю тэлефонную трубку аб тваю лысую галаву!..

Раніцой Кішка са мной не павітаўся. Ну і не вітайся! Падумаеш, вялікі чын! Людскай шапкі не мае, а нечага яшчэ казырыцца, яшчэ свой сіні нос адвароч-вае...





Назаўтра я забавіўся на рабоце і вяртаўся апоўначы дадому. Цёмным завулкам сігануў напрасткі, цераз «Чортаў мосцік». Іду гэта сабе, а насустрач нейкі шыракаплечы двухметровы бамбіза. Заступіўшы дарогу і нічога не сказаўшы, ён, нібы мядзведзь лапай, гэтак зачэрпнуў рукой па галаве, што шапка мая спаўзла ледзь не зваласамі. Я залемантаваў і ўчапіўся яму за паліто. Тады той бандзюк адвярнуўся, згомтаў мяне рукой за каршэнь ды так уляляшчыў, што ў вачах заскакалі зоркі і паплылі жоўтыя кругі. Мне здалося, што я праваліўся ў якую прорву.

Калі ж я крыху ачомаўся, то заўважыў, што ў мяне на галаве няма шапкі. Я ледзь не загаласіў у роспачы: і не так ад болю ў крыжавіне, як ад жалю, што прапала шапка.

Пацепваючы плячыма, я клыгаў дадому. Каля хаты мяне дагнаў міліцыянер. Узяўшы пад казырок, ён далажыў, што шапка мая знойдзена, злачынец кінуў яе, уцякаючы, а вось самога яго затрымаць не ўдалося, але пошукі працягваюцца...

— Ды ліха з ім, з тым злачынцам...— сказаў я, схапіўшы шапку і ледзь не цалуючы ў руку міліцыянеру.

А раніцой пазваніў Кішку.

— Слухай, Якаў, так і быць, прыходзь, забірай шапку... Ну, не траціць жа нам старой дружбы з-за такой дробязі...

І не паспеў я нават дагаварыць, як Кішка, нягледзячы на крыўду, імгненна прыляцеў да мяне і, не таргуючыся, схапіў маю шапку. Жонка мяне адгаворвала — маўляў, і самому спатрэбіцца,— але я яе сяк-так умалёкаў. А сам думаў: «Эх, нічога ты не ведаеш... Хай бярэ, калі плечы добрыя мае...» І Кішка забраў. Адзеў і з важным выглядам — маўляў, гэта вам не якая там пажарная каска — пайшоў на работу. З суседзямі ён ужо не вітаўся. Не павітаўся ён і вечарам, калі кудысьці спяшаўся з кветкамі ў руках. А я глядзеў на яго і думаў: «Ідзі, ідзі...»

А раніцай, толькі я прачнуўся і адхінуў фіранку, гляджу — Кішка клыгае. Увесь нейкі скасабочаны, пакамечаны і без шапкі. І ўсё плячыма пацепвае. Ды чамусьці не заварочвае дамоў, а прастуе ў самае што ні на ёсць аддзяленне міліцыі. «Ах, вось яно што...»

Але праз гадзіну, пакуль я сабраўся на працу, гляджу — Кішка ўжо з'явіўся ў маёй кватэры. Зняў шапку, перамінаецца з нагі на нагу, а на лысіне вялізны сіні, як сліва, гузак. Крыху патупаўшы, асмеліўся і загаварыў:

— Я шапку табе прынёс, Ляксей Мінавіч... Разумееш, неяк няёмка. Гэта ж так нахабна я ў цябе яе вырваў...

— Ну што ты, што ты...— перабіў я яго.— Насі на здароўе... А мо дорага я садраў, дык таго... магу вярнуць...

— Не, не, браток, пра цану я не кажу, але ж няёмка...

— Ды нічога, насі, красуйся...

І я нацягнуў яму шапку на галаву, на сіні гузак.— Давай па рубліку зложымся... А шапку насі, красуйся... Ты ж у ёй, як юнак, хоць бяжы на спатканне... А я сабе куплю другую...

Разумееце, і купіў. Купіў рабую пляскатую кепачку-аладку. Акурат, як у Алега Папова. І цяпер адна любата. Выйду сабе на вуліцу, ніхто не спыняе, не распытвае, дзе ўзяў, дзе дастаў. А калі мароз-траскун шчыпане за вушы — нацягну гэтую аладачку спачатку на адно вуха, пасля на другое, потым цярну вушы рукамі... Аднойчы я іду па горадзе, бачу: Кішка стаіць каля нейкай вітрыны. І якраз у такой кепачцы, як мая. Чухае патыліцу і ўсё галавой пакручвае. Падыходжу.

— У чым справа!

— Дык вось шкадую, што шапку прадаў,— адказвае ён.

— Гэй, глупства... Галава цалейшая будзе...— неяк само сабой вырвалася ў мяне.

— Дык таго ж злодзея сцапалі,— кажа Якаў.— Вось ён...

І тыцнуў пальцам у вітрыну, у якой красаваўся губаты таўстаморды дзяцюк. Прыглядаюся. Дык гэта ж той, што шапку мне ў аўтобусе прадаў!..



Мал. С. Волкава.

Уладзімір ЛЯВІЦКІ.

# КАРАЦЕЛЬКІ

## ШКЛЯНКА

Шклянка Пляшцы гаварыла:
— У цябе не твар, а рыла.



## ЯЗЫКАТАЯ ДАМА

— Не кожная дама
З рабра Адама.
Я не такая —
Бо з языка я.



## НЕ ТАЎСТЫ І НЕ ТОНКІ

Прайшоў скрозь рэшата і сіта,
А выглядае досыць сыта.



## СПАЧУВАННЕ

Заліла Агонь Вада
І цяпер шыпіць: — Шкада!

Мал. С. Волкава.

# нашы аўтары

●

**РАЗАНАЎ Алесь** нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Сялец на Брэстчыне. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Цяпер служыць у Савецкай Арміі.
Аўтар зборніка вершаў «Адраджэнне».

●

**ТАРАСЮК Любоў** нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Пінкавічы Пінскага раёна. Вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

●

**СТРАЛЬЦОЎ Барыс** нарадзіўся ў 1926 годзе на Быхаўшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Звязда». Цяпер—загадчык кафедры тэорыі і практыкі савецкай журналістыкі БДУ. Кандыдат гістарычных навук.
Аўтар зборнікаў нарысаў і апавяданняў «Дружная рунь», «Наследнік», «Сыходзяцца бальшакі і прасёлкі».

●

**ДАЙНЕКА Леанід** нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Дзмітраўка Клічаўскага раёна. Працаваў на заводзе, служыў у арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Цяпер—супрацоўнік Мінскай студыі тэлебачання. Аўтар зборніка вершаў «Галасы».

●

**ШАБАН Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Калодзіна на Мядзельшчыне. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў акцёрам. Цяпер—на Мінскай студыі тэлебачання.

●

**ДАНІЛЕНКА Міхась** нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Бодры на Лоеўшчыне. Скончыў Гомельскі настаўніцкі інстытут. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Настаўнічаў. Цяпер—супрацоўнік газеты «Гомельская праўда».
Аўтар кніг прозы «Мая песня», «Майская навальніца», «Наваселле», кніжак для дзяцей «Зачараваны гарлачык», «На вуліцы Сонечнай» і інш.

●

**КРУПЕНЬКА Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Саськаўка на Шклоўшчыне. Скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Працаваў у раённым друку, цяпер—літработнік газеты «Чырвоная змена».
Аўтар зборніка вершаў «Салаўі» і кнігі вершаў для дзяцей «Малінавы год».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 2**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 09060. Здадзена ў набор 27/XII-1971 г. Падпісана да друку 27/I-1972 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15 448 экз. Зак. 670. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**


● **ЧЫТАЙЦЕ** ● **ЧЫТАЙЦЕ** ● **ЧЫТАЙЦЕ** ●

## У бліжэйшых нумарах

●

**аповесць**
**Аляксея КАРПЮКА**
**«ВЕРШАЛІНСКІ РАЙ»**

●

**аповесць**
**Вадзіма БОЙКІ**
**«СЛОВА ПАСЛЯ СМЕРЦІ»**

●

**апавяданні**

*Ларысы ВЯРЫГІ, Ніны ГАРАГЛЯД, Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА, Міколы КАПЫЛОВІЧА, Яўгена ПУШКІНА, Валянціны ХАМЧУК*

●

**вершы**

*Марыі БАРАВІК, Раісы БАРАВІКОВАЙ, Святланы БАСУМАТРАВАЙ, Міколы КУСЯНКОВА, Галіны КАРЖАНЕЎСКАЙ, Сяргея ПАНІЗНІКА, Юрася СВІРКІ*

●


● **ЧЫТАЙЦЕ** ● **ЧЫТАЙЦЕ** ● **ЧЫТАЙЦЕ** ●